— Слухай, якія суткі? У мяне, быццам ты не ведаеш, такія ж патрабаванні па штрафах, як і ў цябе, і пытаюць не менш. Вось чым я тлумачыць буду: чаму не грошы ў казну спагнаў, а арышт наклаў? — запсіхаваў Сцяпан Галоўчыц — ён не любіў вось такіх званкоў, што ад пачатку чапляліся за рукі, быццам павуцінне, ад якога можна было вызваліцца, адно як выканаеш просьбу.

— Ды ведаю, я, Федаравіч, — просьбітна ўздыхнуў цяпер начальнік міліцыі. — Пацярпелы — наш галоўны доктар, ён і папрасіў. Ну, можа, ведае чалавека, не хоча па кішэні біць. А я табе дастаўлю да канца тыдня на штраф, абяцаю!

— Двух! — паставіў умову суддзя.

— Добра, двух, — згадзіўся начальнік міліцыі. — На тыдні палучкі ў калгасах, там хоць касі. Таксама во разумееш — якія грошы з такога ўзяць? Яму свінню прадаць прыйдзецца. Аднак рэйды будуць, вочы спецыяльна не заплюшчыш.

— Чаго вам вяскоўцаў чапаць, па горадзе тры кропкі, дзе па суботах хадзіць страшна, — раздражнёна парыраваў суддзя. — Бойкі — звычайная справа. Прыватная кавярня, якая нядаўна адчынілася, — там жа "браткі", сапраўдны крымінал з усяго рэгіёна збіраецца!

— Ды ведаем, — уздыхнуў начальнік міліцыі. — Але, дружа, не наша кампетэнцыя, там вышэй за нас працуюць. Ды і вусная дамова, усё такое, быццам ты таго прадпрымальніка не ведаеш. АМАП з вобласці наязджае, дык у тых іншыя задачы. Я паабяцаў, дык зраблю. Сведкам наш участковы будзе, дастаткова? Ну, можаш яшчэ выклікаць галоўнага доктара нашага, ён папярэджаны.

— Хопіць участковага. Добра, — Сцяпан Галоўчыц паклаў трубку, у думках вылаяўся. Ён двойчы

праходзіў ля новай кавярні, адзін раз яму крычалі нешта абразлівае ў спіну. Не спыніўся, не азірнуўся. Яму стала не па сабе, мусіў прызнацца. І гэта не толькі злавала: ён, старшыня суда, павінен асцерагацца п'янай брыдоты. Павінен, бо ведае, на які ўчынак можа піхнуць чалавека адурманены алкаголем ці наркатой мозг. У яго, суддзі з амаль дваццацігадовым стажам, ёсць нямала ворагаў. І ёсць дачка, студэнтка чацвёртага курса юрыдычнага факультэта. Ёсць сын, выпускнік школы. І ёсць жонка.

Сакратарка спытала, ці можна пачынаць. З Ганнай Корзан, жанчынай перадпенсійнага веку, спецыялістам аддзела адукацыі па абароне дзяцінства, Сцяпан сустракаўся неаднойчы, добра ведаў гэтую насамрэч апантаную сваёй справай жанчыну. Павітаўся з ёй.

Сакратарка запрасіла ў кабінет яшчэ адну жанчыну, і суддзя, зірнуўшы на яе, ахнуў у думках: гэта была тая самая маладая прывабная кабета, якую ён ледзь не прыняў за сваю знаёмую. Ён чытаў матэрыялы, бачыў раней дзясяткі самых розных мацярок, рознага ўзросту, інтэлекту, сацыяльнага ўзроўню, але ягонае спрактыкаванае вока міжволі знаходзіла адну характэрную рысу — дэградацыю. І яна была найперш у вачах — характэрным бляскам пустаты.

Ён запрасіў усіх прысесці, сам прагартаў справу, кінуўшы адзін і другі хуткі позірк з-пад броваў на жанчыну. Неверагодна: на гэты раз ён не мог супаставіць напісанае з жывым чалавекам. Некалькі раздражнёны гэтым, ён пачаў разгляд, даўшы слова Ганне Корзан. На трэцім сказе выступлення спецыяліста Зінаіда Мамчыц пачала плакаць. Не гучна. Слёзы цяклі з яе вачэй сапраўднымі ручайкамі.

Калі Сцяпан Галоўчыц звярнуўся да яе па тлумачэнні ў адказ на абвінавачванні, яна выцерла чырвоны твар, раптоўна бухнулася на калені:

— Клянуся, я клянуся вам. Не забірайце малых! Я ніколі, больш ніколі!

Ён не паспеў адрэагаваць, хоць і не надта нечаканым былі паводзіны жанчыны — тут да яе не раз укленчвалі з маленнем, заломвалі рукі, хапалі сябе за валасы. Тут, разумеючы, што парушае парадак вядзення працэсу, усхапілася Ганна Корзан. Сцяпан Галоўчыц ведаў: наколькі яна перажывае за дзяцей, настолькі ж умее спраўляцца са сваімі эмоцыямі. Таму ён у першы момант разгубіўся, а пасля не стаў спыняць жанчыну.

— Хай яны на тваім твары скуллем павылазяць, клятвы твае! Устань! Сядзь! Майстрыха, ты колькі разоў у мяне ў кабінеце во так падала? Колькі я, у твае вочы гледзячы, цябе ўгаворвала, колькі ты мне абяцала? Мы табе дзетак з прытулку вярнулі — хай парадуюцца яны разам з мамай, свята ж такое — Новы год, Раство ідзе, хай Бог дапамагае! Раскажы, раскажы зараз падрабязна, як ты з дзецьмі Новы год святкавала, ну? Не па пратаколе, па-бабску раскажы! Я другога студзеня ў тваёй хаце была. Дзеці пад трыма коўдрамі ля халоднай печы калоцяцца, грызуць сухі хлеб. А на вуліцы мароз за 20 градусаў! А ты дзе? Ты іх трыццаць першага снежня пакарміла, спаць паклала. А пасля ўсю ежу сабрала і куды збегла? Кажы, судзі кажы! Дзе я цябе з цёплай пасцелі, сытую ды ўлагоджаную, выцягнула? Каго ты прысмакамі, якія ад дачок адабрала, карміла? Таго самца?

Ганна Корзан крычала, пасля нібыта апомнілася, што знаходзіцца зараз у кабінеце суддзі, асеклася.

— Прабачце, грамадзянін суддзя… Нельга ёй верыць! Нельга! Не, яна не запівае, ніколі не было, каб валялася недзе, каб прапівала. Яна гуляе. Я не ведаю, хто і як зможа яе ўтрымаць. Тры разы мы забіралі дзяцей у прытулак, яна спраўна хадзіла на работу, прыязджала да дзяцей. У прытулку ўсе здзіўляюцца: як ад такой маці забралі дзяцей, яна ж іх любіць! Любіць. Самі дзівімся: як магла? Мо насланнё было ды прайшло? Вяртаем дзяцей. Праходзіць месяц, другі — і вось званок: ратуйце дзяўчынак. Прыязджаем. Яна зазвычай прападае на тры-чатыры дні. Знаходзіць такога мужыка, з якім абавязкова з'язджае з вёскі. І гуляе з ім. Мы шукаем па наваколлі. Ды мяне другога студзеня, хоць выхадны дзень быў, бы чэрці ад ранку насілі! Падаруначкаў сабрала тваім дзеткам, мужа падняла з канапы, піва яму наабяцала на вечар, адно каб павёз у другі канец раёна. А каб не прыехалі? Маці твая на другім канцы вёскі хоць п'яная, ды ў цёплай хаце і сытая спіць, а ў тваім доме вада замерзла. А каб яшчэ суткі прайшлі? — на гэтым пытанні Ганна Корзан прыпынілася, пасля закончыла цвёрда:

— Не забяром дзяцей — яна іх загубіць. Ля вёскі лес, возера глыбокае, кручы. Гэтыя месяцы зноў да дзяцей сапраўднай маці роднай: прыедзе, пачастункаў прывязе. Я папрасіла некалькіх надзейных людзей, каб назіралі за ёй. Дык вось: за гэты час яна тройчы знікала на некалькі сутак. На тым тыдні наведалі, праверылі. Мы ёй раней каля трыццаці кілаграмаў дзіцячага адзення самога рознага, ношанага, прывезлі. Дык няма ўжо. Памяняла на гарэлку. А тую гарэлку павезла да чарговага свайго каханка. Чатыры дні там гуляла. От так… У яе хаце, як у пустым полі — усё папрадавала, каб каханкам дагадзіць.

— Я бацьку дачушкам шукаю, — ледзь чутна апраўдалася жанчына.

Яна ўжо не плакала, сядзела сцятая, дробна трэслася.

Сцяпан Галоўчыц ведаў з матэрыялаў справы: Зінаіда Мамчыц нарадзіла дзяцей, сама не ведаючы, ад каго дакладна. Ён задаваў пытанні, слухаў ціхі, з унутраным надрывам, поўны адчування сваёй вінаватасці голас жанчыны. Разам з яе прывабнай знешнасцю, светлым позіркам цяпер заплаканых вачэй гэта стварала такі віхур супраціву ў галаве суддзі, што ён не адважваўся пачаць у ім разбірацца. Першы раз ягоны жыццёвы і прафесійны вопыт спатыкнуліся аб нязвыклае, раней не адчуванае ім да падсуднай — аб сімпатыю. Сцяпан Галоўчыц бачыў зараз жанчыну, якая спатыкнулася, упала, але ўжо падхапілася, абцягнула па-жаноцку хутка і непрыкметна спаднічку на сваіх сцёгнах, павінілася кароткай усмешкай і пакорлівым позіркам. Яна просіць паверыць ёй, просіць кожнай клетачкай свайго маладога яшчэ цела… Трэба было прымаць рашэнне, а рашэння не было. Таму не стаў хітрыць: вызначыў для Зінаіды Мамчыц выпрабавальны тэрмін — паўгода. Калі будуць заўвагі па рабоце, калі хоць нешта-нейкае…

Мамчыц падзякавала стрымана, а сама свяцілася радасцю.

Ганна Корзан моўчкі збірала свае паперы. Ля дзвярэй прыпынілася:

— Яна праз месяц звернецца ў прытулак, каб вярнуць дзяцей. І там ёй не змогуць адмовіць. І тады… Тады я баюся, каб малыя засталіся жывымі і здаровымі да зімы!

І выйшла, не стала чакаць адказу.

Было прыкра, невядома чаму. Рашэнне ён прыняў правільнае, Сцяпан Галоўчыц не сумняваўся нікольки. Ён верыў у сваю здольнасць добра разбірацца ў людзях — іх столькі, самых розных, сустрэлася на ягоным шляху. Адышоў да акна, з якога была бачна стаянка для аўтамабіляў. Адчуў, што хоча пабачыць тую жанчыну, можа, і апошні раз.

Зінаіда Мамчыц ішла, спяшаючыся, нават подбегам. Шчаслівая жанчына. Ад гэтага відовішча прыемна казытнула: некаму ён сёння вярнуў радасць жыцця.

У бруднай, добра патрапанай іншамарцы адчыніліся дзверцы кіроўцы, вылез мужчына. Зінаіда Мамчыц падбегла да яго і пацерлася, бы котка, — галавой, тулавам, нешта казала яму, зазіраючы ў твар. Мужчына паблажліва і па-гаспадарску паляпаў жанчыну ніжэй спіны. Яна хуценька аббегла аўтамабіль, паторгала ручку дзверцаў, мужчына нешта буркнуў, сеў сам на сваё сядзенне, перагнуўся і адчыніў дзверцы аўтамабіля знутры. Жанчына садзілася, на кароткі момант агаліўшы высока свае ногі.

Сцяпан Галоўчыц адчуў сябе абражаным. Не ўтрымаўся, прамармытаў пра сябе: "…тваю маць". Сакратарка запытальна ўзняла позірк, падала голас:

— Вы нешта сказалі, Сцяпан Федаравіч?

— Ды не, нічога… зрабі, калі ласка, каву. Папытайся, там павінны былі з міліцыі прывезці па хуліганцы, адміністрацыйнае. Так, я разглядаць буду…

Ён слухаў праз нейкі час тлумачэнні Віктара Анішчука, даволі інтэлігентнага з выгляду, з вышэйшай адукацыяй архітэктара, слухаў і думаў пра гэтую незвычайную раніцу: ужо другі падсудны ў кабінеце ніяк не выглядае парушальнікам закону. Хіба пачуццё віны на іх тварах. Глядзі, гэты Анішчук хоць прызнае, ды не ўсё. Бач, і матам ён не лаяўся, і за

пагоны міліцыянта не хапаў. Не, даражэнькі, табе не пракоціць. Ведаю, на якую "дзейнасць" здольныя падпітыя нашы грамадзяне, якім слоўнікавым запасам выхваляюцца. Не трэба так упарціцца, калі сам прызнаеш: выпіваў. А вось прычына тваёй п'янкі нікога не цікавіць. Праблемы трэба вырашаць на цвярозую галаву, тым больш — свае праблемы.

— Пяць сутак арышту! — абвясціў ён прысуд.

У такія моманты ён заўсёды імкнуўся пабачыць вочы падсудных. Што праўда, абсалютная большасць з іх чакала прысуду, апусціўшы галаву ніц, нехта глядзеў на суддзю ці пасля ўскідваў свой позірк. Рознае было ў тых вачах. Найчасцей — адчай, крыўда.

Асуджаны Віктар Анішчук слухаў прысуд, гледзячы на суддзю. Нешта надламалася ў ім, калі выступіў сведка — участковы — і распавёў пра мацерную лаянку, калі зачыталіся паказанні галоўурача. Пачуты ім прысуд быў для яго поўнай нечаканасцю. У вачах застыла такое выразнае пытанне, быццам напісанае нябачнымі літарамі: "Хіба так можна?"

"Можна. І трэба!" — падумаў Сцяпан Галоўчыц, заклікаючы самога сябе верыць у дакладнасць свайго рашэння: бач, уздумаў тут аднеквацца, спужаўся адказнасці. Але толькі дадалося прыкрасці, калі ўчастковы вывеў Віктара Анішчука з кабінета.

## ФРАГМЕНТ 21

### Сяргей Манько, Марылька, Віктар

Віктара трэсла. Ён не мог ніяк паверыць у тое, што адбылося і адбывалася. Яшчэ на парозе суда ён, здавалася, змірыўся з тым, што будзе пакараны штрафам, хай і вялікім. Ён пракаўтне гэтую крыўду, не стане абскарджваць. Галоўнае, ён будзе вольны

і здолее рабіць тое, што адно і патрабавалася ад яго рабіць: тэрмінова звернецца ў пракуратуру. Каб забраць з бальніцы картку.

І раптам — арышт. Ён пазбаўлены волі.

Трэсліся рукі. Віктар звярнуўся да ўчастковага, баючыся, што задрыжыць голас; яму не хацелася, каб гэты міліцыянт пабачыў яго збянтэжанасць.

— Мне патэлефанаваць трэба… Жонцы.

Манько памарудзіў крышку, раздумваючы: ці не занадта ён будзе добранькім для гэтага хулігана, але вырашыў дазволіць. Бо ўрэшце ўсё завершана так, як патрабавалася начальству: пяць сутак арышту, грамадзянін вядзе сябе ціха, ён відавочна прыгнечаны і раскайваецца. Таму згадзіўся:

— Ідзіце за мной.

Яны ўвайшлі ў кабінет прафілактыкі, Манько кіўнуў Віктару на той самы кут, дзе ён раней і сядзеў. Віктар не стаў садзіцца, стаяў ля стала. Участковы пакорпаўся ля сейфа, дастаў і саўгануў па доўгім стале тэлефон Віктара.

— Званіце хутка.

Рукі Віктара трэсліся, ён ніяк не мог намацаць кнопку ўключэння зверху.

Адчыніліся дзверы, з'явілася на парозе запыханая прыбіральшчыца Марылька.

— А божачкі, даруйце мне, во дзе ўжо бяда з гэтымі кранамі! Гэта ж трэба, ужо трэці купляем!

Яна шмыгнула міма Віктара ў кут, борздзенька апранула свой халат, які дагэтуль вісеў на крэсле, прыхапіла вядро ў адну руку, швабру ў другую і накіравалася да выхаду.

Тут зноў расчыніліся дзверы — рыўком, у праём праціснуліся адразу трое — два міліцыянты ў поўным узбраенні, з аўтаматамі за спінамі, цягнулі дужага

хлопца гадоў дваццаці пяці, голага па пояс. Той шалёна супраціўляўся.

У пакоі адразу стала цесна і тлумна.

— Стаяць, сука!

— Пайшлі на…!

— Стаяць, сказаў! Кайданкі давай!

— Да батарэі яго! Там прышпілі!

На дапамогу міліцыянтам памкнуўся Сяргей Манько, разам яны цягнулі хлопца ў кут, дзе была батарэя ацяплення, і тоўстая яе труба была ў адным месцы амаль без фарбы з пісягамі ад кайданкоў, якія тут зашпільваліся, напэўна ж, нярэдка. У нейкі момант хлопец сцішыўся, сам упаў на стул, працягнуў руку. Але не даў зашчоўкнуцца кайданкам — падхапіўся, кінуўся з хрыпатым п'яным крыкам: "Наперад, пяхота!" Марылька са сваім вядром не паспела выскачыць за дзверы — яе таўхануў адзін з міліцыянтаў, яна хіснулася ў бок Віктара, які стаяў за яе спінай.

Віктар адчуў штуршок у руку, а за ім — пустату ў далоні. Тэлефон выпаў.

Віктар ашалела глядзеў у вядро з вадой, якое трымала прыбіральшчыца, прысеў, запусціў туды руку, намацаў тэлефон і выхапіў. Было кволае спадзяванне на цуд. Але тэлефон быў гарачы і нежывы.

— А божачкі, — напачатку жахнулася Марылька, пасля скрывіла тварык у непрыгожай грымасе: — Трымаць трэба добра! — і раптоўна выскачыла за дзверы.

Маладзёна ўсё ж утрымалі і прымкнулі кайданкамі да тоўстай трубы сістэмы ацяплення. Той разам абмяк, унурыўшы галаву.

— От ты сабе нарабіў, — паўшчуваў нечакана па-сяброўску ўчастковы. — Давай яго назад.

— Мне ж пазваніць… Мне вельмі трэба пазваніць жонцы.

— Дык чым я табе дапамагу? — хмыкнуў Манько. — Мне што, самому пазваніць ды дакласці, што цябе суд арыштаваў на пяць сутак?

— Я… Я не помню нумара, — здаўлена выціснуў з сябе Віктар.

— Дык хто вінаваты?

## ФРАГМЕНТ 22

### Кастусь і Юрась

На пятачку, дзе месціліся кіёскі прыватнікаў, было бязлюдна — час абеду мінуў, будні дзень.

— От як я за два дні сетку не пастаўлю, цешча змыецца з лецішча і наўпрост — у кватэру! А гэта пекла. Сапраўднае. Хоць сам з жонкай і дзіцём на тое лецішча перабірайся. — Кастусь боўтаў мяшалкай у пластыкавым кубачку з кавай, цяжка ўздыхаў і сумна глядзеў на Юрася.

— Ну дык і з'язджай, калі ў яе сумлення хопіць, — адказаў сябра і кум. — Пасёлак на лецішчы, лічы, жытло сапраўднае, вунь некаторыя палацы паставілі. Вада, электрычнасць ёсць. Газ прывозяць…. Аўто ў цябе ёсць, і аўтобус два разы на дзень.

— Там адзін пакойчык! Адзін! — гукнуў адчайна Кастусь. — Ты думаеш, я такі варыянт не разглядаў? Хацеў ужо ўзяцца ды прыбудаваць яшчэ, каб пасля на гарышчы зрабіць хоць нешта, дык мая Людка ўперлася: не хачу печ паліць, я табе не ў вёсцы! Газ туды не правядуць!

На ягоны гучны голас азірнулася тоўстая цётка, якая замаўляла бліны з варэннем. Больш пад навесам ля трох аднаногіх столікаў-стоек ля кіёска

“Хатнія ласункі” нікога не было, то размаўлялі сябры вольна.

— Тэ-э-эк, — задумліва працягнуў Юрась. — Знаеш, зірнуць цвяроза, цешча мае рацыю. Тая моладзь падгуляўшая, розная набрыдзь будзе шастаць па лецішчах, іх не спыніш. А вось добры плот утрымае. І сетка-рабіца тут, канешне, варыянт найлепшы. От каб ад пачатку паставілі!

— Цесць сквапны быў, калкоў насек у лесе, зрабіў плот. Цяпер згніло ўсё.

— І колькі трэба? Ну, сеткі той?

— Гарадзіцца нармалёва, то метраў сто…

— Немалая сума.

— І няма ж ні рубля вольнага! Вазьму грошы, што на адпачынак ашчаджаліся, ды сетку куплю — мяне Людка са свету зжыве сваім выццём. А цешча чакаць не хоча — каб перад тым, як нам ехаць, яна была спакойная з агароджай. А пазычыць сёння хто? Ды і пазычыш, а аддаваць трэба, — Кастусь зрабіў вялікі глыток кавы, дастаў цыгарэту, прыпаліў.

— Тэ-экс, дару ідэю, будзеш вінен, — па-змоўніцку пачаў Юрась. — У мяне браценік працуе дарожнікам. Падагнаў мне куртку новую, і яшчэ старая, з пазамінулага года, засталася.

— Не зразумеў?

— Куртка нармалёвая, надпісы можна пры жаданні спароць. Тое пасля, а цяпер яны дык вельмі і трэба, — цягнуў ката за хвост Юрась, і Кастусь не вытрымаў:

— Блін, кажы ты! Куртка пры чым?

— Пры тым, — сцішыў голас Юрый. — Надпісы пачакаюць. На тым тыдні па трасе, кіламетраў за сорак ад нас у бок Мінска, бачыў, дарожнікі ставілі сетку. Ну, ад звяроў там, ці што. Калі ў рабочай

форме ля той сеткі кешкацца, хто скажа: здымаюць ці ставяць? Ну?

— Варыянт…

— А я табе кажу! — пераканаўча загаварыў Юрась, яшчэ больш прыцішыў голас: — Зараз запраўляйся і паехалі да мяне, пераапранемся — і ў той бок. Не ноччу, а менавіта днём, от цяпер. Я там мясціну адну ведаю — ездзілі па грыбы даўно, там лясная дарога падыходзіць блізка да трасы. Машыну ў лесе па той бок пакінем, калі што, дык ніякая трасца не дагоніць. І падазрэнняў менш. Рабочыя і рабочыя, няма транспарту — значыць, іх прывезлі, па іх прыедуць. Ну? За тры гадзіны будзем на дачы, там якраз лесам выедзем.

— Чакай, мне рэйс адзін яшчэ зрабіць, пасля адпрашуся.

— Цяпер прасіся, хопіць круп у магазінах да заўтрага, вайну па целіку не аб'яўлялі, — рагатнуў Юрась, дапіў сваю каву. — Канец рабочага дня хутка, цяміш?

…Пераапраналіся, збіралі інструменты, шукалі якую плёнку для ўпакоўкі, чаплялі прычэп да аўто Кастуся. Ехалі ўзбоч трасы, сетка-рабіца блішчэла металічна бліжэй да лесу. Яны пазіралі ўжо на яе, бы сапраўдныя гаспадары на сваё, выбіраючы лепшы кавалак.

— А раптам прыварвалі? — засумняваўся Кастусь.

— Яны і прыварвалі, думаю, — адказаў без непакою Юрась. — Але як толькі ставілі, дык бачыў, што так мацавалі, прыкручвалі. Значыць, пасля прыварвалі, мо яшчэ і не ўсюды. От, вось сюды прыблізна мы павінны заехаць ад лесу, — кіўнуў убок. — На месцы пабачым, не праблема, як і прыварaная, хіба корпацца больш.

Сетка ў выбраным імі месцы прываранаяне была. Добра, што ўзялі спецыяльны абцугі перакусваць дрот, з імі зручна. Рух па трасе быў невялікім, больш фуры розныя ды легкавікі, якія тут імчалі на хуткасці далёка за сто дваццаць кіламетраў у гадзіну. Калі траса рабілася пустой, абкусвалі, вызвалялі сетку, пасля спакойна скручвалі, кавалкамі па дзесяць метраў, адносілі бліжэй да аўтамабіля, у прычэп пакуль не грузілі. Хоць і было адносна бяспечна — калі б якая машына спынілася на трасе і да іх нехта пайшоў, яны б заўважылі тое адразу і пры неабходнасці зніклі б у лесе, усё адно пільнасці не гублялі, працавалі хутка, але без мітусні. Рабочая форма аўтадарожнікаў дадавала смеласці: дзе тут насамрэч разабраць, здымаюць тую сетку ці ставяць?

## ФРАГМЕНТ 23

### Лось

Лось быў стары, апошнія тры гады праводзіў у поўнай самоце, пазбягаючы хоць якой кампаніі. Памяць аб маладых сакавітых атожылках дуба прывяла яго ў гэтую частку лесу, прымусіўшы пераадолець страх перад шырокім адкрытым месцам і чорнай стужкай трасы. Ён добра напасвіўся тут за два тыдні, адзінае, што пачало непакоіць лася, — вошы, якія апанавалі яго. Гэты досыць высокі ўчастак быццам кішэў імі, а адсутнасць тут якой балаціны, дзе б можна было пакачацца ў гразі і такім чынам вызваліцца збольшага ад гэтай поскудзі, давала вошам добры час, каб імкліва пладзіцца ў густой поўсці. Лася даймаў нясцерпны сверб, ён цёрся амаль бесперапынна аб дрэвы, прадзіраўся праз зараснікі, качаўся, але тое дапамагала мала.

Урэшце адважыўся вяртацца назад. Доўга чакаў, тужліва пазіраючы з лысага ўзгорка ўніз на трасу і на другі бок лесу, якія былі бачныя адсюль. Пужала адкрытая прастора, пужалі рыкаючыя і віскучыя гукі, да якіх так і не змог прывыкнуць за свае гады жыцця, бо за гэтымі гукамі, вострым, не лясным пахам заўсёды хавалася небяспека, неспакой. Адчуванне варожасці ўсяго, што звязана было з чалавекам, жыло ў ім ад нараджэння, было вышэй за ягоны набыты досвед.

Лось дачакаўся, калі сонца павольна апусцілася за дрэвы і пачало шарэць. Разважна выйшаў да дарогі ў тым самым месцы, якім заходзіў сюды, і замёр — перад імі была сеткавая агароджа. Лось пайшоў у адзін бок уздоўж яе, вярнуўся, пайшоў у другі.

Ён ішоў доўга, уздрыгваючы скурай кожны раз, калі па блізкай трасе праносіліся аўтамабілі. Асаблівую трывогу выклікалі хуткія легкавыя — яны ляцелі з непрыемным гукам, імкліва, бы кінуты камень…

Сетка нечакана закончылася. Лось спыніўся, прынюхаўся. Небяспекі не было. Па трасе натужліва праехала вялікая фура, падсвечваючы ў першых прыцемках жоўтымі вачамі фар.

Лось накіраваўся да трасы.

## ФРАГМЕНТ 24

### Антаніна Анішчук

Ад першага разу, калі Антаніна села за руль аўтамабіля, яна адчула машыну, і гэта здзівіла нават вопытнага інструктара школы: “Рэдкі выпадак, калі жанчына не кажа, што машына сама едзе!” Яна на месцы кіроўцы сядзела не проста спакойна і ўпэўнена — радасна. Мусіла з цягам часу пагадзіцца: гэтае месца —

адзінае ў часе і прасторы, дзе яна сапраўды кіруе, дзе ўсё на дадзены момант падпарадкаванае ёй, залежыць ад рухаў яе рук і ног. Таму яна часта спрачалася з Віктарам, калі ездзілі ўдваіх, каму садзіцца за руль, і асабліва настойвала, як шлях пралягаў праз прасёлкавыя дарогі, грунтоўкі, дзе лесам. Ёй прыносіла сапраўдную асалоду адчуванне поўнага зліцця з аўтамабілем, якое асабліва праяўлялася на складаных участках дарог: то хутчэй, то цішэй, то натужліва і асцярожна, то з палёгкай у невялікі разгон… На трасах было не так цікава, і яна саступала месца кіроўцы мужу.

Без навігатара Антаніна наўрад ці змагла б за кароткі час адшукаць у Мінску патрэбны адрас. Яна была ўпэўнена, там — аптэка, які вялікі прыватны медыцынскі цэнтр, але ніяк не чакала, што навігатар выведзе на ціхую, амаль вясковую вуліцу з простымі аднапавярховымі дамамі, сярод якіх, праўда, былі і сапраўдныя гмахі. Яна патэлефанавала, і праз хвіліну раскрыліся веснічкі дома, ля якога яна спынілася. Сівагаловы, з акуратнай чорнай бародкай мужчына невысокага росту ў кашулі з закасанымі рукавамі і джынсах выйшаў і далікатна падаў ёй руку.

Антаніна ішла па старой, выкладзенай камянямі дарожцы ў дом, і яе раптоўна пачало душыць пачуццё несправядлівасці, якое даходзіла да адчаю: чаму для ратавання свайго сына яна павінна купляць лекі ў нейкага перакупшчыка, у падваротні літаральна? Вось яна, наша медыцына, вось яна, краіна якая... Мужчына прапанаваў ёй прысесці, спытаў ветліва пра чай ці каву, але яна моўчкі, сціскаючы вусны, каб не закрычаць і не расплакацца, пакруціла галавой.

Ты сама вінаватая. Ты ў адказе за нястачу патрэбных лекаў у бальніцы. Ты — у ліку тых, хто ствараў

такую сістэму, хто колькі ўжо разоў паслужліва ішоў на здзелку з сумленнем, утрымліваючы, ухваляючы і легалізуючы. Антаніна адчула нечаканую слабасць пад каленямі, прысела на невялікую канапу, а перад вачыма стаялі два сталы ўдоўж, накрытыя вялізным кавалкам чырвонай матэрыі, на якой выцягнутай горкай ляжалі бюлетэні, а да іх цягнуліся рукі. Адзін доўгі стол з горкай, падобны да труны.

Яна ўздыхнула, аж усхліпнула, адганяючы навалу. Падхапілася, калі гаспадар дома выйшаў з доўгім плоскім пачкам, на якім былі надпісы на замежнай мове. Ён адкрыў яго перад Антанінай — там у асобных ячэйках ляжалі невялічкія ампулы з рудога празрыстага шкла, многа ампул. Мужчына даставаў ампулы па дзве — два разы, працягваў у далонь Антаніны, дадаў пасля яшчэ адну. Пяць.

— Гэтага хопіць на неабходны дзесяцідзённы тэрмін, — ціха прамовіў гаспадар дома. — Доктар ведае прымяненне.

Ён даваў іх так — не ў завадской упакоўцы, не ў адмысловай каробачцы, і тут быў яшчэ адзін здзек, яшчэ адно прыніжэнне, хоць, канешне ж, гэты мужчына ні аб чым такім не думаў. Але ўся сітуацыя невыносна гняла Антаніну. Раптоўна ці то прымроілася, ці ўспомнілася: замежная бальніца, чысціня і багацце апаратуры, клапатлівыя медсёстры, уважлівыя і пасапраўднаму занепакоеныя дактары над хворым… І вось — тут і цяпер яна вымушана ратаваць сына, купляючы неабходныя лекі крадком, злачынна. Дзяржава, якая прымусіла аднойчы лгаць, а пасля цалкам вызваліла ад сумлення, раптоўна ператварылася ў бутафорыю, у нешта існуючае ў тэлевізары ды на старонках газет, а яны — Антаніна, муж і хворы на сёння сын — мусяць жыць недзе зусім у іншай краіне,

дзе ўсё не так, усё па-іншаму. Яна стварала бутафорыю. І нечакана патрапіла за кулісы.

Пасля мужчына ўважліва пералічыў аддадзеныя яму грошы без аніякай ніякаватасці на твары — быццам так толькі і можна.

Антаніна асцярожна паклала ампулы ў сумачку, выйшла з дома. Завяла рухавік, прыкрасць пакрысе адпусціла. Выехала з Мінска, адчуваючы ўжо не тое каб палёгку, але ўсведамленне хоць нечага зробленага дзеля сына. Гэта надавала спакою — яна не чакае, не кідаецца ў роспачных пошуках, яна робіць справу і ўжо амаль зрабіла. Яна верыла ў дзеянне гэтых ампул, кідала раз-пораз позірк на сумачку на сядзенні. А што такім чынам купіла лекі… Дык жа галоўнае — купіла!

Цяпер яна думала над іншым: ці змог Віктар атрымаць на рукі картку сына. Ці хоць бы зрабіць здымак апошняга запісу. Бо ведала, не аднойчы расказвалі, як урачы пасля выпраўлялі запісы, каб пазбегнуць адказнасці за дапушчаныя памылкі. Патэлефанавала Віктару — ён не адказаў, і неспакой сціснуў сэрца. Каб жа Віктар не ўвязаўся ў якую спрэчку з кім...

Дарогі да бальніцы заставалася на паўгадзіны, Антаніна зноў патэлефанавала мужу. Пачула кароткі сігнал і механічны голас паведаміў пра тэлефон абанента за межамі дзеяння сеткі. Сціснулася ад прадчування нядобрага сэрца — Віктар за гады выпрацаваў правіла штовечар зараджаць тэлефон. Значыць, нешта здарылася, здарылася! Яна ведала мужа — спакойны і ўраўнаважаны, ён зазвычай імкнуўся пазбягаць канфліктаў, але ў крытычных сітуацыях мог успыхваць, крычаць і нават лаяцца. А яна адправіла яго ў бальніцу. Канешне, ён учыніць там скандал, бо картку яны проста так не аддадуць. Тут трэба было

схітрыць, нешта прыдумаць, а яе Віктар — ён жа просты, як ягоныя чарцяжы…

І куды было званіць цяпер? Памяць услужліва падказала: у яе класе быў вучань, бацькам якога быў міліцыянер. Не просты, а начальнік аддзялення правапарадку, старшы над участковымі. Прозвішча Клімуш. Вадзім Клімуш. Трэба знайсці яго…

Антаніна гартала даведнік у тэлефоне. Знайшла патрэбны і націснула выклік.

Яна заўважыла, як у вячэрнім сутонні на ўзбочыне дарогі раптам з'явілася цёмная пляма, завісла на імгненне над трасай і рванулася наперарэз.

Антаніна паспела націснуць на тармазы, але лось ужо ляцеў сваёй цяжкай галавой з мяккімі яшчэ рагамі ў лабавое шкло, якое рвалася трэшчынамі ва ўсе бакі. Апошняя думка загадала Антаніне ўпасці на крэсла побач — ампулы ж такія крохкія, іх трэба было засланіць.

## ФРАГМЕНТ 25

### Уладзік, бадзяк

Віктар стаяў каля сцяны насупраць дзвярэй, пад акенцам, з якога цягнула свежым паветрам, іншым разам даносіліся прыглушаныя гукі вуліцы. Думка вілася бясконца ў галаве: як незвычайна ўладкавана жыццё. Вось там, за гэтым тоўстым пляскігласам і пыльнай шыбай, жыццё. Вясёлае ці сумнае, радаснае ці занепакоенае. Але вольнае, сапраўднае. І там цяжка, амаль невыносна ўявіць, што за незаўважнай для выпадковага вока мяжой існуе нешта зусім іншае, вычварнае, дзе ты не належыш сам сабе, дзе ты пазбаўлены волі і магчымасці хоць нешта самастойна рабіць.

Адчыніліся дзверы ў камеру, Віктар уздрыгнуў, памкнуўся наперад, але міліцыянт адно павёў на яго вокам, аслабаніў праход, і ў камеру зайшоў мужчына гадоў шасцідзесяці, неахайна, з чужога пляча, апрануты: чорная цішотка з надпісам белымі літарамі, заношаная добра джынсавая "джуда", некалі блакітныя, а зараз дастаткова брудныя джынсы з завужанымі штанінамі, белыя з сінім красоўкі. Мужчына быў хударлявы, выглядаў ніжэй сярэдняга росту, але тое з-за пастаяннай сваёй згорбленасці. Ён азірнуўся на зачыненыя за ім дзверы, сцягнуў з галавы кепку, адкрыўшы коратка падстрыжаныя сівыя валасы.

— Добрага здароўя ў хату, — без лісліваспі, з павагай павітаўся ён, Віктар мусіў адказаць:

— І вам не хварэць…

Мужчына сеў на нары, пацёр свае рукі, зірнуў без боязі на Віктара:

— Мяне Уладзік завуць. Без прозвішча, хех. Затрымалі, бо побач са мной велік пацягнулі. А цябе за што?

— Выпіў, — без жадання размаўляць адказаў Віктар, але словы гэтага Уладзіка пра прозвішча насуперак волі зацікавілі. — А чаму без прозвішча?

— Бо бадзяк… — жыва адказаў мужчына. — Прозвішча ў нармальным жыцці трэба. І для органаў. А як бадзяешся, дык навошта яно? Каля сметніц пашпарт не пытаюць, бутэлькі здаеш — і на твар не зірнуць. От. Правільна ж?

— Мабыць, так, — Віктар адышоў ад акна, сеў насупраць мужчыны. У словах бадзяка ён пачуў нешта суцяшальнае: у жыцці бывае і яшчэ страшней за ягонае становішча. — І як вы бадзяком сталі?

— А так вось… Як некалі казаў класік, усе шчаслівыя падобныя, а нешчаслівы кожны па-свойму, —

нечакана для Віктара выдаў бадзяк, заўсміхаўся, і яго-ная ўсмешка была, бадай, прыгожай. — Хех, здзівіліся?

Віктар глядзеў на твар бадзяка, голены, мабыць, тыдзень таму, пасечаны глыбокімі складкамі і зморшчынамі. Вочы пад яшчэ цёмнымі бровамі насмешліва мружыліся.

— Здзівіўся, — прызнаўся Віктар. — Не кожны бадзяк ведае класікаў і помніць з прачытанага.

— А я гарэлкі не п'ю, адно чарнільца, — заўсміхаўся Уладзік. — Дзень з ранку пацягаюся па сметніках, на рынку дапамагу каму, пашанцуе — зазвычай к вечару маю паесці, і бутэлечку маю. Цягну патрошку, надта не хмялею. Тэлевізар мне не трэба, а кніг гэтулькі людзі на сметнік выкідаюць! Аднойчы, не паверыш, больш за трыста штук пабачыў! Іншыя не адразу здаю, нешта і пачытаю. Падахвоціўся, калі па Сібіры гойсаў, там вечары доўгія.

— Як так атрымалася, што бадзяк? — нагадаў сваё пытанне Віктар.

— Ды вось,— мужчына адкінуўся, упёрся спінай у сцяну, прыкрыў вочы, быццам зазіраў у сябе. — Рукі распусціў. Бо дурны быў, хех. Хай бы яны затрахаліся ў дошку, — рагатнуў з прыхаванай горыччу і пачаў расказваць, згадваючы, з доўгімі іншым разам паўзамі: — Я ў маці адзін, бацьку пахавалі, як з арміі прыйшоў. Сэрца. Домік у нас невялікі стаяў, але ў цэнтры горада, лічы, там прыватная забудова. Раён ціхі, зялёны завулак. І да ракі дваццаць хвілін пешкі. Там цудоўна было, пакуль маладым гуляў. От. Пасля арміі пайшоў на завод, рабочым, вучыўся завочна, бо мама, настаўніца пачатковых класаў, надта ж упрошвала. Вывучыўся, тым часам і дзяўчына знайшлася. У пажарнікаў інспектарам працавала. А я інжынер-канструктар…

— Былая адукацыя пакідае сляды, — заўважыў у паўзе Віктар, якога пачаў цікавіць аповед.

— Пакрысе ўсё сціраецца за непатрэбнасцю, — ці то згадзіўся, ці то запярэчыў бадзяк, працягнуў. — Тут пачало набліжацца — перабудова гэтая, трэсціся ўсё стала. Бацькі маёй жонкі самі адважыліся і маці ўгаварылі — усе грошы зняць і купіць нам кватэру. Разумныя людзі, свёкар былы фінансістам адбыў усе гады на заводзе. Так у нас кватэрка з'явілася, ужо і пра дзіця думалі… Хех! У сябра павінен быў вечар гуляць, а ў таго непрыемнасці з бацькам здарыліся, то я дамоў нечакана вярнуўся. Ну і застаў сваю ненаглядную з нейкім глістом. Біў я яго… Моцна. Ён супраціўляцца паспрабаваў, я толькі раз'ятрыўся болей. Куды яму было супраць мяне, ды яшчэ голаму? Голы мужык апранутаму прайграе… бо яйцы боўтаюцца, хех! Сківіцу я яму зламаў. І маёй папала трохі, забілася ў кут, прыкрылася прасцінай, выла нема. У таго твар крывёю заліўся, плюнуў я, пайшоў на кухню, бутэльку адкрыў, выпіў. Сядзеў, а тут і прыехалі, пацягнулі. Выявілася, той гліст — нейкая шышка ў аддзеле пажарным. Выклікаюць да следчага першы раз, і чую: у парку яны нашым сустрэліся, нешта там па справе абмяркоўваць, мая жонка і гэны чорт… А я наляцеў, п'яны, зверам, учыніў бойку. У мяне вочы на лоб палезлі. А слядак мне зачытвае паказанні маёй жонкі. Пасля — нейкага сведкі. Тут і мову адняло. Распсіхаваўся. І на судзе на сваім стаяў: у кватэры, з ложку я іх, галубкоў, падняў!

— І суседзі нічога не чулі? — агаломшана спытаў Віктар, якому пераварочванне сітуацыі падалося прыдумкай.

— Адна суседка дома была, але яе і не выклікаў ніхто, мой адвакат мне не верыў, а на талковага грошай

не было. Хех. Словам, праявіў я ўпартасць і непавагу да суда. От і табе, каб ведаў: суддзю трэба паважаць. Ён не столькі ў справу глядзіць, калі вырак выносіць, колькі на твары. Далі мне шэсць гадоў. Па поўнай. Так і адсядзеў, выйшаў — і на Поўнач паехаў, завербаваўся. Бо мая са мной, канешне ж, развялася, ледзь я сеў. А тут развал Саюза, бандыты… Патрапіў у рабства сапраўднае, валілі лес кітайцам. Добра, там вайна між групоўкамі пачалася, мы і разбегліся, а то б даўно косткі па тайзе расцягнулі лісіцы. Многа нас, такіх во непрыкаяных, згінула. Вярнуўся на радзіму, іду да сваёй хаткі — там даміна ого якая стаіць — у паўтара паверхі, з гаражом пад адным дахам! Я да суседзяў. Яны мне і расказалі. Гэты самы гліст, які з маёй былой жыць стаў, да маці маёй пад'язджаў з год — каб прадала дом. Маўляў, іншы вам купім ці ў багадзельню ўладкуем, там і сытна, і ўлежна. Бо ваш дом стары, ацяпленне не газавае, дровы трэба, а вы нямоглая, да пажару недалёка. Яна мяне чакала, ні ў якую не згаджалася. А месца ж зайздроснае. Пачалі да яе з праверкамі прыязджаць то пажарнікі, то газавікі. Парушэнні шукалі, акты складалі. Потым камісія цэлая явілася, з міліцыяй. Маўляў, неадэкватная, ствара пагрозу для суседзяў. Тыя суседзі бараніць кінуліся: нармальная, у розуме жанчына, дык іх міліцыя хуценька супакоіла, хех. Праз акно пажарнікі залезлі, дзверы адчынілі, гвалтам маці выцягнулі на вуліцу і ў псіхушку. От так.

— Як жа гэта? — Віктар ужо верыў усяму, што казаў гэты Уладзік, хоць сказанае больш нагадвала нейкі замежны трылер. — Проста забралі чалавека з яго ж дома і вывезлі?

— А так. Каму бараніць? Ды ад каго? Ад тых, хто і павінен бараніць? Камісія тая паперы людзям паказ-

вала: тут небяспека і тут небяспека, службы кажуць. Дзеля вашай жа, суседзяў, бяспекі стараемся. Гэта ўлада! Каток такі ведаеш, асфальт укатваюць? От то і ўлада. Патрапіў пад яе — расцісне, бы казюрку, уплішчыць у глебу. То я паспытаў, ведаю. І няма розніцы, якая ўлада, у чыіх руках, хех… У псіхушцы маці патрымалі паўгода, нашпігоўвалі рознымі ўколамі, а пасля ў інтэрнат для псіхічнахворых перавялі. Там я яе яшчэ застаў жывой. Яна ўжо не ўставала з ложка, плакала, сябе дакарала: не зберагла хату для сына. Для віду хата яшчэ год пастаяла пустой, быццам яны нашчадкаў шукалі. Знеслі за дзень, на другі ўжо катлаван капалі… І от бачу — на месцы нашай хаткі стаіць даміна, а з яе выходзіць той самы гліст, толькі ўжо не гліст, а добры такі пузанчык, за ім — мая былая, расфуфыраная, раздабрэлая, з ёй побач хлапчанё… Слухай, чаму ў іх гэта ёсць, а ў мяне — няма? Куды Бог вочы дзяваў, як яны ўсё гэта выраблялі? Ён жа — самы найсправядлівейшы. Дык чаму такое папусціў? Ці гэта справядлівасць такая: аднаму за два ўдары кулаком у твар — усяго пазбавіць, на вуліцу выкінуць, з памыйкі харчавацца, а іншым за брахню, за лжэсведчанне, за гвалт над старой жанчынай — боскія міласці? Ну?

У пытанні не было самога пытання, хутчэй — ужо гатовы адказ, таму Віктар сказаў унікліва:

— Неяк не задумваўся ніколі пра Бога.

— Ёсць Бог, ёсць, — ціха, але ўпэўнена, нават з прыдыханнем сказаў Уладзя. — Толькі запомні, — ён утаропіўся ў вочы Віктару, узняў палец правай рукі ўгору, на ўзровень вачэй, — сам ён не збіраецца тут намі кіраваць, ён чалавеку выбар дае. Во дзе галоўнае: выбар дае. Значыцца, не ўмешваецца. Зна-

чыць, табе самому рашаць: як ты тую справядлівасць разумееш. Я доўга думаў. Маці пахаваў, жыў у даўняга сябра, пакуль ягоная жонка мяне не паперла. Напачатку імкнуўся куды на работу патрапіць, ды дзе там, так, выпадковымі заробкамі перабіваўся, начаваў дзе прыйдзецца. Сябры новыя з'явіліся, такія ж во, як і сам. Ну і думаў, думаў. Выбраў момант… У наш завулак адна дарога, вузкая. Пузанчык з сямействам, бачыў я (бо ж высочваў), з'ехалі ў адпачынак — у таксі грузіліся, бы на год збіраліся, чамаданаў напакавалі. А тут уздоўж завулка мужык адзін раскапаў зямлю, каналізацыйны калодзеж рабіў, то колцаў прывёз бетонных. Ну і зразумела, месца раскопу агароджана, знак папераджальны стаіць, хоць праехаць можна, канешне. То я на знак зірнуў, і бачу: то мне знак. У наступную ноч колцы тыя на дарогу перакаціў, стойма паставіў, абгарадзіў стужкай, знак на сярэдзіну вынес. А тады пайшоў да іхняй даміны. Шкло разбіў акуратненька, залез, унутры паліў добра дызпалівам, каністру з сабой прыцёгшы. І павер — нічога стуль не ўзяў, нават вокам не павёў, хоць пацягнуць можна было нямала, а пасля бязбедна месяц жыць. Не, хай гарыць! От. Падпаліў. Сам адышоўся падалей, назіраю. І скажу табе: ніколі не адчуваў такой улагоджанасці на душы, дый ужо і не будзе. Хех! Машына пажарная ўляцела ў завулак і стала — там жа колцы, тут раскапанае. А раптам пад дарогай пракапана, паедзеш — правалішся? То пабудзілі ўсіх у завулку, хто не прачнуўся ад грукату, калі шыфер пачаў страляць, урэшце адцягнулі тыя колцы, праехалі. А там ужо і дах праваліўся, гэтак полымя з іскрамі ўзвілося, нібы які салют! Усё згарэла, і аўтамабіль у гаражы, і лазенька невялікая. Сцены патрэсканыя засталіся стаяць.

Мяне шукаць пачалі, калі тыя з адпачынку свайго вярнуліся. От і цяпер: уяўлю той момант, як яны на таксі пад'язджаюць, — і ўсміхнуся. Цягалі доўга, затрымлівалі на суткі і болей, пагражалі і білі, а чым дакажаш? Ды і сябры новыя гарой сталі: з намі ноч у карты гуляў.

— І цяпер як? — парушыў маўчанне Віктар.

— Па-рознаму, — Уладзя ледзь чутна ўздыхнуў. — У горадзе не складана. Зараз усё прымаюць: шкло, пластык, паперу. Во да вас прыехаў, пяты год тут. Гарадок невялікі, утульны, бадзякі — людзі не злыя, канкурэнцыі амаль няма, прытулак у такіх, як сам, знайшоўся. Зноў жа, жыхары іншы раз і вопратку, абутак пакладуць побач са сметніцай, а не закідваюць у кантэйнеры. Хех, можна жыць…

## ФРАГМЕНТ 26

### Віктар

Доўга Віктар не мог даць веры таму, што адбывалася. Як? Ён арыштаваны на пяць сутак? За што? За жаданне даведацца праўду? За тое, што хацеў сказаць ім, прадажным чыноўнікам і нядбайным дактарам, што яны загубілі здароўе сына? За крык бацькі, якога раздушыла навіной аб сынавай хваробе, — садзіць у камеру злачынцам? Дзе справядлівасць? Чаму суддзя паверыў участковаму міліцыянту і не паверыў яму, Віктару, ды яшчэ і пасміхваўся з ягоных запэўніванняў: Віктар не лаецца мацерна ў прысутнасці незнаёмых жанчын!

Пяць сутак арышту… Не проста пазбаўлены волі, яго пазбавілі зараз самой чалавечай сутнасці, растапталі ягоную свабоду, насмяяліся з перажыванняў і болю.

Думкі выклікалі ўсё болей злосці. Ён разумеў, што, баронячы сваё дзіця, стаў ахвярай несправядлівасці, агульнай змовы. Ён правільна патрабаваў. У старшыні прызыўнай камісіі, у галоўнага доктара бальніцы была перавага, якую ён, Віктар, ім сам даў — пах спіртнога з рота. Канешне, перад такім усе адчуваюць сябе правільнымі і моцнымі, такому ніхто не павінен даваць адказ.

Асабліва балюча і прыкра было нават не ад зняволення, а ад таго, што картка сына засталася ў бальніцы, што ён не толькі не сфатаграфаваў запіс на старонцы, а нават не пабачыў яго. І цяпер Віктар упэўніўся: не, зусім не дарэмна так бараніў картку галоўурач, значыць, там хаваецца праўда. Дакладней, хавалася, бо за некалькі гадзін можна што заўгодна змяніць, хоць усю наноў перапісаць… Вось што гняло: ён не выканаў таго, пра што казала жонка.

Антаніна не прыйшла.

З камеры забралі бадзяка Уладзю.

Віктар сеў на нары, абапёрся аб сцяну і заплюшчыў вочы. Зноў пачала ўзрастаць злосць на ўсіх, а з ёй разам і крыўда на жонку. Канешне, яна зараз усё ведае. І пакрыўдзілася? Што ён, такі няздара, не тое што не дапамог справе, а нарабіў болей праблем? Няхай крыўдуе. Важна, каб яна знайшла лекі для сына. І важнае будзе пасля, як ён выйдзе. Ён сам напіша запыты, запатрабуе праверыць дзейнасць ваенкамата, прафесіяналізм урача, якая была на прызыўным участку. Не даруе.

Цвялілася думка пра тое, што з Антанінай нешта магло здарыцца, але Віктар адмахнуўся ад яе: жонка лепей за яго кіруе аўтамабілем. Канешне, яна пакрыўдзілася. А найбольш верагодна, яна вырашае нейкія справы, якія маглі ўзнікнуць. Можа, засталася

на ноч у бальніцы. Можа, паімчала яшчэ па якія лекі. Ці спрабуе зрабіць тое, чаго не змог Віктар, — забраць з бальніцы картку сына.

Успомніўся аповед Уладзі. І ягоны асветлены сапраўднай радасцю твар, калі расказваў аб палаючым доме.

## ФРАГМЕНТ 27

### Участковы Сяргей Манько

Сяргей Манько раніцай завітаў у дзяжурную часць.

— Тут жонка ці хто іншы не цікавіўся маім героем, Анішчуком Віктарам? — спытаўся ў дзяжурнага.

Той у адказ адмоўна пакруціў галавой.

— З характарам, мабыць, сужэнка, — падумаў уголас.

— Характар праяўляць жанчыны ўмеюць, але ж той тэлефон утапіў…

— То дай яму свой ці хоць сам пазвані, — падказаў дзяжурны.

— З чаго я стану вырашаць ягоныя праблемы? Ды ён нумара не помніць…

— А я таксама не помню, — прызнаўся дзяжурны. — Ніводнага нумара, акрамя свайго. Во дажыліся… Раней штук дваццаць кватэрных тэлефонаў у галаве трымалася, а цяпер…

— А на халеру памяць загружаць, усё запісана, — згадзіўся Сяргей Манько. — Хоць во бачыш — тут бы і спатрэбіўся.

— Не твая справа пераживаць. Хай сам перажывае, калі жонка не цікавіцца, чаму муж мала што не прыйшоў начаваць, дык і ранкам не з'яўляецца на расстрэл, — рагатнуў дзяжурны. — Мая б ужо

ўсё абзваніла, з морга пачынаючы. Можа, карту памяці дастаць, там нумары запісаныя.

— І чаму я павінен гэта рабіць? — раздражніўся Манько. — Не хапала бабе клопату!

Дзень прайшоў звычайна, але Сяргей Манько міжволі лавіў сябе на думцы, што чакае: вось у гэты момант з'явіцца на парозе ўзбуджаная, знерваваная жанчына, якая пачне крычаць, лаяцца, плакаць… Было ўжо такое не раз.

Пра лёс Віктара Анішчука так ніхто і не пацікавіўся. Манько ўрэшце супакоіўся: іх райцэнтр — гарадок невялікі, безумоўна, вестка пра арышт Анішчука на пяць сутак даўно сарокай разляцелася сярод яго знаёмых і сяброў. Ды яшчэ і з абавязковымі перабольшваннямі. То жонка, хутчэй за ўсё, пакрыўдзілася і паказвае зараз свой характар.

Ён не ўтрымаўся вечарам дома, вячэрай загаварыў з жонкай — іншым разам ён дазваляў сабе дзяліцца з ёй такімі-сякімі выпадкамі на рабоце:

— Уяўляеш, учора затрымалі мужыка, скандаліў п'яны спачатку ў райвыканкаме, затым у паліклініцы. Суддзя яму пяць сутак арышту даў. Сядзіць адзін, ніхто і не пацікавіўся. Сам пазваніць не змог, тэлефон… зламаўся. Жонка ягоная не тэлефанавала, не прыходзіла.

— А чаго ён столькі аббег? — зусім іншым зацікавілася Марына.

— Ды… Крычаў, што сына хворым у армію прызвалі, маўляў, дактары не пабачылі. І цяпер сын у бальніцы, здаецца, пра энцэфаліт нешта казаў, — нехаця патлумачыў Сяргей Манько.

— Дык за сына чалавек перажываў, можа, так і ёсць? — нечакана для Сяргея ўстала на абарону невядомага ёй мужчыны жонка. — Вам абы схапіць.

— Ну ты даеш! Цвярозы няхай высвятляе, дзе і хто вінаваты. І не крыкам з мацюкамі! — псіхануў Сяргей. — Ёсць закон…

— Закон ваш для каго пісаны? — ціха, з кплівасцю спытала Марына, прысела насупраць, зірнула ў вочы. — Ціха, ціха, я яшчэ не сказала, — спыніла мужа, пабачыўшы, што ён гатовы запярэчыць. — Я табе пра закон скажу. Прадавачкі ў магазінах па 100 долараў зарплаты атрымліваюць. Іншы раз на рукі і менш выходзіць, як утрымаюць за нястачу. Знаёмая крэдыт у банку ўзяла, каб пасля рэвізіі нястачу пакрыць. А як інačай, бо і крадуць, і ўсыхае, і псуецца. А колькі старшыня райспажыўсаюза атрымлівае, не ведаеш? От я скажу, нам паказвалі бухгалтарскую ведамасць. Паўтары тысячы долараў. Ой, ціха-ціха, я не ўсё сказала, не спыняй мяне, не затыкай хоць цяпер рота, надакучыла! — закрычала Марына, не даючы Сяргею ўставіць слова. — Слухай далей. От я месяц у кандытарскім цэху адпрацавала. І ўжо другі раз, сёння якраз: раніца, толькі выпечку падрыхтавалі на развоз. Заходзіць дырэктарка: “Так, дзяўчынкі, гэты шэраг піражных заварных… булачак дзясятачак, пячэнька трошкі, паўкіло… Збярыце ды ў розныя пакеты, а не як мінулы раз… ой, якія тарты прыгожыя сёння атрымаліся! Малайцы, малайцы… Вой, гэты вельмі мілы, давайце! Трэба нашаму старшыні настрой з ранку падняць…” Гэтак спакойна праходжваецца, гаворыць-загадвае, быццам мы — нанятыя работніцы на яе асабістай кухні. І мы ўсё пакуем, кладзём у торбу адмысловую, і яна сыходзіць, і торбу тую прэ да аўтамабіля наш грузчык! А яна не плаціць. Ні капейкі ніколі! Для іх магазіны, сталоўка, вытворчасць — іхняе! Яны — як дома, бяруць колькі заўгодна і калі заўгодна! Плацім мы за іх, са сваіх зарплат! Іншую

змену пазбавілі агулам амаль трацiны заробку: мукі перарасход, цукру, алею, масла… А колькі гэтыя сучкі вынеслі такімі ранкамі? А ты лаві і садзі на суткі рабацягу, у якога бяда з сынам!

— Гэта твае словы… — прамармытаў Сяргей Манько на тыраду жонкі, зніякавелы.

— Словы? Ды схадзі праз тыдзень, стань раніцай, правер таго грузчыка, які валачэ прадукты з цэха ў аўтамабіль дырэктаркі! Яе саму правер: дзе чэкі, дзе накладныя, дзе разлік? — раз'ятрылася Марына, пахапала посуд са стала.

— Некалі і праверым, не крычы!

— Уй, правяральшчыкі сраныя! Думаеш, не пісалі людзі? Столькі ўжо тых правяраючых прыязджала, ды назад ад'язджала з торбамі напакаванымі, сытымі ды п'янымі!

Марына схапіла складзены посуд, пайшла да дзвярэй — каб ісці на агульную кухню і памыць. Сяргей мусіў падхапіцца адкрыць жонцы дзверы.

Больш не размаўлялі між сабой, адно па чарзе перамаўляліся-гуляліся з Волечкай: абое падкрэслена ветлівыя і занадта добрыя да дзіцяці, ці то паказваючы гатоўнасць памірыцца, ці то старанна ігнаруючы адно аднаго. Памірыла, як заўсёды, ноч. Марына, укладваючыся спаць апошняй, у цемры прашамацела адзеннем, легла, раптоўна прыціснулася прахалодным целам да мужа, які ляжаў, адвярнуўшыся да сцяны:

— Прабач мяне, — прашаптала, абвіла рукой. — Я разумею, ты не вінаваты. Такая сістэма…

Назаўтра а трэцяй гадзіне начальнік аддзялення адказваў па тэлефоне (усе ў кабінеце зразумелі — начальніку аддзела), паклаў слухаўку і звярнуўся да Сяргея Манько:

— Ідзі, нечага цябе выклікае. Вазьмі дакументы на Анішчука, каторы сядзіць.

Сяргей падымаўся па лесвіцы да кабінета начальніка, думкі віліся, адказу не знаходзілася: чаму яго выклікае начальнік, усе падобныя выпадкі вырашаюцца праз начальніка іх аддзялення. Зразумела, знайшоўся той, хто заступіўся за Віктара Анішчука, але ж позна цяпер нешта мяняць, суд свой вырак вынес…

Начальнік райаддзела, палкоўнік Іван Шуцько, якому заставалася да пенсійнай выслугі ўсяго паўгода, кіўнуў Манько, вітаючы, сесці не запрасіў, спытаў адразу:

— Які там адрас таго скандаліста, які сядзіць на сутках? Ну, гэтага Анішчука. Так яго прозвішча?

— Так, таварыш палкоўнік, — адказаў Сяргей Манько, разгарнуў дакументы, прачытаў адрас Анішчука.

Начальнік аддзела ківаў галавой, глядзеў на кавалак факсавай паперы на сваім стале. Нарэшце сказаў у стол:

— Тут з суседняга раёна папрасілі. Яны нікога з родных знайсці не могуць. Жонка гэтага Анішчука трапіла ў ДТЗ, сутыкнулася з ласём. Загінула на месцы.

— Калі? — аглушаны, запытаўся ўчастковы.

— Пазаўчора вечарам. Ідзі, выпускай, хай хавае жонку…

— Ёсць, таварыш палкоўнік! А рашэнне суда? Ён жа не адсядзеў.

— Не вучылі цябе нічому, ці што? — раптоўна раззлаваўся Іван Шуцько. — Потым адседзіць! Ідзі!

Сяргей Манько крутнуўся, выйшаў з кабінета. Прыйшоў у сваё аддзяленне, сеў за стол і гучна вылаяўся.

— Ты чаго? — спытаў капітан Клімуш.

— У гэтага Анішчука жонка разбілася. Насмерць.

— Тваю ж макаўку, — працягнуў Клімуш. — Дзе тонка, там і рвецца.

Сяргей Манько аформіў патрэбныя паперы, папрасіў, каб прывялі асуджанага. Віктар Анішчук зайшоў, участковы прапанаваў яму сесці, паклаў перад ім паперы:

— Ваша жонка патрапіла ў аварыю. На тэрыторыі суседняга раёна. Яе цела ў моргу той раённай бальніцы, аўтамабіль будзе на стаянцы ў ДАІ таго аддзела. Вы вызваляецеся на пяць дзён для пахавання жонкі. Распішыцеся тут і тут. Вам неабходна будзе явіцца да нас і адбыць рэшту пакарання. Усё зразумела?

## ФРАГМЕНТ 28

### Віктар

Словы пра смерць жонкі прагучалі нечым чужым з чужога свету. Кароткая размова, падпісванне дакументаў — усё падалося нерэальным, ці то трызненнем, ці то сном. Цяпер ён ішоў сонечнай вуліцай, ішоў, адчуваючы тую ж ірэальнасць усяго вакол. Адна думка была жывой — пра тэлефон. Дома павінен быць новы сынаў, бо ў армію яму з сабой далі стары. Адно хвалявала, і ён чапляўся за гэта адзіна рэальнае: захоўваў ён кантакты на самой сімцы ці не?

Віктар адкрыў кватэру, пераступіў парог, і нечаканае пачуццё кальнула і прымусіла спыніцца — зайшоў не ў сваё жытло. Чаравікі скідаў ціхенька, усё роўна як спаў нехта ў пакоі чуйна, а ён баяўся яго разбудзіць. Адагнаў прэч адчуванне сябе злодзеем.

Хацеў шукаць тэлефон, але перадумаў: варта напачатку памыць ногі і змяніць шкарпэткі, бо невыносна было далей цярпець вільготную ліпкасць. Выйшаў босы з ваннага пакоя, і тут трэнькнуў дзвярны званок. Аглушальна, над самым вухам. Віктар уздрыгнуў. Адкрыў дзверы, яго трэсла, быццам зараз павінна было здарыцца нешта жудаснае.

На парозе стаяла суседка па пляцоўцы, Таццяна, невысокага росту жанчына, у хусцінцы (яна лічыла сябе верніцай, хадзіла ў царкву). Муж яе, Антон, машыніст грэйдара, каржакаваты, грубаваты і ў выхадныя заўсёды крыху п'янаваты, мусіў зрабіць для сваёй Тацяначкі (як называў жонку ў вочы і за вочы) нешта кшталту іканастаса ў кутку іх спальнага пакоя. Папраўдзе, спальня была цалкам Тацяначкіна, бо сам Антон літаральна жыў у агульным пакоі з заўсёды ўключаным тэлевізарам, які паказваў увесь час адзін канал: "Паляванне і рыбалка", хоць Антон на паляванне ездзіў апошні раз тады, калі яшчэ быў кавалерам.

Хустка на галаве Тацяначкі была чорнага колеру, і Віктар нават здзівіўся на нейкае імгненне: чаго яна ў жалобе? Ён адступіў, даючы суседцы зайсці ў вітальню.

— Ой, Віцечка, як шкада, як шкада! Выратуй, Божа, душачку яе!

І Віктара раптоўна працяла. Ён апусціўся на пуфік, закрыў твар рукамі. Гэта — усё. Гэта — канец. Тое, што знаходзілася за сцяной ірэальнасці, сілком уварвалася ў яго свядомасць, стала явай.

Усё далейшае для Віктара адбывалася нібыта асобнымі кавалкамі. Вось яны разам з Тацяначкай перабіраюць у камодзе рэчы Антаніны: бялізну, калготы, шукаюць сукенку… Не, ён стаіць больш збоку, то сама Тацяначка перабірае, шукае ненадзяванае, збірае вы-

зельчык. І не спыняецца ні на хвілінку, прычытае і прычытае, ціхенька, голасам, які заспакойвае, хоць гучыць нязвыкла, наўпрост дзіка.

Сусед Антон зайшоў, пацiснуў руку, сказаў "трымайся", пацягнуў на кухню, там сунуў у руку чарку: "Выпі. Вочы шкляныя…"

Ён тэлефанаваў па нумары, якія прынесла Тацянaчка, яму адказвалі: зробяць усё, ад пачатку і да канца, па пахаванні, дамовіліся на час выезду…

Потым маўклівая дарога, якая, ведаў, будзе нядоўгай, а хацелася б, каб яна была бясконцай, таму што як толькі кончыцца дарога, ён пабачыць.

І ён пабачыў.

На металічным вялізным стале ў моргу ляжала яна і не яна, родная бясконца і бясконца чужая, голая на цалкам голым Антаніна. Застылая, з сінюшнай скурай.

У першы момант, калі жанчына адкінула прасціну, стала пакутліва сорамна. А пасля… пасля ён пабачыў шво. Такое, як хутка, спехам, зашываюць верх мяшка — буйнымі шыўкамі. Антаніна ляжала на спіне. Ад самага горла і да лабка ў кароткіх кучаравых валасках ішло звыродлівае грубае шво, тоўстай белай ніткай, неахайнае, краі скуры былі не прыгнаныя разрэзам шчыльна, а схопленыя, сцягнутыя абы-як.

Ён выйшаў, аддаўшы вузельчык з адзежай, невялічкую сумачку з касметыкай, прысеў на лаўку ля морга і закурыў, а ў вачах стаяла, не знікала, праступала выразна кожным сваім шыўком тое страшнае шво. Як жа можна так зашываць? І навошта, навошта яе так разрэзалі — усю, ад горла і да… Кожны шывок праплываў у памяці — зверху і ўніз, плыў наверх, Віктар лічыў іх — васямнаццаць.

Гэта ягонае жыццё так нехта па-дзікунску распароў, выцягнуў адтуль усё каштоўнае, а потым прыхапіў тупой іголкай з тоўстай ніткай краі. І ўсё тое, што было таямніцай, створанай для дваіх, што было еднасцю і святлом, чым дыхалася і наталялася, разам разбурылася, знікла, пакінуўшы цела — мёртвае, з халоднай скурай, знявечанае разрэзам.

Занеслі ў морг і вынеслі праз нейкі час труну ўжо з нябожчыцай, апранутай, нафарбаванай, уставілі ў катафалк. Віктар сеў побач, глядзеў на застылы напудраны і нафарбаваны твар, яшчэ болей чужы, лялечны, а позірк усё сунуўся і сунуўся на грудзі нежывой жонкі, і тое шво нібыта праступала праз сукенку, выпучвалася, і тканіна не магла ніяк прыхаваць васямнаццаць шыўкоў.

Людзі ў кватэры — ён пазнаваў і не пазнаваў твары — казалі яму нейкія ціхія словы, соўгалі ў рукі канверты, ён не разумеў, навошта і што з імі рабіць, стаяў у калідоры (так загадала Тацяначка). А людзі ішлі і ішлі, адны заходзілі, іншыя выходзілі, чулася прыцішаная гамана, у пакоі была задуха.

Ён сядзеў на крэсле перад труной, бяздумна гледзячы на рукі Антаніны, якія былі звязаныя, з устаўленай у іх свечкай. І менавіта рукі казалі пра смерць, бо на іх не было пудры, скура — белая, без адзінай крывінкі — не магла быць жывой.

Насупраць яго, на той бок труны, чучалам чорнай птушкі сядзела цешча, маці Антаніны. Як пасадзіў яе сын, так і застыла, ні слоўца не прамовіўшы, ні галавы ні да каго не павярнуўшы.

Выпіваў яшчэ на кухні налітую Антонам чарку, аддаваў таму грошы, той некуды званіў, дамаўляўся з некім пра нешта. Наліваў сам брату Антаніны,

слухаў яго мармытанне пра нейкія ягоныя даўгі, соўгаў яму грошы на нешта.

Часу не існавала.

Тацяначка ўгаварыла яго пайсці прылегчы: “Заўтра ж дзень цэлы вытрымаць, паляжы, паляжы гадзінку, я пасяджу ля Тонечкі”, ён прылёг і праваліўся ў бездань, у якой была жывая цемра, і цемра была смерцю. Яна ахутвала ўсяго Віктара, халадком прабіралася ў яго мозг, ён працівіўся напачатку, урэшце быццам раскрыўся насустрач — і рэальнасць увайшла ў яго цалкам, незваротна.

Тацяначка кранула яго за плячо, калі ўжо было светла ад ранішняга святла. Ён памыўся, пераапрануўся. Галава стала яснай, запрацавала, бы які аўтамат: ён стаў гаспадаром, мужам жонкі, якую зараз трэба хаваць: прымаў спачуванні ад людзей — яны зноў пачалі збірацца ў кватэры, — дамаўляўся са святаром наконт часу адпявання, складаў дамову з дырэктарам пахавальнай канторы, узгадняў меню і колькасць людзей у гарадской невялікай кавярні для памінальнага стала. Распісаўся ў надрукаванай заяве — начальнік бюро даваў адпачынак з таго дня, як ён апынуўся ў міліцыі. Спраў аказалася вельмі шмат, дзякаваць Антону і Тацяначцы, дапамаглі.

Віктар у гэтыя гадзіны рабіў справу, каб зрабіць так, як належыць. Галоўным для яго было зараз, каб зладжана перахапілі труну ў вузкіх дзвярах мужчынскія рукі, каб не спатыкнуліся хлопцы з труной на вузкай лесвіцы, каб усім хапіла месца ў аўтобусе, каб акуратна апусцілі труну, не нахілялі моцна і, крый божа, не вырвалася ў каго з рук вяроўка, бо ж чуў, што і такое здаралася. І нават палёгка прыйшла з тым момантам, калі паўстаў крыж у насыпаны ўзгорак — вось, усё зроблена як мае быць. Цяпер усім памяс-

ціцца ў той кавярні, не забыцца пра свечку і запалкі — тут усяго дапамагчы Тацяначцы, яна сама будзе весці хаўтуры.

Віктар упусціў у сябе смерць, прыняў і ўсвядоміў: Антаніны няма. Ранейшага жыцця няма. Ён — па іншы бок мяжы.

Калі позна вечарам паставіў шклянку з вадой каля запаленай свечкі, паклаў акраец хлеба (так вучыла рабіць Тацяначка, якая чорным ценем з паўгадзіны калыхалася па ягонай кватэры) і застаўся адзін, сеў на кухні, закурыў, у вачах паўстала і ніяк не знікала карціна: пагорак, слой пяску, вечка труны, труна з Антанінай. І тое звыродлівае шво відаць, бы Антаніна ляжыць у труне голая. Ён выпіваў па глытку з чаркі, калі заканчвалася гарэлка — падліваў трошкі. Нарэшце прапала тое шво. Напачатку асцярожна, а затым смялей згадвалася, праплывала ў памяці жыццё, разрозненымі кавалачкамі, да драбніц яснае: першыя сустрэчы з Антанінай, недагаворанасць і сэнсавая гульня; першы іх пакутліва-сарамлівы секс, калі выявілася: абое яны не тое што недасведчаныя, але і страшэнна баяліся апынуцца на піку пачуццевых адносін з-за магчымасці атрымаць там незагойную рану ці раніць другога; цяжарнасць Антаніны, яе вялікі і цёплы жывот, да якога ён прыпадаў чуйна вуснамі, пасля вухам і слухаў, хацеў пачуць там, усярэдзіне, яшчэ адно жыццё; нараджэнне сына, сваю нязграбнасць і страх, калі першы раз браў на рукі не чысцютка-святочны скрутак, перахоплены блакітнай стужкай, а само дзіця — у адной распашонцы, і трэба было неяк адмыслова ўзяць, падтрымліваючы і галоўку, якая закідвалася назад…

Успамін пра сына сціснуў сэрца, здаецца і дыханне спынілася: сын хворы. Сын у небяспецы. І неабходна

заўтра ж ехаць у суседні раён, у міліцыю. Там — разбіты аўтамабіль, у сумачцы (бо ж нікуды больш Антаніна не магла пакласці) лекі для сына, якія яна не давезла.

Віктар засынаў з ясным веданнем сваёй новай задачы, якую ён павінен выканаць, і разуменне гэтага не пускала болей у яго свядомасць шво на васямнаццаць шыўкоў — ад горла да лабка — на яго жонцы, якая, бессаромна аголеная, ляжыць на вялізным халодна-металічным стале пад мярцвянаблакітным святлом.

## ФРАГМЕНТ 29

### Хрысціна, нявестка прадпрымальніка

Хрысціна прачнулася з галаўным болем. З цяжкасцю ўстала з ложка, стараючыся не варочаць галавой, бо там унутры целяпаўся, абпальваючы сценкі, расплаўлены чыгун. У халадзільніку, да якога завярнула адразу, не апранаючыся (летам яна заўсёды спала без бялізны, цалкам голая), знайшла ўсяго адну бляшанку піва. Ні мінералкі, ні фанты. Піва яна не любіла, тым больш гэта яго ўчора выпіла пасля некалькіх кактэйляў і цяпер лічыла галоўным віноўнікам свайго самаадчування. Папіла вады. Ламінат падлогі халадзіў ступні босых ног, і гэта было першае прыемнае пачуццё. У агульным пакоі было прахалодна — яна з ночы расчыніла дзверы на балкон, па целе пабеглі мурашкі. Хрысціна зябка перасмыкнула плячыма, ды пра халат, які ляжаў недзе ў спальным пакоі, не згадвала — ёй было прыемна адчуваць целам свежасць паветра. У глыбіні бара, праз тоўстае карычневае шкло, угадваліся пузатыя бутэлькі. Хрысціна агледзела напоі, выбрала самую меншую,

грамаў на трыста, пляшку. Здаецца, віскі. Валянцін менш крычаць будзе, бо невялікая. Дастала шырокую шклянку, у вітальні знайшла сваю сумачку, намацала пачак цыгарэт і запальнічку. Усё трымаючы ў руках, выйшла на балкон, ужо заліты сонечным святлом. Голае цела абвыкла да ветрыку. Села ў крэсла, смакуючы наперад лёгкую рудую вадкасць, якую няспешна ліла ў шклянку, уцягваючы носам водар напою.

Зрабіла два няспешныя глыткі, падпаліла цыгарэту, выпрасталася ў крэсле, выцягнуўшы ногі. Яна глядзела на іх, на свой плоскі і прыгожы жывот, і адна думка млява варочалася ў яе галаве: Сыновец — сука і сволач.

Сыновец — свёкар. Ён у сваёй вялікай сям'і быў адзіным сынам сярод шасці дачок, то й маці, і бацька так і клікалі яго, а затым і вёска ўся: сыновец. Не проста сын, а нешта больш значнае — адзіная надзея. Дзіўна, мянушка настолькі прыжылася, што іншыя яе ўспрымаюць сёння за прозвішча. У дзевяностыя гады таго веку Сыновец падняўся на нелегальным гандлі дызпалівам і бензінам на трасе, уклаў грошы і адкрыў там невялічкую кавярню. Потым усё ўкідваў у яе пашырэнне. Цяпер у яго кавярня на сто месцаў, дзве банкетныя залы, гатэль на 20 ложкаў — у адным вялізным будынку. Лічыцца адным з лепшых прадпрымальнікаў вобласці, мецэнат яшчэ які… Не ведае ні выхадных, ні адпачынку, спіць па шэсць гадзін. І хоча, каб дзеці і ўсе вакол жылі так. Пабудаваў рэстаран у горадзе, аддаў ім — ёй, Хрысціне, і сыну Валянціну. Гад, не аддаў, а наняў працаваць! Валянцін мусіць прападаць на гэтай рабоце: то адно, то другое. Сама Хрысціна колькі ўклала сябе ў той рэстаран, вынаходзячы ідэі, робячы інтэр'ер, падбіраючы меню! Валянцін неаднойчы заікаўся бацьку:

наша — дык аддай насамрэч, мы аформім як таварыства ці прыватнае прадпрыемства, станем гаспадарамі. А Сыновец ні ў якую: так больш падаткаў плаціць, дурні, насміхаецца з іх.

І вось учора яна з трыма сяброўкамі гуляла ў сваім рэстаране — ёсць там асобная баковачка, зрабілі з яе vip-пакойчык. Валянцін падаўся за мяжу — новы апарат для піцы набываць, чаму б ёй не расслабіцца?

Сыновец заляцеў чортам, пырскаў слінай, перапалохаў сяброўак, хоць у горадзе даўно прывыклі да ягонага дурнога характару і істэрычнага віскату, зусім як у бабы. Заставалася спакойнай, пакуль віщчаў, нібыта ён сам мусіць цягнуць увесь бізнес, не бачыць падтрымкі ад яе, нявесткі. Гэта дробязь. Заявіў пра балючае:

— Гэты рэстаран ні на цябе, ні на сына не перапішу! Вы лайдакі і нікчэмныя гаспадары! У яго мазгоў няма, а ты — гуляка! Нараджайце мне ўнука — я зраблю з яго бізнесмена, яму ўсё перадам. А пакуль мне не народзіце ўнука ці ўнучку — будзеце ў мяне наймітамі! Здаровая баба, дваццаць шэсць год — нараджай! Досыць піць і гуляць!

І не перапіша ж, сука. Не аддасць рэстаран.

А як нараджаць? На халеру ёй дзеці ў яе гады? Толькі смак жыцця адчула, паўгода як на правы здала, за такі тэрмін хіба спатолішся шчасцем? Што стане з яе жыватом, з грудзямі? Дзіця… Бр-р-р, падумаць страшна… Яе аднакласніца, Галя Кулініч, ужо дваіх нарадзіла, на яе ж глядзець агідна, збабілася. Ездзілі на возера, сустрэла яе, глянула і жахнулася: жывот адрузлы, тлусты, ды такія пісягі, кажа — скура расцягнулася, сляды засталіся. А цыцкі? Мяшкамі парабіліся, купальнік зняла — адвіслі да пуза, расцягнутыя. О, не… Паспее нарадзіць, і хай Сыновец

не лютуе — пацерпіць…І Валянцін падтрымлівае — яму таксама дзеці яшчэ не ўпалі семем дурной ідэі ў галаву. Рэстаран забірае ўвесь час. І — аўтамабілі. Ужо трэці змяніў, любіць, каб ціскануў на педаль — і рванулася пад табой паслухмяная сіла.

Падалося, цень нейкі варухнуўся на балконе суседняга дома. Хрысціна ўсміхнулася хціва і задаволена — угледзела неяк раней, як цікуе за ёй, выходзячай на балкон аголенай ці ў бікіні, суседскі хлапчук. Выпускнік, маці яго казала, надта ж добра разбіраецца ў камп'ютарах. Варухнулася вясёлая вар'яцкая думка: накінуць адно халацік кароткі, амаль празрысты ды папрасіць, каб прыйшоў паглядзець комп, быццам дрэнна працуе. Не, не сёння. Але паднялася лёгка, балазе галава перастала гудзець, і трымалася роўна. Стала ў крэсла нагамі, пацягнулася ўверх — нібыта папраўляючы лёгкую цюль.

Сачыла — і пабачыла: юнак насамрэч цікаваў за ёй між адагнутых пласцінак жалюзі.

"Ну падзівіся, падзівіся! — усміхалася, нечакана ўзбуджаная тым адчуваннем захаплення, якое, верагодна ж, паспытваў той суседскі хлопец. — Дзівіся, хлопчык, наталяйся… Вось так павярнуся і так. Дзівіся, малеча: якія грудзі, якія сцёгны роўныя і гладкія, а ногі якія акуратныя, лыткі, бы бутэлечкі, вар'яцелі і вар'яцеюць мужыкі, як апранаю міні-спадніцу. І цюль адхілю на крышку — глядзі, то не на экране манітора перад парнухай мастурбіраваць. Многа не буду, каб не залішне, прападзе цікавасць. Смакуй…"

Гарачынёй адгукнуўся ніз жывата, і Хрысціна саскочыла долу. "Усё на сёння. Чакай, хлопчык, гульня прадоўжыцца. Ты ведаеш, калі я зазвычай выходжу сюды, як выпадае магчымасць. Цікуй. Я прыручу цябе, бы сабачку, да пэўнага часу..."

Час, дарэчы. Сонца амаль проста свеціць, ужо за поўдзень. Тэлефон дзе? Лёгкім неспакоем варухнулася думка: брала цыгарэты з сумачкі, не намацала там пляскатай паверхні тэлефона. Ат, пазней. Наліла сабе яшчэ. Недапаленая цыгарэта скруцілася сівым чарвяком попелу, прыпаліла новую. Галава зусім прайшла. З задавальненнем, ажно задрыжалі мышцы напятага жывата, пацягнулася, выгнуўшыся ці не дугой. Як добра…

Млява ўжо падумалася пра тэлефон: канешне, забылася ўчора ў рэстаране. Згубіць яна яго не магла, бо дакладна помніць, як зрабіла апошні званок Валянціну і крычала яму: надакучыла цярпець тырана-свёкра, яна не наймітка нейкая, а ягоная жонка, то хай заступаецца перад бацькам, а не, дык яна… Блефавала. Нікуды яна і нішто яна. Бо няма куды і няма за што. Сыновец не дурань: дом гэты — сыну падораны, аўтамабіль яе — сыну падораны. Ёй адсюль вымятацца, дык з чамаданчыкам, у які ўмесціцца ўсё набытае: сукенкі ды бялізна. Стала б яна гаспадыняй рэстарана, яна б сябе паказала. Сушы б замаўляла! Разбіла б вялізную залу на сектары: кітайскі, грузінскі, нямецкі ці яшчэ там які. Асобныя кабінкі б парабіла, каб утульна было кожнаму. А трэба ўся зала на вялізны банкет — прыбралі да сцяны перагародкі лёгкія — гуляй! Колькі са сваімі эскізамі-малюнкамі бегала да Сыноўца, ды толку — у яго адзін аргумент: нашым людзям давай вялікую залу — абы было дзе разгуляцца вяселлю. Няма чаго рабіць стаўку на штодзённую работу — два разы на месяц вяселле адзначаць — вось табе і той самы прыбытак, а клопату ў разы меней. І не паспрачаешся…

Ні фіга, хопіць яму. Сёння Валянціна перад фактам паставіць: альбо яны будуць гаспадарамі рэста-

рана, альбо хай Сыновец шукае сабе іншую нявестку, а яму, цяляці такому, жонку.

Той факт, што тэлефона не знайшлося ў сумачцы, нікольві яе не засмуціў. Праз тры чвэрці гадзіны, прыняўшы душ, падфарбаваўшыся, яна заводзіла аўто ехаць у рэстаран па тэлефон, бо Валянцін, відавочна ж, званіў ужо не адзін раз, распсіхуецца, як дзіця малое. Не хвалявалася, што ўжывала і сядзе за руль, — яе аўтамабіль мясцовыя даішнікі ведалі добра. Ды і да рэстарана 10 хвілін язды…

За барнай стойкай наткнулася на Ліну — тая сядзела з кубкам кавы. Пасля ўчарашняга выглядала яна надта дрэнна: кругі пад вачыма, позірк затуманены. Ліна ў іх кампаніі сама дрэнна пераносіць гулянкі — колькі б ні піла, назаўтра адчувае сябе моташна. Затое ў кампаніі яна самая вясёлая, ад першых глыткоў шампанскага, якое так любіць — можа за кароткі вечар выпіць бутэльку, з яе прэ весялосць і дасціпнасць неўтаймаваным патокам.

Павіталіся, бусьнуліся, Хрысціна гукнула барменшу, узяла ключ ад vip-пакоя.

— Пайшлі! — пацягнула Ліну за сабой. — Тэрмінова цябе паправіць, дарагая…

Тэлефон ляжаў у фатэлі, Хрысціна ўбачыла некалькі выклікаў без адказу, два — ад Валянціна.

— Валечка, прывітанне! Прабач, коцічак, была ў душыку, нешта такая тлумная, як устала… Усё добра, сонейка, не перажывай, усё добра… Чакаю, чакаю, і ўсё маё цябе чакае і так сустрэне, так сустрэне… Ну, не злуйся, коцічак, я праўда засумавала па тваіх лапках…

Яна мурлыкала ў тэлефон, у душы зусім не хлусячы: тут, ва ўтульным ад зялёнага змроку пакоі, дзе мякка паблісквалі святлом шкло і нікель металу,

было сапраўды вельмі добра і не хацелася псаваць сабе настрой сур'ёзнымі думкамі. Дый чаго ёй, па сутнасці, хвалявацьца? Яна не гаспадыня? Ну і добра, галава менш баліць. Не панясе з сабой Сыновец у магілу ўсе пабудовы і комплекс прыдарожны — некалі ўсё ёй і Валянціну дастанецца. Хай вар'яцее, яму раз на тыдзень неабходна пару выпускаць, хоць мо лепш было б вуха надрэзваць, каб шалёная кроў сыходзіла…

Выпілі з Лінай каньяку, замовілі ў бары каву. Сяброўка аджыла адразу, пачала расказваць нейкую смешную гісторыю. Вырашылі пазваніць астатнім — чаго ім сядзець удвух, сёння ж выхадны. Праз паўгадзіны ўся ўчарашняя кампанія была ў зборы. Прасядзелі доўга. Хрысціна ўрэшце зірнула на час: Валянцін мусіў прыехаць гадзіны праз дзве. Значыць, трэба збірацца, прыняць душ і сустрэць яго здаровенькай — Валянцін не любіў іх "дзявочнікаў", псіхаваў, калі Хрысціна выпівала замнога. Было з чаго — два гады таму ўсё тая ж няўрымслівая Ліна прыперла на адны пасядзелкі таблеткі. Вечар атрымаўся ні на што ранейшае не падобны — столькі было вясёлага ўгару! І без экстэзі далейшыя іх сустрэчы выглядалі кіслымі. Праз месяцы тры Хрысціна пры маркоце на душы ад сварак з Валянцінам ехала ў рэстаран, ведала, у каго там пытаць "калёсы". Ды і не адна яна…

Усё завяршылася даволі гучна: нейкі маладзён абкурыўся спайсамі, пачаў, у поўным неадэкваце, танчыць голым на стале, драў кіпцюрамі грудзі. І вечарам Хрысціна неасцярожна вываліла сваю сумачку на канапу — шукала нейкую драбязу, а тут зайшоў Валянцін. Не заўважыць яркія таблеткі было немагчыма. Сыновец явіўся праз вечар і падняў дома такі лямант, сцены трэсліся. Падумаеш, у кавярні (першы

паверх рэстарана) гандлявалі наркатой, яму данеслі канкрэтна. Быццам нідзе больш не гандлююць. А што сюды з суседніх гарадоў пачалі ездзіць, грошы табе вязуць, тое быццам з-за тваёй кухні, прыдурак стары. Валянцін стаў на бок бацькі — ён не мог не заўважыць, што Хрысціна падсела на наркотыкі даволі моцна: калі вечар быў без іх, яе "насіла", хіба які моцны кактэйль ратаваў.

Сыновец вырашыў праблему хутка, як заўсёды — радыкальна. З міліцыяй, канешне, звязвацца не стаў, назаўтра ж выгнаў абсалютна ўвесь персанал, пакінуў двух кухараў. І за дзень набраў новых — плаціў ён добра, а беспрацоўе ў горадзе было не экзотыкай. Бацьку Валянцін пра таблеткі Хрысціны не сказаў, вядома, адно вырваў з жонкі абяцанне: ніколі больш. Урэшце, Хрысціна падумала і сама рашыла: час завязваць — не маладая, абыдзецца без іх… Але ўжо год, як Валянцін пільна прыглядаўся да жонкі на кожнай гулянцы і нерваваўся: "Не хапала, каб пасля наркаты ты яшчэ алкагалічкай стала!" — выгукнуў падчас адной сваркі, якія здараліся раз на тыдзень.

Сталі збірацца. Ліна мелася сесці ў аўто да Хрысціны: "Ты п'яная, я буду цябе кантраляваць!", Хрысціна адказала вясёлым мацюком. Падлога пад ёй злёгку пагойдвалася, але адчувала яна сябе ўпэўнена. Тут праехаць усяго…

Ёй махнулі паласатай палкай на перакрыжаванні, паспела павярнуць. Мабыць, адсочвалі. Хацела націснуць на газ, перадумала: ха, яна будзе хавацца ад гэтых чукчаў, якім Сыновец даваў грошы на рамонт будынка? Гэтага роздуму было дастаткова для таго, каб ад'ехаць досыць далёка ад даішніка. Уключыла заднюю перадачу, а там нешта грымнула, аўтамабіль тарганууся, як дурны, і заглух.

Маладжавы лейтэнант падышоў, казырнуў, яна скрывілася праз адчыненае акно:

— Чаго ты хочаш, служывы? Не пазнаў?

— Калі ласка, вашы правы! Вы праехалі на чырвонае святло святлафора!

— Табе прыснілася, лейтэнант? Там нічога не гарэла! — абурылася Хрысціна, не заўважаючы, як п'яна расцягвае словы.

Даішнік павярнуўся да напарніка, падаў нейкі знак, нахіліўся зноў да адчыненага акна:

— Вы сёння пілі?

— Ідзі к чорту! Учора я піла!

Яна яшчэ намервалася ў нейкі момант учыніць скандал, ды тут ёй стала смешна і ўсё роўна: падумаеш, хай паспрабуюць нешта зрабіць, героі! Ды Сыновец іх корміць на трасе! А яна — гаспадыня рэстарана!

Да лейтэнанта падышоў напарнік.

— П'яная… нявестка Сыноўца.

— Павезлі ў аддзяленне, пакуль тут народ не сабраўся, — параіў той, сам нахіліўся да Хрысціны:

— Выйдзіце з машыны і прайдзіце да нашага аўтамабіля… Невялікая фармальнасць…

— Ну, хлопчыкі, я ж магу і пакрыўдзіцца, — усміхнулася, гулліва прыгразіла Хрысціна, але вырашыла падпарадкавацца. — Стоп, чакаем, я забяру сваю сумачку… так, тэлефон на месцы, мне надакучыла за ім ездзіць…

— Ключы, калі ласка, пакіньце, — нагадаў як бы між іншым лейтэнант. — Вы паедзеце ў нашай машыне, а я следам на вашай…

— Праблемы? — ускінулася Хрысціна, ды тут яе нечакана павяло ўбок, яна хапілася за локаць даішніка, каб не ўпасці, той у час падтрымаў.

— Паедзем, паедзем…

Хрысціну ўвялі, прытрымліваючы, у кабінет начальніка ДАІ капітана Езапчука.

— На першым скрыжаванні, таварыш капітан, — даклаў лейтэнант. — Сведчу, не ўпарцілася ніяк.

— Ну, што ж гэта вы, мілая мая, — Езапчук пазнаў нявестку прадпрымальніка, падняўся з-за стала. — Прысядзьце, адпачніце крышку, — сам падышоў бліжэй — чыста прафесіянальная звычка ўпэўніцца: чалавеку не блага, а менавіта ён п'яны, і ад яго нясе характэрным пахам алкаголю.

Хрысціна села на стул, боўтнула галавой назад і ўбок, урэшце апусціла яе на грудзі. Нічога не вымавіла.

— Яна вырубіцца, — ціха вымавіў адзін з даішнікаў.

— То хай і паспіць, — адказаў Езапчук. — Халера, зараз да мяне прыйдуць… На ключы, адкрый агітпакой, — ён даў ключы лейтэнанту, сам звярнуўся да Хрысціны, крануўшы яе плячо: — Шаноўная, хадземце ў другі пакой, там вольна, ніхто перашкаджаць не будзе, пагаворым…

— Ой, якія ветлівыя мянты, — скрывілася ў п'янай усмешцы Хрысціна, падкрэслена паслухмяна памкнулася ўстаць, Езапчук дапамог ёй.

У агітпакоі ён пасадзіў Хрысціну ў мяккае крэсла, за якім зазвычай сядзеў сам ці начальнік аддзела пры правядзенні агульных сходаў з нагоды якой урачыстасці.

— От тут утульна, пасядзіце, адпачніце, я хутка прыйду, — угаворваў ён. — Вам добра? Нічога не трэба?

— Пакіньце мяне ў спакоі, — адмахнулася Хрысціна, ладкуючыся ў глыбокі фатэль, выпрастала доўгія,

высока аголеныя ногі, адкінула галаву і заплюшчыла вочы.

Капітан паглядзеў на жанчыну, якая насамрэч прыснула ці "адключылася". Наблізіўся, паназіраў за грудзьмі, якія роўна ўздымаліся-ападалі. Усё нармальна, дыхае. Прычыніўшы дзверы, вярнуўся ў свой кабінет.

— Машына яе дзе? Цэлая?

— Цэлая, на штрафстаянцы. Вось ключы і сумачка яе, перажывала ўсё, каб нічога там не згубіць…

— Ключы ў сумачку, нясі сюды, — прайшоў сам да высокага сейфа ў кутку, пафарбаванага ў колер охры, расчыніў: — Стаўляй на сярэднюю паліцу.

— Не сейф ДАІ, а магазін жаночых сумак, — пракаментаваў лейтэнант, ставячы сумачку ў сейф, і патлумачыў свой не зусім дасціпны жарт: — І на верхняй паліцы сумачка амаль такая ж, — зірнуў на капітана, не пабачыў у яго вачах разумення і спытаў па-службоваму суха: — Загадаеце пісаць пратакол?

— Разбяромся. Начальніку пазваню. Ён казаў, увосень вяселле ў дачкі, маладыя ў рэстаране Сыноўца хочуць святкаваць… Цяміш? Ну дык вось…

Даішнікі выйшлі, капітан патэлефанаваў па службовым тэлефоне, коратка даклаў сітуацыю, выслухаў распараджэнні. Схадзіў у агітпакой — жанчына, здаецца, спала. Узяў мабільны тэлефон, пазваніў:

— Прывітанне, Валянцін! Езапчук. Тут такая справа. Твая Хрысціна трошкі не разлічыла свае сілы. Карацей, яна ў мяне адпачывае ў крэсле. Ага, за рулём была. Не, машына ў парадку, у нас стаіць. Ну давай, дзве гадзіны яшчэ чакаем, больш не змагу...

Недзе праз гэты час у аддзяленне прыехаў муж Хрысціны, Валянцін: трыццацігадовы дзяцюк, дужы і рослы, трохі цельпукаваты. Парукаўся з капітанам

Езапчуком, расштурхаў асцярожна Хрысціну, падхапіў і літаральна панёс пад пахай.

— Валічак, коцічак, твой зайчык цябе падвёў, сонейка, прабачай… — мармытала Хрысціна, імкнучыся дастаць падлогі нагамі і ісці самой.

На вуліцы ля аўто яна ўрэшце выслізнула, стала дастаткова цвёрда.

— Стой! Валік, стой! Дзе мая сумачка? Мая сумачка! Там тэлефон, там цыгарэты! Я хачу закурыць! Дай мне цыгарэту!

Яна ўзвысіла голас, гэта магло азначаць тое, што калі пайсці супраць, яе схопіць істэрыка.

— Сядай! — Валянцін адчыніў дзверы аўто, прытрымаў, пакуль села жонка, вярнуўся ў кабінет да Езапчука.

Той размаўляў па тэлефоне, стоячы. Мабыць, з нейкім начальствам.

— Сумку, казала, недзе пакінула, — напаўголаса патлумачыў сваё вяртанне Валянцін.

— Так точна, — гукнуў Езапчук у трубку, скасіў позірк на Валянціна і паказаў жэстам на прычынены сейф, у якім тырчаў ключ. Прыкрыў далоней трубку, прасіпеў: — Адчыні, там недзе.

Валянцін адкрыў сейф, схапіў сумачку, выйшаў паспешна. Ужо маючы вопыт, як дастае жонка цыгарэты, калі добра выпіўшы — разрывае ўвесь пачак, — спыніўся ля адчыненых дзвярэй ля Хрысціны, запусціў руку ў сумачку, шукаючы патрэбнае. Замест папяровага пачка пальцы раптам намацалі нейкія ампулы. Валянцін пахаладзеў, старанна згроб навобмацак шкляныя колбачкі. Утаропіўся на раскрытую далонь з невялікімі ампуламі, сунуў яе пад нос жанчыне, выдыхнуў, ледзь стрымліваючы злосць, якая раптоўна забулькатала ўсярэдзіне:

— Сучка ты гэтакая! Зноў нарката? Ты помніш, што мне абяцала? Ты помніш, я папярэджваў?

Хрысціна спалохана ўціснулася ў крэсла — яна ведала пра межы, якія мог пераходзіць у сваёй злосці муж, і як патрэбна весці сябе ў такія моманты.

— Валечка, Валечка… — залепятала, сама ашаломленая ўбачаным, пакутліва спрабуючы згадаць: хто з сяброўак даваў ёй гэта і навошта?

— Ах ты!

Валянцін шпурнуў ампулы ў кусты пад плотам, кінуў сумачку на калені жонцы.

У маўчанні ён заводзіў аўтамабіль, ехалі дадому, ён адчыняў вароты, заязджаў у двор — усё без слоў. Толькі калі Валянцін газануў напаследак і заглушыў рухавік, Хрысціна падняла на яго вочы і сказала:

— Коцічак, ты мяне прабач, толькі гэта не мая сумачка. Яна падобная на маю, але, фу-у-у, не мая, — і, грэбліва трымаючы сумачку двума адтапыранымі пальцамі, паклала яе на калені мужу.

Валянцін няўцямна паглядзеў на жонку, засунуў руку ў сумачку і выцягнуў тэлефон — ён раней намацваўся сярод тых ампулак. Тэлефон быў зусім не падобны да Хрысцінінага, да таго ж з трэснутым шклом.

— Бля… — з палёгкай выдыхнуў ён.

## ФРАГМЕНТ 30

### Іван Сямёнавіч, былы інспектар

Першыя месяцы жыцця ў статусе пенсіянера сталі для былога начальніка інспекцыі пажарнага нагляду Івана Сямёнавіча самымі пакутлівымі. І не таму, што мучыўся ад бяздзейнасці, — якраз рукам работы хапала: пачалі будаваць дамок на лецішчы, жонка заду-

мала змяніць мэблю ў кватэры, а як было ставіць новае ў пакой са старымі сценамі? То і панеслася: шпалеры новыя, столь новая, дзверы — таксама, разахвоціліся і да ламінату на падлогу. Карацей, суму рукам не было. А душа пакутавала. Іван Сямёнавіч адчуў сябе нікім. Простым шараговым жыхаром абласнога цэнтра. Адным з многіх тысяч, якому могуць нахаміць у магазіне і на пошце ў чарзе па пенсію, над якім камандзір нейкая цётка з жэсаўскай канторы… Ён, той інспектар, уключэнне якога ў камісію па здачы любога аб'екта ў горадзе азначала для будаўнікоў сама менш галаўны боль і пратакол аб неабходнасці выправіць неадкладна трыццаць розных пунктаў, цяпер не мог без дай прычыны зайсці ў аблвыканкам — міліцыянер спыніў на ўваходзе і спытаў строгім голасам: да каго, па якім пытанні? Без нагоды! Не пазнаў?

“Прабачце, гэта не мае значэння… Да каго вы ідзяце?”

Іван Сямёнавіч мацюкнуўся ў думках і выйшаў, са злосцю таўхануўшы высачэзныя рыпучыя дзверы, ручка якіх паліравалася і яго далонямі цэлых пятнаццаць год, калі ён штодня спяшаўся на работу ў камісію. А тут бач — ужо нікому не патрэбны… Яшчэ з месяцы тры ці больш, заходзячы ў любую ўстанову ці якое памяшканне, ягоныя вочы спрактыкавана абмацвалі кожны куток, вышукваючы парушэнні пажарнай бяспекі. Было напачатку: не змог утрымацца, зрабіў прафесійную заўвагу ўладальніку невялікага магазіна наконт знаходжання вогнетушыцеля, ды атрымаў слушнае: “А ты хто такі, дзядзя?” І замямліў нешта ў адказ, імгненна ўсвядоміўшы: ён — былы. І ў былым ягоная постаць, якая выклікала сапраўдны жах хоць бы ў такога гаспадара магазіна, бо кожны

ведаў: больш прыдзірлівага, непадкупнага і бязлітаснага правяраючага ў вобласці не існавала.

Абражанае самалюбства патрабавала знайсці выйсце. І неўзабаве атрымалася яго адшукаць: у адну з субот, якая заўсёды прысвячалася лазні, а пасля праведванню звыклай кавярні, дзе браліся сто гарэлкі і куфаль піва, пакінуў свой першы допіс у кнізе скаргаў: столік падаўся яму нядбайна выцертым, прадавачка — занадта марудлівай і грубаватай. Пісаў нетаропка, як некалі раней: грунтоўна, з нумараваным пералікам заўваг, паглядваў на маладую прадавачку, твар якой быў відавочны спалоханы, і адчуваў, як вяртаецца да яго пачуццё напоўненасці жыцця.

Праз шэсць дзён, перад суботай, меў пісьмовы адказ: заўвагі прызнаны сапраўднымі, прадавачка пакараная, прыносім прабачэнні. Было прыемна. Пасля лазні, канешне ж, зноў зазірнуў у тую кавярню, ужо пачуваючыся не абы-якім наведвальнікам, а сталым госцем, амаль ганаровым. І тое спраўдзілася: абслугоўвалі яго надзвычай ветліва, чысты знешне стол працерлі перад тым, як ён сеў, яшчэ раз. Іван Сямёнавіч задаволена жмурыў вочы.

З таго часу жыццё наўпрост атрымала згублены раней сэнс: штотыдзень Іван Сямёнавіч адпраўляў скаргу ў якую інстанцыю. Прывучаны да парадку і грунтоўнасці, пабачыўшы недзе які непарадак, не прыспешваў сябе: калі, прыкладам, на прыпынку аўтобуса бачыў месіва са снегу і бруду, тэлефанаваў у розныя службы, збіраў, што называецца, адказы, запісваў іх у зварот, і толькі потым накіроўваў на той адрас, які лічыў патрэбным. Часцей — у гарвыканкам. Выпісваў афіцыйную абласную газету, уважліва вычытваў і пазначаў у свой “рабочы каляндар” дні і часы “прамых ліній” розных чыноўнікаў, разважаў:

якія з запісаных ім апошнім часам недахопаў якому чыноўніку адрасаваць. Дужа любіў, як нейкі невялічкі, на першы позірк, недахоп выліваўся насамрэч у вялікае пытанне з-за адсутнасці, скажам, гаспадара на ўчастку зямлі (а такое здаралася). Канешне ж, усе свае копіі лістоў і адказы на іх захоўваў, стварыў адмысловую картатэку, якая папаўнялася штодзень пасля выхаду ў горад ці выпадковых размоў ягонымі думкамі-заўвагамі, а тыя ўрэшце афармляліся ў адмысловыя звароты.

На жаль, за паўгода сваёй нястомнай дзейнасці стаў прымячаць: больш-менш значныя для грамадства праблемы ім закраналіся ў зваротах разы па два, нічога сапраўды істотнага не траплялася пад яго пільны позірк, хоць два дні на тыдзень выдзяляў адмыслова для паездак па горадзе, наведвання розных устаноў — ад цырульні і майстэрні да кінатэатра і рэстарана — для "збору матэрыялу". Скаргі на грубасць і непрафесіяналізм падаваліся ўжо мізэрнымі, ён быў упэўнены ў здольнасці сваім пільным вокам запрыкмеціць сур'ёзную праблему, напрыклад выявіць якую карупцыйную схему.

Як кажуць, няма таго ліха, што не выйшла б на добрае, — захварэў нечакана пятнаццацігадовы ўнук. Каб каму не казаць: прабраў хлопца панос ды тэмпература падскочыла. Павезла Марыя, яго маці, дачка Івана Сямёнавіча, у бальніцу, паклалі ў інфекцыйнае аддзяленне. Сам Іван Сямёнавіч не надта ўпадаў у гэтую тэму: хіба дзіва якое — захварэць, мала прыслухваўся да занепакоеных размоў жонкі і дачкі — ад паносу ў наш час не паміраюць, прасярэцца дый выпішуць, нашы сённяшнія дактары — на вышыні. Неяк затрымаўся на кухні і пачуў: дачка збірае "торбу" ў бальніцу, ды не сыну, а дактарам, асобную —

медсёстрам і санітаркам. Узвіўся ў сваім абурэнні: як можна, у наш час, калі ўся медыцына бясплатная, даваць хабар, а абедзве жанчыны разам умомант згасілі яго праведны гнеў, наперабой расказваючы пра старыя прасціны, няўвагу, абы-якую прыборку боксу, а галоўнае: эфектыўныя замежныя лекі, якія і купіць трэба ў некага яшчэ, і доктару колькі пакласці ў кішэню, каб наперад падказаў, што і ў каго купляць.

Іван Сямёнавіч пачуўся спустошаным і прысаромленым, праўда, на хвілінку. Услед за ўсведамленнем дробязнасці ўсяго, чым ён займаўся да гэтага часу, раптоўна пабачыў сапраўдную для сябе перспектыву ў пачэсным змаганні за агульны парадак. О, то не нейкая тугая спружына ў дзвярах магазіна, пра якую нядаўна адправіў ліст у камітэт па гандлі! Тут хабарніцтва, тут карупцыя, падрыў асноў нашай сацыяльнаарыентаванай дзяржавы!

Літаральна з таго вечара Іван Сямёнавіч быў прасякнуты клопатам пра ўнука, унікаў ва ўсе справы, якія былі звязаныя з ім, суправаджаў жонку і дачку ў бальніцу. А там не проста цярпліва чакаў, але, паказваючы занепакоенасць ды лёгкую незадаволенасць бальнічнымі парадкамі, праяўляў сваю шчырую цікавасць да чужых бедаў: колькі і чаго каму перадавалі, лекі ці медыкаменты мусілі набываць па падказках урачоў, колькі тым клалі незаўважна ў кішэні халатаў. Выпытваў асцярожна імёны і прозвішчы, адрасы тых, да каго і куды ездзілі, калі пасылаў доктар.

А вечарамі старанна ўсё занатоўваў. Два тыдні быў як ніколі ўзрушаны і дзелавы, хадзіў, бы асветлены знутры ідэйным святлом. Свой допіс у Дзяржкантроль — туды вырашыў звяртацца — складаў і перапісваў некалькі дзён. Нарэшце апрануў касцюм і гальштук, наваксаваў туфлі і выправіўся пешкі, хоць можна

было і пад'ехаць тралейбусам да самага пад'езда патрэбнага будынка. Але ў гэтым амаль урачыстым шпацыры была зразумелая толькі яму, Івану Сямёнавічу, апошняя рыска неабходнай ахвярнасці.

Скаргу ад яго прынялі з удзячнасцю і абяцалі адразу ж прыступіць да разгляду.

## ФРАГМЕНТ 31

### Віктар

Раніцай Віктар быў як ніколі засяроджаны, ад самага моманту прачынання дзейнічаў бы па алгарытме: туалет, кава, апрананне, збор дакументаў, праверка сябе на парозе, вакзал. Тут прайшоў рамонт, вялікі, які змяніў унутранае аздабленне будынка да непазнавальнасці — зніклі цёмныя пліты ДСП, светлыя сцены стваралі прасторнасць, замест шэрай цэментаванай падлогі ляжала гладкая бліштчастая плітка. Віктар пачуваўся трошкі чужым, балазе на вакзале было незвычайна шмат людзей, самых розных, невядомых. Зіркнуў на вялізнае табло раскладу, хоць учора літаральна завучыў рух цягнікоў у патрэбным кірунку, склаў маршрут: электрычкай сорак хвілін. Там адшукае (прыблізна па карце паглядзеў дзе) аддзяленне ДАІ, забярэ сумачку Антаніны з лекамі, даведаецца, калі можна забраць аўтамабіль. Вернецца на вакзал. Патраціць максімум гадзіну. І тады праз дваццаць пяць хвілін прыйдзе цягнік, на якім ён патрапіць праз яшчэ дзве гадзіны ў абласны цэнтр, у бальніцу да сына.

Але за першай лёгкай разгубленасцю ад убачанага і адчування сябе тут, на вакзале, дробязнай адзінкай вялікага мурашніка, прыйшла няўпэўненасць — Віктар уявіў, што ад моманту, як узяў білет,

ён перастаў валодаць абставінамі, многае, ці нават усё, залежыць не ад яго, а ад нябачных яму людзей. Не ён едзе — яго вязуць. Таму нечага хваляваўся, пакуль чакаў электрычку, паглядваў на час на мабільніку.

Электрычка прыпынілася амаль пустая, і зусім мала пасажыраў памкнуліся да расчыненых дзвярэй, хоць на пероне было шматлюдна: людзі чакалі хуткага цягніка. Выбраў сабе месца на пустой лаўцы, сеў ля акна, за пыльнай шыбінай праплылі апошнія будынкі горада, і прыйшло кволае заспакаенне: усё пачалося без спазненняў, не варта хвалявацца. Пазіраў у акно, засяроджваў зрок на нейкіх асобных кавалках мазаікі за шклом: ці то першы стажок сена, ці доўгая зарослая канава, ці адзінокае дрэва, ці выштукаваны франтон нейкага дома невялікай вёскі, якая праносілася міма асобнымі кадрамі дамоў, хлявоў, двароў... Не думаў ні аб чым — гнаў ад сябе ўсякую згадку пра цяперашняе і заўтрашняе.

На вакзале чужога горада пачуццё залежнасці ад абставінаў падштурхнула яго да стаянкі таксі — хоць уяўляў, у які бок ехаць на гарадскім аўтобусе да аддзялення ДАІ, заўпарціўся свайму ж ранейшаму плану.

— Не шкада пяцёркі, дык падвязу, — працягнуў млява на яго пытанне таксіст, мужчына прыблізна яго гадоў з гладка паголеным, інтэлігентным тварам. Віктар кіўнуў і, абышоўшы аўтамабіль, сеў на пярэдняе сядзенне, прышпіліўся рэменем. Даехалі не так каб і хутка (ці тое здавалася Віктару) — праз увесь выцягнуты ўздоўж галоўнай шырокай вуліцы горад, ажно на ўскраіну.

Дзяжурны сустрэў яго запытальным позіркам, Віктар павітаўся і патлумачыў як мага карацей:

— Мая жонка загінула ў аварыі. Недзе ў вас… тут яе дакументы, аўтамабіль.

— Пачакайце, начальнік аддзялення на выездзе, — без ценю спачування, суха адказаў дзяжурны міліцыянер, усё роўна як да яго з такімі словамі наведвальнікі звярталіся на дзень дзясяткі разоў. — Пасядзіце на вуліцы, там ёсць лаўка, — прапанаваў ён далей з ноткай загаду.

Яно і праўда — у вузкім калідоры не было ніякіх табурэтаў ці лавак. Віктар мусіў выйсці. Сядзець ён не мог, праходжваўся, дайшоў па адным баку агароджы да шырокіх варот з пруткоў. За імі прасціраўся шырэзны двор, застаўлены рознымі аўтамабілямі. Віктар спыніўся, усхваляваны: некаторыя аўтамабілі былі пашкоджаныя, асобныя дык і ўвогуле бы скамечаныя чыёйсьці магутнай рукой. Іх было так многа, што Віктар прабачыў дзяжурнаму яго прахалодны тон. Ён вышукваў вачыма свой аўтамабіль і знайшоў яго — у куце, наперадзе іншых. Скалануўся ад убачанага: калі перад і капот заставаліся практычна цэлымі, дык ветравое шкло знікла і верх машыны спераду быў успораты. Уяўленне насуперак яго волі дамалёўвала карцінку: там сядзіць Антаніна, вялізны лось ляціць прама ў яе, трушчачы шкло, і давіць, душыць жонку з такой моцай, ажно ломіцца спінка крэсла… Віктар застыў у часе, таму ўздрыгнуў, калі яго гукнулі.

У кабінеце начальнік аддзялення ДАІ Езапчук запрасіў Віктара прысесці, спытаў дакументы. Віктар паслухмяна дастаў пашпарт, даведку аб смерці жонкі. Езапчук глянуў, надта не ўчытваючыся, падышоў да сейфа, адамкнуў і расчыніў дзверцы. Дастаў і паклаў на стол перад Віктарам сумачку Антаніны, стосік дакументаў, яшчэ нейкія дробныя

рэчы і паперы. Асобна — кашалёк і яго начынне: грошы, карткі.

Потым Віктар распісваўся ў бланках.

Не ўтрымаўся, адчыніў сумачку, зазірнуў, прамацваў рукамі, нарэшце стаў выкладаць на стол пад маўклівы дазвол Езапчука мабільны тэлефон, жаночую драбязу.

Лекаў — нейкіх таблетак ці яшчэ чаго — не заўважыў.

— Прабачце, — прыгнечана вымавіў, зірнуў на спакойны твар міліцыянта. — Жонка везла лекі для сына. З Мінска, яна спяшалася ў бальніцу. Мо яна паклала іх дзе ў машыну…

— Мы агледзелі ўвесь аўтамабіль, самыя нязначныя асабістыя дробязі тут, перад вамі, — мякка запярэчыў Езапчук, дадаў, мабыць, адчуўшы трагізм сітуацыі для Віктара: — Можам пайсці на стаянку, паглядзіце самі.

— Так, канешне, — падхапіўся Віктар.

На нейкі момант там, на стаянцы, Віктар застыў перад машынай. Раптам уявілася: Антаніна — тут цяпер, раздаўленая ўдарам, уціснутая ў знявечанае крэсла. Перасіліў сябе — пацягнуў пярэднія пасажырскія дзверцы, бо тыя, кіроўцы, бачыў, знявечаныя. Нахіліўся, агледзеўся. І здрыгануўся, пабачыўшы паўсюдна кроў. Здолеў адно зазірнуць у адкрыты бардачок — той быў пусты.

Віктара папярэдзілі, каб не цягнуў з аўтамабілем: стаянка тут платная, хай забірае.

Ён хацеў пазбавіцца гнятлівасці пасля ўбачанага і асэнсаванага. Таму забраў дакументы і рэчы Антаніны ў сваю торбу і пайшоў пешкі да вакзала той дарогай, якой дабіраўся на таксі. Яна ўжо не падавалася яму доўгай, бо пазнаваліся бачаныя адметныя

будынкі. Хада і лёгкая стома ў нагах пакрысе супакойвалі, вярталі думкам уладкаванасць. Ён адпрэчыў пачуцці — тое навучыўся за гэтыя дні, абдумваў, як яму давядзецца прайсці шляхам Антаніны: кіравацца па лекі ў Мінск, здымаць грошы, купляць долары. Гэта не раздражняла — наадварот, надавала яго цяперашняму стану сэнс.

Апетыту не было, але Віктар, пабачыўшы ля вакзала шыльду кавярні, зайшоў, замовіў гарачы блінец, салат і гарбату. У яго хапала часу, і гэты час трэба было нечым заняць. У цягніку, які давялося яшчэ чакаць, былі месцы толькі ў купэ, Віктар ехаў у адзіноце, таму зняў чаравікі і прылёг. Неспадзявана для сябе задрамаў, і так, у дрымоце, прабыў дзве гадзіны шляху.

Зноў на таксоўцы ён даехаў да бальніцы. Разгубіўся: куды ісці і ў каго пытацца пра патрэбнае яму? Таму завярнуў да будынка, дзверы якога адчыняліся-зачыняліся, прапускаючы людзей. Падышоў да рэгістратуры і замёр, уражаны той колькасцю людзей, якія хілілася да сцяны з акенцамі рэгістратарак. Ад натоўпу літаральна несла хворасцю, нехта асобны вывальваўся з яго, і тады тая хворасць апрадмечвалася згорбленай старой з завялікімі мыліцамі, таўстуном з чырвоным тварам і павязкай на шыі, распаўнелай кабетай з адкрытым ротам, якая сіпата хапала паветра. Віктар прыстроіўся да чаргі, цярпліва чакаў, стараючыся дыхаць напачатку як мага радзей — спецыфічны тут пах быў не тое каб невыносным, а незнаёмым і ў нечым пагрозлівым.

— А чаго ж вы тут у чарзе стаялі? — здзіўлена і раздражнёна кінула яму жанчына з высокай фрызурай і тлуста абмаляванымі вуснамі на яго пытанне пра сына, які недзе ў бальніцы. — Гэта ж паліклініка, а не бальніца! Ідзіце на тэрыторыю, там пытайцеся!

Крыўдаваць было бессэнсоўна, Віктар выйшаў, пакруціў галавой па баках, пайшоў наўгад. Будынкаў было шмат, у які кіравацца — не ведаў, таму завярнуў у першы, які знаходзіўся бліжэй. Насустрач выйшла жанчына ў белым халаце.

— Прабачце, — прыпыніў яе Віктар. — Мой сын… ён недзе тут у бальніцы, у яго, нам паведамілі, энцэфаліт. Дзе мне яго шукаць, не падкажаце?

— Вой, вам жа ў інфекцыйнае, — спуджана зірнула на Віктара жанчына, махнула рукой за яго спіну: — Вунь там самы дальні корпус, асобна стаіць.

У будынку інфекцыйнага аддзялення было бязлюдна і ціха. Віктар адчуў сапраўдную стомленасць ад бясконцай неабходнасці пытацца пра нешта, нясмела гукнуў. Медсястра выйшла аднекуль, зноў ён тлумачыў пра сына. Яна правяла яго калідорам, не даходзячы да кабінета, ціхенька сказала:

— Тут загадчык. Канешне, вам папярэдне толькі з ім размаўляць. Ён усё патлумачыць. Праўда, я не ведаю, ці ён заняты, ці вольны.

Віктар падзякаваў кіўком галавы, націснуў на ручку дзвярэй, прыадчыніў і ступіў у невялікі кабінет. Насупраць яго за сталом літарай “Г” сядзеў малады мужчына ў белым халаце, з вялікімі залысінамі на галаве, на тарцы стала, бокам да Віктара, чалавек у цывільным строгім касцюме — гэты павярнуўся з цікавасцю, у той час як у позірку лысаватага ў халаце бачылася прыхаванае напружанне.

— Вінаваты, ці магу я пабачыць загадчыка… Вы заняты? — прамармытаў Віктар да таго, у халаце.

— Як бачыце, — развёў той рукамі, але цывільны яго перапыніў:

— Нічога-нічога, вы мне нікольки не перашкодзіце, прымайце чалавека.

Лысаваты трохі падаўся назад, распраўляючы плечы, прамовіў дзяжурна-ветліва:

— Я загадчык інфекцыйнага аддзялення. Хто вы, чаго хацелі, якія ў вас пытанні ці праблемы? — тут быццам успомніў, што забыўся на важнае, дадаў таропка: — Праходзьце, калі ласка, — паказаў на два крэслы ля акна.

— Ды я спытаю, — пачаў Віктар, стоячы ў дзвярах. — Наш… Мой сын трапіў да вас. Ён у арміі захварэў, не, да арміі. Хворага прызвалі. І вось пазванілі — у яго энцэфаліт.

— Як прозвішча? — нервова спытаў доктар.

— Анішчук, Максім Анішчук.

— Так, ведаю. Я прымаў, — кіўнуў доктар, таропка прапанаваў: — Мабыць, нам лепш пагутарыць там, ля палаты?

— Ды тут такая справа, — трохі збянтэжыўся Віктар, ён не разумеў, чаму так занерваваўся доктар: надта перажывае з-за Максіма? І заспяшаўся, каб выказаць усё і адразу: — Мая жонка, Антаніна… Яна паехала па лекі, якія вы ёй параілі ў Мінску ў некага набыць, яна іх набыла, вярталася ў бальніцу і трапіла ў аварыю. Лось выскачыў на дарогу, яна разбілася, насмерць. Я шукаў, не знайшоў ніякіх лекаў у яе рэчах, магчыма, яны выпалі пры аварыі, пабіліся. Дык вы скажыце мне зараз, якія лекі, яна казала, нейкія вельмі асаблівыя, дык я сам паеду, куплю…

Ён казаў, глядзеў на доктара, прамаўляў словы як хутчэй, а твар і лысіна таго пачалі набрыняць чырванню, бы абвараныя.

Віктар не заўважаў, як за ім з цікавасцю сочыць другі мужчына ў цывільным.

— Гэта… Гэта памылка! — нечакана выгукнуў доктар і стаў прамаўляць адрывіста, цвёрда: — Вы сядайце.

Ваш сын паступіў да нас у цяжкім стане. Я гутарыў з вашай жонкай. І я сказаў ёй: захворванне вельмі сур'ёзнае. Бальніца забяспечана ўсімі неабходнымі лекамі, але тут мы маем выпадак пераходу хваробы ў другую стадыю, ускладненне развіццём менінгіту. Мы рабілі і робім усё неабходнае. Не ведаю, пра якія лекі вам апавядала жонка, магчыма, каб суцешыць, толькі я ёй нічога такога не гаварыў. І ніхто не мог. То фантазіі, беспадстаўныя. Я паклічу доктара, які непасрэдна вядзе вашага сына.

Ён паспешліва хапіў трубку тэлефона. У гэты час мужчына ў цывільным, які ператварыўся ў саму цікавасць у час гэтай размовы, спачувальна запытаўся ў Віктара:

— Вы сказалі, ваша жонка загінула?

— Так… Лось.

— Прыміце нашы спачуванні. А дзе ж здарылася?

— Яна ехала з Мінска, па трасе. Сюды.

— Зразумела. Трымайцеся.

Віктар падзякаваў.

Доктар, жанчына гадоў трыццаці пяці, мажная і высокая, але з прыемным і далікатным тварам, у якім было штосьці дзіцячае (мо ямачкі на шчоках), дала Віктару халат і бахілы, чакала, пакуль ён іх апране-нацягне, і гаварыла мякка, супакойваючы:

— Мне б хацелася вам абяцаць, ды пры такой хваробе не бывае поўнага выздараўлення, прынамсі яго нельга чакаць праз месяц ці болей. Пры самым спрыяльным раскладзе неабходны перыяд рэабілітацыі цягам некалькіх гадоў. Бо хвароба наносіць удар па вышэйшай нервовай сістэме. Іншымі словамі, церпіць мозг… Хадземце. Кажу вам праўду: ваш сын у стабільна цяжкім стане. Ён у свядомасці,

але ягоная свядомасць адрозніваецца ад нашай. З-за лекаў у тым ліку.

Віктар пабачыў сына праз шкло. Доктарка адчыніла дзверы, яны зайшлі ў цесны бокс. Твар юнака неверагодна пахудзеў, зарос шчэццю, скура абцягнула косткі, востра выпіралі скулы, нос і барада. Вочы глядзелі ў нікуды.

— Сынок, — выціснуў з сябе Віктар.

Максім ніяк не зрэагаваў.

— Я вас папярэджвала, ён не будзе рэагаваць на голас і дакрананне так, як рэагуем мы, — ціха патлумачыла доктарка.

У цесным кабінеціку, дзе ўмясціліся адно стол, шафа і два крэслы, Віктар выпіў прапанаваную жанчынай шклянку вады. Прысеў.

— Павінна яшчэ сказаць вам праўду, — ціха загаварыла доктарка. — Лятальнага выніку, канешне, мы не дапусцім, самы горшы вынік у нашым выпадку — адсутнасць вышэйшай нервовай дзейнасці. Так бывае, на жаль. Чалавек становіцца раслінай. Каб вы ведалі, з чым нам разам змагацца: ад стану расліны да нармальнага чалавека вялікі прамежак. Ваш сын можа ачуняць у любым месцы гэтага прамежку, і затым неабходна прыкладваць гады намаганняў, каб яго вярнуць у зыходную кропку. Вы зразумелі?

— Зразумеў, — ледзь вымавіў Віктар. — А лекі… Жонка загінула, бо паехала па лекі. Яны сапраўды не трэба былі? Загадчык запэўніваў, быццам у бальніцы ўсё ёсць.

Нешта жаночае і мацярынскае прабілася на твары доктаркі, яна паглядзела са спачуваннем і страхам:

— І таму не прывезла лекаў?

— Так, аварыя. Яна не даехала.

Доктарка замаўчала, думаючы пра сваё ці то разважаючы: казаць ці не казаць яму. Нарэшце прамовіла строга:

— Час упушчаны. І праз тры-чатыры дні вы не знойдзеце патрэбнага, бо яго, лічыце, не існуе. І мы не знойдзем. Так атрымалася.

Унутры Віктара пачало нешта ўскіпаць, аформілася ў злосць і крыўду. Ён гатовы быў закрычаць, вінаваціць іх усіх, але не паспеў, бо доктарка перапыніла яго:

— Не крычыце. Тыя лекі нельга купіць было проста так. Яны афіцыйна не дазволеныя. Больш я не магу паведаміць. Зараз вы бачылі ў нашага загадчыка чалавека. То ідзе праверка па заяве. Вельмі сур'ёзная. Нас цяпер абвінавачваюць… Вось так. Званіце. Запішыце мой тэлефон. Мяне завуць Дыяна Канстанцінаўна.

Віктар вытрымаў на вакзале, вырашыў не заходзіць у рэстаран, каб замовіць шклянку гарэлкі. Можна ж узяць бутэльку і пацярпець да дома. Ён толькі і мроіў усю дарогу пра тое, як адкаркуе бутэльку і нальe сабе вадкасці ў шклянку. У гэтым рашэнні была жывая забарона, нешта сапраўднае, чым ён мог нават кіраваць: можа пайсці і выпіць цяпер, а можа пачакаць. Гэта займала думкі.

На пероне вакзала свайго горада ажыў тэлефон — зайграў, заварушыўся ў кішэні. Тэлефанаваў начальнік ягонага бюро.

— Віктар, слухай, у нас тут тэрміновы заказ вялікі, усе будуць занятыя. Як ты нікуды не паехаў, а часу ў цябе не бракуе, вазьмі пару праектаў індывідуальных? Асаблівасцей няма, тыповыя…

Віктар згадзіўся амаль механічна, як згаджаўся заўсёды працаваць над новымі праектамі, калі не быў

загружаны, і пасля зразумеў незвычайную аддаленасць гэтай прапановы і ўсяго, з ёй звязанага, з ім, цяперашнім. Ён ажно прыпыніўся на ганку крамы, агаломшаны адчуваннем таго, як аддалілася, бы ў іншы свет, тое, некалішняе, такое звычайнае жыццё, у якім была штодзённая праца, прыемныя хатнія клопаты, жонка, здаровы сын. Чаму так сталася, што няма Антаніны, няма яго — ранейшага Віктаравага жыцця, а праца засталася? І ўсё вакол засталося, нідзе нічога больш не змянілася. І прадавачкі ў магазіне тыя ж самыя, і робяць тое ж, і пакупнікі выстройваюцца ў свае звыклыя чэргі. Свет вакол ніколькі не стаў іншым ад разбурэння Віктаравага жыцця.

Ля халадзільных камер з каўбасамі і мясам Віктар падумаў, што, акрамя таго блінца, больш не еў нічога ўвесь дзень.

## ФРАГМЕНТ 32

### Зміцер Карпека, журналіст

Зміцер, уласны карэспандэнт незалежнай газеты, атрымаў за месяц заробак. Выйшаў на вуліцу, пасля доўгіх цесных лесвічных пралётаў, дзе і змрочных (пешкі з восьмага паверха), хацелася ўдыхнуць напоўніцу і рукі раскінуць — такі настрой быў, што і лісце на дрэвах выглядала зялянейшым, чым дваццаць хвілін таму, і людзі вакол быццам заўсміхаліся. Напружаны месяц выпаў. Не, зусім не з-за вялікай колькасці заданняў. У тым і справа — амаль не было заданняў, круціўся сам на тры раёны, шукаў тэмы, вышнырваў. А тут, як на ліха, у палітыцы — спячка поўная, ні дэкрэта новага, ні ўзрушэння хоць нейкага. То і ратаваўся каровамі на фермах па калені ў брудзе, разбітымі дарогамі. Пашанцавала натрапіць

на выпадак: нейкі мужчына, як аказалася — пляменнік, аформіў догляд ветэрана. У таго старога не хата, а куратнік, ды дажыў бы, колькі там яму адмерана. А пляменнік хуценька дакументы сабраў і давай перабудоўваць дзедаву хатку (у таго родных дзяцей не засталося, сын адзіны загінуў у маладосці). Пазней, каб усякія пытанні зняць, якія маглі раптам бурбалкамі выпхнуцца ў заваранай кашы, звазіў дзядзьку на абследаванне. Тут родная сваячніца дапамагла, яна ў той камісіі працавала. Дзеду паставілі дыягназ — дэменцыя. Значыць, поўная прыдуркаватасць старэчая. Ну, вядома ж, перад гэтым стары ўсе патрэбныя паперы аб перадачы сваёй маёмасці пляменніку падпісаў. Хата дзедава без даху лета стаяла, стары ў самым сапраўдным хлеўчыку жыў. Пляменнік яму есці варыў — два разы на тыдзень. Бо сам у горадзе побач жыў, і жонка ягоная з дзіцём.

Суседзі, як пабачылі, што са старым як з самым звычайным сабакам абыходзіцца пляменнік, пачалі да ўлады стукацца. А што ўлада? Па дакументах — парадак. Прыехалі, зірнулі: пляменнік дзеда супам корміць, халадзільнік стаіць, сасіскі ды сала маюцца. Ёсць догляд? А як жа! А далей камісію пляменнік і не пусціў: праў не маеце. У дзеда пытайцеся — хіба ён скардзіцца? Той не жаліўся, калаціўся над сваёй міскай, у якой, пабачылі ўладныя людзі, курынае крыльца боўталася. З тым і з’ехала камісія.

Змітру пра гэты выпадак сябар распавёў за півам — сутыкнуліся выпадкова ля кавярні. Так, між іншым, расказаў, маўляў, не дай Бог во такой старасці. Зміцер загарэўся: дзе, у якой вёсцы. А пазней паехаў да таго дзеда, вартаваў, каб пляменніка дома не застаць, бо сябар папярэдзіў — той гарачы мужык. Фотаздымкаў нарабіў, суседзяў распытаў, пра гераіч-

нае мінулае ветэрана згадаў, што знайшоў у падшыўках раённай газеты. Матэрыял атрымаўся — пахвалілі. От каб яшчэ нешта падобнае! Ды знойдзецца дзярмо ў гэтай краіне, з любой вёскі рэпартаж рабі. Вось трэба даведацца, у якім калгасе зарплату хутка даюць, — і пад магазін пад'ехаць. Сама тое будзе. А далей нешта прыдумаецца.

Пайшоў у бок паркоўкі, ужо дыстанцыйна адкрыў сваю машыну, як пабачыў побач знаёмую постаць — таксама карэспандэнт, на месцы працуе, больш па культурніцкіх праектах. Знаёмыя з год, неаднойчы сядзелі за півам. Амаль аднагодак, Алег.

Парукаліся.

— Па грошы?

— Ага, атрымаў. І ты?

— Ну так. Ты дадому адразу ці патусіш?

— Ды не варажыў надта, — прызнаўся Зміцер. — Мо куды і заваліўся б, у мяне законны адпачынак ад сям'і.

— Дык давай, мне праз дзве гадзіны на адну тусу ісці, рэпартаж рабіць, там чакаецца добрая вечарынка, пайшлі! Дарэчы, дзяўчаткі будуць во такія! — прапанаваў Алег.

— Якія — такія?

— Ды такія! Смелыя, разняволеныя, без комплексаў, сучасныя, карацей, — падахвочваў Алег. — Разумніцы, не курыцы нейкія, сам пабачыш. А перакантавацца можаш у мяне, таксама вольны, мае старыя на лецішча з'ехалі.

— Ды ў мяне цётка тут, прымае як роднага, дзякуй. Згода! Да тусы каб дзе пасядзець.

— То паехалі да мяне ўсё ж, кінем машыны ў двары, я клікну нашага аператара, забярэ нас. А назад неяк вернемся.

Зміцер згадзіўся. Праз паўгадзіны яны з Алегам размаўлялі пра палітыку, заробкі ды кошт масла і фільтраў — ні аб чым, па сутнасці, пацягваючы халоднае піва ў кавярні, якая мясцілася ў сутарэнні. Было файна. На мерапрыемства ледзь не спазніліся, балазе яно само пачалося з затрымкай — чакалі, як выявілася, нейкіх жанчын з замежжа. Усё ладзілася ў былым заводскім цэху з трохі падмазанымі чорнай фарбай сценамі, з-за чаго ён займеў права называцца арт-прасторай. Зміцер агледзеў нутро будыніны з расстаўленымі ў цэнтры некалькімі дзясяткамі крэслаў, няўцямна павярнуўся да Алега, збіраючыся спытаць, якое тут свята чакаецца. Алег адмахнуўся — няма калі, памкнуўся са сваім апаратарам наперад. Зміцер уладкаваўся ў апошнім радзе.

Здзівіла вялікая колькасць маладых жанчын і дзяўчат купкамі ўздоўж сцен, між якімі часам пракідваліся, бы зелле ў градах добрай гаспадыні, мужчыны ці юнакі. Але не гэта выклікала вясёлую няўцямнасць, а тое, што ў абсалютнай большасці жанчыны былі апранутыя, быццам збіраліся на які суботнік ці на бульбу ў калгас: ніякіх сукенак і спадніц (хіба на дзвюх-трох больш паважанага веку, бы яны — настаўніцы). Джынсы, штаны доўгія і кароткія… Здаецца, і цёпла на вуліцы. Галіна, жонка Змітра, джынсы ў гарачыню ніколі не надзене, кажа, ліпне ўсё. Агульны збор студэнтаў перад адпраўкай на бульбу нагадвала і адсутнасць касметыкі на тварах жанчын ці якіх упрыгожанняў на шыях. І практычна ва ўсіх — кароткія валасы. А як доўгія, дык ззаду па-свойску схоплены нябачнай гумкай у хвост. Карацей, усе былі апрануты вельмі па-простаму, свята, відавочна, не прадбачылася. Хоць праз які час Зміцер мусіў спыніць свае насмешлівыя думкі пра апранахі

дзяўчат і бульбу. Прынамсі, па-першае, тут не было неакуратнасці і заношанасці, па-другое, хай і не спецыяліст ён у шмотках, ды прыгледзеўся — джынсы і іншыя штаны і штонікі відавочна купленыя не на яго райцэнтраўскім рынку, а некаторыя рэчы мо ў якіх буціках, куды ягоная жонка ні разу і не заходзіла. Ну і трэцяе: Зміцер не разбіраўся ў жаночым убранні ні на колькі, забі яго, ён не зможа адрозніць прыгожыя туфелькі ад непрыгожых, а ўжо як казаць агулам пра жаночую моду, то ён дакладна лепш арыентаваўся ў будаўніцтве ядзерных рэактараў. Таму стала трохі прыкра.

Пакруціўся па баках — раптам пабачыць знаёмы твар, мо якая аднакурсніца. Але адно прыкмеціў у праёме дзвярэй: з'явілася аўтамашына з будкай і адтуль выносілі напачатку мінералку ў бутэльках, нейкія скрынкі. Калі ўжо пачалася сама дзея, дзеля якой сабраліся, ён крадком паварочваўся назад і паглядваў, як за іх спінамі расстаўляюцца сталы і застаўляюцца розным. Тое парадавала.

Нарэшце расселіся і дзея пайшла. Ці то лекцыя, ці то дыскусія з адным галоўным вядучым і адначасова перакладчыкам — дзяўчынай гадоў дваццаці пяці, высокай, у чорным балахоне і спартовых шараварах, бялюткіх красоўках, і госцяй, якой была хударлявая цётка гадоў сарака, апранутая гэтаксама па-спартыўнаму, з рэдкімі выбеленымі валасамі, вострым носам уніз і такім жа вострым падбароддзем, якія імкнуліся зліцца, што надавала яе твару падобнасць да вялікай хіжай птушкі. Вобраз дапаўнялі вялікія, круглыя, у чорнай аправе акуляры з тоўстымі шкельцамі. Яна і прамаўляла словы, рыхтык энергічна нешта хапала дзюбай. Казала па-нянаску. Пакрысе да Змітра дайшоў і сэнс, і тэма гутаркі:

правы жанчын. Разгубленая ўсмешка нейкі час блукала на ягоным твары: а хто ў нас гэтыя правы і чым абмяжоўвае, але ў адзін момант азірнулася дзяўчына паперадзе, і ў яе позірку Зміцер пабачыў выразнае жаданне падысці і прыдушыць яго. Ён сагнаў усмешку з твару.

Стала сумна. Прамова сівой савы была доўгай, перакладчыца спатыкалася, пакутліва шукала ў сваёй памяці неабходныя спецыфічныя слоўцы. Пасля лектарцы пачалі задаваць пытанні. Мозг Змітра фонава рэагаваў на новыя для яго слоўцы: харасмэнт, мэнспрэдзінг, больш знаёмыя — сексізм, аб'ектывацыя, а думкі былі занятыя іншым: ці ўдасца неяк асцярожненька ўстаць ды выйсці, бо выпітае піва запатрабавала наведвання прыбіральні. Зміцер скоса пазіраў на публіку, заўважыў, да сваёй радасці, як падняліся ціха дзве дзяўчыны і рушылі да выхаду. Ён счакаў з хвіліну і падняўся сам, далікатна адставіўшы крэсла, каб тое не шкрабанула жалезам ножак па цэментаванай падлозе.

На шырокім двары размясціўся перасоўны кіёск, побач — чырвоны пластыкавы столік і некалькі такіх жа крэслаў. Мужчына гадоў пяцідзесяці, мажны, амаль лысы, пацягваў піва з бутэлькі, вольна, бы гаспадар. Зміцер купіў піва, спытаў дазволу прысесці, мужчына згодліва кіўнуў. Нейкі час маўчалі, мужчына закурыў, выпусціў з уздыхам дым і пацікавіўся ў Змітра:

— Ну як, няпроста зразумець цяперашніх жанчын?

Зміцер ціскануў плячыма, гэтаксама палез па цыгарэты, адказаў унікліва:

— Дык навошта разумець жанчыну дарэшты? Тады яна робіцца нецікавай. У кожнай павінна заставацца крышачку загадкі.

Мужчына весела засмяяўся.

— Малады чалавек, толькі не выкажыце сваё бачанне вось гэтым, — мужчына павёў галавой за спіну, — феміністкам. Бо вас абзавуць сексістам і тут жа прынясуць у ахвяру.

— А чаго яны хочуць? Ну ўвогуле — чаго? — пасля глытка напою запытаўся Зміцер, бо мужчына выклікаў давер, дый, відавочна, меў розум.

Той крэкнуў у адказ.

— Калі пералічыць іх пажаданні, можна з глузду з'ехаць. Многа глядзіш на жанчыну — сексуальны пераслед, мала глядзіш — таксама вінаваты, ужо ігнаруеш. Ну, гэта калі не лічыць нечага сапраўды разумнага, якое ў крымінальным кодэксе запісана. Ёсць, да прыкладу, зразумелае ўсім згвалтаванне… А яны хочуць увесці ў практыку так званае посткоітальную нязгоду. То-бок яна згадзілася на секс, а потым кажа: я памылілася, аргазму не было, лічыце за гвалт. Як была п'яная, тут, безумоўна, так. Цяміце, малады чалавек? Вы з ёй пераспалі па згодзе ўзаемнай, а яна раніцай заяву ў пракуратуру: мяне згвалцілі, бо не было чаканага задавальнення. І вы не ўсміхайцеся, — сумна заўважыў лысы, — у свеце такія выпадкі былі…

— Вой, страшна жыць, — напаўсур'ёзна выказаўся Зміцер.

— Канешне, — задумліва згадзіўся мужчына. — З жанчынамі цяпер наогул страшна. Непрадказальна. Мой сябра, прафесар, інтэлігент у трэцім калене, чытаў лекцыі за мяжой. Абедаў ва ўніверсітэцкай сталоўцы, там усё вельмі дэмакратычна, студэнты, прафесура, кіраўніцтва — усе разам. Ягоная галантнасць у крыві. У той групе, з якой меў адносіны, была толькі адна жанчына, прафесар ёй нібыта і апекаваўся: падасць, прынясе, увесь ветлівы, паслужлівы. Як сям'я

выхавала. Праз нейкі час выклікаюць у суд: на яго напісала заяву гэта жанчына. Бо ў прафесарскай галантнасці яна пабачыла прыхаваны ціск на яе, прафесар нібыта падкрэсліваў яе слабасць, няздольнасць пражыць без староннях дапамогі. Акрамя таго, у ягонай выхаванасці былі заўважаныя прыкметы сексуальнага пераследу. І сябра выплаціў немаленькі штраф — усе заробленыя чытаннем лекцый грошы. От так… З незнаёмымі лепш паводзіцца, быццам вы не мужчына і вас не цікавіць іх пол.

Нейкі час памаўчалі, пілі піва. Зміцер задумліва пакруціў бутэльку ў руках, вывучаючы надпісы.

— І ўсё ж — шкада.

— Шкада, — ахвотна падтрымаў Змітра субяседнік. — Прырода ад пачатку мела мужчынскі і жаночы пачатак. Адно Бог самотны. Для майго пакалення жанчына заўсёды была жанчынай. Калі і аб’ект, дык не сексуальны, а найперш — эстэтычны. Прыгажосць і таямніца жанчыны былі, без перабольшвання, галоўным рухавіком у мастацтве, культуры ўвогуле. А цяпер кляймо сексіста можа атрымаць любы і кожны, хто паглядзіць на жанчыну з захапленнем.

— Чаму? Адкуль? — узрушыўся Зміцер. — Не, я разумею тыя краіны, дзе іншых праблем няма. А ў нас жа… На самой справе для нас фемінізм — актуальнае пытанне?

Лысы дапіў сваё, зірнуў на шырокія дзверы — адтуль выходзілі слухачы лекцыі, таму адказаў сцішана з сумнай усмешкай:

— Ды ўсё проста, малады чалавек. Грошы. Недзе ў Еўропе ёсць арганізацыі, якія маюць грошы на прасоўванне сваёй ідэі за межы. Адшукваюцца патрэбныя людзі ў нас. І з’яўляецца магчымасць нядрэнна жыць колькі гадоў, займаючыся вось такой

грамадскай дзейнасцю. Усякі фемінізм для жанчыны заканчваецца, як заканчваюцца грошы на такія во мерапрыемствы ды семінары за мяжой, ці — яна пакахае. Па-сапраўднаму. Як казаў Ніцшэ: у жанчыны вельмі шмат загадак, ды разгадка адна: цяжарнасць. Колькі заўгодна доўга падманвай сваю адвечную сутнасць, але перамагчы яе не ўдасца…

— Не цямлю: у каго гэтулькі грошай, каб траціць іх на такія ідэі? Дзе сэнс?

— Самі падумайце, малады чалавек. Свет абмяркоўвае менавіта такія, цалкам пустыя для нас праблемы, і некаму такое выгадна, калі адначасова з гэтым, дзеля прыкладу, вынішчаецца зараз курдскі народ. Народ, які не мае сваёй дзяржаўнасці і даў свету столькі паэзіі, столькі паэтаў, пачынаючы з трынаццатага стагоддзя… Іх зараз вынішчаюць, супраць іх ідзе вайна, як вайна супраць этнаграфічнай групы, разумееце? Як некалі нацысты забівалі яўрэяў толькі таму, што яны яўрэі. Іх пазбаўлялі права на сваю сутнасць… Сёння адкрыта так вынішчаюць курдаў. І беларусаў — адно больш прыхавана, пазбаўляючы тых жа каранёў: мовы, культуры. Сытаму, укормленаму свету нецікавыя праблемы падобных народаў. Свету спажывання важна абмяркоўваць тыя тэмы, якія адкрыюць новыя магчымасці для таго ж спажывання. Ідэі фемінізму, да прыкладу, дадуць новыя ідэі ў вопратцы, хатнім убранні, аксесуарах розных. Ды і само абмеркаванне — той жа прадукт. Так вось, малады чалавек. Таму ніколі не верце тым, хто на поўным сур'ёзе кажа пра абражаны адно мужчынскім позіркам гонар нейкай жанчыны, але пры гэтым не хоча чуць пра вынішчэнне цэлага этнасу. Гэта мой такі погляд на падобныя спектаклі…

— Прабачце, а хто нас вынішчае як этнас? — здзівіўся Зміцер, бо яго шкрабанула параўнанне беларусаў з курдамі і яўрэямі.

— Усе, каму мы не трэба як нацыя са сваім культурным кодам. Ад суседняй краіны, якая бачыць нас сваім васалам, і да буйной міжнароднай кампаніі па вытворчасці жаночага адзення, да гандляра наркотыкамі і апалагетаў фемінізму. Для ўсіх іх чужая моцная культура — перашкода, костка ў горле.

Маладыя жанчыны спыняліся ля сцен, над імі хутка ўзнялося сапраўднае воблака сіняга дымку — курылі амаль усе. Зміцер падзякаваў мужчыну за гамонку, скіраваўся ў цэх. Там ля сцяны, дзе раней расстаўлялі сталы, віраваў нецярплівы натоўп. Зміцер вышукваў Алега, заўважыў таго ў супрацілеглым баку — стаяў з мікрафонам ля лектара. Вызваліўся ён хвілін праз дзесяць. За гэты час натоўп прарэдзіўся, да стала з закускамі і віном у пластыкоўках можна было наблізіцца без праблем.

— Ты не паверыш, — іранізаваў Алег напаўголаса, нахіліўшыся да Змітра, — я ўпершыню ў жыцці размаўляў з вагінальным шведам!

— Гэта як? — Зміцер перастаў жаваць.

— А во так! Ёй нельга ўказваць на пол, кшталту нашага: мужчына, жанчына. А толькі так: вагінальны швед! Значыць, швед, у якога не чэлес, а вагіна. Цяміш?!

— А калі там чэлес?

— Халера ведае. Але не можа быць, каб проста швед. Можа, яйканосны швед? — і рагатнуў стрымана, потым дадаў: — Ты пакруціся трохі, прабач, не думаў сам пра такі трэш, мне трэба адно інтэрв’ю ўзяць, у каардынатара… Ды віно неблагое, частуйся, пасля мы возьмем чаго мацнейшага, я плачу.

Тут яшчэ культурная частка будзе, нейкі пластычны тэатр. Падзівімся крыху, згода?

— Ды пацярплю, — згадзіўся Зміцер, адчуваючы вінаватасць у голасе сябра. Што ні кажы — цікавага мала, дый азірайся, не пакрыўдзі якую актывістку руху. Балазе, бэйдж "Прэса" боўтаецца на грудзях, менш скоса пазіраюць, хоць і такіх хапае.

Ён намерыўся пайсці курыць, як сутыкнуўся з позіркам дзяўчыны — і пазнаў яе. Аднакласніца, Віка. Яна акругліла вочы, без усмешкі прывітала рукой і сама рушыла да яго.

— Прывітанкі! Ніяк не чакала пабачыць, — загаварыла першай яна. — Мне маці казала ўчора, ты захрас у правінцыі, ажаніўся, бацькам стаў.

— Кожнаму сваё, — адказаў Зміцер, непрыемна крануты яе словамі наконт правінцыі. — Мінск не гумовы, усім месца пад сонцам у ім не хопіць.

— За сваё месца трэба паштурхацца, — заўважыла Віка, трымаючы ў руцэ пластыкоўку з вінам, зрабіла глыток, зіркнула на бэйдж, прачытала: — О, у людзі патроху выбіваешся! Няблага, няблага… А з кім ажаніўся?

Зміцер глядзеў на Віку, змешанае пачуццё суму па мінулым, здзіўлення і расчаравання поўнілі яго. Ён помніў Віку іншай: круглявай і ўсмешлівай летуценніцай з доўгімі чорнымі валасамі. На выпускным вечары яна ў памаранчавай сукенцы да падлогі, бы сатканай з паветра, дэкламавала свае вершы і нагадвала істоту з іншасвету, што раптоўна апынулася на школьнай сцэне, — настолькі вытанчанымі былі яе постаць, убраная ўпершыню ў вячэрні строй, рухі аголенымі рукамі з тонкімі пальцамі, дрыготкі чуллівы голас. Ён быў закаханы ў Віку ўсе гады вучобы, хоць сапраўдная пачуццёвасць прачнулася ў ім у канцы

першага курса ўніверсітэта. А Віку ён так і не сустрэў з таго вечара ні разу, хоць колькі таго райцэнтра — шалёнаму сабаку на адзін круг, а колькі нарэзаў па вечарах тых кругоў Зміцер за пяць год студэнцтва, абходзячы па чарзе ўсе “кропкі” і кавярні, ці палічыш? Ён менавіта так хацеў сустрэцца — бы выпадкова, бо верыў, што такая сустрэча ад пачатку ўсё скажа. Дурань, канешне. Мог бы без праблем праз сяброў атрымаць нумар яе тэлефона…

Цяпер перад ім была дзяўчына ў шырокай вольнай блузе, са схуднелым тварам, ад гэтай схуднеласці яе выразныя вочы сталі трохі пукатымі. Вялікі рот з тонкімі бляклымі вуснамі надта вылучаўся, і Зміцер зразумеў, чаму Віку за спінай нехта з хлопцаў у школе называў жабкай — цяпер у твары дзяўчыны папраўдзе было нешта жабінае. “Среди иных гуляющих детей / Она напомниает лягушонка…” — згадаліся вершы паэта. Ён асцярожна скасіў позірк уніз, на вузкія бёдры, доўгія ногі ў джынсах. Грудзей пад тканінай быццам і не было.

— Ажаніўся… Ды яна ў іншай школе вучылася, наша, мясцовая. А ты як? Дзе? Неяк мы і не сустрэліся больш ні разу. Помню цябе зусім іншай, — не змог стрымаць настальгічны боль Зміцер.

— Вой, устрымайся ад сопляў па мінулым, — скрывілася Віка. — Я жыву як хачу, і так жыць мне падабаецца. Зараз займаюся перакладамі, каардынатарства і ўсялякая іншая грамадская дзейнасць. Бачыў жа? — яна відавочна мела на ўвазе імпрэзу

— Бачыў, канешне. Крута, малайчына. А вершы?

— Ну, рыхтую кнігу. Баюся, табе не спадабаецца, — дапытліва зірнула яна ў вочы.

— Ат, які з мяне знаток паэзіі? — аджартаваўся Зміцер. — А як асабістае жыццё? Дзе жывеш?

— Маё асабістае жыццё — гэта толькі я, — з націскам на "я" адказала Віка.

— Зразумела…

— Што табе зразумела? — прыжмурылася насцярожліва дзяўчына. — Ці ты гэтаксама, як мая мамачка, лічыш, быццам я павінна зараз мець мужа, якому мыць бялізну і панчохі?

— Нічога я не лічу, — пачаў бараніцца Зміцер, бо на гучны голас Вікі заазіраліся. — Твая асабістая справа.

— І не лічы! — уладна паставіла кропку Віка. — Ты ведаеш, якое ў мяне жыццё? Ды я ўжо ў палове краін Еўропы пагасцявала. У мяне штодзень — нешта новае. Ні дня не бывае, які б паўтарыў учарашні. Вось — жыццё!

— А дом? Куды вяртаешся?

— Цю… Дом — тое месца, дзе я сама сабе гаспадыня і магу займацца тым, чым захачу. А не кухня з супамі, не мыццё з праннем, не засраныя паўзункі дзіцячыя і думкі на злом галавы пра нястачу грошай! Ясна табе? Я — чалавек, а не баба. Здымаем кватэру на дваіх з сяброўкай, калі табе цікава.

— Дык а далей? — нечакана заўпарціўся Зміцер — ён імкнуўся ўнікнуць гучнай спрэчкі, якая рэальна магла ўспыхнуць, але, з другога боку, у яго мелася і свая галава, свая праўда. Тым больш не хацелася прайграваць ёй, некалішняй феі, якая пераўтварылася ў дарослую жабку, і быць перад ёй зацюканым правінцыялам. — А далей? Я таксама езджу многа, і мой дзень на ўчарашні не падобны. Толькі я не па імпрэзах, па людзях. І сустракаў самых розных. І бачыў тых адзінокіх, якія дажываюць, нікому не патрэбныя…

— Дурны ты, Міцька, — упершыню цёпла ўсміхнулася яму Віка, назваўшы школьным прозвішчам,

і ў яе шырокай крываватай усмешцы Зміцер пабачыў захмялеласць, мабыць, Віка выпіла добра раней. — Прыйдзе час — я нараджу і замуж выйду, калі адолее жаданне і калі буду бачыць, што гэта не кладзецца на мяне кайданамі. Сям'я… Аха-ха, вялікая каштоўнасць. У чым сэнс такога шчасця, якое можа быць знішчана адным рухам?

— Як знішчана? — не дапяў Зміцер.

— А так! Во маці ўчора расказвала, у вас там выпадак. Адзіны сын у арміі на энцэфаліт захварэў, маці ягоная паехала па лекі — і разбілася насмерць. І мужык самотны застаўся, лічы, умомант. Дваццаць гадоў нешта будавалі, мару сваю песцілі — і пшык! Усё лопнула, як гандон.

— У нас? — насцярожыўся Зміцер, бо, як кодавая фраза, разанула па ягонай свядомасці "ў арміі на энцэфаліт захварэў" — у апошні час у сувязі са смерцю ў адной з частак армейская тэма выйшла на першы план, а тут такі выпадак, калі праўда — то ж знаходка! Ды яшчэ маці загінула…

— А ты не чуў? Маці казала, увесь горад гудзеў.

— Пра аварыю чуў, канешне, а падрабязнасці…

— Вось так вось, — пераможна закончыла Віка, дапіла віно, скамячыла пластыкоўку. — Трэба жыць сёння, і так жыць, як табе хочацца, а не нейкія там традыцыі ды нормы дыктуюць. Дарэчы, якія ў цябе планы на вечар?

— Здаецца, няма ніякіх, вольны адпачынак без папярэдняга сцэнару.

— Як наконт сексу?

— У сэнсе? — разгубіўся Зміцер ад пытання.

— У прамым сэнсе: возьмем выпіць і паесці ды скіруем да мяне, зоймемся сексам. — І рассмяялася з'едліва: — Чаго ты вочы вырачыў? Я не сляпая,

бачыла, як ты на мяне ўсе дзесяць гадоў паглядваў. Ці цяпер скажаш на феміністак: дурныя бабы? Пытаюся, адказвай: чаму такая прапанова ад цябе павінна ўспрымацца мной як нармалёвая, а як я табе тое ж прапаную, дык ты ашалеўшы стаіш?

Зміцер разгубіўся. Ён зразумеў адразу: Віка не жартуе, насамрэч яна прапаноўвае яму секс, як бы ён запрашаў Алега на піва. І гэта бянтэжыла і адначасова раздражняла: ён бачыў у простай прапанове Вікіну перавагу дарослага над дзіцём. Яна нібыта ведала нешта таемнае, дакладней, нейкую ісціну, ад чаго таемнае пераставала быць такім.

— Не, прабач, — выціснуў ён з сябе. — Для мяне секс — не пакурыць, не віна папіць…

— Ага, скажы мне, што пачуцці трэба, — падкалупнула Віка, яшчэ не верачы ў паразу сваёй прапановы, і не спынялася: — Ці ты такі святы і верны жонцы і не скарыстаешся выпадкам, каб перапіхнуцца з якой дзеўкай? Пачуцці яму трэба! Ды я каб во зараз была ў спадніцы міні, каб ты ногі мае пабачыў, каб попкай ля твайго члена церанулася, каб цыцачкі свае — памацай, трэці памер, пругкія, бля! — паказала напалову, ты б зусім па-іншаму на мяне вылупліваўся!

Яна крычала. Глядзела ў вочы Змітру і цяпер чытала ў іх адмову, і гэта вар'явала яе.

— Ты памыляешся, — прымірэнча паспрабаваў супакоіць Віку Зміцер, бо вакол іх ужо спынілася некалькі дзяўчат і жанчын.

— Я памыляюся? Я? — ужо зверашчала Віка, вочы ў яе блішчалі хціва. — Я вас, самцоў, вывучыла дасканала!

— Прабач, — прамармытаў Зміцер, павярнуўся і хутка пашыбаваў да выхаду.

Ён спакойна адрэагаваў на крык у спіну “Гаўнюк! Сэксіст чортаў! Чмо правінцыйнае!” і з заспакаеннем адзначыў: гук ідзе з адной кропкі — значыць, Віка не кінулася яму ўслед.

Пашкадаваў аб выпітым — хацелася з’ехаць адсюль зараз жа. Канешне, ён даруе сваёй былой аднакласніцы яе п’янаватую істэрыку. Яна шкадобы вартая, бачна ж — зусім адзінокая. Ён нават удзячны ёй, бо яна падказала яму тэму. А ўсё астатняе — то выдаткі прафесіі журналіста. Перажыве… Галоўным і балючым пачуццём было іншае — дакор самому сабе і прыкрасць. Як ён мог аднесціся да гарадскіх плётак абыякава! Ён жа чуў нешта пра здарэнне, чаму не распытаў як след? Каб не Віка, не гэты сход феміністак, не Алег з ягонай прапановай — празяваў бы.

## ФРАГМЕНТ 33

### Віктар

У прыбіральні закончылася папера.

Віктара нечакана ўзрушыў гэты факт. Ён пакуль не мог патлумачыць самому сабе, чаму раптам разнерваваўся. Намыльваў рукі тонкім ужо кавалкам мыла — і гэтае пачуццё, што ён стаіць перад нейкім непрыемным адкрыццём, узмацнілася. Зайшоў на кухню заварыць кавы, зірнуў у кут, дзе была ракавіна, у якой груваціліся некалькі талерак і відэльцаў, на стол — пакінуў з вечара недапітую бутэльку, хлеб, падсохлы за ноч. Добра, хоць кавалак вяндліны кінуў у халадзільнік.

І сеў, утаропіўшы позірк у нікуды.

Цяпер усё — толькі ён сам.

Туалетная папера і мыла, пральны парашок і мыццё бялізны, прасаванне сваіх кашуль і штаноў, мыццё

падлогі і праціранне пылу, гатаванне ежы і брудны посуд — сам. Не ўтрымаўся, прайшоўся павольна па кватэры, ужо як прыдзірлівы кантралёр. Ад моманту вынасу труны з Антанінай ён тут нічога не рабіў. І зараз бачыў брудную падлогу (гэтулькі людзей перабыло, ніхто ж не разуваўся), пыл на паліцах, у спальні — нясвежую бялізну. У ванным пакойчыку было поўна апранах, якія трэба было мыць. У шкапіку, дзе Антаніна ставіла пральныя сродкі, не пабачыў парашку, затое было некалькі іншых пластыкавых бутэлек, прызначэння якіх ён і не ведаў.

Усё супольна складвалася ў карціну занядбання.

Не, ён раней надта не цураўся хатняй працы, пыласосіў іншым разам дываны і дыванкі, мыў посуд, нават прасаваў сарочкі, дапамагаў, адным словам, жонцы. Але ён не цяміў, як уключаць пральную машыну. Разоў колькі ён сам мыў нешта ў ёй (часцей — свае шкарпэткі), дык пытаўся, а Антаніна дыктавала паслядоўнасць націскання кнопак.

Віктар умеў абраць і насмажыць бульбы, убіць туды пару яечак, мог адварыць макарону, змяшаць з тушонкай, мог падсмажыць сала і мяса. Часцей, як надараліся (а надараліся рэдка) дні "мужчынскага гаспадарання" ў кватэры, яны з Максімам абыходзіліся пельменямі. Варыць нейкі суп ці боршч ён ніколі і не спрабаваў. Да таго ж, казаць праўду, Віктар не разумеў нічога ў спецыях, солі, прыправах. І ён вельмі не любіў траціць свой час менавіта на гатаванне ежы. І навошта гэтыя вытанчанасці на стале: прыгожая нарэзка на талерачцы, з галінкамі зеляніны, спадачкам з соусам, — калі можна той кавалак вяндліны есці, проста кроячы на кухонай дошчачцы, а гурок выцягнуць са слоіка, які стаіць побач?

Віктар зварыў каву, прыбраў бутэльку і хлеб. Прасядзеў мо чвэрць гадзіны, адпіваючы каву, затым адшукаў папяльнічку, прынёс набыты ўчора пачак цыгарэт. Закурыў прама за сталом. І гэта падалося апошняй кропкай у доўгім сказе.

Антаніна больш не прыйдзе. У гэтай кватэры, у ягоным жыцці яна не з'явіцца больш ніколі. Ён можа курыць на кухні — і не баяцца, што жонка ўнюхае сляды ягонага нахабства. І ён павінен рабіць неверагодную масу тых дробязей, якія рабіліся раней быццам між іншым ёй, Антанінай. У халадзільніку не з'явяцца самі па сабе алей і масла, каўбаса і малако, цяпер яму сачыць за тым, каб не скончылася ў самы патрэбны момант усякая неабходная дробязь...

Толькі ён сам. Антаніны больш няма.

Сонца засвяціла ўжо ў кухоннае акно, акрэсліўшы ў паветры дымныя тунэлі, упёртыя ў сцяну насупраць, і Віктара драпанула вінаватасць: вось, дазваляе сабе такое… Але прыкурыў новую цыгарэту.

У вялікі пакой, дзе стаяла труна, Віктар адно зазірнуў, прыадчыніўшы дзверы. Тут быў паўзмрок, паветра заставалася густым ад водараў ладану і свечак. На асобным століку, дзе стаяў раней тэлевізар, стаялі партрэт Антаніны з чорнай паскай наўскос, свечкі ў шклянцы з зернем, слоік з вадой — свянцоная, паведаміла Тацяначка, яна ж, дарэчы, і ладавала ўсё тут. Віктар не адчыняў фортак, не вызваляў акно ад цяжкіх штор, бо Тацяначка раіла тут асабліва не прыбірацца ўсе сорак дзён, а першыя дзевяць і не заходзіць, калі не пільная патрэба.

Пагаліўся, памыўся. Узяў аркуш паперы, аловак і абышоў кватэру, запісваючы. Хадзіў у краму, дзівіўся, колькі грошай пайшло на такую драбязу (ды, халера, неабходную ж!), рассоўваў усё па месцах. Адшукаў

інструкцыю па пральнай машыне, закінуў кашулі, бялізну, насыпаў пральнага парашку, даліў той апаласквальнік, які быў сярод іншых бутэлек, уключыў і нейкі час назіраў: ці запрацуе, як належыць. Упэўніўся, пачаў выціраць пыл на паліцах і мэблі, затым пыласосіў, даставаў памытае з машыны і закідваў туды штаны, джынсы, праціраў падлогу. Разы з два заходзіў на кухню — варыў каву. Прыбраўся і тут, перамыў посуд. Згатаваў пельменяў, прымусіў сябе па-сапраўднаму накрыць на стол — як было пры Антаніне.

Прысеў за камп'ютар — бо помніў аб просьбе начальніка аддзела наконт двух заказаў, — глянуў на лічбы гадзінніка па панэлі і ажно не паверыў у першы момант. Ды так і было — сонца ўжо свяціла сюды, значыць, дзень хіліўся да вечара. Гэтулькі часу патрачана не на нешта стваральнае, карыснае, а ўсяго на тое, каб заставацца чыстым у чыстым і не галодным! Тым не меней мусіў адзначыць: час мінуў хутка і без таго пастаяннага тупога болю ў галаве, які давіў дагэтуль.

Працаваў, перапыняўся на перакуры. Балкон занавесіў памытым, то курыў зноў жа на кухні пры расчыненым акне. Каву заварваў, зазвычай пасля трохчатырох глыткоў яна стыла, піў халодную. Звечарэла незаўважна, стаў гатаваць амлет — тое адзінае больш-менш складанае блюда, з якім ён спраўляўся на "добра", прычым рабіў і з сырам, каўбасой, памідорамі, курацінай.

Падыходзіла вячэра на пліце, заслаў свежую бялізну на ложак (тую ён зняў раней часу, бо яна, здавалася, яшчэ захоўвала ў сабе цяпло і пах Антаніны). Адчыніў шафу, і перад вачыма калыхнуліся на плечыках рэчы жонкі: сукенкі, блузы, кофтачкі. Апусціўся на ложку, гледзячы на пярэстае нутро шафы. Столькі яе рэчаў, бялізны ляжыць у камодзе…

Куды ўсё падзець? Ці няхай вісіць і ляжыць? Доўга, дакуль ён зможа жыць? Са злой апантанасцю заслаў ложак.

Трэнькнуў асцярожна дзвярны званок. Паглядзеў — прыйшла суседка, Тацяначка. Адкрыў.

— От і малайчына, Віцечка, малайчына, так і трэба, — ціха выгаворвала суседка, скідваючы пантофлі — яна заўважыла прыбраную кватэру. — Жывым варта думаць пра жывое. Калі Бог пакідае нас жывымі, значыць, ён мае спадзеў на нас.

Віктар прайшоў следам за суседкай, запаліў свечку на століку і выйшаў — Тацяначка казала, што яму неабавязкова быць тут, пакуль яна чытае свае малітвы.

З кухні пацягнула паленым. Не пабег, а пайшоў і выключыў газ. Амлет падгарэў нямоцна. Паклаў падстаўку на стол, каб гэпнуць на яе патэльню з амлетам, але перасіліў сябе: узяўся нарэзваць хлеб і класці ў хлебніцу, памыў і парэзаў агуркі і памідоры, дастаў відэлец, кілішак і недапітую бутэльку.

Зразумеў: не засне, як не вып’е добра. Бо ў шафе — адзенне Антаніны. І няхай там усё памытае і адпрасаванае, у тканіну за гады ўвабраліся-ўліліся яе пахі, яе пот і нешта яшчэ, тое невытлумачальнае, што застаецца жыць у рэчах пасля смерці іх гаспадароў.

## ФРАГМЕНТ 34

### Зміцер, журналіст; Віктар; Антон, сусед; Тацяначка, суседка

Дзень Віктар сядзеў над праектамі з перапынкамі на прыгатаванне абеду, прасаваў бялізну, ездзіў на могілкі да Антаніны. Вярнуўся, зайшоў на кухню згатаваць чай, звычна ціскануў кнопку тэлевізара. І ўздрыгнуў ад гучнага голасу дыктара — тэлевізар

тут, на кухні, заўсёды настроены на канал "Еўраньюс", пры жывой Антаніне ён, бадай, не выключаўся, калі хто з іх сядзеў на кухні, — працаваў, як некалі радыёкропка. Ды ж колькі дзён тут не было ніякіх іншых гукаў, крамя чалавечых сцішаных галасоў. Віктар не выключыў тэлевізар, адно таропка схапіў пульт і зменшыў гучнасць.

Паказвалі страшныя кадры пажару. Дыктар распавядаў пра ахвяры, згарэлыя дамы, згубленыя ўраджаі і лясы, называў прыблізную колькасць згарэлай у агні свойскай жывёлы. Віктар слухаў уважліва. І адчуў, як нібыта зараз далучаўся да ліку вялікай колькасці пацярпелых у жыцці: не адзін ён стаіць зараз ля зруйнаванага будынка свайго шчасця — вунь якая бяда ў мужчыны: у агні загінула двое дзяцей, маці і жонка, дом, уся гаспадарка. І ён блукае па папялішчы, дзе яшчэ нешта дыміцца, а вецер падхоплівае попел і раздзімае гарачае вуголле…

Зноў прыйшла Тацяначка. Віктар правёў яе ў пакой, моўчкі запаліў свечку. Яго трохі непрыемна казытнула, як трымалася сёння Тацяначка — без ранейшай тугі і згорбленасці ад цяжару бяды, была нават нечым дзелавітая, будзённа сказала прыадчыніць акно ды праветрыць пакой:

— Надта ж паветра застаялася, Віцечка. Хай будзе свяжэй. І акно на дзень расчыняй, нядобра тут магілу рабіць…

Віктар ціха выціснуў: "Добра" — і выйшаў.

Праз хвілін дзесяць зноў ажыў званок. Ён пайшоў адчыняць, нават не зазіраючы ў вочка, хоць нікога не чакаў і не ведаў, каму ён спатрэбіўся такой парой. На парозе стаяў сусед Антон, муж Тацяначкі, побач з ім — малады мужчына гадоў дваццаці пяці, ніжэй сярэдняга росту, каржакаваты, з цвёрдай паставай,

у якой угадвалася ўпэўненасць у сваёй фізічнай сіле. Па ўсім некалішні самбіст ці дзюдаіст.

— Здароў, сусед, — Антон працягнуў руку, пацісну Віктараву сустрэтую. — Тут во да мяне памылкова карэспандэнт Зміцер Карпека зазірнуў, да цябе цэліў. Я яго ведаю, і бацьку знаў — пакуль жывы, у ПМК рабіў, сустракаліся. Пагаманілі хвіліну, то ты не гані, хоча ён цябе распытаць…

— Пра што распытаць? — здзіўлена зірнуў на маладога Віктар. — Які карэспандэнт?

— Вы прабачце, калі ласка, — загаварыў спакойна Зміцер. — Я чуў пра вашае гора, прыміце найперш мае спачуванні. Казалі мне, вашага сына хворага забралі ў армію. І адсюль усё пачалося… Аб гэтым і хацеў спытаць. Я магу падысці ў любы час, калі зможаце пагаварыць.

— Ды заходзь, — прапанаваў Віктар. Ён не разумеў: навошта гэта? Паглядзеў на Антона, запрасіў і яго: — І ты заходзь, сусед.

— Як пасядзець можна, то я вазьму… — ступіў крок да сваёй кватэры Антон.

— У мяне ўсё ёсць.

Зміцер, здавалася, і добра спланаваў сустрэчу, а ў першыя хвіліны на кухні, стаўшай цеснай ад прысутнасці трох дарослых мужчын, разгубіўся. Прычынай быў Віктараў твар і ён сам: не, не абыякавы, а застылы, зацвярдзелы звонку. Гэта выглядала адзіным адказам на ўсе магчымыя пытанні адносна трагедыі, і адказ гучаў двума словамі: "Так склалася". Таму першае пытанне вышукваў доўга, пакуль Віктар падразаў сыр і каўбасу, а Антон адкаркоўваў бутэльку і наліваў гарэлку.

— Прабачце, а ваша жонка, яна… была вопытным кіроўцам? — нарэшце спытаўся Зміцер і тут жа

зразумеў: у ягоным пытанні гаспадар дома можа пабачыць прыхаванае абвінавачванне самой жанчыны ў яе смерці, маўляў, нечага было спяшацца.

У руках Віктара спыніўся нож, ён ускінуў вочы на журналіста, пасля націснуў і правёў з сілай лязом па дошцы, адразаючы скрылёк каўбасы.

— Антаніна вельмі добра вадзіла машыну. Мне сказалі, у тым месцы нехта скраў вялікі кавалак сеткі, якая адгароджвала дарогу ад лесу, жывёліна там і выйшла.

— Так і ёсць, — выдыхнуў Зміцер, быццам у Віктаравых словах знайшоў важкі доказ сваёй думкі. — Усё сістэма…

— Якая сістэма? — абыякава перапытаў Віктар.

Зміцер змаўчаў, бо Антон падняў чарку:

— Памянём… — хутка перакуліў чарку ў рот, глынуў адзін раз, паклаў на кавалак хлеба каўбасу і сыр. — Што ты пра сістэму казаў?

Зміцер пасмялеў: пачалі з чаркі — ён мог разлічваць на прыязнасць і шчырасць. Адказаў без хітрыкаў:

— Мне расказвалі, ваш сын, — ён паглядзеў на Віктара, — захварэў у арміі. Вы ж, мабыць чулі, паўгода назад рэзанансны выпадак здарыўся: салдата давялі да самазабойства. Абяцалі ў асобе галоўнага нашага камандзіра, маўляў, усё зменіцца. А нічога не змянілася. Бо ўся сістэма ў нашай краіне такая — супраць чалавека. Абы скарыстаць. Я — журналіст незалежнага выдання, хачу напісаць пра гэты выпадак. Вы не будзеце супраць, я хачу называць сапраўдныя імёны?

— Пішы… Для мяне гэта нічога не зменіць. Сэнс?

— Нельга ж пакідаць такое без увагі! Колькі нашы людзі будуць цярпець здзек? Што там за дактары

ў войску, якія парадкі — не заўважылі пачатку захворвання на такую хваробу?

— Максім ужо хварэў, калі пайшоў, — ціха паправіў Віктар.

— Як? — ажно падаўся назад Зміцер, а сэрца ёкнула: які факт!

— Ён дрэнна сябе адчуваў. Антаніна ўгаварыла сына паказацца доктарцы, там была… маладая зусім, адно дала нейкую таблетку.

— Дык во як… Але дазвольце, мы па парадку. Антаніна ваша працавала настаўніцай, сын нядаўна закончыў універсітэт, атрымаў першае месца працы. Вы жылі разам, у гэтай кватэры? Якія мелі планы?

Зміцер натхніўся. Тэма раптоўна набывала куды большую глыбіню, чым ён прадбачыў. Не сустракаючы варожасці ў адказах Віктара, ён адчуў сябе ўпэўнена, бы перахапіў лейцы ў свае рукі. Любіў такія моманты пачатку кіравання сітуацыяй, аднаасобнага ўплыву на размову.

Віктар адказваў. Амаль без эмоцый, не ўспамінаючы падрабязнасці тых дзён: Максіма не павінны былі чапаць да восені; пачуў гаворку двух маладзёнаў у кавярні і зразумеў: за хабар ці яшчэ за нешта таго, хто мусіў ісці, не ўзялі; так, у Максіма была дзяўчына, і дом вырашылі будаваць, участак набылі, сёлета ж і планаваў заліць фундамент; Антаніна пазваніла: лекі трэба набываць за даляры ў сталіцы, па іх і паехала; сын у цяжкім стане, прагнозы самыя несуцяшальныя…

Між пытаннямі Змітра і адказамі Віктара сусед Антон, чуйна прыслухваючыся да размовы, не забываўся наліваць у чаркі. Закончыла свае справы Тацяначка, зайшла, прыпынілася ў дзвярах, адмовілася прысесці:

— Я пастаю, не зважайце на мяне, размаўляйце, і я паслухаю.

Віктар гаварыў, бы пералічваў кропкі на чорна-белым узоры краявіду, якім пачало бачыцца мінулае. Так, менавіта-чорна белым, і ён здзівіўся з думкі: помніць практычна ўсё да драбніц, а колераў — не. Ніякіх і нідзе. І ягоны аўтамабіль, знявечаны, — ён бачыўся чорным. Не сінім, а чорным. Думкі не таўкліся камарыным воблачкам, а падсоўваліся ў памяці адна да другой, бы асобныя драбкі, чапляліся ямкамі-зубчыкамі, складваліся. Дарэчы, трэба будзе ехаць і забіраць, затым вырашаць процьму пытанняў: са страхоўкай, рамонтам, пераафармленнем (гаспадыняй лічылася Антаніна).

Зміцер узрушыўся — з адказаў Віктара акрэсліўся неверагодна выразны малюнак адносінаў дзяржавы да салдата.

— Вось яна, сістэма, у сваім сапраўдным абліччы! — не стрымаўся ён. — Гэтага нельга даравацьі! Сістэма павінна адказаць!

Антон, які за ўвесь час інтэрв'ю не падаў і слова, павярнуўся да Віктара і папрасіў:

— Суседзе, у цябе цукар ё?

Віктар няўцямна паглядзеў на яго, павёў вачыма на кухонны столік:

— Ды вунь цукарніца…

— Не, пачак цэлы ё?

— Ёсць…

Віктар устаў, палез у шкапік, дастаў пачак цукру.

— Нашчо табе цукар? У нас жа хапае? — раптам крыклівa запыталася ў мужа Тацяначка, ускінуўшы падбароддзе.

— Цыц, — адмахнуўся ад жонкі Антон, узяў пачак у руку, звярнуўся да Змітра, які з цікавасцю сачыў за Антонам: — Кладзі сваю руку на стол, во сюды…

Той паслухмяна выпрастаў на стале далонь. Антон нямоцна стукнуў па пальцах журналіста цукровым пачкам.

— Баліць?

— Ды не дужа, — усміхнуўся Зміцер, заінтрыгаваны: што хоча рабіць гэты захмялелы дзядзька?

— А от я мацней стукну па тваёй цаццы, — кіўнуў на дыктафон на стале. — Зламлю?

— Мабыць, так…

— А з дурнога размаху ды па галаве табе? — Антон працягнуў пачак Змітру, каб ён патрымаў яго ў руках сам: — Кіло вагі, цвёрды. Змагу забіць?

— І кулаком забіць можна… Вы да чаго?

— А да таго: ты смаркач пакуль, — Антон забраў пачак, паставіў на стол і пачаў нетаропка адкрываць. — Сістэма — пачак з цукрам. Зломіць пальцы і галаву адаб'е. І бяседу нашу знішчыць. А ты во зірні, зірні во сюды! — Антон ужо запусціў пальцы ў цукар, набраў жменю і высыпаў назад: — Бачыш, бачыш, хлопча? У гэтым пачку — асобныя крупінкі? Ага! Дык во, глядзі… — Антон сыпануў са шчопці на стол колькі крупінак. — Ты бачыш? Яны ж лёгенькія паасобку, га? Сыпануць табе на руку — і не заўважыш! Пачкам — забаліць. Цяміш? Глядзі, глядзі, як рассыпаліся. Ага, ратуюцца… А мы от так зараз, ціськ, ціськ!

Антон жоўтым цвёрдым пазногцем вялікага пальца раздушваў на цвёрдай стальніцы крупінкі цукру — і заставалася белая плямачка пылу.

— Пабачыў? Сістэма… дурань ты! Усякая сістэма — з асобных людзей. Яны тады моцныя, як у пачку. Людзі вінаватыя! Кожны паасобку за сваё павінен адказваць. Тады парадак будзе, тады справядлівасць і закон.

— Не атрымаецца, — пасля хвіліны разгубленасці прамовіў Зміцер. — Бо заўсёды знойдзецца такі, хто захоча ў пачак, схавацца за сценкі. І тыя сценкі будуць яго бараніць. Дакуль будзе злачынная сістэма, людзі ў ёй будуць злачынныя!

— Хех, нібыта і разумны ты, словы вучоныя ведаеш, а такой прастаты зразумець не можаш… Паўтараю: калі кожны будзе знаць, што яму давядзецца адказваць за свае справункі, от тады будзе лад. Як сподлічаў, дык каб ішоў па вуліцы і баяўся: раптам яму цагліна з галаву зваліцца? Гадасць зрабіў чалавеку — каб спаць ноччу баяўся з адкрытай форткай, каб азіраўся на любы скрып. І каб урэшце атрымаў за свае ўчынкі. От галоўнае: каб кожны атрымаў. І гэная доктарка, і ваенкам, і фельчар у арміі, і тыя лекары, якія з-пад палы лекамі гандлююць. Тады іншым навука, тады іншы задумаецца, тады адмовіцца зло тварыць і чалавека пачне бачыць перад сабой, а не паперку. Не верыш? А ты во ў жонкі маёй папытай: нешта там Бог казаў людзям пра вока і зуб!

— Вуй, не пляці абы-чаго, — хутка зрэагавала на ўзбуджаны голас мужа Тацяначка. Яе заўсёдны спакойны, нібы з пячаткам пакоры, твар у гэты момант выпраменьваў жаноцкую рашучасць і раздражнёнасць. — Стары закон адменены! Хрыстом!

— Ну, Хрыстос прыйшоў не адмяніць закон, а выканаць, — мякка запярэчыў жанчыне Зміцер.

Яна страпянулася, твар яе зноў зрабіўся заміраным. Зірнула з недаверам на Змітра, на Віктара і сказала мякка, ледзь не лісліва:

— Выканаў Хрыстос законы старыя, тым і адмяніў іх. Новыя нам даў. Не нам бачыць планы Госпада нашага. Яму аднаму нашыя лёсы ведаць…

Зміцер, смеласць якога была падагрэтая гарэлкай, не стаў маўчаць.

— Лёс, кажаце? Значыць, усё ў Бога запісана, так выходзіць?

— Так.

— А як жа воля? Воля, якую ён даў чалавеку? Выбар для кожнага? — прыжмурыўся Зміцер амаль пераможна — ён быў упэўнены: на такое пытанне ні адзін просты чалавек адказаць не зможа, тым больш вось такая, відавочна ж, не высокаадукаваная верніца.

Але на твары жанчыны ў абрамленні чорнай хусцінкі не здрыганулася ні адна жылка, а вочы глядзелі ўсё гэтак жа замірэнча. Яна перавяла позірк вышэй галавы Змітра, адказала:

— А вунь над галовамі вашымі гадзіннік вісіць. То і ёсць шлях чалавечы. Сам чалавек — тое стрэлка. От штодзень ён глядзіць, на якую лічбу пераскочыць, па якой пайсці. Адзін Бог ведае, што за кожнай лічбай хаваецца. Таму і ёсць лёс. А чалавек яго сам выбірае.

Зміцер міжволі крутнуўся, зірнуў на гадзіннік, за ім і Віктар з Антонам падзівіліся на круглы белы цыферблат з чорнымі стрэлкамі.

— Дык ніхто не вінаваты, што сын Віктара так небяспечна захварэў, што загінула Тоня, што зруйнавана жыццё самога Віктара? — павярнуўся Зміцер да Тацяначкі. — Дзе ж той крок, які нехта з іх не так крочыў, у чым іхні выбар такі страшэнна памылковы? Хто вінаваты?

Тацяначка падціснула вусны, уздыхнула.

— Мо й клешч вінаваты…

— Клешч? Ты ў сваім розуме, жонка? — вылупіўся Антон.

— А з яго ж пачалося. Нечага ж ён там апынуўся. То пасля туды Максімка патрапіў, так сцежка павяла. Але ж напачатку клешч. Нечага ж ён там быў… Богу тое ведама, чаму ўсё так. У яго свае планы…

— А што б на цябе… Ды Максім бы нікуды не пайшоў, каб ваенкам хабару не ўзяў, цяміш? І Тоня жывая б была, каб доктарка не гадзіны свае адседжвала, а да скаргі прыслухалася! Бог фельчару ў войску не даваў фельчарам быць? Божая воля, як жа… Жадаў бы я з ім сустрэцца, калі то ягоная воля, хапіў бы за бараду! Не ён бы ў мяне пра справы мае пытаў, а я ў Бога!

— Замоўч, туябень! Як заліў, дык зухвалішся. Хадзем, досць налыкаўся! Дай людзям адпачыць! — узвілася Тацяначка.

Антон нечакана паслухмяна ўстаў, і ў ягоным руху прачытвалася звычнае падпарадкаванне жонцы — яна ізноў была хай невялікага росту і сухенькай, ды энергічнай, наструненай і рашучай жанчынай, звыклай бараніць сваё жытло ад розных праяў вальнадумства і нечаканасцей.

Падхапіўся і Зміцер — яму не цярпелася хутчэй пісаць. Сказы ўжо круціліся ў галаве. О, матэрыял выстраліць!

Віктар праводзіў гасцей, прабраў са стала. У галаве быў поўны сумбур: тая цэльная карцінка мінулага, якая трывала застыла ў свядомасці, нечакана раскрышылася, ягоны аналітычны розум праекціроўшчыка намагаўся скласці з асобных кавалкаў новую канструкцыю, каб пабачыць сувязі прычын з наступствамі, але крыху шумела ў галаве ад выпітага. Пытанні Змітра абудзілі ўспамін, пра які Віктар не казаў, пра які і не пытаўся журналіст: пра момант забірання Антаніны з моргу. Тое шво зноў паўстала

перад вачыма, цяпер ужо як сімвал незваротнай страты. Віктар зайшоў у пакой, дзе малілася сёння Тацяначка, пстрыкнуў уключальнікам, здрыгануўся, бо ў першае імгненне падалося, быццам разам з успышкай святла мільгануў і схаваўся нейкі цень. Павагаўся і занавесіў акно — нічога, заўтра ён зойдзе сюды раніцай і адхіне шторы.

Дастаў яшчэ бутэльку гарэлкі з халадзільніка, выпіў чарку, закурыў і п'яныя слёзы пацяклі з вачэй. Ён плакаў першы раз — слязінкі не выціснулася з вока раней. А цяпер жаль да сябе і шкадоба здушылі горла, Віктар плакаў бязгучна, адно шморгаючы носам. Тым больш агортваў жаль, бо назаўтра збіраўся ў міліцыю — даседжваць свае суткі.

## ФРАГМЕНТ 35

### Сёміха, Галіна

Агарод для старой Сёміхі быў яе сусветам і сэнсам. Як толькі пайшла на пенсію (рабіла ў бухгалтэрыі нарыхтоўчай канторы), ад самога ранку і да таго, пакуль магла разлічаць парасткі на зямлі, корпалася яна ў градах. У свае восемдзесят з лішкам магла даць фору якой маладзіцы — градкі былі пад шнурочак, ні каліва якой зяліны, усе зялёначубыя цыбуліны былі падобныя адна на адну, а кусты памідораў быццам падстрыгала — гэткія былі роўныя, бухматыя, цвілі дружна, і завязі паўсюль добрыя. Яе пастаянна сагнутая спіна прызвычаілася да такога стану, прыцерліся косткі і храсткі, падцягнуліся жылы, і для Сёміхі ўстаць прама сярод рабочага часу па нейкай патрэбе было куды больш знясільна, чым рачкаваць. Твар яе і рукі за цёплы час рабіліся шэрымі, нібы нацягвала тае шэрасці ад град. За зімовыя месяцы

скура святлела, ды нейк хваравіта, і сама Сёміха пачувалася хворай і лядашчай, штотыдзень наведвалася ў паліклініку, дзе ў чэргах абавязкова з кім-небудзь лаялася. Нудзілася да першых праталін, з імі тупала па агародзе і па двары, нешта грэбла, мяла, выбірала, і ад той прагрэтай зямлі бы ўсмоктвала жыццядайную сілу — жвавей і жвавей рухалася з кожным днём, не разгінаючыся, мармычучы сабе нешта пад нос, часам старэчым вісклівым голасам крычала на варон ды гракоў, якія шукалі спажывы на яе агародзе.

Дачка яе, бабылка Зося, таксама пенсіянерка, мужападобная, з кароткай шыяй і дужымі рукамі, з'яўлялася ў маці зімой зрэдку, а з вясны, як выскоквала з зямлі першая гароднiна, то раз на тыдзень, у сезон агуркоў-памідораў ды трускалак і часцей. Сама яна ніколі ў агарод не ішла — Сёміха не пускала, гародніну загружала дачцэ ў двары. Зося сама цягала торбы і мяхі да старога аўтамабіля, які прыпыняўся на вуліцы ля хаты, — кіроўца, сужыцель Зосі, адно адчыняў багажнік. Быў ён хліпкі, бы гліст, і Сёміха яго ніколі не запрашала ў двор, тым больш — за стол у хату.

З дачкой яна амаль не размаўляла.

Муж Сёміхі, Сямён, быў старэйшы за яе на восем гадоў, прыйшоў з фронту без трох пальцаў на правай руцэ, затое ж — мужчына! Ды тое раненне не дало яму доўга пажыць, і ад дзесяці год дачку Сёміха падымала адна. А болей дзяцей не нарадзіла — адзін за другім тры выкідышы здарылася, апошні раз ледзь не памерла, нешта там нарабілася, то дактары ўсё жаноцкае знутры выкінулі.

Сёміха трымала Зосю змалку ў строгасці, тая расла ціхай і паслухмянай, не надта разумніца. То са школай ёй дапамагаў сын суседзяў, Карпекаў. Іванка быў, як і ўсе хлапчукі, шкадлівы, але ж Сёміху пабойваўся,

то хоць і быў плот між іх агародамі нізенькі, а па трускалкі лазіць не лазіў. З суседзямі Сёміха мірна жыла, бо разумела: лепш са сваімі пабіцца, чым з суседам пасварыцца. То ж жыццё побач з ворагам — каму такая ласка трэба?

Ды ўрэшце — сталі ворагамі.

Іванка з Зосяй да юнацтва жылі бы сястра з братам, не біліся ніколі, хлопец як падрос ды выцягнуўся, то і бараніў суседку паўсюль, бо надта ж ціхая, затуканая расла дзеўчына. І разам яны, і разам. І ў лес па грыбы, і на рэчку — ды ўсё ад іншых людзей падалей. Упэўненая была Сёміха, што і ў "татку з мамкай" у якім зацішным месцы гуляліся, дзе тут угледзіш? Адно Зосю прыстрашыла. Як былі дзеці цэлы дзень на рэчцы адны, то назаўтра, полючы грады, натрапіла Сёміха на жабку, згрэбла яе рукой, гукнула дачку і папярэдзіла: як задзярэ перад кім падол сукенкі ці хто рукой у трусіках яе палапае, то наступіць яна на адну нагу Зосі, хопіць другую і раздзярэ, як жабу. І тую жабу паказала, а пасля і папраўдзе рванула яе за задніяя лапы ды кінула знявечаную пад ногі дачцэ. Зося закалацілася ад страху і жудасці, клялася-прасілася: "Не-не, мамачка, не-не!"

Калі ў дачкі цыцачкі як след акругліліся і настаў канец школьнаму навучанню, прыкмеціла Сёміха: глядзіць яе Зося на Іванку зусім не як на брата, саромецца хлопца пачала, чырванець без прычыны. Ужо на яблыню ў сукенцы не лезе, як Іванка знізу стаіць. Ды і Іванка, было відаць, канфузіўся раптам на пустым месцы, лапатаў абы-што, як пра яго ды дачку папытаешся. Прыглядзелася Сёміха і вырашыла: а лепшага мужа дачцэ і не знайсці. І Карпекі — людзі не злыя, дом у парадку, не багатыя, з мазаля жывуць, капейку маюць ды берагуць, на абы-якое не марнуюць.

Даведалася пра планы хлопцавы: год трактарыстам у ПМК папрацуе, пойдзе служыць, а затым паступіць на тэхніка якога. Возьмуць пасля арміі!

Зося праводзіла свайго суседа Іванку ў салдаты нявестай нарачонай. Карпекі Сёміху ў чырвоны кут пасадзілі, бы сваячку. І два гады чакання прайшлі хутка. Зося ў вучылішча раней падалася, адвучылася, тынкоўшчыцай стала рабіць. Усе два гады Сёміха пільнавала дзеўку, ні хвілінкі не пакідала без нагляду пры магчымасці. Ні на якія танцулькі, крый божа! Праўда, Зося і сама нікуды не рвалася. Маўклівая, сцішаная, пакорліва выслухвала навучанні маці, гледзячы долу, а яе гэтае маўклівае пануранне Сёміха іншы раз успрымала як прызнанне сваёй віны і прыстрашвала, чым магла: і з хаты выганіць, і пракляне, і ў канаве за агародам утопіць. Лісты, якія слаў з войска Іванка, Сёміха чытала ўсе — прымушала іх паказваць.

Калі да вяртання свайго будучага зяця заставалася з месяц, яна аднойчы пасадзіла дачку насупраць сябе на зэдлік, сама села на ложак і прынялася распытваць пра самыя дробныя дробязі ў яе з Іванкам адносінах. Канешне ж, у першую чаргу інтымныя: куды руку клаў, дзе мацаў. Зося счырванелася так, што кроў гатовая была пырскаць з вушэй і шчок, але, чуючы жорсткі і патрабавальны тон, расказвала дрыжачым голасам. З яе слоў Сёміха зрабіла суцяшальную выснову: абое заставаліся цнатліўцамі.

І ўпэўнена загадвала дачцэ: па вячэры-сустрэчы весці Іванку ў свой дом, дзверы зашчапіць, ды не марудзіць, а распранацца да голага і ў ложак адразу класціся. Іванка галодны ж на дзявочую ласку, палезе следам, як міленькі.

— З якой крыніцы сасмяглы нап'еццa, з той яму вада найлепшая на ўсё жыццё! — навучала. — Як са-

лодка дасі, то тры разы на дзень папросіць і ні на якую потым не зірне! А прамарудзіш, дык не зловіш, на такога жаніха кінуцца сучкі розныя.

Зосіны счырванелыя, поўныя слёз сораму вочы круглілісе ад будучага жаху, ды слова супраць маці вымавіць не змагла. А Сёміха вучыла дачку ў самых падрабязнасцях, не зважаючы на яе апушчаную ад пякучага сораму галаву.

Так і пакацілася. Нямеючы ад страху перад будучай ноччу, Зося прасядзела побач з Іванкам на вячэры, не кранаючыся ні ежы, ні пітва. А ён еў многа і піў добра. І быў зусім не тым суседскім хлопцам, якога ведала раней: жартачкі пахабныя казаў, мацюкаўся смела (адслужыў жа!), лапаў яе пад сталом за калені і вышэй, сціскаў да болю нагу. Зося мярцвела, маўкліва зносіла агідныя ёй зараз дакрананні. Выйшлі першы раз з-за стала на двор, дзе сябры настройвалі прайгравальнік і запускалі пласцінкі, Іванка пацягнуў уладна Зосю ў сад, за кусты парэчак. Там палез цалавацца, хапаючыся за грудзі, жывот, мацаючы ніжэй. Не адбівалася, толькі прасілася, амаль губляючы прытомнасць ад сораму (могуць жа пабачыць!) і страху: "Іваначка, пазней, пазней… у хату да мяне пойдзем…"

Распранутая, калацілася ў ложку, як у ліхаманцы, моцна-моцна заплюшчыла вочы, абы не бачыць, як скідае сваю армейскую форму Іванка. Затым ён наваліўся зверху, дыхаючы горача тытунёвым і самагонным смуродам у твар, цісну́ў да болю грудзі. Яна задрыжала яшчэ больш — цяпер ад знянацкага дакранання чужога голага цела да свайго аголенага, здалося, і ўспыхнула ў ёй шчымлівае і салодка-забароненае, змагла шырока раскінуць ногі, падняўшы калені, але адначасова ўнутры яе, унізе, сціснулася

ўсё ад прадчування непазбежнага болю супраць яе волі так моцна (маці ж казала — будзе балець і кроў будзе!), што нічога не атрымалася ў Іванкі, і праз хвіліну Зося адчула, як гарачае і ліпкае густа пырснула на яе лона.

Хлопец знясілена ўпаў тварам на падушку побач, а яна невядомым веданнем зразумела: нічога не атрымалася, ён не змог, і яго зараз пячэ сорам за сваё няўменне. Яе па-ранейшаму калаціла саму, але страх мінуў, прыйшло пачуццё вінаватасці — не выканала казанага маці: не абдымала і не прыціскала да сябе, не цалавала, не галубіла, а галоўнае ж — не працягнула руку ўніз, не дапамагла Іванку… Слёзы пакаціліся з яе вачэй, павярнулася асцярожна з думкай-жаданнем абняць хлопца, папрасіцца, а той ужо спаў.

Доўга ляжала, дзівячыся ў чорную столь, слухаючы, як роўна дыхае хлопец побач. Разгубілася ад няведання — маці ж не сказала: ці то ісці на канапу, ці то ляжаць голай з Іванкам да раніцы. Было цеснавата, легла бокам, прыціснулася да хлопца, замёрла ад нечакана ўзніклага пачуцця пяшчоты. Засынала з думкай: як прачнецца Іванка, будзе прасіць-вымольваць дараванне — бо то ж яна вінаватая, яна ад страху такая каменная і няўклюдная.

Развіднела, Іванка прачнуўся і падхапіўся, стаў мітусліва апранацца, не азіраючыся на ложак. І ў яе не хапіла смеласці хоць голас падаць. Ён пайшоў з хаты моўчкі, спехам, як злодзей.

Зося не паспела ўстаць, як пачула стук дзвярэй, нацягнула на твар коўдру са страхам. Зазірнула маці, спынілася ў парозе.

— Ну, было? — спытала ў Зосі.

Тая моўчкі ледзь кіўнула падбароддзем.

— Крывёй прасціны не вымазала?

Зося праглынула даўкі камяк у горле, згадваючы пра мацярынскую навуку: падаслаць пад сябе чыстую дзяружку — тая засталася нявыцягнутай пад падушкай, куды яе паклала з вечара маці.

— Не было крыві, — здушана адказала і адвярнулася.

— Ну… паспі, — здобрылася Сёміха і прычыніла дзверы.

Зося заплакала.

Мажліва, усё б наладзілася яшчэ да гэтага вечара — дзяўчына вырашыла ўлучыць за дзень хвілінку і сам-насам павініцца перад Іванкам за сваю бесталковасць і боязь ды сказаць, што хоць куды з ім пойдзе на ўсю ноч і ўсё-ўсё зробіць, як трэба, абы толькі ў іх усё атрымалася і ён не перажываў за сваю няўдачу. Але тут Сёміха вырашыла ўзяць справу ў свае рукі і ледзь пабачыла, як суседзі паснедалі, заспяшалася да Карпекаў. З парога завуркатала лагодна ды мякка: як ужо ў іх сына з яе дачкой выйшла так, варта пра вяселле думаць, хоць яна з дачкой адна, ды такі-сякі пасаг сабрала, не нішчымніцай дачку аддасць. Карпекі вылупіліся: Іванка вучыцца збіраецца, далей папрацаваць, за гэты час грошай збярэцца, каб на кватэру ставала, на першы ўзнос. А і было, дык дзела маладое, пачакаць жа можна… Сёміха прыйшла ў шаленства: уся вуліца бачыла, як ранкам іх Іванка ад яе дачкі выходзіў, як ёй зараз паблядушкай векаваць? Хто на яе, цяпер спорчаную, паглядзіць? З'едзе Іванка, гарадская ў яго ўчэпіцца — і кукіш тады яе Зосьцы?

Карпечыха была не з тых, каму можна было пальцы ў рот класці. Як то дачка пад хлопца легла, калі маці ў хаце? Мо й без ніякага галубіліся дзеці, ці ты са свечкай стаяла? Тут у Сёміхі і вырвалася:

у суседкі начавала, а як прыйшла — пасцель разабраная, дачка голая і (тут прыбрахала для пэўнасці) прасціна ў крыві, не адмыеш. Карпечыха ўмомант да ўсяго дапетрыла: ты сама дачку навучыла і з хаты сышла!

Хвіліну б — і ўчапіліся адна адной у валасы, ды гаспадар, Карпека, умяшаўся: без вас дзеці разбяруцца, хай пагуляюць. Сёміха выскачыла з хаты з галашэннем: во, счэравалі яе дачушку, зняславілі матку, як жыць?

У той жа дзень яшчэ да абеду Іванка паехаў у госці да свайго дзядзькі — там быў тэхнікум, куды ён збіраўся пастпаць. То і не змагла Зося з ім пабачыцца. І з таго дня вярталася з работы — і дома сядзела, не выходзіла з двара. Маўчала. А Сёміха цікавала за дачкой, бессаромна пыталася штодня: ці ёсць надзежы? Магчыма, ад перажытага стрэсу ды нерваванняў нешта збілася ў дзявочым арганізме, і месячныя ніяк не прыходзілі. Тут Сёміха ўзняла хай на ўсю вуліцу, каго ні сустракала, усім жалілася. А сама раўніва паглядвала на суседзяў: ведала, як бы тое ні было, а людзі яны з сумленнем, дый сам Іванка не ветрагон, куды дзенуцца, возьмуць дачку за нявестку. Праз месяц палолі ўдвух грады, Сёміха агучыла ўголас свае планы: ісці заўтра ў бальніцу ды правярацца, паперку на рукі атрымаць.

І, уражаная, застыла, як Зося выпрасталася і зірнула ў твар маці — холадна, рашуча:

— Нікуды я не пайду!

— Ах жа сцерва! — як не падскочыла Сёміха, перахапіла капаніцу і выцяла яе гладзенькай ручкай дачку па плячы. Размахнулася другі раз, але неспадзеўкі Зося схапіла капаніцу, утрымала і шмарганула на сябе. Тады Сёміха адчула, якая моц была

ў даччыных руках. Яна воўкам зіркнула на маці з-пад ілба і ціха прамовіла:

— Ты мяне больш не чапай. Ніяк не чапай. Я пазаўтра паеду адсюль. Вучыцца буду. А ты мяне не чапай.

Сёміха знямела — спужалася нянавісці ў вачах дачкі. Першы раз дачка супроць.

— Дык аж… — толькі і ўдалося ёй выціснуць з сябе.

— Не было ў нас нічога. І месячныя сёння пайшлі, — абыякава адказала дачка і пайшла з агарода.

Так Карпекі сталі заклятымі ворагамі Сёміхі. Яна засталася раптоўна адна — Зося насамрэч з'ехала ў суседні горад, працавала і вучылася на завочным. Іванка ажаніўся праз два гады, працаваў у мясцовым ПМК, пабудавалі маладым бацькі кватэру. Хутка памёр стары Карпека — сэрца было слабае. На хаўтуры Сёміха і не збіралася, і труну з нябожчыкам нават позіркам праз акно не праводзіла. Карпечыха дачакалася ўнукаў — Іванка нарадзіў дачку і сына. Дзеці летавалі ў бабулі, была магчымасць ды нагода — Сёміха праклінала іх у вочы і за вочы. Ды бач, выраслі. Сама Сёміха ні цешчай, ні бабуляй не стала. Дачка замуж не ішла, самасейкаў нараджаць не схацела. "Не лезь у маё жыццё, ты адзін раз улезла, хопіць мне з лішкам!" — загадала маці, калі тая аднойчы нясмела пачала ёй называць як быццам годных знаёмых адзінокіх мужыкоў. Да пенсіі Зося жыла адна, а затым во знайшла нейкага гліста, прытуліла.

Карпечыха яшчэ і на вяселлі ўнучкі і ўнука пагуляла, а потым у галалёд зламала нагу ды і памерла той жа зімой, не ўстаючы з ложка. Іванка мала пажыў — казалі, у траншэі, як трубы клалі, заліло іх

граззю, пакуль адкапалі, дык моцна прастыў, доўга хварэў і нядаўна памёр.

Цяпер у старым доме Карпекаў жыве сын Іванкі Зміцер са сваёй жонкай Галінай і малым дзіцём. І як некалі кляла Сёміха дзяцей Іванкі, так пры выпадку, як пабачыць, без асаблівай злосці, па звычцы, кляне ягонага ўнука. Дастаецца, ужо асэнсавана, з настроем ды пачуццём, Галіне, жонцы Змітра. Яна не некалішняя яе Зоська — даўгалыгая, ходзіць у кароткіх шортах, срака амаль голая, курыць, а акуркі часам шпурляе ў яе, Сёміхіны, трускалкі. Той акурак як знойдзе Сёміха — бы самародак залаты: тады шкандыбае да плота, абапіраецца і гукае:

— Галька! Сучка, каб табе вушы заклала, хадзі но сюды! Каб табе цыгарэціна за хлеб была і за мяса, каб табе той дым калом усярэдзіне стаў, каб ты вантробамі кашляла і ляцелі яны кавалкамі, як ты бычкі ў мае клубніцы кідаеш! Гэ, сучка, я табе не дарую! Некалі дап’ешся ты маёй крыві, каб цябе на тым свеце чэрці смалой паілі! Я ў міліцыю пайду!

Галіне, якой усяго дваццаць пяць, пасля вялікай кватэры бацькоў жыць у старэнькім доме з прагнілай у кутах падлогай на кухні было пакутліва і брыдка. Ды яшчэ гадаваць сына, якому на гэтае лета споўнілася паўтара года. Не любіла гаспадарыць — ні на кухні, ні ў доме, ні тым больш у двары. Гідзілася агарода, прычым яе гідлівасць была настолькі моцнай, што корпанне ў зямлі адгукалася сапраўднай алергіяй: чырванеў плямамі твар, часалася цела, цякло з носа. То грады за домам Зміцер перарабіў з мінулага года ў зону адпачынку: пасеяў траву, паставіў альтанку, змайстраваў арэлі, мангал зладзіў. Цяпер з наступленнем лета Галіна пачувалася больш-менш здавальняюча: Зміцер часта прападаў у камандзі-

роўках, да яе наведваліся сяброўкі, з якімі бавіць час у альтанцы было хоць нейкай цікавай справай. Зміцер не злаваў, ён адчуваў віну перад жонкай: у кватэры бацькоў жыла сям'я сястры з хворай маці, а яму вось дасталася дзедава спадчына. Праўда, у яго была мара адразу — пачаць тут будаваць новы дом, але ж жонка ўперлася не на жарт: толькі кватэра, ніякай зямлі! То і ашчаджаліся, разлічваючы пры гэтым добра прадаць дамок з участкам — месца было выгаднае.

Галіна з сяброўкамі заседжвалася ў альтанцы, гулялі заўсёды шумна, пілі віно, рагаталі, гучала музыка. Сын бавіў час ці то ў зробленай пясочніцы, ці сноўдаўся па двары. Іншым разам Галіна назло суседцы шпурляла недакуркі ў яе агарод, часам кідалі туды курыныя косткі. Назаўтра раніцай Сёміха пачынала захліпацца ад сваіх праклёнаў, тады Галіна, як быў настрой і не балела галава ад выпітага ўчора, выходзіла на двор, набліжалася да плота, да старой, паварочвалася, згіналася і ляпала сябе па сапраўды амаль голых ягадзіцах. Ёй было за радасць пазлаваць старую.

Пасля адной чарговай гулянкі з музыкай далёка апоўначы Сёміха зранку абышла свае грады і не стала збіраць убачаныя недакуркі — паперлася ў міліцыю. Участковы прыехаў пад вечар, паразмаўляў з Галінай, і тая папраўдзе трохі напужалася. Болей недакуркаў у трускалкі і памідоры суседкі не закідвала. Старая як перастала для яе існаваць: жанчына заходзіла ў сваю альтанку і там распраналася да трусоў-стрынгаў (з вуліцы тут усё было закрыта) і слухала, бы музыку, крыклівае абурэнне Сёміхі. Калі старая корпалася блізка ад плота, Галіна магла прысесці са свайго боку плота па малой патрэбе

альбо пасадзіць на гаршчок сына Уладзіка акурат пад нос бабулі.

— А каб ты кроўю сраў! — шыпела старая, хоць ніколі ні зямлёй не шпурнула, ні замахнулася. Адно кляла, кляла і кляла. У яе выспела свая задумка, балазе ў тэлевізары пра ўсё сёння раскажуць.

Цікавала, як прыязджалі да Галіны сяброўкі, даставала стары вучнёўскі сшытак, скручанымі, звычнымі да дзяржання рыдлёўкі ды капаніцы пальцамі, нязграбна трымаючы аловак, запісвала: у які час прыйшлі, што пілі, дзе было дзіця тады. У адзін з дзён выправілася ў райвыканкам — запісалася на прыём, якраз прыязджаў нейкі вялікі абласны начальнік. І засталася задаволенай: яе аповед пра тое, што дзіця жыве з маткай бы беспрытульнае на вуліцы, есць хлеб з зямлі і падбірае ўпаўшае са стала ў час балявання бессаромных дзявуль, выклікаў вялікі эфект — у прысутнасці Сёміхі раённаму начальніку загадалі тэрмінова разабрацца.

— То ж дзіцятка галоднае, босенькае бегае дзень па двары, ровам раве, — з жалем у голасе расказвала яна, зазіраючы ў твары кожнаму з прысутных. — Падыдзе да плоту, глядзіць на мяне, а папрасіць не ўмее, адно ручку цягне ды мычыць. Я жменьку клубніц памытых дам, растуць жа ў мяне, блінцом пачастую, цукеркай… А тая выпаўзе пад абед, сраку выставіць сонцу, вочы фарбуе. Як вечар — сунуцца такія ж бессаромніцы, п'юць-гуляюць да трэціх пеўняў. Што тое дзіця есць? А бацькі днямі не відаць, як на выхадныя — дык зноў п'янка: шашлыкі смажаць, збіраецца хеўра. Я тамака ўсё запісала, усе дзянёчкі іхнія… Мне, старой, спакою ад іх няма — тае бяды, а вось дзіцятка чаго мучыцца?

## ФРАГМЕНТ 36

### Віталь Рагоза, намеснік старшыні райвыканкама, Зміцер Карпека, журналіст

Сакратарка зазірнула ў кабінет, Рагоза запытальна падняў на яе вочы.

— Шэф выклікае, — даклала жанчына. — Мабыць, па ўчарашнім прыёме, адной карткі мне не перадалі.

Яна не памылілася: старшыня райвыканкама стаяў ля свайго стала, паляпваючы пальцамі па худзенькім стосіку папер. Ён працягнуў правую руку Рагозу, пачакаў, пакуль той падыдзе і пацісне яе.

— Адамавіч, гэты барзапісец, які нас "праслаўляе" на ўсю краіну, — Зміцер Карпека? Ён жа наш, мясцовы?

— Так, наш, — напружыўся Рагоза, — з гэтым незалежным журналістам адны непрыемнасці.

— Ты думаў, як яго прыструніць? Колькі ён яшчэ гадзіць нам будзе?

— Ды ёсць некаторыя думкі, — няпэўна прагаварыў Рагоза.

— Вось табе матэрыял, дзейнічай! — старшыня пасунуў той самы стосік па стале. — Самі не парупіліся праверыць, людзі падказваюць, — упікнуў нязлосна, але з націскам. — Вывучай справу, збірай камісію, хай правераць умовы жыцця дзіцяці. Не мне вас вучыць. Каб у справаздачы пра колькасць круп было і наяўнасць памперсаў. Трэба — бярыце дзіця на праверку медыкам, як яно там развіваецца. Дзейнічай!

У сваім кабінеце Рагоза чытаў лісты са школьнага сшытка, з цяжкасцю разбіраючы тэкст, напісаны старэчай рукой. Тое, што ў гэтых набрынялых нянавісцю радках была часцінка праўды, сумненняў не ўзнікла. Так, Рагоза ведаў, дзе жыве Зміцер Карпека, не такі

ўжо вялікі іхні райцэнтр, ды і ведаць жа павінен. Старая дзедава хата ў прыватным сектары, які зялёным астраўком заставаўся сярод шматпавярховікаў. Месца зацішнае, выгоднае з усіх бакоў. Замест старых хат многія ўжо ўзвялі катэджы ў два паверхі, там усе камунікацыі побач, затраты невялікія. О, там мець дом з усімі выгодамі — мара для многіх.

Пазваніў рэдактару райгазеты, загадаў, каб адшукалі нумар тэлефона Карпекі. Хай гэты Зміцер — з варожага, так мовіць, стану, але ж кантакты ў яго з будуць хоць з адным журналістам раёнкі. Прафесійнае сяброўства, дый, чаго хаваць, сярод раённых газетчыкаў ідэйна аддадзеных — рэдактар ды яшчэ дзве жанчыны перадпенсійнага веку. Яны, журналісты, якраз і больш бачаць за іншых людзей. То і працуе нехта, цалкам верагодна, адно за грошы, таму ж Карпеку і інфармацыю патрэбную скідвае. Сёння ў сацсетках вартаўніка за кожным не прыставіш.

Тэлефон яму прадыктавалі праз чвэрць гадзіны. Рагоза набраў нумар.

— Гэта Зміцер Карпека?

— Так, — з лёгкім недаверам адказаў журналіст.

— Віталь Рагоза, намеснік старшыні райвыканкама турбуе, ведаеш такога? — адразу перайшоў на “ты” Рагоза.

— Ды як не ведаць, — больш упэўнена загаварыў Зміцер. — Слухаю.

— Справа ёсць. І справа неадкладная, — цвёрда казаў Рагоза. — Ты зараз у нашым горадзе ці на выездзе?

— Пакуль тут, збіраюся ў суседні раён, — прызнаўся Зміцер. — А што здарылася?

— Дык і здарылася, і не здарылася, — яшчэ больш заінтрыгаваў субяседніка Рагоза. — Але размова вельмі тэрміновая, у тваіх жа інтарэсах. То чакаю… ну, праз

хвілін дваццаць. У кабінет заходзь. Я папярэджу міліцыянера на ўваходзе, скажаш, да мяне.

— А не заарыштуюць? — нацягнута пажартаваў Зміцер.

— Ну, ты ж вокны біць не будзеш у маім кабінеце, — аджартаваўся і Рагоза. — Усё, я чакаю.

Зміцер занерваваўся. Нейкі момант ён раздумваў, бо насамрэч збіраўся выехаць у суседні раён — сустрэцца з адным фермерам, у якога калгас забраў гвалтам зямлю, ды ўжо з пасевамі. І хоць пра гэты выпадак пракрычалі ўсе вядучыя незалежныя СМІ, з самім фермерам ніхто асабіста не сустракаўся, мо таму, што сапраўдны мядзведжы куток: чыгуначнага шляху блізка няма, дарога-гравійка ўсе трыццаць кіламетраў.

У словах Віталя Рагозы Зміцер адчуў перавагу над сабой. Чым яны могуць прыціснуць? Як быццам, нічым. Правілаў не парушае, у кавярнях не напіваецца, жыве асобна ў дзедаўскай хаце. Трэба пад'ехаць. З фермерам жа не дамоўлена на канкрэтны час, а тут мо ненадоўга. Трывожыць заўсёды тое невядомае.

Віталь Рагоза сустрэў Змітра Карпеку, седзячы за сталом. Не ўставаў, ветліва паказаў на стул насупраць.

— Праходзь, сядай!

— Дзякуй… — Зміцер прысеў на край крэсла, зірнуў на спакойны твар намесніка старшыні. — Што ж за справы ў вас да мяне могуць быць?

— Ну, калі людзі маюць на агульную мэту, дык хіба не можа быць у іх агульных спраў? — прымружыўся Рагоза. — Ты ж хочаш, каб у нас усё добра было, так? Ну і мы тут дзеля таго ж працуем. Ты спяшаешся некуды?

— Так. Журналіста, як і ваўка, ногі кормяць.

— Добрае перакананне, — пагадзіўся Рагоза. — Я іншы раз чытаю так званую незалежную прэсу

дый думаю: а калі ўсё добра зробіцца ўрэшце, пра што яны пісаць будуць, га? Вось раптам ад заўтрага — у нас ніякіх недахопаў, як ты будзеш зарабляць хлеб?

— На наш век недахопаў хопіць, — усміхнуўся Зміцер. — Ды і знойдуцца яны заўсёды, бо чалавеку ўласціва памыляцца, казалі старажытныя рымляне.

— То так, такі чалавек… Слухай, — пасур'ёзнеў Рагоза, — а табе не надакучыла? Гойсаць бясконца па раёнах, шукаць нешта гнілое, брыдкае, потым цягнуць тое на старонкі, маўляў: вось вы якія!

— А як гэтым не займацца, што будзе? — не разгубіўся Зміцер, бо размовы кшталту гэтай з ім спрабавалі заводзіць і раней розныя начальнікі.

— Ды нармальна будзе, не спыніцца жыццё, — уздыхнуў Рагоза. — От ты пісаў пра ветэрана, які ў хлеўчыку жыў. І ты думаеш, пасля твайго пасквіля — а гэта быў пасквіль — умовы ў старога палепшыліся? Думаеш, ты адзін бачыў, а мы не? Мы падступіцца не маглі, бо ўсё там было аформлена па законе. Але ж здолелі. А ты б здолеў?

— Я ж не на вашай пасадзе, — парыраваў Зміцер.

— Канешне. Усё адно не разумею: як можна жыць, збіраючы ў жыцці выключна негатыў? Ты б хоць пра светлае разочак напісаў, хіба ж можна, як, прабач, жуку ў дзярме корпацца, з дзярма жыць? Самому не агідна?

— Няпраўда, было і пра добрае ў мяне, — запярэчыў Зміцер, адчуўшы прыкрасць — горкая праўда ў словах чыноўніка была. — Пісаў я пра майстра-каваля…

— Чытаў, анягож. Толькі ты ў канцы лыжку дзёгцю дадаў, хіба не так? Ат, не будзем спрачацца, не для таго цябе паклікаў. Я думаю, ты зарабляеш няблага. Але ж і ў нашай раёнцы, мне прыносілі нядаўна дакументы, заробкі вельмі неблагія. А калектыў там, лічы, скрозь жаночы. Адзін мужчына-журналіст.

Ну, пагойсаеш ты яшчэ гадоў пяць, а далей? Якая ў цябе перспектыва? А тут бы рос паціху, дый спакайнейшая праца. Што скажаш?

Зміцер агаломшана маўчаў. Гэтага ён ніяк не чакаў. Але ж — нічога дзіўнага. Канешне, ім пад бокам цярпець журналіста незалежнай прэсы вельмі нязручна. А як прыбраць, як прымусіць замаўчаць?

— Не змагу я хваліць існуючы лад, самі ведаеце... — нарэшце адшукаў патрэбныя словы ў адказ.

— А хто цябе прымушае пісаць ухвальныя артыкулы? — шчыра, як падалося, здзівіўся Рагоза. — Ты пішы тое ж, што і цяпер, — але ж можна без вось гэтых абагульненняў аб вінаватасці ва ўсім дзяржаўнай сістэмы. Сам жа кажаш — людзі памыляюцца. Дык якая сістэма стане працаваць надзейна, калі з ненадзейных дэталей складаецца? Унікні ў любое пытанне: чалавечы фактар на дзевяноста працэнтаў. Карацей, каб цябе не затрымліваць: ты падумай. Судзіць ды караць цябе за твае погляды ніхто не збіраецца. Але падумай як след. Скажам, тры дні, напрыканцы тыдня патэлефануй, якое рашэнне прымеш. Ну і сам ты казаў: людзям уласціва памыляцца, і ты не ідэальны. А твае памылкі, сам разумееш, табе даражэй каштаваць будуць. Усё на гэтым, — закончыў суха, даючы зразумець: размова завершана.

— Неяк пагрозліва прагучала, — усміхнуўся Зміцер, устаючы.

— Ніякіх пагроз, сяброўскае, лічы, папярэджанне, — Рагоза паглядзеў знізу на журналіста, і ў позірку Зміцер прачытаў якраз адваротнае.

Ён ехаў да фермера, а з галавы не выходзілі апошнія словы намесніка старшыні. Сам ён ці думаў пра працу ў раёнцы? Думаў, чаго хаваць. І пра заробкі пытаўся, ёсць сябры ў раённай рэдакцыі. Амаль удвая

ніжэйшыя заробкі. Пры максімальным высільванні ён здольны атрымаць тыя славутыя пяцьсот даляраў. А цяпер атрымлівае восемсот, іншым месяцам і тысяча выходзіць. І цяпер жа на кватэру збіраць трэба! Ат, нічога яны яму не зробяць! Пужалі ўжо, ды не тыя часы. Ёсць закон, ён яго не парушае, і ім з рук не сыдзе, у выданні аб бяспецы сваіх журналістаў клапоцяцца. Як які штраф там ці іншае, дык кампенсуюць, адваката знойдуць. Ды галоўнае — хай паднімуць, а гэтым чыноўнікам нявыгадна свяціцца як душыцелям волі.

У фермера не пашанцавала. З раней прачытанага гаспадар уяўляўся чалавекам вольналюбівым, арыгінальным. На месцы Зміцер сустрэў чалавека, мякка кажучы, занадта арыгінальнага. Пачаў распытваць, то зразумеў, што палову аповеду гаваркога фермера ніяк ставіць нельга. Бо за няпоўныя дзесяць гадоў ён чым толькі не займаўся. І цыбулю перапрадаваў, і кавунамі гандляваў, і грыбы вырошчваў, і цяпліцы пад памідоры ставіў, і сад садзіў… Пры гэтым скарыстаў усе магчымыя дзяржаўныя падтрымкі, хоць казаў пра тое неахвотна, маўляў, што там за субсідыі, маленькія! Уздумаў адрадзіць сачыўку. І з такім запалам даводзіў Змітру карыснасць гэтага прадукту, нібыта ад таго залежала, даць новы крэдыт фермерскай гаспадарцы ці не…

Праехаліся па палях. Малады сад стаяў запушчаны. “Мясцовыя працаваць не хочуць, крадуць, усё крадуць!” — тлумачыў фермер, мужчына рослы і плячысты, з вялікімі рукамі і даўжэзнай чорнай барадой, мясістым і шырокім носам. Кавалак таго поля, якое захапіў калгас, цяпер каласаваўся ячменем. “Я поле пакінуў, адмыслова пакінуў, на тры гады — тады сачыўка добра расце без ніякіх угнаенняў! Я буду рабіць пастаўкі чыстай сачыўкі, каб ні кроплі хіміі — самая

карысная каб. Сачыўку трэба на дзяржаўны ўзровень выводзіць. А яны схапілі — маўляў, зямля гуляе! Адпачывала мая зямля!”

Настрой у Змітра быў паганы. Што тут пісаць? Сапраўды, занадта арыгінальны дзядзька…

На ўездзе ў горад пазваніла Галіна, жонка. Капрызліва паведаміла: у супермаркет не хадзіла, бо сяброўкі прыходзілі, а па-другое, чаму яна павінна цягаць прадукты? То абеду няма, і халадзільнік пусты. Зміцер раздражнёна кінуў, каб збіралася: прыедзе — і адразу паедуць у краму. Паклаў тэлефон, і кальнула думка: а яго ж пачала раздражняць жонка. Напачатку ён прыняў яе нелюбоў да зямлі, патлумачыў для сябе, змірыўся. Але ж каб толькі да зямлі… А да самога дома? Калі цяпер няма парадку ў хаце, з’явіцца аднекуль жаданне гаспадыняй быць у новай кватэры? З пачаткам лета, як пацяплела, сяброўкі штодзень у гасцях, больш незамужнія ці разведзёнкі і з півам ці сухім віном. На выхадныя гатуй ім шашлыкі, прыглядвай за сынам, бо Галіна не стрымлівала сябе надта ў такія вечары, выпівала адразу многа, хмялела. “Я тут адна днямі тырчу, дай расслабіцца!” Не запярэчыш. Два разы было: вяртаўся аднекуль, а сын у самоце корпаўся ў пясочніцы, тым часам Галіна драмала ў хаце. Праўда, падхоплівалася, апраўдвалася, быццам во толькі прылегла на хвілінку. Добра хоць плот новы паставіў летась, не ўцячэ малы на вуліцу.

Было недзе гадзіны дзве пасля полудня, сонца пякло неміласэрна. Толькі заглушыў рухавік ля свайго дома, паставіўшы машыну ў цень старога ясеня, як да варот падкаціў аўтамабіль, спыніўся мусова на санцапёку, выйшлі пяцёра: міліцыянт, пажарнік, тры жанчыны, апранутыя па-дзелавому строга, няйнакш чыноўніцы. Ёкнула ўсярэдзіне.

Адна з жанчына рушыла да яго, запыталася:

— Зміцер Карпека? Гэта ваш дом?

— Мой. Я. Нешта здарылася? — усхваляваўся Зміцер, адчуваючы, як сціскаюцца кулакі і мышцы ног і жывата — прыкмета страты раўнавагі, нацэльвання на бяздумны ярасны супраціў немаведама яшчэ чаму.

— Нічога пакуль не здарылася, — не супакоіла, а больш напружыла жанчына. — Гэта комплексная праверка камісіі райвыканкама ўмоў выхавання вашага сына, Карпекі Уладзіслава.

— Права не маеце! — закрычаў Зміцер, скочыў да веснічак. — Што за …тваю маць! Тут мая прыватная тэрыторыя, ніхто сюды не зойдзе!

Размова з намеснікам старшыні райвыканкама раптоўна выбухнула ў галаве, іскрынкамі ўспыхвалі ў памяці прачытаныя артыкулы аб падобных камісіях у дамах апазіцыянераў, іх наступствы, і над усім пякло полымем прызнанне жонкі: халадзільнік пусты, абед не згатаваны.

— Грамадзянін Карпека, афіцыйна вас папярэджваю: вы на вуліцы, значыць, у грамадскім месцы, лаяліся матам! — не строга, а ўшчувальна, больш за тое — бы з радасцю ўмяшаўся міліцыянт. — Згодна з законам аб ахове дзяцінства камісія мае поўнае права праверыць умовы жыцця дзіцяці. Зараз вы чыніце перашкоды для выканання службовымі асобамі іх абавязкаў. Такім чынам вы ўжо зарабілі два пратаколы. Для адміністрацыйнай справы. Не працягвайце, вам жа будзе лепш.

У гэты час пачуліся дробныя крокі і плаксіва-радаснае: “Та-та-та-та!” — то бег да Змітра маленькі Уладзік. Мурзаты, у адных трусіках, таксама завэдзганых. Крык Змітра пачула і жонка — яна выйшла з-за дома ў сваіх заўсёдных кароткіх шортах

і станіку ад купальніка, старога і цеснага для яе цяперашніх, распаўнелых пасля родаў і кармлення сына, грудзей.

Зміцер падхапіў сына на рукі, ступіў крок у двор, вызваляючы праход. Няхай. Пабачым.

— Ідзіце… Галіна, правядзі ў хату гэтую шоблу! — адвярнуўшыся спінай да камісіі, сказаў напаўголаса ён. Сам панёс сына да машыны, там адчыніў дзверы і дастаў пачак кукурузных палачак — сын любіў гэты ласунак. Потым панёс яго да альтанкі, сеў, трымаючы сына на каленях, гледзячы, як той бруднымі пальчыкамі дастае жоўценькія круцялі. У гэты час жанчыны і міліцыянт з пажарнікам услед за Галінай увайшлі, прыгнуўшы галовы, праз нізкія дзверы сенцаў у хатку.

“Кіну к чорту! Адны сяброўкі ды гулянкі наўме! — падумалася са злой рашучасцю. — Растропа сама, як быццам апрануць няма чаго! Шмаравоз чортаў, хаця б на двары падмяла, сын бы свінню ссаў… Толькі і ўмее бульбы насмажыць ды крамны расольнік са слоіка ў каструлю з кіпнем укінуць!” — бэсціў у думках жонку, уяўляючы, як зараз камісія ходзіць па доме, бачыць няўтульнасць і бардак, якія ён сам назіраў штодзень, бо прыбіралася Галіна зазвычай раз на тыдзень, маўляў, Уладзік усё адно расцягвае ды кідае ўсё на падлогу.

Яны прабылі там з чвэрць гадзіны, выйшлі, нарэшце, адна з жанчын трымала ў руках аркушы паперы. Прайшліся па двары, скіравалі да альтанкі. Моўчкі жанчына паклала перад ім спісаны аркуш.

— Мне падпісаць? — скрывіўся Зміцер.

— Пачытайце і распішыцеся, — суха, з асуджэннем у голасе амаль загадала яна і дадала: — Сорамна! Журналіст незалежнага выдання, атрымліваецца, каровы па фермах вас больш хвалююць, чым родны сын!

— Якая ваша справа… — працягнуў Зміцер, схопліваючы позіркам асобныя сказы: “адсутнічаюць прадукты харчавання ў халадзільніку… дзіцячага харчавання няма… дзіця бруднае… печ патрабуе рамонту… падлога ў дзірках, брудная…”

— Такая справа, што гэта не жывёла, а дзеці! — крыкнула на яго жанчына, і Зміцер зразумеў, што яе гнеў — сапраўдны, яна насамрэч абураная пабачаным. — Вас выклічуць на пасяджэнне камісіі ў райвыканкам. Ваша сям’я ставіцца на ўлік як тая, у якой дзеці знаходзяцца ў сацыяльна небяспечным становішчы. Калі пры чарговай праверцы будуць выяўлены недахопы, дзіця забяром у сацыяльны прытулак да выпраўлення вамі сітуацыі. Вам усё зразумела? — яна нечакана зірнула на Змітра — жанчына сталага веку з маршчыністым тварам, выцвілымі вуснамі, якія рэзка падалі куткамі ўніз — як маці: з трывогай, ушчуваннем і жалем.

— Зразумела, — адказаў ён, у адзін рух паставіў свой подпіс. — Я збіраўся… збіраўся во па прадукты, — вырвалася тлумачэнне.

— Добра, — адказала яна, забрала паперку, адышла, а замест яе ля Змітра паўстаў міліцыянт.

— Значыцца, так… Альбо я тут складаю два пратаколы, пра якія гаварыў, і вас забіраю з сабой у камеру папярэдняга затрымання, альбо вы добраахвотна сёння да канца рабочага дня, ёсць дзве гадзіны, прыходзіце да капітана Клімуша на прафілактычную гутарку.

— Якую такую гутарку? — амаль абыякава пацікавіўся Зміцер.

— Там даведаецеся.

— Добра, абяцаю. Толькі ў краму з’езджу.

— Глядзіце, пратакол напісаць мне ніколі не позна, сведкаў хопіць.

Яны пайшлі, малы сядзеў і, нібы нічога не адбылася на двары, хрумстаў кукурузныя палачкі. Падышла Галіна.

— З гэтай тваёй работай спакою не будзе, — скрывілася яна.

— Лахудра! — ірвануўся з грудзей Змітра злы крык, сын уздрыгнуў на каленях. — Ходзіш па двары, як табе апрануць няма чаго! У краму лянота выйсці, сын галодны, дзень бы ляжала ў тэлефоне! У хаце прыбяры!

— Ты рот не разяўляй! Я цябе не баюся!

— Забаішся!

— Ой, што ты зробіш?

— Выганю к чорту!

— Ды хоць сёння пайду! Абрыдла мне ў хляву жыць з гнілой падлогай! Гаспадар знайшоўся! Сам сына глядзі, бы сабака я на ланцугу, прывязаная, не выйсці нікуды! Людзі жывуць як людзі, а тут драўляныя ўслончыкі мінулага веку!

Твар Галіны скрывіўся, і Зміцер раптоўна пабачыў сваю жонку іншай. Так, лаянкі здараліся і раней, але такой грэблівасці і нянавісці на Галініным твары ён не бачыў ніколі, і ніколі яна не была такой агіднай і брыдкай для яго.

— От ты ў яе лепш папытайся, з кім яна начуе, як ты па сваіх мінсках ездзіш!

Голас, рэзкі і віскілвы, прагучаў ад плота, яны абое ўздрыгнулі і азірнуліся — старая Сёміха шчэрыла сухі бяззубы рот праз штыкецціны.

— Заткніся, сучка старая! — прасіпела Галіна. — Гаўкаеш!

— Каб табе заткнула ўсе дзіркі, курва нямытая! — панесла звыкла Сёміха. — Каб ты на дзіця сваё гаўкала! Каб мне зямлі не бачыць, як я брашу! Два дні таму прыходзіў, бачыла! І калі пайшоў пад раніцу,

бачыла! Я ўсё бачу, не бойся! І цябе выгароджваць не буду, блядаўку гэткую.

Зміцер заскрыгатаў зубамі, зірнуў на жонку. Яна глядзела некуды ўбок.

— Як гэта разумець? — выціснуў ён з сябе.

— Пайшоў ты на… — млява прамовіла Галіна. — Так і разумей.

Зміцер падхапіў малога на рукі, пайшоў у дом. Там памыў яму тварык, рукі і ногі, знайшоў у шкапіку чыстую вопратку. Пабачыў сваё жытло нібыта чужымі вачыма. Стала яшчэ больш балюча.

Купляў у супермаркеце прадукты, калі нешта прасіў Уладзік — браў без разбору. Ні пра што не думаў. Як паводзіць сябе далей, што рабіць, як размаўляць з жонкай — не ведаў.

Вярнуўшыся, Галіны дома не застаў, дзверы былі замкнёныя. Выгрузіў прадукты, зноў пасадзіў Уладзіка ў машыну і паехаў у міліцыю. Капітана Клімуша ён знаў — неяк разы з два браў каментарый па гучных справах. Зайшоў з сынам, патлумачыў адразу: не было з кім пакінуць.

— Ты ведаеш галоўны воўчы закон? — пасля запрашэння прысесці пачаў амаль па-сяброўску стомлена Клімуш.

— Воўка ногі кормяць, — паспрабаваў усміхнуцца Зміцер, згадаўшы пра свой ранішні адказ у кабінеце Рагозы, і да таго, што склалася раней, дадаўся яшчэ адзін козыр з райкамаўскай калоды.

— Не, памыляешся… Галоўны воўчы закон: не красці там, дзе жывеш. Разумееш? Жыве ля якой вёскі воўк, то ніколі блізка ля яе ні цяля, ні сабаку не пацягне. І чалавеку трэба так жыць: не паскудзіць там, дзе жывеш, не трахаць баб з таго калектыву, у якім працуеш. Цяміш?

— Я не паскуджу…

— І трэцяе, — капітан быццам не пачуў Змітра. — Трэцяе: з суседзямі трэба жыць мірна. Што ты старой такое зрабіў, каб яна на цябе дзве заявы нам напісала і на прыём да намесніка старшыні аблвыканкама пайшла? Але твае справы, ты разбірайся. Не маленькі хлопчык. Цябе сюды гукнулі для чаго: ты цяпер пад самай пільнай увагай. Сачыць за табой ніхто не будзе, правакаваць, можаш паверыць на слова, таксама. Але глядзі. З майго досведу скажу галоўнае: нехта заўсёды спатыкаецца. І ты спатыкнешся. Тады ўжо не крыўдуй. Ясна? Папярэджваем па-добраму.

На самым ганку Змітру, які трымаў на руках сына, дзверы прытрымаў мужчына. Ён падаўся знаёмым, Зміцер зірнуў у ягоны твар і здзіўлена ўскрыкнуў:

— Віктар? Прывітанне! А вы тут па якой справе? А, з аўтамабілем?

— Не, я тут суткі даседжваў, — ціха адказаў Віктар, працягнуў руку павітацца. Яму зараз менш за ўсё хацелася пабачыць некага са знаёмых, а вось сустрэча з журналістам, які нядаўна так горача ўспрыняў ягоную драму, не была цяжарам, таму і паводзіўся досыць добразычліва.

— Якія суткі? — вылупіў вочы Зміцер. — Калі вы паспелі?

— Ды паспеў, якраз у той дзень, калі разбілася Тоня. Зараз… водпуск давалі на пахаванне, даседжваў, — з сарказмам патлумачыў Віктар.

— Але за што?

— Праўду шукаў…

— Ясна. А ведаеце, паехалі да мяне, возьмем піва, пасядзім. У мяне альтанка ў садзе, там утульна. Мне, па шчырасці, напіцца надта хочацца, але ж сын на руках, ды і не хачу піць адзін.

Віктар ціскануў плячыма: чаму б і не? Яго дакладна ніхто не чакае. Хіба ванны пакой, але ў садзе сядзець — можна пацярпець. Ён сеў на пярэдняе сядзенне, прышпіліўся і з ветлівасці спытаўся:

— Непрыемнасці?

— Ды не сказаць, каб яны, — кісла ўсміхнуўся Зміцер. — Я мяркую — паварот. У лёсе паварот. Ніяк не чакаў, на пустым месцы. Але ж лепей раней, — і не стаў цягнуць з таямніцай, дадаў ціха, без інтанацыі, мо і дзеля таго, каб паказаць, што і сам гатовы дзяліцца сваёй бядой, і бяда тая не толькі ў яго, Віктара, нарабілася: — Жонка мусіла прызнацца: блядуе, пакуль я па камандзіроўках.

У супермаркеце, калі бралі піва, пімкнуў тэлефон — прыйшла эсэмэска. "Твой сын — ты і гадуй. Я паехала". Нечакана стала лягчэй: добра, як за адным звяном ланцужка ідзе такі ж лагічны, у працяг. Няважна, якая сцяна расце, галоўнае, каб пэўная, моцная.

У доме, куды забег узяць дзіцячае харчаванне для сына, кінулася ў вочы расчыненая шафа і пустыя вешалкі. І стала лягчэй. Цяпер — кропка.

— У сямейным жыцці сварак хапае, — першым парушыў маўчанне за півам у альтанцы Віктар. Ён асцярожна наталяўся асалодай вольнага вечара і прасторы вакол іх.

— Гэта не сварка, а чысты разбег у розныя бакі, — лёгка выдыхнуў Зміцер. — Яна і рэчы паспела сабраць. Але я папраўдзе не пакутую. Лепш вы раскажыце: за што сядзелі?

Віктар расказваў нетаропка — пра сябе, пра ўчастковага, пра суд. Не заўважыў, як пачаў апавядаць нібыта для сябе, выскрабаючы з памяці кожнае слова, кожную драбніцу. Зміцер не перабіваў, слухаў, хоць

яму не раз карцела перапыніць суразмоўцу воклічам абурэння ці мацюком. Калі Віктар замаўчаў, Зміцер задумліва прагаварыў:

— Вы казалі, ваша Тоня вельмі добра вадзіць умела. Дык вось… Я ўпэўнены, яна збіла лася таму, што ў гэты час імкнулася дазваніцца да вас. Вы не адказалі. Канешне, яна перазвоньвала і перазвоньвала. І калі б вас не асудзілі на суткі, яна была б жывая. І лекі б давезла ў час. Праклятая сістэма, пачварныя, нікчэмныя людзі…

Віктар прамаўчаў на гэта, прыкурыў цыгарэту, кіўнуў, калі Зміцер запытальна паднёс бутэльку да ягонай шклянкі. Выпіў.

— Я пайду.

Моўчкі развіталіся.

Зміцер глядзеў, як на арэлях (ён зрабіў шырокую лаўку са спінкай, каб і жонка магла гайдацца разам з сынам) гушкаецца ціхенька сын. "З бядой трэба пераспаць", — згадаліся словы маці. То дакладна: сёння ні над чым раздумваць не варта. Хопіць, што вызначылася адно: збегла жонка. Значыць, і другое рашэнне знойдзецца. Зашапацела за спінай лісце, ён азірнуўся: Сёміха стаяла, ушчаперыўшыся рукамі за зялёныя дошкі плота.

— Прыязджаў за ёй, той самы, каторы і начаваў. На чырвонай машыне. Два чамаданы разам вынеслі і паперлі. Ты правер там, мо выграбла курва ўсё з хаты…

— Пабачу, баба Ліда, — абыякава адмахнуўся Зміцер.

Яшчэ адно звяно выслізнула з небыцця і стала часткай рэальнага ланцуга.

Сын заснуў. Зміцер схадзіў у хату, прынёс лёгкую коўдрачку і накрыў малога. Доўга сядзеў, дапіваў піва. Ажыў тэлефон, глянуў: нумар быў незнаёмы. Яму

часта тэлефанавалі розныя людзі, ягоны тэлефон праз рэдакцыю даведваліся многія.

— Здароў, Міцька!

Зміцер уздрыгнуў ад нечаканасці — Віка.

— Прывітанне, Віка.

— Пазнаў?

— Чаму не? Пазнаў, канешне, тым больш нядаўна ж гутарылі. Дарэчы, дзякуй табе за адну падказку, ты мяне на такую тэму навяла...

— О, калі я заслужыла падзяку, дык ты на мяне не злуешся? Мне можна смела прасіць прабачэння і разлічваць на ягонае атрыманне? — наўмысля зухавата выгаварыла Віка.

— За што прабачэнне? — шчыра здзівіўся Зміцер.

— Дык… я ж цябе аблаяла пры ўсіх на канферэнцыі феміністцкай, забыўся?

— А, ты пра тое? Дый выйшаў тады і забыўся, — усміхнуўся Зміцер. — Ты так непакоілася ўвесь гэты час, вырашыла аблегчыць сваю душу?

— Ага! Да бацькоў во заехала, трэба адпачыць ад сваёй кіпучай дзейнасці, успомнілася нешта…

— Вой, ты дома? І якія планы на вечар?

— Ніякіх. Ляжаць у адзіноце і глядзець у столь. Мне збрыдлі людзі.

— А наконт сексу?

— Пад'юджваеш? А казаў жа: забыўся, — пасля кароткай паўзы з лёгкім упікам адказала Віка.

— Ды ніколечкі! — зухавата адказаў Зміцер. — Я ад сёння — вольны мужчына на ўсе сто. Жонка збегла. Ты мела рацыю, між іншым: сямейнае шчасце трэскаецца ў адзін момант без усялякіх спадзеваў на склейванне. Таму не будзем драбніць: які секс на адзін вечар — прыходзь у жонкі! Дарэчы, табе нават не давядзецца хадзіць цяжарнай, нараджаць і кеш-

кацца з сярлівым дзіцём: у мяне ёсць сын, сам на гаршчок ходзіць, а я кашы варыць умею. То адразу і маці, і гаспадыня ў старую хатку. Шыкоўная перспектыва, згадзіся?

— Ты не п'яны там? — нечакана ціха спытала Віка.

— Не пакуль, мы тут адну паўтарачку з маім сябрам выпілі, яшчэ адна засталася. Во, у дадатак да ўсіх прапаноў яшчэ і піва сёння! Дарэчы, смачнае. Ну, нашто табе тая столь? Седзячы ў зацішным двары ў маёй альтанцы, можна дзівіцца ў неба!

— Дурань ты, Міцька… Кажы адрас, сексуальны гігант.

## ФРАГМЕНТ 37

### Віктар, Ганечка

Віктар ужо сабраўся, ды сусед спыніў: да сарака дзён не трэба рабіць каля магілы лаўку і столік. Таму і ў гэты раз Віктар апусціўся на калені ля магілы жонкі, прысеў, дастаў з сумкі зялёна-жоўты яблык, паклаў ля крыжа. Выцягнуў бутэльку гарэлкі.

Добрых навін ад доктара ён не пачуў. "Стан пакуль цяжкі, значнага паляпшэння чакаць доўга. Фізічна арганізм ачуняў, пакрысе абуджаюцца пярвічныя рэфлексы…" Віктар падышоў да ложка. І цяпер не пазнаў сына: зарослы чорнай шчэццю твар, чорныя кругі пад заплюшчанымі запалымі вачыма. Камяк падступіў да горла, забухала ў скронях пытанне: "За што? За што?" Хоць да каго пытанне, каму было задаваць такое? Не гэтай жа доктарцы, не крычаць у сіняе, вольнае ад аблачынак неба?

Адкруціў каўпачок з тэрмаса, пасля накрыўку з бутэлькі, лінуў адтуль у каўпачок гарэлкі. Выпіў, гледзячы на верх крыжа, на таблічку з надпісам: "Анішчук

Антаніна Сцяпанаўна". Не, ён не звяртаўся да Антаніны ў думках. Проста сядзеў, жаваў кавалак каўбасы, які закінуў у рот, не абдзёршы скурку, кусаў хлеб. Выпіў другі раз, гэтак жа бяздумна, без аніякага душэўнага ўзрушэння. Быццам выконваў нейкі абавязковы рытуал, сэнсу якога не разумеў і не хацеў разумець, але ведаў: і ў час гэтага рытуалу, і тым больш пасля яго ў душы адчуецца такая забытая ўжо запоўненасць і завершанасць пражытага дня, усталюецца правільнасць і паслядоўнасць ягоных дзеяў. І тады ён выпусціць на волю думкі, якія бомкаюцца зараз у галаве, бы чмялі ў аконнае шкло. Бо знікне ягоная заўсёдная гатоўнасць прыняць абставіны, як ёсць, прытупіцца жаданне ў чарговы раз прыцярпецца і супакоіць сябе выратавальным "А што тут можна змяніць?". Алкаголь, бы рашпіль з жалезіны, прыбярэ з душы гэтыя задзірыны. Па гладкім шляху выкаціцца на волю і пачне лёгка слізгаць ужо не хаценне, а абавязак ставіць пытанні, шукаць адказы. Лёгкая, бы першы вечаровы туман, сп'янеласць прымусіць розум працаваць матэматычна-лагічна, без аніякай філасофіі вышукваць дакладныя сувязі, знаходзіць прычыны. Не, ён пасля таго, як пабудуецца ў галаве прычынна-выніковы ланцужок падзей апошніх дзён, не пабяжыць нешта рабіць і некага шукаць. Не. Тое ён будзе рабіць на цвярозую галаву. А зразумець усё — менавіта цяпер, пакуль загнана глыбока ўнутр ягоная нерашучасць і бачыцца звыклая талерантнасць самай заганнай мужчынскай якасцю.

Шчоўкнуў затычкай, нацурчыў у тэрмасавы каўпачок гарачай кавы, удыхнуў водар, піў невялічкімі глыткамі.

Учора Віктар вяртаўся дадому, захоплены мэтай, якая нарэшце акрэслілася і надала сэнс ягоным кро-

кам: ён павінен даведацца надзвычай важную рэч. На парозе кватэры стрымаў сябе, прымусіў напачатку скінуць насычаную сваім потам вопратку і бялізну, залезці ў ванну, памыцца і пераапрануцца. І потым ужо ён забраў са століка ў вялікім пакоі тэлефон Антаніны, адшукаў зарадны блок, падключыў. На патрэсканым экране з'явілася выява — тэлефон пачаў падзараджацца, усярэдзіне ёкнула ад першай удачы. Зварыў кавы, дастаў папяльнічку і цыгарэты.

Надышла ўжо ноч, праз расчыненае акно несла свежасцю. Віктар націснуў на кнопку ўключэння тэлефона, чамусьці перакананы: той аджыве. Пакуль тэлефон загружаўся, прынёс купку дакументаў, знайшоў пратакол з месца здарэння. Час сутыкнення аўтамабіля Антаніны з ласём быў зафіксаваны дакладна — на аўто, якое рухалася насустрач, запіс вёў відэарэгістратар.

Нарэшце тэлефон уключыўся. У спісе званкоў некалькі яму, Віктару. І вось апошні набраны — Вадзім Клімуш. Яе вучань. Сын таго міліцыянта. Яна прадчувала. Час, у які Антаніна зрабіла апошні выклік, супадаў з часам з пратакола ДТЗ.

Значыць, журналіст Зміцер Карпека мае рацыю: калі б ён, Віктар, адказаў, Антаніна засталася жывой. Калі б не ўпаў ягоны тэлефон. Калі б яго не асудзілі на пяць сутак арышту. Калі б участковы міліцыянт не хлусіў наконт сваіх пагонаў. Калі б не хлусіў галоўны доктар пра нібыта мацюкі Віктара. Калі б тая маладая доктарка хоць крышачку ўважлівей аднеслася да Максіма. Калі б ваенкам не замяніў аднаго прызыўніка іх сынам, атрымаўшы хабар.

Яны выстройваліся нібыта асобнымі домікамі ў свядомасці Віктара — згаданыя ім людзі. І ад кожнага доміка бегла моцная і прамая лінія — сувязь.

Прычынна-выніковая сувязь. Ваенкам. Доктар і галоўурач. Участковы. Суддзя. Застанься хоць нехта з іх дарэшты сумленным чалавекам у дачыненні да яго ці ягонага сына, то нічога б не здарылася. Іх сусвет — ягоны, Антаніны і іх сына — існаваў бы і сёння, і заўтра. Існавала б шчасце.

У глыбіні свядомасці квола варушылася прыкрасць, Віктар не стаў хаваць яе — хай, ён сам сабе задае пытанне: а хіба ты не вінаваты? Не пайшоў бы ў райвыканкам, у бальніцу — дык жа нічога б і не нарабілася з Антанінай! Магчыма. Не пайшоў бы, праглынуў чарговую знявагу і бесчалавечнасць у адносінах да свайго сына, дык кім бы ён сябе лічыў зараз? Каму ж яшчэ, як не бацьку, бараніць дзіцёнка перад гэтай бяздушнай сістэмай?

Сістэма… Яна распадаецца на маленькіх і шэрых людзей, такіх жа слабых, як ты сам, такіх жа безабаронных. Так казаў сусед Антон. Ён рассыпаў цукар па стале, давіў цукрынкі пазногцем у пыл.

А няма ніякай сістэмы без асобных людзей. Яны, людзі, ствараюць яе, ладкуюцца, прынюхваюцца адзін да аднаго, мецячы свае месцы і сябе асаблівым пахам пазнавальнасці для саўдзельнікаў. Яны мацуюцца і бачаць урэшце сваю абароненасць створанай сістэмы, таму дазваляюць сабе хто большае, хто меншае зло ў адносінах да такіх, як Віктар, ягоныя сын і жонка — да ўсіх, хто не ў сістэме. І ў большасці сваёй робяць так не па пільнай патрэбе, пэўныя паводзіны дыктуе сама сістэма, яна вымагае час ад часу сведчанняў вернасці сабе менавіта вось такім грэбаваннем, абыякавасцю і жорсткасцю да ўсіх іншых, хто па-за замкнёным колам.

Не, сістэма ніколі не бывае вінаватай. У яе адзіна могуць здарацца "дробныя памылкі", бо ж "лес ся-

куць — трэскі ляцяць". Вінаватасць і адказнасць — уласцівасць асобы. Асобнага чалавека. Канешне ж, сістэма будзе не проста бараніць сваіх — яна ў першую чаргу стане бараніцца ад цябе, бо пабачыць у тваёй скарзе небяспеку для свайго існавання. І няважна, што ты ёй прад'явіш, і няважна, якая віна ў таго, на каго ты скардзішся. Для сістэмы сам факт прад'яўлення да яе нейкіх патрабаванняў ці ўпіканне ў незаконнасці — гэта абвяшчэнне ёй вайны. І тады на цябе абрушыцца ўся яе прыхаваная моц. Усяго паспрабаваў выказаць сваю крыўду за сына, даведацца праўду аб прыёме ў доктаркі — і быў арыштаваны, стаў злачынцам.

Не бывае агульнай віны. Віна ўскладзеная на кожнага паасобку за словы, учынкі, бяздзеянне. І яны павінны несці пакаранне. Кожны і паасобку. Каб кожны і паасобку дапяў: так рабіць было нельга. Так рабіць і наперад нельга — бо з'явіцца тады нехта іншы і зноў пакарае. Не тваім судом — судом сістэмы, а сваім, чалавечым. Справядлівым. Як Бог пераказаў Маісею: "Вока за вока і зуб за зуб".

Віктар не задумваўся цяпер над тым, якім чынам ён запатрабуе адказу ад віноўнікаў. Можа, як той бомж, з якім давялося бавіць час у камеры, ён спаліць іхнія хаты ці аўтамабілі або прыдумае нешта страшней. У чалавека шмат таго, што, аднятае, пачынае нясцерпна балець. Віктар, інжынер-праекціроўшчык, ведаў дасканала іншае: гаспадар, які насамрэч вырашыў будаваць дом, не пачынае з пераліку яўных і ўяўных праблем, якія чакаюць неўзабаве. Не, ён пачынае з выбару ўчастка, робіць прывязку да мясцовасці будучага жытла, заказвае план. Затым па плане капае дзень з дня катлаван пад фундамент. Купляе цэмент і жвір, пазычае ў суседа, які ўжо ладуе на сваім

доме дах, бетонамяшалку. І пачынае шчыраваць усё лета. А наступнай вясной, ледзь прагрэецца зямля, ён упэўніцца: фундамент нідзе не прасеў, не патрэскаўся, — і возьме ў рукі газету з аб'явамі, патэлефануе многа разоў і ўрэшце адшукае пастаўшчыка дэмблерных блокаў, на якія ашчаджаў грошы ўсю зіму. І пачне класці цокаль.

І не іначай: браць маленькі кавалачак ад вялікай задачы, вырашаць яго, абдумаць наступны ход, зрабіць, прысесці адпачыць, зрабіць трэці крок. Азірнуцца, упэўніцца: ідзеш правільна, перарабляць не давядзецца. І, зазіраючы наперад, бачыць не грувасткую звышзадачу і не стагнаць ад усведамлення яе складанасці, а невялікую — адно на сёння — справу, прадчуваць прыемную стому пасля яе завяршэння, смак добрага піва, якога глынеш, акідваючы позіркам зробленае.

Дакладна так, думаў Віктар, выбудоўваючы сваю схему прычын і наступстваў, ставячы кропкі-маркеры на тых, хто меў непасрэднае дачыненне да хваробы сына і смерці жонкі.

Узяў бутэльку, наліў крыху ў пусты ўжо каўпачок.

Быў надвячорак, ціха, сонечна і цёпла. Па драўляным крыжы пачала хуценька бегчы багоўка. Мінула першае "перакрыжаванне", бегла, бегла роўненька, бы чырвоная кропля кацілася супроць законаў прыроды не ўніз, а ўверх. Ускараскалася на таблічку, звярнула ўправа, дакацілася да краёчку таблічкі, вярнулася, тыцнулася ўлева, зноў управа, нарэшце пабегла вышэй…

Віктар назіраў за багоўкай, міжволі шкадуючы яе: "Дурненькая, куды б ты ні павярнула, там знойдзеш канец тваёй дарогі. Ці кароткім выпадзе шлях, ці даў-

жэй, а закончыцца адным. Вяртайся назад ці ўзлятай…” Багоўка бяжыць і бяжыць па гладкай ад свежага лаку паверхні крыжа, ёй не відаць канца яе шляху. А Віктару відаць.

А ён жа сам крочыць штодня ад раніцы да вечара, недзе зварочвае, недзе сцішвае крок, недзе подбегам, а… не бачыць, куды прывядзе дарога. Тацяначка казала: лёс наш — гадзіннік, мы выбіраем, на якую лічбу перайсці са стрэлкі, і толькі Бог ведае, што за гэтай лічбай. Ды не, не на цыферблаце мы. А хутчэй вось на такім крыжы, у якога бясконца многа перакрыжаванняў, а тыя перакрыжаванні зноў крыжуюцца. Крыж — як дрэва, дзе ад кожнай галіны свае галінкі, ад тых галінак яшчэ дзясяткі. І па якой паўзці багоўцы? На якім скрыжаванні і куды табе павярнуць, каб выпаўзці да свету і цвету?

Чаму такі лёс напаткаў, дзе ж ён, Віктар, не туды збочыў? Дзе памылкова паспяшаўся і прабег патрэбнае адгалінаванне? Ён жыў як набяжыць, не кідаўся ў рызыку і больш не сам ішоў, а плынь несла. І вынесла. Нехта, а сёння ён ведае хто, заштурхаў яго з чыстай плыні ў багну. І цяпер нельга, як раней, пакласціся на волю хваль і цячэння, цяпер — караскайся, боўтайся. Табе ўсё адно ўжо гніць у гэтым балоце, дык хоць годна дажыві: расквітайся за знявечаны лёс сям'і, адпомсці за смерць любай, адплаці за хваробу сына…

Віктар узрушыўся ад сваіх думак, забыўся і на каўпачок з гарэлкай у руцэ. Ззаду пачулася шорганне ног у траве. Гэта было нечакана, бо на могілках гэтай часінай дня зазвычай бязлюдна, дый магіла Антаніны была блізка да агароджы, спінай да якой і сядзеў Віктар. Ён азірнуўся: жанчына, апранутая ў сукенку і пінжак, відавочна з чужых плячэй, але

чыстыя, сярэдняга росту, худая, валасы падстрыжаныя, твар моцна загарэлы, маршчыністы, з пячаткай безвыходнасці, якую разумееш адразу. Гадоў ля шасцідзесяці, мяркуючы па запалых вачах і тонкіх парэпаных вуснах.

Віктар скасіў вочы на сваю пляшку — яна ж толькі пачатая, іншага шклянога посуду не было.

— Не дасі бутэлькі? — ціха спытала жанчына, і Віктар здзівіўся з яе чыстага, спакойнага голасу.

— Не, прабачце…

— Можа, пачастуеш? — жанчына глядзела на Віктараву руку, у якой ён трымаў нявыпітае.

— Канешне, магу пачаставаць, — неспадзявана для сябе прапанаваў ён, адчуваючы нешта кшталту віны перад жанчынай, імгненнем пазней сцяміўшы: няма іншай чаркі, яна вып’е з пластыкавай тэрмасавай накрыўкі, з якой мусіць піць пазней ён сам.

— Як не шкада, — жанчына прысела, выцягнуўшы ногі, у руках яе Віктар заўважыў невялікі пакет. Здаецца, там знаходзілася адна пустая бутэлька. Жанчына зашалясцела ў пакеце, дастала і дзьмухнула ў шкляны стограмовік.

— Са сваім хадзіць трэба такім, як я, — паспрабавала яна ўсміхнуцца.

Віктар набулькаў ёй палову, жанчына павяла позіркам на крыж:

— Дай, Божа, табе, Тонечка, супакою на тым свеце!

Віктар уздрыгнуў — яму падалося, жанчына ведала ягоную жонку, пасля пасміхнуўся ў думках — на таблічцы ж напісаны імя і прозвішча. Але ж з такой інтанацыяй прамаўляла… Хіба, магчыма, навучылася за доўгі час бадзяння тут. Ён падсунуў бліжэй да жанчыны парэзаныя каўбасу, хлеб, агурок у мяшэчках, стаў яшчэ падразаць кавалкі.

— Ежце…

— Дзякую вельмі…

Але да ежы не спяшалася цягнуцца, пакруціла галавой па баках і гукнула:

— Ганечка! Ганька! Хадзі сюды!

“От такой кампаніі мне і не хапала”, — без асаблівай прыкрасці падумаў Віктар, змірыўшыся з тым, што парушылі ягоную самоту і колькі хвілін ён мусіць правесці ў кампаніі могільнікавых бадзяг.

Але, на здзіўленне, з-за нейкага помніка паказалася дзяўчынка гадоў сямі-васьмі, у не па росце доўгай сукенцы, босая, з растрапанымі светлымі валасамі, са жмутом скрыпеню. Кветкі мелі насычаны, густы ліловы колер. Дзяўчынка падыходзіла, і нешта ў яе выглядзе насцярожыла Віктара: усмешка, быццам чужая, распаўзалася па яе трохі мурзатым пляскатым тварыку, які здаваўся завялікім для яе росту, з маленькім носам.

— Ганечка, унучачка, паеш смачнага, — з непадробнай ласкавасцю ў голасе гукнула ў другі раз жанчына.

Дзяўчынка быццам не чула яе, ва ўсякім разе ніяк не зрэагавала на голас, хоць ішла да іх. Прайшла міма — спынілася ля крыжа Антанінавай магілы.

— Цётачка Тоня радасная! — нягучна, але ўпэўнена, нават безапеляцыйна сказала яна, азірнулася на Віктара і загадала: — Кветкі пакладзі, — яна цягнула свой букет да таблічкі.

Віктар адчуў дрыготкасць унутры. Спачатку жанчына, зараз дзяўчынка… Адкуль яны ведаюць Тоню? Хто такія? Паслухаўся, падхапіўся, узяў кветкі з дзяўчынкавых рук, заўважыўшы, якія яны невялікія. Тварык завялікі і пляскаты, рукі замаленькія… І раптам апякло здагадкай: яна ж хворая, псіхічна хворая.

Кветкі былі замацаваны за таблічкай, дзяўчынка сама падышла і ўзяла ў адну руку кавалачак каўбасы, у другую хлеб, адышлася, села на замошчаную чорным каменем магілу ў суседнім радзе.

— Іх тут няма нікога, ім не баліць! — крыкнула яна да Віктара.

Жанчына, думаючы, што Віктар не зразумеў гэтага крыку, патлумачыла:

— То ж яе людзі сарамацяць іншым разам: нельга на магілку садзіцца. Дык от яна ўсім і кажа: няма там нікога, адныя косткі. На небе душа, не баліць нікому.

— А… мая Антаніна? — раптам хрыпата спытаў Віктар.

Жанчына прамаўчала, паглядзела да малую. Тая пражавала, схіліла галаву набок:

— Цётачка Тоня тут! Яна радасная!

— Адкуль… Адкуль вы ведаеце маю Антаніну?

— Ды я не ведаю… То ж Ганечка, як новы крыж, вядзе мяне, каб я імёны ёй чытала. І запамінае вось. Не ўсіх, некаторых. І вашу запомніла. Яна дзіўная. Збяжыць ад мяне і да цёмнага па клодаўі блукае. Добра, як цёпла… А дабаў яшчэ ў чарачку!

Віктар наліў. Жанчына піла на гэты раз павольна, маленькімі глыточкамі, узяла адно кавалак хлеба і працягнула:

— Матка яе кінула, дачка мая. Паехала ў Германію. Кажа, выйду там замуж, а тады забяру, тамака такіх дзяцей любяць. То мы пакуль з ёй. А ў мяне пенсія ніякая, згубілі недзе дакументы ў Расіі, я там у геолагаў працавала, дык от і капейкі. Ганечка добрая, няшкодная, толькі людзей пужае іншы раз. Падыдзе ды скажа якое…

— А чаго баяцца, дзіця ж гаворыць?

— Дык баяцца, бо праўду кажа. Тую, якая прыйдзе.

— Прыйдзе?

— Ну так, ведае нешта яна. Каму добрае гавора, а каму… Па вясне летась тут хавалі дзядка старога, нейкага ж надта паважанага, нямала выпілі на другі і трэці дзень, хапіла мне бутэлек, як панесці. Як крыж паставілі, я за Ганечкай не ўгледзела, а яна залезла на магілку свежанасыпаную і крычыць: рыхтуйце месца, тут трое ляжа! То і праўда — траіх з тае сям'і меней за год і пахавалі побач.

— А чаму кажа, быццам Антаніна тут, а іншых — няма? — асцярожна спытаўся Віктар.

— А я і не ведаю, яна ж не расказвае. Можа, яны ёй самі кажуць…

— Самі кажуць! — пацвердзіла са свайго месца дзяўчынка, устала і падышла, доўга выбірала вачыма, які кавалачак узяць, так і не выбрала, знізу зірнула на Віктара, сказала з дакорам: — Ты абяцаў і не зрабіў!

— Што абяцаў? — у Віктара неспадзявана перасохла ў роце.

— Што не зрабіў! У цётачкі Тоні рука голая!

Сэрца падскочыла недзе да горла — Віктар імгнення згадаў: за колькі дзён да гэтых страшных падзей, калі яшчэ ўсё цяплілася нармальна, ён па просьбе Антаніны ўзяў яе залаты ланцужок, невялічкі, які на руцэ носяць. Там сапсаваўся замок. У той дзень ювелірная майстэрня побач з ягонай канторай аказалася зачыненая, а потым неяк і вылецела з галавы. І ланцужок ляжыць у шуфлядзе стала па сёння.

Ён падхапіўся ўзрушаны, абтрос штаны.

— Вы гэта, забірайце ўсё, — сказаў ён жанчыне пра ежу, схамянуўся: — Во, на трэцюю трошкі…

— Стой! — зноў гэтак жа ўладна, як і з кветкамі, гукнула раптам дзяўчынка.

Яна падышла да высокай яшчэ магілы, засунула рукі ў пясок, набрала яго ў прыгаршчы і падышла да Віктара.

— Бяры! Давай кішэню!

Віктар разгублена азірнуўся на жанчыну, а твар яе быў не ў меншай збянтэжанасці.

— Бярыце… паслухайце яе.

— Навошта мне? — выціснуў з сябе Віктар, а рука сама адтапырыла ў пінжаку кішэню, ён прысеў, падстаўляючы яе дзіцячым ручкам.

— Табе трэба! Ты ж пойдзеш да тых, хто цётачку Тоню забіў? Пойдзеш! Ты ўсім дасі з кішэні. Тады будзе добра. І прынясі ёй на руку!

Да самага горада пясок у кішэні падаваўся Віктару нясцерпна гарачым. А потым нечакана прыйшоў спакой. Што мы ведаем пра свае скрыжаванні? Пра тое, як паступаць з людзьмі, якіх сустракаем там?

Які сэнс шукаць адказ на пытанне: адкуль дзяўчынка ведае пра нявыкананую просьбу жонкі? Хіба гэта важней за тое, што яна проста ведае? І навошта ведаць, чаму ён павінен прынесці кожнаму з іх пясок, калі важна — прынесці.

Позна вечарам патэлефанаваў Зміцер, журналіст. Павітаўся.

— Вы мне даруйце, Віктар… Я не змагу нічога напісаць так, як планаваў. На мяне націснулі, і націснулі моцна. Адкуль ніяк не чакаў. Цяпер я зусім іншы карэспандэнт, у іншай структуры. Што мог зрабіць для вас — зрабіў. У сацыяльнай сетцы ёсць вялікая гарадская групоўка. Я выклаў туды вашу гісторыю, праўда, пад несапраўдным імем. Гэтага не мог напісаць, але вам дакладна магу сказаць: ваенкам Тарасенкаў атрымаў хабар ад галоўнага інжынера лясгаса. За дзень да выкліку ўсіх прызыўнікоў у ваенкамат галоўны інжы-

нер прыязджаў на дачу ваенкама. І праз дзве гадзіны туды з лясгаса прыперлі машыну матэрыялу. Рабочаму, які павінен быў ісці, далі адтэрміноўку.

— Я ведаў пра гэта… амаль ведаў, — адказаў Віктар. — Дзякуй за ўдакладненне. А пісаць… Пісаннем тут не дапаможаш.

— Ды я разумею, але ўсё ж трэба, каб людзі ведалі. Няхай самі думаюць, хто вінаваты. Там толькі факты, храналагічна пададзеныя. Няхай думаюць. Дарэчы, ваенкам з сям'ёй, падобна, з'ехаў у адпачынак. Ці толькі сям'ю адправіў.

— А дзе жыве ўчастковы Манько?

— У інтэрнаце-маласямейцы. На чацвёртым паверсе, пакой акурат насупраць лесвічнага праёма.

— Дзякуй.

Віктар вагаўся нейкі момант, але адмахнуўся ўрэшце ад жадання пачытаць пра сябе ў сеціве. Які сэнс? Болей за яго ніхто цяпер не ведае.

## ФРАГМЕНТ 38

## Галубы, Рая Мялік

— А з чым піражкі?

— З мясам! Чаму пытаешся?

— Халера… У тым годзе так атруціўся, двое сутак на ўнітазе прасядзеў. Якую яны гадасць туды кладуць, ад аднаго паху верне.

— Ды свежыя! Тым больш во — для прафілактыкі страўніка зараз сотачку. Табе ў шклянцы развесці ці зап'еш?

— Хто спірт у шклянцы разводзіць? Ён жа тады цёплы, ажно піць брыдка…

— То во вада, не бойся, не мінералка газіраваная, як мінулы раз…

— Ну, будзем…

— Давай…

Двое мужчын у двары інтэрната сямейнага тыпу на лаўцы — шырокай дошцы на цаглінах — у зацішку старога, вялізнага, як стог, куста язміну выпівалі набыты спірт. Без боязі, няспешна жавалі, закурвалі, лянотна, напаўголасу, пакуль яшчэ добра не разабрала, вялі гутарку пра знешнюю палітыку. Гэтае месца ўвесь інтэрнат ведаў як выключна мужчынскае, сюды заборонена забягаць дзецям, жанкі гэтаксама міналі яго: менш будзеш ведаць, хто з кім п'е, цалей будзеш. Хіба бліжэй да апоўначы, як не вяртаўся муж якой у свой інтэрнацкі пакой, яна выбягала і зазірала сюды, часцей за ўсё і знаходзіла ці то на лаўцы, ці то пад ёй. Па няпісаным законе прымазвацца "трэцім" да кампаніі лічылася ганебным, не па-мужыцку, то частаваліся мужчыны ў спакоі. Толькі стары голуб, амаль цалкам шэры, схуднелы, з забруджаным брухам, цікаваў за выпівакамі здаля. Гэтых птушак у інтэрнаце не любілі лютай нелюбоўю: яны залятаалі ў расчыненыя вокны агульных кухань, гадзілі на невялічкіх балконах, маглі пацэліць на галаву некаму, хто выходзіў з інтэрната праз галоўны, "парадны" ўваход, — птушкі аблюбавалі сабе зацішнае месца на карнізе якраз над дзвярыма.

— Не, такое я і пасля другой есці не змагу! Смярдзіць мне гэтае мяса!

— То давай па трэцяй!

— Ат, выкіну, яшчэ званітуе, халера, спірту будзе шкада. На, клюй!

— Цю, ты гэтага пацука лятучага корміш? Там во акацілася котка ў падвале, занёс бы!

— Ты бачыў, колькі ёй, рыжай жывёліне, бабы ўсяго нанеслі? З суседняга дома каты пазбягаліся… Хай клюе, гэты, бачыш, адно цікуе здалёк, не лезе…

— Лядашчы нейкі…

— Стары, мабыць… Здыхаць яму хутка… О, дзівіся, яшчэ прыляцелі, казаў жа табе! Кыш, сукі!

Галубы, якія зверху цікавалі за мужчынамі, не маглі не заўважыць той кавалак, кінуты птушцы, пабачылі, як стары голуб прагна дзёўб яго, і з шумам спусціліся ўніз, ды мусілі зноў уздымацца, напалоханыя. Толькі стары голуб, захапіўшы ўвесь невялікі кавалак дзюбай, спешна паклыпаў за дрэва, затым кляваў і прагна закідваў галаву ўверх, глытаў, сутаргавата торгаючы галавой.

Мужчыны, надзіва, управіліся хутка, можа, катораму пазваніла ягоная жонка ды дала прачуханцаў. Голуб паспяшаўся да лаўкі — там маглі ўпасці на зямлю якія крошкі. Не паспеў дакульгаць, як спусцілася чародка ягоных суродзічаў, забегалі, замітусіліся ў пошуках.

Да шэрага голуба наблізіўся шызы, малады, значна большы ў памерах, з бліскучым пер’ем. І нечакана ўдарыў вострай кароткай дзюбай у галаву шэраму. Той замітусіўся, таропка затупаў далей у кусты. Шызы лёгка дагнаў яго і, як ні адварочваў галаву шэры, зноў стукнуў дзюбай, і яшчэ раз.

Шэры кінуўся ратавацца лётам, цяжка ўзляцеў, скіраваўся ў паддашак інтэрната, дзе ўся галубіная чарада хавалася на ноч ці ад непагадзі днём. Але гнёздаў там не рабілі — іншым разам на паддашак прарываліся дзеці, і ад іх не было паратунку птушанятам. Шэры не патрапіў дакладна ў вузкую фортку выбітага акенца, выцяў крыло і бухнуўся на падлогу паддашка. Шызы з пагрозлівым свістам прыляцеў і ўсеўся на загаджанай памётам бэльцы. Ён выглядаў спакойным. Шэры паспрабаваў узляцець, залапатаў крыламі, у гэты момант шызы сарваўся ўніз

і ўдарыў сваім целам, пасля — некалькі разоў дзюбай, цэлячыся ў галаву, трапляў і ў спіну, у шыю.

Крылы шэрага павіслі, ён стаў мітусліва адпаўзаць у кут паддашка. Шызы паходжваў вакол яго, заходзячы з розных бакоў і наносіў кароткія, трапныя цяпер удары. Пер'е на галаве шэрага голуба аздобілася чырвонымі кроплямі крыві, адзін удар дзюбы прыйшоўся ў вока, і яно выцекла. Птушка паўзла, іншы раз спрабуючы дапамагчы сабе крыламі, у кут, быццам там быў яе паратунак.

Шызы пазіраў на шэрага то адным, то другім вокам, прымерваўся і імкнуўся дзеўбануць, калі шэры прыўздымаў сваю, ужо ўсю скрываўленую, галаву. Ён не спяшаўся цяпер, біў, як склёўваў з пер'я цёплую кроў, абходзіў сваю ахвяру па крузе, вуркочучы, бы выконваючы асаблівы рытуальны танец.

Удар — круг, вуркатанне, прымерванне — удар. Стары голуб спыніўся — ён ужо не мог ні перабіраць лапкамі, ні ўзмахнуць крыламі. Але жыццё яшчэ жыло ў ім, прымушала падымаць галаву і торгацца ў напрамку выратавальнага кута. Шызы зайшоў спераду, віхляў галавой, рабіў кароткія і, здавалася, зусім нямоцныя ўдары. Калі цельца шэрага голуба здрыганулася ў перадсмяротнай сутарзе і выпрасталася, а чырвона-крывавая галоўка ўпала на слой памёту і пылу, шызы адышоў убок, лёгка ўспырхнуў на бэльку.

Праз гадзіну мухі знайшлі і абляпілі цельца мёртвага голуба, якое ляжала амаль над самым люкам.

***

Рая Мялік, як казала яе маці, стаяла ў чарзе па розум пры раздачы Богам прыгажосці. То й дасталася з той красы, што выкідвалі: прамыя валасы звычайнага колеру, выцвілыя запалыя вочы, амаль адсут-

насць броваў, доўгі нос, тонкія вусны, вострыя скулы — не галава, а чэрап, скурай абцягнуты. Да ўсяго, верхнія іклы тырчалі наперад, не раўнуючы як у таго вампіра. І худая. Цыцачкі як адскочылі ў восьмым класе пухіркамі, такімі і заставаліся. Пры сваім сярэднім росце выдавала на даўгалыгую, страшэнна нязграбную: усё на ёй вісела, як на калу, колькі і як ні ела — не папраўлялася. Чаго грашыць, Бог даў са сваіх даброт: характар Рая мела зусім не суадносны з яе знешнасцю: хай сабе і цвёрды, ды не канфліктны. У АТК завода, дзе працавала, яе лічылі за лепшага спецыяліста, рабочыя яе пабойваліся па-сапраўднаму, але сукай ніхто не назваў, бо не была яна сукай: без розніцы, які рабочы нёс на кантроль дэталі: усунуць ёй бракаваную партыю ніхто не мог. То й паважалі, хоць і не любілі. Хто любіць справядлівасць?

Сваю цноту Рая, як і належала ў яе інстытуце, згубіла на трэцім курсе ў час вечарыны з вінам. Свайго хлопца ніколі не мела — каму даспадобы такая? Праўда, быў раней нейкі шанец ужо тут, у інтэрнаце: двойчы яе запрашала сяброўка ў кампанію, дзе ўсё было зразумела ад пачатку — два на два і два вольныя пакоі. Пасля другой такой ночы Рая выпадкова пачула, як хлопец сяброўкі пытаўся ў свайго сябра: “Ну, як табе гэная Рая?” Той у адказ мацюкнуўся незадаволена: “Ну ты, бля, і падшукаў для мяне веласіпед!”

Рая праплакала адзін дзень і супакоілася: наканавана, ніц не паробіш. Адзіная ў сям’і нарадзілася во такім вырадкам, браты ды сёстры, якіх разам пяцёра, прыгожыя ды ў целе. А ёй Бог даў адно розум…

Яна жыла ў сваім пакойчыку ў інтэрнаце дзіклівай, але пакрысе на паверсе заўважылі, што за дзіклівасцю Раі хаваецца даволі добрая душа: і ў дробязі,

кшталту пазычыць патэльню, не адмаўляла, і ў большым, калі з грашыма падцiскала пад горла, магла дапамагчы. Адно сяброўак нiяк не заводзiла, блiзка нiкога не падпускала i сама ў душу iншаму не лезла.

Свае трыццаць Рая адзначыла самотная ў пустым пакоi з бутэлькай шампанскага — так штогод рабiла, не стала выключэннем i круглая дата. Праўда, на гэты раз Рая спякла вялiзны пiрог, якi сваiм пахам прывабiў усiх жанчын i дзяцей паверха, i якая ж радасць была гэтым дзецям: Рая вынесла стол са свайго пакоя i пачала рэзаць гарачы пiрог на кавалкi тут, на калiдоры, i гукаць усiх дзяцей, якiя, зрэшты, стаялi ўжо вакол, заварожаныя дзеяннямi дзiўнай клыкастай цёткi: стол паставiла, пiрог рэжа, кока-колы на стале — пяць бутэлек, пластыкоўкi стаяць… Пачастуе?

Рая частавала ўсiх, апошнi кавалак пакiнула сабе, ела, запiвала шампанскiм i думала: час нараджаць. Грошай сабрала, чарга падышла, праз год закладуць дом, у якi яна патрапляе, — значыць, можна i трэба. Не, Рая не збiралася нараджаць дзiця як ляльку, для сябе, i не кiравалася нейкай падсвядомай iсцiнай пра ваду, якую каб было некаму падаць у старасцi. Яе пяшчота, якая прарывалася часам у раптоўнай мiласэрнасцi да чужога дзiцяцi (ёй iншы раз падкiдвалi жанчыны сваiх малых на гадзiны дзве-пяць, як беглi куды на вечарыну), цi адчайнай прыборкай свайго пакоя, цi тым жа частаваннем чужых дзяцей, патрабавала iншага i грунтоўнага — свайго, роднага.

Рая перабрала знаёмых мужчын i вырашыла нарадзiць ад маладога канструктара, цiхага i невыразнага хлопчыка, якi два гады назад прыйшоў на завод, здолеў ужо вырасцi да намеснiка начальнiка аддзела — разумны i патрабавальны, як да сябе, так i да iншых. Маладзейшы за Раю на чатыры гады, дзякуй богу,

пакуль не жанаты і, здаецца, у бліжэйшы час не збіраўся. Такім чынам Рая не разбурвала сямейнае шчасце. Яна збудавала свой выключны ў дасканаласці план. Па-першае, напісала ліст, які нават заверыла ў натарыуса: у выпадку цяжарнасці і нараджэння дзіцяці не будзе мець ніякіх прэтэнзій да Рыгора Целеха (то і быў малады канструктар). Па-другое, старанна прасачыла за Грышкам: той насамрэч за тыдзень не сустрэўся з ніводнай жанчынай, з работы бег у свой пакой, дзе жыў разам з іншым інжынерам, таксама маладым хлопцам. Яшчэ прыкмеціла Рая: Грышка нярэдка самотны сядзеў у кавярні побач з інтэрнатам да закрыцця — і даўмела, што яго просіць аб гэтым ягоны сябра па пакоі. Ну і трэцяе: Грышка не вырадак знешне, а галоўнае, не піў, у сэнсе, не напіваўся.

Наступны адпачынак Рая пасвяціла сваёй знешнасці: перад цяжарнасцю, ведала, трэба прыводзіць у парадак зубы, ды і нельга ёй прапаноўваць сябе Грышку, хай і на адну ноч, з такімі ікламі, што ўсміхнуцца немагчыма, каб каго не спудзіць, а як цалавацца? І для дзіцяці яна не павінна быць бабай Ягой. За два тыдні і добрыя грошы іклы Раі набылі чалавечы выгляд. І сама першы час не магла прывыкнуць да свайго адлюстравання: яе твар раптоўна пакруглеў і падабрэў.

Даведалася: да Грышкавага сябра дзяўчына прыходзіць у пэўныя дні — аўторак і пятніцу. З Грышкам на заводзе і ў інтэрнаце яны практычна не перасякаліся, бо і жылі на розных паверхах, і працавалі ў тых аддзелах, між якімі сувязі ніякай. То ў наступны чацвер, апрануўшы сукенку, з-пад якой калені (даволі зграбныя) выглядалі на чвэрць, Рая перастрэла Грышку ля інтэрната і, надта не хітруючы, папрасіла: ёй трэба нешта накшталт адмысловай паліцы,

а ён канструктар, то ці не падыдзе заўтра і не намалюе? Вячэру абяцае.

Грышка, заўважыла Рая, пачырванеў нечакана і згадзіўся. Рая назаўтра гатавала тры гадзіны на кухні: качку (перадала маці з дому) з грэчкай, салатаў ажно тры: капусту свежую, грыбы і селядца (хоць апошняга не любіла, але чула: калі яго з цыбуляй мужчыны ядуць, дык у іх падвышаецца тое самае лібіда). Грышка завітаў, як і абяцаў, а дзевятнаццатай гадзіне, апрануты амаль на выхад: чысцюткія джынсы, светлая адпрасаваная сарочка, чаравікі наваксаваў і нацёр так, што пылінкі не відаць. Усё гэта прыкмеціла Рая, пакуль у той самай сукенцы, з-пад якой былі відаць не толькі яе калені, а і свяцілася праз тканіну цела, сустракала Грышку на парозе.

Яна самаадданa палезла на табурэтку, каб паказаць яму, дзе прыблізна будзе верх паліцы, у які бок і наколькі каб заходзіла. Пры гэтым цягнула рукамі ўверх і ў бакі, адчуваючы, як яе сукенка вольна слізгае, высока акрываючы перад збянтэжаным Грышкам незагарэлыя жаночыя сцёгны.

Грышка засяродзіўся на канапе — маляваў эскіз будучай паліцы, Рая бегала-насіла талеркі і міскі на стол з агульнай кухні. Нарэшце гукнула госця, які, відавочна, усё зразумеў і ўціскаўся ў канапу зацкаваным звярком, ажно выклікаў жаль. Збоку і дурню зразумела: цябе запрасіла жанчына на вячэрні час, жыве адна, заўтра выхадны. На ёй не нейкі халат нязграбны, а сукенка прывабная, яна гатуе табе вячэру, для вас дваіх, вунь і віно ставіць на стол чырвонае, а ты…

Грышка заёрзаў, падскочыў, выбачаўся, паабяцаў — хутка, і выбег вонкі. Рая не паспела занудзіцца, як Грышка зноў намаляваўся ў пакоі з нейкай

дзіўнай бутэлькай. "Французскае", — ціха апраўдаўся ён і паставіў яе на стол.

Яны вячэралі, пілі віно. І нечакана зразумелі, што могуць нязмушана размаўляць між сабой — знайшліся тэмы. Грышка ведаў пра клыкастага кантралёра з АТК, чуткі дайшлі (разам з анекдотамі пра колькасць гарэлкі, якую трэба выпіць, каб наважыцца пераспаць з ёй), але першы раз гутарыў з ёй і адкрыў для сябе яе дасціпнасць і розум. Ну, і зніклі клыкі. Пра гэта прастадушна, зусім па-дзіцячы і сказаў. Рая не пакрыўдзілася, усміхнулася і прапанавала Грышку паглядзець на яе зубы: іклы зверху не свае, ці заўважна? Ад гэтага моманту ў пакоі з'явілася штосьці інтымна-таямнічае, якое прачуў кожны з іх і не жадаў спуджваць. Тым не менш качка няўмольна пазбаўлялася мяса на сваіх рэбрах, віно закончвалася ў бутэльцы. Была субота, інтэрнат, як заўсёды, апусцеў на выхадныя, стаўся сцішаным і маўклівым.

Грышка сядзеў на канапе побач з Раяй, як механічны робат. Ён быў не да такой ступені дурным, каб не пабачыць у падрыхтаваннях Раі, у памкненнях дагадзіць яму ў кожным слове, у адкрытай дэманстрацыі сваіх сцёгнаў жадання жанчыны займець з ім секс. І тут узнікала пытанне: Рая сярод рабочых лічылася апошняй маладзіцай, з кім можна было трахацца пасля вялікай п'янкі. Так казалі на заводзе. Грышка ўнутрана спрачаўся з гэтым, ды ж ніколі не паказваў публічна, што не згодзен і што казаць так увогуле непрыстойна і не варта мужчыны. Зараз ён ці не першым (а выходзіла ж і першым) мужчынам пабачыў зусім іншую ўсмешку Раі, зведаў яе розум. Яна вабіла яго.

З аднаго боку, цешыла відавочная прапанова сексу, з другога — ён думаў пра заўтрашні дзень і магчымыя

кепікі: от жа, не знайшоў ніц лепшага, як на вампіра залезці. Але тут уступала трэцяе: ён заўважыў у Раі цеплыню. Ну так, цеплыню, якая прыцягвала, абяцала спакой. Такое нешта, нават мацярынскае. Ён літаральна ўяўляў, як Рая можа прыпасці з ласкай… Ну, хай не да яго, да іншага… да дзіцяці, скажам. Гэтую ўнутраную спагаду Грышка адчуў. І тут яго ахапіў страх. Бязлітасны і сур'ёзны. Бо жыў да гэтага часу Грышка, лічы, цнатліўцам, калі не лічыць тых прастытутак, якіх яны п'янымі замаўлялі на пятым курсе, потым, праўда, так ніхто і не змог дакладна ўспомніць: хто з іх, пяцярых, штосьці паспытаў з тымі трыма. Таму перад Грышкам цяпер адкрылася сапраўдная прорва: ён бачыў, што жанчына жадае яго, няважна цяпер, што яна — не самая прыгожая з інтэрната (а пайшлі вы ўсе! Яна мне падабаецца!). Важна іншае: у свядомасці ўспухла скулой думка: ды я ж нічога не ўмею! Зняслаўлю сябе!

Грышка глядзеў на Раіны голыя калені (круглыя і прывабныя, хоць і хударлявыя). І ў нейкі момант ціхі голас жанчыны, утульнасць пакоя, вячэрняя ціш за вокнамі трансфармаваліся адначасна ў ягоную рашучасць, і ён, паклаўшы асцярожна, як на нешта надта гарачае, сваю далонь на жаночае калена, прамовіў:

— Райка… Ведаеш, у мяне не было жанчын. Ну, так каб менавіта жанчына. Каб з ёй толькі. Вось.

І адразу адчуў нечаканую палёгку. Вось жа дзіва: прызнавацца, дык лягчэе. Ён разумеў, што за гэтым ягоным прызнаннем стаіць куды большае за звычайную шчырасць, таму ўнутры яго дробненька трымцела, і ён чакаў адказу, не дыхаючы нават. Рая прамарудзіла не столькі, каб Грышка пачаў задыхацца, і спачатку паклала сваю руку на Грышкаву, нават лёгка прыціснула і трошачкі пасунула яе вышэй і сказала:

— Грыш… А думаеш, я курсы адмысловыя праходзіла? Заставайся са мной… Адно ты не маўчы. Як нешта не так, то кажы, добра?

І Грышка мусіў адказаць — а што заставалася:

— Добра.

Перад тым самым адказным момантам яна шапнула яму раз, другі і трэці: не бойся, не стрымлівайся, я ж не дурнічка маладая…

Яны прачнуліся раніцай на цеснаватай канапе, зірнулі адно на аднаго і ўсміхнуліся. Так, ім насамрэч абаім было і крыху смешна з-за іх прыдуманага страху, і была ва ўсмешках узаемная падзяка. Рая згатавала каву, Грышка папіў і сказаў:

— Ты — класная! — і пабег.

А Рая, шчаслівая, вечарам з'ехала да маці.

Мінула больш за месяц, які яна прабыла дома — заставаўся адпачынак за мінулы год. Выйшла затрымка, яна, такая радасная, пабегла ў паліклініку, там пацвердзілі — цяжарная. Выбегла адтуль, акрыленая, такая акрыленая, ажно спужалася сама: Божа, вось зараз узмахне — паляціць! То лепш не будзе махаць. Так, не махаючы рукамі, са светлай усмешкай зайшла ў магазінчык ля іх інтэрната, накупляла нейкіх цукерак, ішла і раздавала ўсім дзецям у калідорах з першага па чацвёрты паверх: "Усім — лётаць! Мары збываюцца!"

Грышка прыбег вечарам, як вярнуўся з завода, павітаўся — яна ўзрадавалася яму на парозе, памкнулася насустрач, і ён, няскладна, трошкі збянтэжана абняў яе, прыціснуў пяшчотна. Потым прывалок сапраўды паліцу — пакуль разабраную, цалкам гатовую.

Яна кахала так жарсна, так па-жаночы аддана, так бессаромна, што ён нават не стрымаў напры-

канцы свае пачуцці: напужаўся трошкі і прызнаўся ў гэтым. Дзіўны ён, Грышка, — у такім прызнаецца, дзе любы мужык прамаўчыць. Але яна была ўдзячная хлопцу менавіта за гэта — за ягоную адкрытасць, таму прызналася ў сваю чаргу: цяжарная яна, шчаслівая, на ўсё гатовая, хоць што яму аддасць. Пабачыла, як сцяўся ад неспадзяванкі Грышка, падхапілася, паказала ліст, завераны ў натарыуса: ніякіх да нікога прэтэнзій.

А ён пачытаў, падняўся, моўчкі апрануўся ды пайшоў. Тут бы ёй не раўці, а задумацца: чаго ты? Ты ж рашыла адна нараджаць, ты свайго дасягнула, чаго перажываеш? Ну так, добры гэты Грышка, ды ж у яго ўсё жыццё наперадзе, малады ён. Адпрацуе сваё ды й з'едзе. Але яна раўла.

Потым загнала стрэмку свайго болю глыбей, каб не калола пры выпадковым крананні.

Яшчэ праз месяц на Раю пачалі лупіць вочы: жанчына мянялася, нібы нараджаючыся наноў. Цяжарнасць відавочна запусціла нейкі свой механізм у арганізме жанчыны: Рая набывала вагу, круглела ў плячах і клубах, раслі яе грудзі. Найбольш змяніўся твар: ён свяціўся такім унутраным цяплом, што нельга было не паглядзець на яго з замілаваннем. Змянілася паходка Раі — зрабілася плаўнай, нетаропкай.

Аднойчы яе на прахадной чакаў Грышка. Павіталіся, ён без аніякай сарамлівасці падставіў ёй руку, і яна без здзіўлення і ніякаватасці, бы так хадзілі яны штовечар многія гады, узялася за яе. На іх пазіралі шматзначна.

Рая маўчала, маўчаў Грышка да самага інтэрната, а перад дзвярыма прыпыніўся і загаварыў, трошкі хвалюючыся:

— Ты мяне падманула, гэта нячэсна. Але я на цябе не злуюся. Толькі гэта маё дзіця таксама. Вось. Давай жыць разам…

— Тады хадзем у краму — у мяне на вечар нават хлеба няма, — уздыхнула Рая. — Як ты праз месяц збяжыш, я на цябе не пакрыўджуся, — дадала проста.

— Не збягу, — прамармытаў Грышка.

І не збег жа. Ні праз месяц, ні праз два. Хоць, калі ў Раі пачаўся моцны таксікоз, памучыўся ён з ёй, бы з капрызлівым дзіцём. Ды неяк усё хутка прайшло, адно засталося моцнае раздражненне на розныя пахі. Смурод з паддашку Рая адчула раніцай, а ўвечары яе званітавала. Грышка падхапіўся, пабег да люка, сам унюхаў падлу. Вырашыў: голуб здох. Узяў мяшок для смецця, ключы. Лесвіца да люка была прывараная да папярэчных парэнчаў, якія адгароджвалі невялікую пляцоўку на паверсе. Яе, лесвіцу, трэба было павярнуць, бы фортку акна. Грышка шморгаў, не ведаючы невялікай хітрасці: лесвіцу трэба напачатку прыпадняць. А ён усё тузаў, пакрысе паварочваючы. І тут мацаванне стойкі папярочных парэнчаў выскачыла са сцяны: звычайны драўляны дзюбель з убітым цвіком. Грышка лесвіцу павярнуў, як трэба, з цяжкасцю адкінуў люк і ўзлез на гарышча, адшукаў дохлага голуба.

Спусціўся, усё вярнуў на месца, выкінуў здыхляціну на сметніцу. Пакратаў парэнчы лесвіцы — з-за незамацаванай цяпер папярэчыны яны лёгка адхіляліся ў бок сцяны, але тое надта не пужала: не ў лесвічны ж пралёт, бяспечна для людзей. А заўтра ён возьме дрыль, добрых дзюбялёў пару ды замацуе як след папярэчыны.

## ФРАГМЕНТ 39

## Віктар, участковы Сяргей Манько

Доктарка не пусціла Віктара да сына, нават не дазволіла зірнуць праз шкло.

— Прабачце, так будзе лепш. Для яго, — угаворвала яна, запрасіўшы Віктара прысесці ў яе кабінеце. — Хвароба нечакана паўплывала на вестыбулярны апарат, вельмі моцна. Пры нахіленні галавы адразу ваніты ад галавакружэння. Нават змяненне позірку выклікае моташнасць. Таму цяпер важны абсалютны спакой. Ён ляжыць… глядзіць у адну кропку. Я абяцала быць з вамі шчырай, таму кажу, як ёсць: трэба быць гатовым да самага страшнага. Мы трымаем напагатове апарат для штучнай вентыляцыі лёгкіх, бо могуць узнікнуць ускладненні. Але гэта адначасова можа быць паваротным пунктам у цячэнні хваробы. Не адчайвайцеся.

Учора вечарам, калі вярнуўся з могілак і павесіў пінжак, у якім заставалася дзіцячая жменька пяску, Віктар задумаўся: а ён гатовы да нечага канкрэтнага? Калі б пясок з яго кішэні быў нейкім магутным сродкам, пясчынкі б якога хапіла на тое, каб выклікаць смерць чалавека, Віктар пайшоў бы да тых, каго лічыць вінаватымі ў сваёй бядзе? Стаў бы сыпаць у вочы? Стаў бы забіваць?

Забіў бы, а далей? Ну, няхай першы ўпадзе хоць бы той ваенкам, і вось Віктара арыштуюць. Ён правядзе рэшту жыцця ў камеры, у такой, якой сядзеў, ці яшчэ страшнейшай за тую. Тады які сэнс? Адпомсціць аднаму — а каму? Хто з іх больш вінаваты: ваенкам ці ўчастковы міліцыянер? Суддзя ці жанчына-ўрач?

Не было адказаў ні на адно пытанне. І страх перад будучыняй стрымліваў. Бы нашэптваў нехта: скарыся, пацярпі, неяк само ўсё зладуецца. Ты жыў раней і цярпеў, і наладжвалася, і ішло-калілася, і было часінай цяжка, але ж урэшце выкацілася на добрае. Калі б не гэтая бяда… І шаптаў: пацярпі — і сын ачуняе, усё вернецца, вернецца шчасце. Не ідзі супраць, не ўзмацняй, не падымай буру. Вось жа, ты паспрабаваў, што атрымалася?

Ён выходзіў цяпер з бальніцы, ехаў у пустым вагоне электрычкі, нясцерпна гарачым і задушлівым, а думкі віліся вакол ягонага ўчарашняга вячэрняга настрою. Не, нічога добрага ўжо не будзе. Урач ясна кажа: не ачуняе да ранейшага сын. І ці ачуняе ўвогуле, ці выйдзе некалі з расліннага стану? А галоўнае: ніхто і ніхто не зможа вярнуць Антаніну. І не ён вінаваты. Не ён. Ён толькі адзін раз за доўгія гады свайго маўклівага існавання ў гэтым свеце падняў галаву ды асмеліўся спытаць: чаму ж так несправядліва з нашым сынам? У чым вінаваты ён, Віктар, ці ягоная жонка? Ці ж яны былі ў нейкім чорным спісе, ці ж былі пазначаныя як нядобранадзейныя, якія права на працяг у выглядзе сваіх дзяцей не маюць, што вось так з імі — без жалю, без самай дробачкі спачування і разумення, бы з быдлам якім… Яго, Віктара, у камеру, каб не задаваў пытанняў. А яе, настаўніцу, якая столькі гадоў служыла ўсякім камісіям, піхнулі — едзь, купляй лекі свайму сыну ў падваротні, ратуй набытым з-пад палы, бо ты ж гэтай дзяржаве сумленне і час аддавала…

Не, ён пойдзе. Пойдзе, каб зірнуць ім у вочы і пабачыць: ці хоць крышку раскайваюцца яны, ці разумеюць, што ўтварылі разам і кожны паасобку.

Есці дома нічога не стаў, хоць дзень быў галодным. Змыў з сябе пот пад душам, пачаў апранацца: усё чыстае, акуратнае. Раптоўна вырашыў: трэба ісці да Манько. Прыйсці і спытаць. З хвіліну ён глядзеў на свой пінжак, у левай кішэні якога ляжаў пясок з магілы Антаніны. Апрануў. Не, пяску было зусім нямнога, не адтапырваў ён кішэню, не цягнуў яе ўніз. Што ён будзе з ім рабіць? Невядома. Тая дзяўчынка казала, каб ішоў з ім, — ён пойдзе. Бо ніхто не ведае. Як не ведае багоўка, чым заканчваецца шлях на крыжы, так і ніхто не ведае канца свайго шляху. Ці нават бліжэйшага павароту.

Была сёмая гадзіна вечара, калі Віктар падышоў да інтэрната. Не стаў затрымлівацца, няспешна падняўся на паверх, зірнуў на дзверы пакоя насупраць лесвічнай пляцоўкі — ён не мог памыліцца, яны тут былі адны блізка. Ля дзвярэй ляжаў вязаны кручком круглы палавічок, стаялі вялікія пантофлі. Пастукаў.

Дзверы адчыніліся ўнутр амаль адразу, малады ўчастковы Сяргей Манько няўцямна разглядваў нечаканага госця. Ён нейкі момант сіліўся згадаць гэтага мужчыну. І згадаў. У той жа момант пасур’ёзнеў.

— Вы нешта хацелі?

— Не пазналі мяне? — хрыпата спытаў Віктар, кашлянуў, назваўся: — Віктар Анішчук.

— Так… Я помню вас. Што вы хацелі? — строга трымаўся Сяргей Манько — ён зразумеў, з чым прыйшоў гэты чалавек, таму сабраўся бараніцца. Міліцыя не робіць памылак. Суд не памыляецца.

— Калі вы помніце, то я вам хацеў сказаць, каб вы яшчэ і ведалі, — пачаў Віктар упэўнена, ціха, без ценю абвінавачвання. — Сына, якога не павінны

былі прызваць, напаткала страшная хвароба. Мая жонка, ягоная маці, мусіла кіравацца ў сталіцу, купіць недзе там таемна за даляры лекі, якія б маглі ўратаваць. Яна перажывала і за сына, і за мяне. Як сведчыць той пратакол, я быў затрыманы за хуліганства, мяне суд судзіў як злачынцу. Я не змог адказваць жонцы па тэлефоне. А яна хвалявалася, званіла — і сутыкнулася з ласём. Загінула… — у роце Віктара перасохла, ён зглынуў, працягнуў: — А лекі прапалі. Калі я паехаў, дык іх не знайшоў. І больш купіць іх няма дзе. А сын, кажа ўрач, застанецца інвалідам на ўсё жыццё. Калі яшчэ застанецца жыць. Вось. І я хачу ў вас спытаць. Я не зразумеў аднаго: чаму так жорстка са мной абышліся? Чаму вы ў судзе сказалі, што я хапаўся за ваш пагон і лаяўся матам, чаму галоўны доктар сказаў пра мацюкі, хоць я ж не лаяўся? Мне няма сэнсу зараз нешта абскарджваць, я не буду нават спрабаваць. Але чаму?

Сяргей Манько ціха соп, стрымліваючы сябе. Ён ведаў пра няшчасце мужчыны: разбілася ягоная жонка, але каб і такая бяда з сынам… Чым ён можа дапамагчы? Сам прызнаўся: выпіў колькі там. Учыніў скандал? І не ў адным месцы…

— Грамадзянін Анішчук, з такімі пытаннямі, калі ласка, заўтра ў кабінет. Я тут дома, а дома я просты чалавек, муж і бацька. І на тэмы работы не размаўляю, — адказаў участковы.

— Дык я ў цябе і пытаюся як у чалавека, мужа і бацькі, — ціха, перайшоўшы на “ты”, спытаў Віктар. — За што?

— Паўтараю: не размаўляю дома на службовыя тэмы, — цвёрда паўтарыў Сяргей.

І зачыніўся.

Віктар нейкае імгненне стаяў, гледзячы прама перад сабой, пасля апусціў вочы долу. І рука неяк сама

саўганулася ў левую кішэню пінжака, намацала пясок. Пальцы захапілі яго адзіную дробку, пясок пасыпаўся на вялікія скураныя пантофлі.

Віктар устрапянуўся, яму раптоўна стала сорамна за такую дзіцячую шкоду. Павярнуўся, пайшоў да выхаду, выціраючы рукі.

У гэты ж час Сяргей стаяў перад зачыненымі дзвярыма. Не адпускала жаданне адчыніць дзверы, гукнуць мужчыну, спыніць яго. І прабачыцца. Прызнацца: ён не ведае, чаму паступіла каманда ад начальніка аддзела "пакаваць" парушальніка па поўнай праграме — праз суд і па максімуме. Але ён не мае права выбачацца. Бо міліцыя не павінна выбачацца. Іначай згубіць павагу і ўладу.

— Хто гэта прыходзіў? — спыталася Марына, устрывожаная застыглай ля дзвярэй фігурай мужа.

— Ды так… Адзін з пакрыўджаных, — прамармытаў Сяргей, супакойваючы сябе гэтым словам: так, Віктар — адзін з пакрыўджаных, не больш. Няма сэнсу крыўдзіцца на ўладу. Бо трэба трымаць сябе ў рамках. Заўсёды.

Невядома, чаму ён прыадчыніў дзверы — быццам баяўся, што мужчына стаіць ці ля парога, ці на лесвічнай пляцоўцы.

Нікога не было. Міжволі скасіў позірк уніз: калі зараз насунуць на ногі пантофлі ды збегчы хутка, ён дагоніць мужчыну. Скажа: я вельмі шкадую. Але я — чалавек службовы. Так атрымалася. Я выконваў загад.

Ён не пабег.

Марына ззаду адчыніла дзверы шырэй.

— Пакуль наша донька гуляе, я збегаю да Волькі на паўгадзінкі, — сказала яна, усунула босыя свае ногі ў пантофлі, зашморгала па калідоры да лесвіцы.

Сяргей глядзеў на жонку.

На пляцоўцы яна прыпынілася.

— Дзе ты хадзіў, аж пяску назбіраў?

Нахілілася, скінула адну пантофлю з нагі, патрэсла ёй, пасля насунула, зняла другую, стала трэсці. Згубіла раўнавагу, стоячы на адной назе, і хапілася рукой за парэнчы.

Парэнчы знянацку рэзка кіўнуліся на яе.

Марына адпусціла іх, нязграбна ўзмахнула абедзвюма рукамі і кульнулася ўніз.

Сяргей пабачыў, як мільганулі яе поўныя лыткі.

Здаецца, ён апынуўся ў той жа момант ля яе — так ірвануўся ад дзвярэй, ды ж Марына ўжо ляжала нерухома на пляцоўцы, ніжэйшай на пралёт. Нерухомая.

Сяргей закрычаў.

Пачуўся тупат — з кухні выбеглі жанчыны. Сяргей трымаў плечы і галаву жонкі ў сваіх руках, яна глядзела няўцямна яму ў вочы, не магла ні сказаць, ні паварушыць рукой. Ён хапіўся прыўзняць яе, паставіць на ногі — здавалася, так адразу ўсё стане, як раней, толькі гэта і трэба зрабіць, і Марына ўсміхнецца, але яна, нечакана цяжкая, застагнала ад болю і прыкрыла вочы.

Хуткая прыехала праз адзінаццаць доўгіх хвілін. Гэты час Сяргей прастаяў на каленях, трымаючы на руках плечы і галаву жонку, адмаўляючыся верыць у тое, што здарылася.

Віктар пакідаў яшчэ сцішаны інтэрнат. І як пуста і гулка было на першым паверсе, так было і ў душы. Віктар меў самы маленькі спадзеў на прызнанне сваёй віны ўчастковым міліцыянтам, ва ўсякім разе — хоць на спачуванне. Ён нават не надта расчараваўся, хутчэй, наадварот: значыць, ён мае рацыю ў сваім рашэнні пакараць вінаватых. Бо яны не бачаць не толькі

сваёй віны, яны не бачаць у ім чалавека з бядой. Ён для іх — усяго той "грамадзянін" на прыёме ў кабінеце… няхай так, гэта іх права. Але цяпер і ў яго ёсць права і абавязак, і ён прыдумае, абавязкова прыдумае, што ўчыніць, каб пакаранне ім было не менш балючым, чым ягоны боль.

Накіраваўся пешкі на ўскраек горада — там на падворку свайго дома зладзіў майстэрню прыватнік, да якога Віктар зацягнуў раней свой аўтамабіль. Хлопец, якому не было яшчэ і трыццаці, ужо меў добрую рэпутацыю, набыў новае абсталяванне, то без справы не сядзеў. Падганяць яго не было сэнсу, Віктар ішоў проста пацікавіцца і забіць час. Пабачанае парадавала: майстар фарбаваў ягоны аўтамабіль. Усё іншае было зроблена — і знешне, і ўнутры. Нічога не нагадвала аб трагедыі. Віктар дзівіўся на спрактыкаваныя рухі рук хлопца з распыляльнікам фарбы, і раптоўная думка стрэмкай упілася ў свядомасць: вось, зараз нічога не будзе нагадваць аб загінулай у гэтым аўтамабілі Антаніне. Міне сорак дзён — ён вызваліць кватэру ад рэчаў жонкі, найперш ад бялізны, якую Тацяначка параіла спаліць, адзенне Тацяначка ж занясе ў царкву — перадаць маламаёмасным. І знікне паступова ўсё, звязанае з Антанінай праз рэчы і падзеі. Яна знікла сама, як знікае з небасхілу серабрысты крыжык самалёціка, а пасля няўмольна робіцца шырэйшым, радзейшым ягоны след — зіхоткая нітка пераўтвараецца ў белую паску, знікае, знікае, знікае…

Вярнуўся дадому, пачаў гатаваць сабе вячэру. Прыйшла Тацяначка. Да дзевяці дзён па смерці Антаніны яна прыходзіла штовечар, малілася, зараз ходзіць па толькі ёй вядомай патрэбе. Віктар звычна пакінуў яе адну ў пакоі, запаліўшы свечку, сам абіраў на кухні бульбу. Калі Тацяначка зайшла на кухню,

ён крыху здзівіўся яе твару: незвычайна ўсхваляванаму, нават асветленаму нейкай важнай, трывожнарадаснай навіной. І гэтай навіной Тацяначка падзялілася, прысеўшы ля стала.

— От, Віцечка, я ж казала табе і ўсім вам тады: Бог усё бачыць, нельга ўмешвацца ў ягоныя справы, нельга вінаваціць у несправядлівасці. Бог найлепш за нас знае, як зрабіць, нам застаецца адно жыць па ягоных запаветах ды чакаць ягонай ласкі. І ласка Божая прыйдзе, і пакаранне на тых, хто ягоныя запаветы парушае. Ці ты чуў, што нарабілася?

— Што? — ёкнула ў сярэдзіне Віктара.

— А дык жа казалі ў царкве пра цябе, напісана было ў інтэрнэце гэтым, як і што хто рабіў. Дык от, жонка таго самага ўчастковага, Манько, маладая, упала з лесвіцы, ды ўніз галавой, пашкодзіла шыю. Рукі-ногі адняліся, павезлі ў абласную бальніцу. От… На роўным месцы, казалі, спатыкнулася.

— Калі? Як? — Віктар пахаладзеў. Ён вінаваціў у чэрствасці ўчастковага, а ў таго такая бяда, аказваецца…

— Дык во я з царквы ішла, яе суседцы муж пазваніў. Гадзіны дзве назад. Муж яе, міліцыянт, казаў, быццам на лесвіцы стала нешта з тэпцяў вытрасці, за парэнчы схапілася, а тыя раптам вырваліся са сцяны. Яна і паляцела… Бачыш, Бог віну ўчастковага ўгледзеў і па-свойму ўсё зрабіў. І ты ў справы ягоныя не ўмешвайся. Радавацца чужой бядзе не будзеш, канешне, грэх, але хвалу Госпаду нашаму казаць трэба…

Віктар моўчкі прысеў. Не верылася. Ніяк не верылася. Пясок. Жанчына вытрасала з пантофляў пясок. Які ён, Віктар, сыпануў тады. Пясок з магілы Антаніны.

## ФРАГМЕНТ 40

## Федар Тарасенкаў, ваенкам

Калі жонка адʼязджала надоўга, Федар Тарасенкаў адчуваў вялікі дыскамфорт, бо яго жыццё раптоўна губляла выверany рытм. Ва ўсім. Да ўсяго іншага можна было прыстасавацца, а вось ад абавязковага двухразовага на тыдні сексу па серадах і суботах даводзілася адмаўляцца. А гэта сталася ў ягоным жыцці такім жа неабходным і ўнармаваным, як і ваксаванне чаравікаў на ноч пасля прагляду навін на першым дзяржаўным канале, як змена кашулі пасля трох дзён нашэння, як мыццё ног халоднай вадой перад сном. І ён бы не стаў заводзіць сабе каханку, каб не ўпадабала жонка адпачываць на поўдні без яго, пазней хоць і з дзецьмі. Ёй што, заўсёдны летні адпачынак, доўгі, а яму такое не дазволена — па два кавалкі ў розны час. І пяць гадоў назад, калі жонка вырашыла пакінуць дачок-блізнят у сваёй маці на месяц, а сама намервалася плавіць свой тлушч на жываце ў яе любімым Крыме, ваенкам задумаўся над прыкрай перспектывай мусовага ўстрымання цягам трыццаці дзён. Чым і падзяліўся за вячэрнім півам са сваім намеснікам. Той згадзіўся: заведзены ад пачатку строгі парадак ва ўсім — аснова здаровага жыцця, і неабходна нейкім чынам кампенсаваць прыўнесеную дысгармонію. Варта па гэтым пытанні пагаварыць з работніцамі ваенкамата, яны могуць падказаць рашэнне — падшукаць жанчыну, згодную на неабавязковыя, нічым не абцяжарваючыя нікога з іх тры-чатыры (ці болей) сустрэчы за месяц, захаваўшы пры гэтым належную канспірацыю. Безумоўна, жанчыну чакае пэўнае ўзнагароджванне. Страху, што папаўзуць па горадзе плёткі, не ўзнікала: ваенкамат

жыў па негалосных правілах, галоўным сярод якіх было зразумелае: усё, што рабілася на тэрыторыі і ў калектыве, заставалася тут. Пра тое адразу папярэджваўся кожны новы супрацоўнік, затым ён пастаянна правяраўся на прадмет “уцечкі”. Таму пра асабістае жыццё якога свайго супрацоўніка работнікі ведалі больш, чым родныя. Гэта давала ўсім і рэдкую магчымасць пачуваць сябе вельмі вольна на рэдкіх гулянках далёка за горадам, куды ніякім чынам не дапускаліся чужыя вочы і вушы. Ніхто ніколі не задаваў лішніх пытанняў.

Такая жанчына для ваенкама без праблем знайшлася, і была яна сяброўкай работніцы. Першы раз, калі яна распранулася пры ім, Федар Тарасенкаў невыказна здзівіўся. Бо жанчына, у якой было дзіця (тое даклалі, як і пра прафесію, сямейны і грамадзянскі статус), мела прыгожыя, неабвіслыя грудзі, акуратны круглявы жывот, які не псавала нават ружовая пасачка пасля аперацыі (рабілі кесарава пры нараджэнні дзіцяці), круглыя клубы, прыгожай формы ногі. Рудавалосая, з кароткай стрыжкай, доўгай шыяй і маладжавым тварыкам, яна ў сонечным святле пакоя ягонага дамка на лецішчы ўдавала на ажыўшую карцінку. Да гэтага часу ваенкам быў перакананы: стройнымі з жанчын могуць быць адно маладыя дзяўчаты, розныя там спартсменкі і тыя, хто носіць ваенную форму. Другое, без перабольшвання, адкрыццё чакала яго ў час непасрэднага сексу: да ягоных вушэй сярод іншых гукаў любошчаў (а Федар быў уражаны і тым, што гукі — уздыхі і стогны — увогуле гучалі) даляцела палкае гартаннае жанчыны: “Яшчэ”.

Федар Тарасенкаў неспадзявана адчуў сябе не проста поўным уладаром сітуацыі, але і жаданым

мужчынам, з якім секс прыносіць жанчыне задавальненне. Апошняе ашаламіла: пасля столькіх гадоў сямейнага жыцця ён быў перакананы (жонка ўвяла ў вушы), што секс можа даць кароткую радасць разрадкі ад назапашанага ўзбуджэння толькі мужчыну, а жанчына адно цярпіць.

Праўда, надарылася і прыкрасць: на развітанні, акрамя атрыманага ўзнагароджвання, жанчына напачатку намякала, а паколькі Федар Тарасенкаў ніяк не змог дапяць сэнсу намёкаў, заявіла прама: няблага б было фундамент будучых сустрэч умацаваць, падвысіўшы па службе яе сяброўку — падначаленую ваенкама. Ён скрывіўся ў адказ — тое было падобна на шантаж, і ў сваю чаргу сказаў пра магчымасць такога пры ўмове сустракацца з Зойкай (так звалі жанчыну) у якія іншыя дні, калі раптам надарыцца такая яму патрэба і жаданне. Каб без "не магу сёння". Яна згадзілася.

Таму сёлетні ад'езд жонкі на мора Федар, сказаць па праўдзе, чакаў: адчуванне сябе мужчынам, ад дзеянняў якога ў ложку жанчына непрытворна захліпаецца ад асалоды, было для ваенкама за апошнія гады самым моцным прыемным узрушэннем, перад якім прайгравала нават новая зорачка на пагоны, бо тая прыйшла згодна са сваім часам.

Кожны дзень пасля службы ваенкам няспешна кіраваў на лецішча: трэба было паліць дзве грады гуркоў і адну памідораў, якія ён усё ж прымусіў жонку пасадзіць, а таксама лужок і кусты парэчак, дрэўцы. Затым напоўніць вялізную ёмістасць, звараную з кавалка паўтрубы, вадой з калодзежа, каб награвалася за дзень: Федар ведаў, што паліваць халоднай вадой расліны нельга. Дый была яшчэ адна звычка: у цяперашнія спякотныя дні Федар

прыязджаў на дачу, распранаўся і абліваўся вадой, якая ў ёмістасці за дзень награвалася да прыемнага. Гэтае абмыванне сталася ягоным рытуалам, ад якога ён ніяк бы не адмовіўся. Канешне, ён падлічыў: патрэбна было выцягнуць шастком з калодзежа шаснаццаць вядзёр. То была прыкрая і дурная работа. Даўно думалася аб невялікай помпе, якую б закінуў у студню, пстрыкнуў уключальнікам — і няхай сабе льецца. Фізічных практыкаванняў яму, Федару, і без цягання вёдзер хапае — зарадку робіць штораніцы. Але ж грошы…

Праблему набыцця помпы ён пачаў вырашаць гэтак жа, як і некаторыя свае праблемы, на якія не хацелася траціць грошы: дзяліўся імі з асобнымі "партызанамі", якіх дасведчанае ў такіх справах вока залічвала да разраду надзейных. На помпу клюнуў "партызан", якога на восень трэба было заклікаць на зборы. Той працаваў у прыватнай фірме, па камандзіроўках і ў самой краіне, і за яе межамі, меў неблагія заробкі, таму перспектыва доўгі час кукаваць недзе на палігоне ў палатцы радаваць не магла. Ён без лішніх тлумачэнняў, як пачуў расповед ваенкама пра ягоную дачу, калодзеж ды ваду, прапанаваў:

— То не справа, канешне, рукамі ваду даставаць! Помпачку варта займець. Невялікую. Дарэчы, у майго сябра была, здаецца. Ён ёй не карыстаецца, новую набыў, бо тая трошкі прабівае на корпус.

— Як гэта — прабівае? — тут жа спытаўся ваенкам пра помпу, як пра рэч, якая ўжо практычна яго.

— Ды недзе там нешта, халера ведае, я ў электрыцы не сяку. Ну, у час працы каб вады не кранацца, шчыплецца. Там дзеці малыя з помпай забаўляюцца, дык ён іншую набыў. А так спраўная. Напоўніць ёмістасць, дык лепш і не знайсці: уключыў, пачакаў, выключыў.

Федар Тарасенкаў падумаў: нармалёва. Дзецям сваволіць не дасць, жонка да палівання градак не падыходзіць. Будзе ўключаць сам.

— А шланг ёсць? — па-гаспадарску пацікавіўся ён.

— Прывязём са шлангам!

Праз дзень помпа са шлангам і доўгім электрычным провадам была на лецішчы ваенкама. "Партызан" шчыраваў заўзята: найперш жалезную ёмістасць вызвалілі ад рэшткаў вады, вымылі і паставілі на цагліны з гумавымі пракладкамі: "От зараз стопрацэнтна будзе бяспечна!" Потым паказаў, як апускаць помпу ў калодзеж, прыдумаў мацаванне там, папярэдзіў, каб не пакідаў помпу без нагляду — звалакуць. Уключылі, праверылі: вада цурчэла борздзенька, галоўнае ж — не цягаць вёдры! Дый іншай справай якой можна было заняцца ў гэты час. А канец шланга апусціць у ёмістасць. Калі ён сухі, дык можна трымаць у руках, стаяць ля ёмістасці — нічога рукі не шчыпала. За тры дні Федар Тарасенкаў у поўнай меры ацаніў выгоды электрычнасці.

## ФРАГМЕНТ 41

### Вужыха

Вясна пачалася незвычайна рана, вужы павыпаўзалі са сваіх зімовых схованак і адгулялі вясельны час яшчэ ў самым пачатку красавіка. Цяпер вужыха, у целе якой выраслі яйкі, няспешна поўзала па наваколлі, выбіраючы для кладкі надзейнае месца.

Адзін з участкаў на лецішчах прывабіў яе сваёй леташняй некранутасцю: маладая трава і пустазелле паўсталі паверх сухога бадылля. Невялікі ржавы вагончык на ўскрайку ўчастка выглядаў закінутым. Падлогі ў ім не было, увішныя мышы нарабілі мноства

хадоў пад тонкімі сценкамі, вужыха бесперашкодна запаўзла ў сярэдзіну. У адным куце самотна прыхінулася рыдлёўка, а на прыкручаным да сцяны кручку пакорліва павісла майка ў сінюю палоску — "матроска". У другім куце стаяла невялікая драўляная скрыня, дзе некалі гаспадыня (ці гаспадар) склала на зіму, ды так і не паспела прыхаваць выкапаныя клубні кветак і нешта яшчэ расліннае. Усё змерзла за зіму і ўжо амаль згніло, прываблiваючы цяжарную вужыху цяплом і вільгаццю. Вужыха пільна абследавала скрыню, лёгка залезла ў яе, патыкалася сваім чуйным носам і засталася задаволеная: месца падыходзіла. Сваім прыродным прадчуваннем яна ведала, што ў гэты год ніхто не адамкне стары вагончык. Хіба што дробныя злодзеі, якіх лецішчы прывабліваюць лёгкай здабычай і гатовай ежай з град, могуць пакваліцца на адзіную рыдлёўку. А гнілля ў скрыні ніхто кранаць не будзе.

Папаляваць на дробных жабак ці паласавацца амаль нерухомымі ў параўнанні з яе імклівым целам слімакамі, якіх нямала было ў градах, вужыха адпаўзала недалёка ад гэтага вагончыка.

***

Аленка і Алесь, брат і сястра, згадзіліся дапамагаць на лецішчы з адной умовай: ім абаім набудуць добрыя веласіпеды. Дасягнуўшы пятнаццаці і чатырнаццаці гадоў, яны яшчэ не ўяўлялі ўсёй кварнасці дарослых: маці з бацькам моўчкі выслухалі іх умову, а ў наступную суботу іх пабудзілі рана і сказалі збірацца на рынак. І там проста павялі да новага павільёна з веласіпедамі: выбірайце! То цяпер дзеці не зараблялі, а адраблялі, хоць, па шчырасці, работа не надта нагружала: пяць кіламетраў

да лецішчаў яны пераадольвалі ў ахвоту, вярталіся назад адным з некалькіх варыянтаў шляху, па крузе, каб наматаць сабе больш кіламетражу. Гэтым надвячоракам яны выбіралі першыя агуркі, як Аленка адчайна заверашчала:

— Змяя! Змяя!

Алесь падскочыў у той жа момант да сястры, пабачыў на дарожцы між градкамі таўсматае блішчастае чорнае цела, з маленькай галоўкай і выразнымі ярка-жоўтымі "вушкамі".

— Гэта вужака, не бойся! — супакоіў ён сястру, перахапіў капаніцу і стаў перашкаджаць вужысе ўцячы. — Ідзі зірні, дурнічка, прыгожы які! Ён не ўкусіць!

Сястра падышла бліжэй, зазірнула з-за пляча.

— Вуй, тоўсты… Можа, праглынуў нешта?

— Халера ведае… Трэба яго ваенкаму падкінуць! Пабачыш, от скакаць будзе! Пабяжыць ад спалоху да горада!

— Бацька табе казаў, каб не задзіраўся ніяк з ім! А то забяруць у армію, запруць к чорту ў балота!

— Пайшоў ён! Баяўся я яго, служаку тупога! "Адставіць!" — перакрыўляў ён напаўголаса камандны крык ваенкама, лецішча якога было побач, а сам ён кляпаў унутры. — О, дзівіся, зараз! — дадаў ён шэптам, ажно прысеў сам.

У гэты час Федар Тарасенкаў выйшаў са свайго дамка і падаўся ў дальні кут участка — у шпакоўнюпрыбіральню. Хлопец пабаяўся хапіць вужыху за хвост, таму падлаўчыўся, падсунуў пад яе капаніцу і шпурнуў у напрамку суседскага ўчастка.

Вужыха, перапалоханая сустрэчай з людзьмі, ачмурэлая ад імклівага ўзлёту і пасля — рэзкага ўдару аб цвёрдую зямлю пратаптанай сцежкі, кінулася рата-

вацца ў той бок, куды на той момант была скіраваная яе галава. Наперадзе яна бачыла адну вузкую цёмную шчыліну і наўпрост заслізгала ў яе — то была шчыліна прыадчыненых дзвярэй, якія Федар Тарасенкаў ніколі не зачыняў за сабой, калі выходзіў па патрэбе без ключоў — каб выпадкам не шчоўкнуў замок. Вужыха ўпаўзла ў дом, разгублена папаўзла ў адзін, другі кут, нарэшце выратавальны змрок быў угледжаны ёй пад канапай у куце — і яна імкліва рванулася туды. Стаілася, аглушаная тым, што адбылося, адпачывала.

Ваенкам вярнуўся ў дом, прычыніў дзверы, нейкі час яшчэ працаваў, пасля пераапрануўся і паехаў. Калі навокал усё сціхла, вужыха асцярожна абследавала памяшканне. Ніводнай шчыліны, якая б дала ёй дарогу на волю, яна не знайшла. Таму зноў схавалася пад канапай.

## ФРАГМЕНТ 42

### Ваенкам, Віктар

Федар Тарасенкаў прывёз на лецішча Зою ў чацвер. Ён недарэмна выбраў гэты вечар: у пятніцу і на выхадныя на ўчастках будзе плойма людзей, а цяпер жа іх тут вобмаль. Прынамсі, не чакаецца яго суседзяў, іх дачка і сын а шостай гадзіне заўсёды з'язджаюць. Суседні ўчастак з другога боку стаяў закінутым ад мінулага лета: казалі, гаспадыня, адзінокая саракагадовая жанчына, выехала некуды на Каўказ быццам на заробкі (яна працавала тынкоўшчыцай), ды так і не вярнулася, сувязь з ёй маці не мела, у самой сродкаў паехаць на пошукі дачкі не было. Таму ваенкам прымеркаваў свой прыезд на палову сёмай, разлічыўшы: спачатку апаласнуцца, як заўсёды, пасля —

лёгкі перакус, далей секс, добрая вячэра, паўтор сексу — і дахаты.

Але план адразу пачаў ламацца: Зойка не надзела бюстгальтар, сукенка была занадта празрыстая. Да таго ж, седзячы ў аўтамабілі побач з Федарам, яна вольна расхінула ногі, высока памахвала прыполам сукенкі, амаль цалкам адкрываючы спакуслівыя сцёгны — было спякотна. І хоць праз колькі хвілін у машыне ахалодала і сукенка ляжала нерухома на каленях, юр ужо завалодаў Федарам. Ён пажадліва паглядваў на спадарожніцу, уяўляючы, як хутка гэтае прагнае да ласкі маладое цела апынецца цалкам у ягонай уладзе, і міжволі ціснуў на газ.

Адкрыў вароты, паставіў машыну так, каб жанчыне ў адзін крок апынуцца ў дамку. Выйшаў, насцярожана агледзеўся і застаўся задаволеным: нідзе ні душы. Цішыня была аглушальная пасля горада, нават конікаў у траве не было чуваць. Адчыніў дзверы дамка, дзверцы аўтамабіля:

— Давай…

Зоя шмыгнула з аўтамабіля. Федар захапіў пакунак з ежай і пітвом, зачыніў машыну, паторгаў ручкі дзвярэй: хай там і пячэ і падганяе, ды бяспека — найперш. Заходзячы ў дамок, зірнуў на сваю ёмістасць з вадой, якая, канешне ж, угрэлася за дзень. Ды потым... Ужо ведаў, што зараз, толькі зачыніць дзверы, загадае каханцы распранацца — нічога не было ў галаве, акрамя жаночага цела. Зойка зірнула на яго юрліва, беспамылкова ацаніла ягоны настрой і бессаромна кранулася паху, пагладзіла з націсканнем:

— У, які ты гарачы, — адступіла на крок, захапіла знізу сукенку, адным рухам засталася ў вузкіх трусіках, упала на канапу, задрала ногі, сцягнула

і тыя: — Скачы борзда, будзеш зверам! А я буду тваёй лялькай — шкуматай, грызі, валодай!

Федар распранаўся, і першы раз адзенне не складвалася ім нетаропка і не вешалася ахайна на спінку крэсла, а шпурлялася долу.

***

Віктар учора сачыў за ваенкаматам. Ён прыкмеціў, на якім аўтамабілі выехаў за вароты ваенкам, запісаў нумар — помніў, што самы тупы аловак надзейнейшы за самую вострую памяць. Праехаўся да дома ваенкама, пастаяў і пачакаў — раптам выйдзе і зноў паедзе? І дачакаўся, ваенкам, пераапрануты ў спартовы касцюм, хутка зноў сеў за руль. Віктар ехаў следам, радаваўся сваёй удачы: ваенкам выбраўся за горад і кіраваўся ў напрамку лецішчаў. Такім чынам Віктар агледзеў і дамок ваенкама: толькі нядаўна пастаўлены, акуратны. Такі і паліць шкада…

Таму сёння, прычакаўшы пачатку восьмай гадзіны, Віктар упэўнена пад'ехаў і спыніўся насупраць дамка ваенкама. Прыемна ёкнула: у двары стаяў аўтамабіль, значыць, гаспадар на месцы. Гэта важна, вельмі важна: найперш пагаварыць, пабачыць вочы чалавека. Віктар без асаблівага хвалявання таўхануў веснічкі і пайшоў нетаропка да ўваходу.

Федар Тарасенкаў пачуццём звера, якім толькі што спатоліў сваю жарсць, звязаў шалясценне шын па траве, лёгкі скрып веснічак і нетаропкія крокі — акно было прыадчынена — з небяспекай. Падхапіўся амаль у паніцы: а раптам муж Зойкі? Але яна, лежачы на жываце, толькі павярнула галаву і лянотна пракаментавала ягоны спалох:

— Не бойся… Я свайго тыдзень таму ў заробкі выправіла. Ідзі праганяй хутчэй — есці хачу і яшчэ…

Федар нацягнуў трусы, адамкнуў дзверы і ступіў насустрач нязванаму госцю. Ён пабачыў мужчыну ў лінялых джынсах, чыстай майцы і чамусьці ў шэрым пінжаку, хоць прахалодна ніяк не было.

— Стаяць на месцы! — загадаў ад парога Федар Тарасенкаў. — Ты без дазволу ўварваўся на прыватную тэрыторыю! А ну выйдзі адсюль!

Віктар нікольки не здзівіўся, не спалохаўся загаднага крыку.

— А ты мяне заарыштуй, — крыва пасміхнуўся ён, гэтаксама кажучы ваенкаму "ты". — Ведаеш, чаму я тут?

— Паўтараю: пакінь тэрыторыю!

— Не крычы так, не напужаеш, — паспрабаваў астудзіць пыл ваенкама Віктар, зважаючы на далёка не моцнае на выгляд цела мужчыны ў доўгіх сямейных трусах — фізічна, калі б давялося схапіцца, Віктар мог бы і выйграць без праблем. — Я бацька таго хлопца, якога ты, атрымаўшы хабар, адправіў у армію замест іншага. І сёння мой сын ляжыць без спадзяванняў стаць ранейшым. Жонка загінула, калі везла яму лекі. Ты разумееш, што ты нарабіў?

Віктар казаў спакойна, без абвінавачвання і надрыву, і гэта было памылкай, бо ваенны чалавек Федар Тарасенкаў мог падпарадкавацца толькі таму, хто меў голас, уладнейшы за ягоны.

— Я сказаў: прэч! За паклёп на работніка дзяржаўных арганаў ты будзеш адказваць па законе! Я зараз жа выклікаю міліцыю!

— Выклікай… — Віктару ўдалося злавіць позірк ваенкама, і ён убачыў там толькі лютую злосць.

Федар крутнуўся ў дом — каб схапіць тэлефон. Віктар не стаў марнаваць час перад зачыненымі дзвярыма: ён усё зразумеў. Як і тады, перад участковым,

адчуў халодную пустэчу ўнутры. Кішэня з пяском важка кранулася сцягна, ён апусціў у яе руку і набраў многа, колькі мог захапіць. Кінуў позірк на напоўненую ёмістасць з вадой у трох кроках ад сябе і шпурнуў рэзка туды пясок. "Хай табе тваё вернецца", — падумалася нечакана. Сеў у аўтамабіль, завёў рухавік і раптам застыў: у салоне выразна адчуваўся пах парфумы. Здзіўлена азірнуўся, нават нахіліўся і прынюхаўся да крэслаў. Не, так пах губляўся. І гэты пах не быў чужым. Скалануўся, успомніўшы: любімая парфума Антаніны. Павольна крануўся з месца, выязджаючы на вялікую дарогу.

Федар Тарасенкаў надзеў штаны, бо яму здавалася нядобрым званіць у міліцыю ў адных трусах, выскачыў зноў з дамка, пабачыў, як ад'язджае аўтамабіль Віктара. Хацеў ужо набіраць лічбы, як маланкай бліснула: Зойка на канапе! Падумаў, адключыў тэлефон. Нічога, калі мужык не супакоіцца, ён знойдзе на яго ўправу. Зайшоў у дамок. Каханка ляжала на жываце, як і раней, можа, нават, драмала. Голыя клубы і шырока раскінутыя ногі жанчыны зноў выклікалі ўзбуджэнне, але Федар спыніў сябе: найперш памыцца, пасля паесці.

Ён падышоў да сваёй ёмістасці і гідліва здрыгануўся: па ўсёй паверхні вады расплылася танюткая, брудная плёнка. Нясцерпны да любога непарадку і бруду, схапіў вядро, пачаў збіраць ваду зверху, выліваць. Чэрпаў, а тая плёнка ўсё не знікала, плавала кавалкамі. Добра напужаны расказамі аб радыяцыйным пыле, які час ад часу вятры прыносяць з Чарнобыля, расхваляваўся не на жарт. Нарэшце вырашыў ёмістасць напоўніць да краёў, тады плёнка сама сцячэ з вадой. Вярнуўся ў дамок, узяў помпу. Гыркнуў Зойцы, каб уставала і гатавала есці. Бо есці надта ж

хацелася, хоць зноў усё не па плане. Ён выйшаў, па звычцы не прычыніўшы шчыльна дзверы.

Зоя павярнулася на спіну, углядвалася ў столь. Яна пачувалася амаль шчаслівай: грошай ёй перападзе ад гэтага салдафона — хопіць, каб добра прыбарахліцца. Дый што ні кажы, а за гэты час яна нямала выцягнула з ваенкама, і нечаканы яе даробак дазваляў звесці канцы з канцамі: дачка падрастала імкліва, і карміць яе трэба добра, і апранахі купляць. А з яе работай прадавачкай у прыватніка на рынку колькі яна магла атрымаць? На мужа надзеі не было ніколі. Трэба ж так не пашчасціць ад пачатку: быццам быў кемлівы, музыкант, у тэатры граў. Каму ў цяперашні час тая самадзейнасць трэба, тут на сталічных гастралёраў народ не ідзе! І глядзі ж, ледзь на другі год выперла ў заробкі, ніяк не жадаў ехаць, усё скардзіўся: слабы надта. І насамрэч кволы. А як мужчына, дык ніякі. Думала напачатку, сарамеецца ён, раскалыхвала-будзіла жарсцямі, ды дзе там. Яго каб месяц не чапаць, ён бы і падзякаваў. Зараз паехаў, а колькі грошай прывязе, яшчэ бабуля надвое варажыла. Таму займець і каханка неблагога, і спонсара добрага — тое была, канешне ж, удача. А што ён любіць камандаваць ва ўсім, дык то як гульня для яе.

Зоя ўстала і як была, голая, пайшла да століка, пачала вымаць пакункі.

Вужыха ў кутку пад канапай прыўзняла галаву — да гэтага часу яна спуджаным камяком сціскалася нерухома, чуючы над сабой стогны і сапенне. Яе чуйны язычок зараз намацаў свежасць і вечаровае паветра — цягнула з прыадчыненых дзвярэй. Цягнула добра і ўстойліва, значыць, там вялікая шчыліна, каб вырвацца ёй на волю. Праўда, трэба было перадолець адкрытую прастору.

Вужыха адважылася. Выпаўзла з-пад канапы, лізнула паветра. І пачала рухацца да дзвярэй.

Жанчына заўважыла гэты рух, як заўважае падобнае чалавек спінай, знаходзячыся адзін у пустым чужым доме. Зойка азірнулася і пранізліва віскнула, скокнула да дзвярэй і раскрыла рот, каб хапануць паветра і закрычаць.

Федар, які ў гэты час трымаў у руках шланг, адкуль бруілася ў ёмістасць вада, заўважыў у дзвярах каханку, правакацыйна голую, і голас ягоны сарваўся на злое сіпенне:

— Адставіць голае!

— Змя-я-я-я! — залямантавала ўрэшце Зоя, віскат панёсся па лецішчах.

Федар уздрыгнуў ад крыку, павярнуўся. Вада са шланга лінулася міма ёмістасці, прама пад ногі ваенкаму, на зямлю, яшчэ раней змочаную ім, калі выплюхваў тую агідную брудную плёнку.

Яго дробна затрэсла — усяго адразу. Твар перакрывіўся ў жудаснай грымасе, з паўадкрытага рота папаўзла сліна. Вада са шланга цяпер лілася на адну ягоную нагу.

Зоя зразумела: адбылося нешта страшнае з яе каханкам і да яго нельга падыходзіць. Спераду была невядомая небяспека, ззаду — змяя…

Яна заверашчала звярком, што патрапіў у смяротную пастку.

Федар раптам рухнуў проста плазам, галавой на край металічнай ёмістасці. Жанчына пачула жудасны гук — цвёрдае вострае жалеза сустрэлася ва ўдары з чалавечым мясам і косцю. І закрычала яшчэ мацней і няўсцешней, прысела, адчуўшы сябе раптоўна бездапаможнай, прыкрываючы рот рукамі, гледзячы, як б’ецца сутаргава цела яе каханка.

Міма яе ног праслізнула чорнае цела вужыхі, жанчына ад гідлівасці кінулася ўбок, павалілася. І пабачыла тонкі чорны провад, які поўз па сцяне, з уторкнутай на канцы вілкай у разетку. Падскочыла, схапіла і шмарганула з усяго адчаю. Цела Федара сціхла.

Ірванулася ў дамок, ліхаманкава перакідваючы прасціну і пакрывала на канапе, знайшла і нацягнула трусікі, сукенку. Адзіная думка авалодала ёй: хапіць сваю сумачку і бегчы, бегчы адсюль, але тут успомніла, што яе рэчы — у машыне, а тая замкнёная. За акном мільганула цень ля веснічак — нехта ўжо спяшаўся на дапамогу, пачуўшы Зойчын крык.

## ФРАГМЕНТ 43

### Сцяпан Галоўчыц, суддзя

Жонка гукнула з каміннага пакоя — працяжна, з вінаватасцю, і Сцяпан Галоўчыц падумаў пра сапсаваны вечар. Бо ягоная Вольга ўмела распавесці аб сутнасці навін усяго толькі сваёй інтанацыяй.

Вольга стаяла ля каміна і глядзела на яго цагліны, быццам заўважыла там і прачытала які таемны знак аб канцы свету ці будучым сямейным няшчасці. Сцяпан аб усім здагадаўся зразу і вылаяўся ў думках.

Скупы плаціць двойчы! Вось жа такая простая ісціна. Здавалася, старшыні раённага суда за гады практыкі трэба было б упэўніцца, што народныя ісціны не таму былі прыдуманыя, каб жартаваць, а дзеля таго, каб папярэджваць. Так і з камінам атрымалася. Быў варыянт: набыць цэглу спецыяльную, менавіта для камінаў. Так, яна даражэйшая за звычайную, так, з ёй працаваць абы-каго не ноймеш, пад яе адмыслова трэба было шукаць і карніз,

і засаўку для дымахода. Падказалі: бярэш звычайную цэглу, а затым, як добра прасохне — лакам! Усё блішчыць, пыл сціраецца на раз-два. Жонка Вольга, як пачула слова "лак", ажно засвяцілася ўся. Бо была апантаная бліскучай паверхняй усяго магчымага. Нават невялікая кампазіцыя з валуноў у двары дома, якую сабраў сын Слаўка, была праз некаторы час крадком пакрытая Вольгай некалькімі слаямі бясколернага лаку. "На бліщчастую паверхню не так асядае пыл, не збіраецца бруд, і мне такое працерці — дзве хвіліны!" — апраўдвала яна перад мужам і дзецьмі сваё жаданне бачыць у доме ўсё бліскучым. Тым і пераканала Сцяпана: цэгла таннейшая, лак яна знойдзе гэтаксама танны — вунь колькі выйграюць! Так і зрабілі, бо ў гаспадарскіх пытаннях Сцяпан ніколі надта не спрачаўся з жонкай, калі ішла гаворка аб аздабленні дома. Што праўда, цэгла пад лакам набыла насычаны памаранчава-чырвоны колер, камін глядзеўся досыць дыхтоўна.

Пасля першага ж палення самыя блізкія да агню цагліны пакрыліся тонкай сеткай маршчынак — то патрэскаўся слой лаку, якога Вольга ніяк не пашкадавала. Далей — болей, і ўрэшце больш за палову цаглін выглядалі непрыгожа. І вось цяпер Вольга разгублена і вінавата краналася пазногцем паверхні цаглін, якія былі быццам пакрытыя ўжо не маршчынкамі, а белаватай луской — лак пачаў злупліваецца. Сцяпан з сынам Слаўкам спрабавалі аблупліваць лак з дапамогай нажоў, стамескі, але лускавінне дзе адходзіла лёгка, дзе трымалася мёртва, а на цаглінах заставаліся непрыгожыя драпіны. Не хапала клопату шліфаваць пасля цэглу! Заставалася купіць добры растваральнік і спрабаваць. А які то быў той лак —масляны ці нітра? Сцяпан акуратна загарнуў

у паперку колькі большых лускавінак, назаўтра зайшоў у крамку, паказаў. Прадавец, хлопец дасведчаны, вызначыў хутка, які лак, прадэманстраваў сваю адказнасць перад пакупнікам: дастаў мо пяць гатункаў раствaральніку, капнуў кожным па асобных лускавінках. Разам яны назіралі: якая вадкасць падзейнічае эфектыўней. Аказалася, самы дарагі і самы ж смярдзючы. Сцяпан зусім не быў уражаны гэтым — якаснае не можа быць танным, жыццё давяло. Прадавец паслужліва папярэдзіў: раствaральнік надта атрутны, усё рабіць пажадана ў рэспіратары (тут жа прапанаваў), пальчатках, з адчыненым дымаходам каміна. Ну і, канешне, ніякага агню.

Тым жа вечарам паспрабавалі: лак здымаўся без праблем. Вольга не дала папрацаваць: смурод пайшоў па ўсіх пакоях. Вырашылі: на выхадныя прыедзе Васілінка, дачка. То ёй і Слаўку будзе на дзень работа. Самі бацькі збіраліся праведаць бабулю Зосю, цешчу Сцяпана Галоўчыца.

Васілінка, студэнтка перадапошняга курса юрыдычнага факультэта, любіміца бацькі, прыехала ў чацвер. Вышэй сярэдняга росту, з густой цяжкай хваляй выбеленых валасоў за плячыма, светлай усмешкай на твары — такой пабачыў Сцяпан дачку, сустрэўшы яе на пероне. Прыгажуня, што і казаць. Праўда, Вольга іншы раз казала на азадак дачкі — бабулін, шырокі ў косці. Але тое нікольki не псавала, на погляд Сцяпана, вытанчанага маладога стану дачкі. Да таго ж, што было важней: Васілінка была не па гадах разумнай, адказнай і разважлівай дзяўчынай. Праўда, іншым часам Сцяпан крывіўся ад рэзкіх выказванняў дачкі адносна існуючай дзяржаўнай сістэмы, найбольш — правасуддзя.

— Тата, тата, не спрачайся, бо ты ж не са мной спрачаешся, а з самім сабой! — ушчувала яго дачка, бы меншага па ўзросце. — Пра якую незалежнасць судоў можа ісці гаворка ў нашай краіне, дзе галоўных суддзяў назначаюць і яны цалкам залежныя ад выканаўчай улады? Ці мне табе расказваць?

У Сцяпана хапіла тады такту і мудрасці прамаўчаць, не затыкаць рот дачцэ строгім бацькоўскім: “Ты яшчэ нічога не разумееш”. Усё яна разумее. І гэта нават трошкі палохала. Дзякуй богу, у яе хапае мазгоў прыхоўваць, дзе належыць, свае меркаванні.

Затое з сынам у гэтым сэнсе ніякіх праблем — яго цікавяць адны камп’ютары. Ён намерыўся стаць айцішнікам, у гэтай сферы Сцяпан цяміў мала, галоўнае ведаў: новая тэхналогія, у якой самыя вялікія заробкі. То ў мінулым годзе адшкадаваў сыну на новы, асабіста для яго, ноўтбук, не скупіўся на аплату самага хуткаснага інтэрнэту ў доме. І хлопца не трывожыў лішні раз, як той заседжваўся ў сваім пакоі, не папікаў і жонку за яе звычку часцяком падносіць прыгатаваную вячэру сыну за ягоны стол — хай хлопец займаецца справай.

Адзінае, чаго патрабаваў ад дзяцей Сцяпан Галоўчыц бескампрамісна: ніякіх цыгарэт ці, крый божа, іншага курэння, ніякай дурноты з наркотыкамі. Дзеці, якія з малога раслі і ў ласцы, і ў строгасці, засвоілі правілы найлепшым чынам.

Нішто не паказвала на навальніцу: Вольга паспела сабраць на стол, цёпла пасядзелі ўсе разам, чацвёра, гэта ўжо была рэдкасць, і па чарцы самаробнага, мінулага ўраджаю, віна выпілі. Васілінка разабрала свой заплечнік, які стаяў у куце, заікнулася аб тым, што няблага б было і сам заплечнік памыць, бо пазашмальцоўваліся лямкі і іншыя месцы. І пайшла сабе

ў свой пакой. Вольга якраз набівала пральную машыну джынсамі сына, вырашыла заадно кінуць і заплечнік. Перавярнула ды патрэсла над ваннай, пасля яшчэ і абмацала.

І адчула пад пальцамі нешта. Пабачыла маленечкую кішэньку ў вялікай, адшпіліла яе. А там — тонкі і вузкі пачак цыгарэт.

Часцяком Вольга раўнавала дачку да мужа — ёй бачылася, між імі было больш даверу, чым між ёй і дачкой. На сур'ёзныя тэмы з ёй, з маці, Васілінка цяпер амаль не размаўляла. Даўно, гадоў з чатырнаццаці, мінуліся іх шчырыя бяседы, дый доўжыліся яны тады мо цягам паўгода. Потым Васілінка пачала саромецца размаўляць аб сваім, дзявочым. А падрасла — маўчыць таксама, маці не стала ёй сяброўкай. Яно, канешне, хай бы заканчвала вучобу, пазней пра замуства думаць, але во заўважна: ніколі хлопцаў Васілінка ў размовах не ўспамінала. Прыязджае дадому на выхадныя ці на канікулы — ніхто з хлопцаў да яе ў госці не прыходзіць, не тэлефануюць, сама яна на танцулькі не бяжыць. Хіба з сяброўкамі выйдуць на шпацыр. Пыталася неяк у яе Вольга, дык дачка аджартоўвалася: няма калі мне пра адносіны такія бедаваць, вельмі ж час адказны, паспею. Супакойвала сябе Вольга, а сэрца ныла: не прывядзі, божа, тое, пра што сёння тэлевізар балбоча, каб жа была яе дачка нармальнай жанчынай, а не гэтай, каторыя адна з адной жывуць. Як такі жах перажыць?

Таму знойдзены пачак стаў для Вольгі нагодай узнавіць ранейшыя шчырыя адносіны. Схавала той пачак пад крысо халата, зайшла да дачкі.

— Ой, донечка, як ты так, га? Бацька як даведаецца — крыку хопіць! Не даруе ж, ведаеш. Ён для

вас усё гатовы пакласці, адно просіць вас падалей трымацца ад падобнага.

Дачка сканфузілася, маўчала, потым прамармытала нешта кшталту: “Сяброўка забыла, мне ёй вярнуць трэба…”

— Я прамаўчу, не скажу нікому, ды ты мне абяцай, добра?

— Мам, абяцаю, — падціснула вусны Васілінка. І дадала нягучна, з лёгкай крыўдай: — Ніяк вы зразумець не можаце: мне дваццаць, а не пятнаццаць.

Вольга зразумела, што дарэмна разлічвала на адкрытасць і падкусіла вусны:

— Мы за цябе ў адказе, пакуль вучышся. Пойдзеш на свой хлеб, станеш сама сябе ўтрымліваць, тады мы не ўказ. А пакуль, як бацька сказаў: каб і не чулі і не бачылі… Толькі распуста з-за гэтага ўсякая.

— Я ж паабяцала, мам, — міралюбна загаварыла дачка, усміхнулася. — Не перажывай з-за мяне. Усё будзе добра.

— Глядзі ж! А гэта я выкіну, каб ніхто і не бачыў, — Вольга з пачкам цыгарэт выйшла з пакоя.

## ФРАГМЕНТ 44

## Віктар, суддзя Сцяпан Галоўчыц

Чарговы раз у краме Віктар спыніў сябе на думцы, што зараз, выходзячы з дому па прадукты, нават у думках не складае нейкі спіс. А раней жа Антаніна абавязкова давала яму паперку з поўным пералікам неабходных пакупак. Віктар без цяжкасцей пабачыў прычыну гэтых змен: цяпер ён ведае дакладна, што ў доме ёсць і чаго няма. Як зараз — будзе гатаваць бульбу тушаную. Значыць, найперш мяса,

рабрынкі, соус таматны, алей ёсць, хлеб не счарсцвеў, а булку на бутэрброд ранішні трэба. Для бутэрбродаў жа — сыр. Кефір. Смятана для салаты, на салату — агуркоў, іх на рынку лепш узяць, а не крамных. Няцяжка запомніць.

У горадзе яшчэ не перасталі абмяркоўваць страшную трагедыю ў інтэрнаце, калі пашкодзіла сабе пазванкі, упаўшы з лесвіцы, маладая жонка ўчастковага міліцыянера, як у рэанімацыю паступіў мужчына, ваенкам. Зноў няшчасны выпадак: яго біла токам ягоная ж помпа для вады на лецішчы, упаў галавой на край металічнай ёмістасці, рассек твар, пераламаў нос… Звязаць у адно два гэтыя здарэнні дапамагаў артыкул у сеціве, пра які цяпер мала хто не ведаў. Навіны абмяркоўвалі на рынку бабулькі, якія гандлявалі тут зелянівам. Віктар прыслухаўся, пакуль браў гуркі, спецыяльна не адыходзіў, перабіраў памідоры, хоць такіх вось, ранніх з цяпліцы, не любіў — ні смаку, ні наедку.

Пра ваенкама ён даведаўся ўчора: у раённай газеце было змешчана заметка нейкага начальніка з электрасетак пра тое, як важна выконваць правілы бяспекі пры абыходжанні з электрычнасцю, і там з адной літарай замест прозвішча, згадвалася тое здарэнне: “Так, грамадзянін Т., выкарыстоўваючы для падачы вады электрычную помпу з пашкоджанай ізаляцыяй, трапіў пад крокавае напружанне, упаў, атрымаўшы пры гэтым цяжкае пашкоджанне галавы…”

Не, радасці або задавальнення Віктар не паспытаў. Было дзіўнае спалучэнне адчування справядлівасці разам з веданнем пра пясок як дэтальку ў гэтых здарэннях. Чаму Федар Тарасенкаў раптам уключыў помпу? Тое ўжо дзясятая справа. Навошта гэта ведаць?

Віктар нядоўга чакаў суддзю Сцяпана Галоўчыца — той выйшаў з будынка праз дзесяць хвілін пасля афіцыйнага заканчэння работы. Размераным крокам чалавека, які стаміўся ад шчырага выканання свайго доўгу, наблізіўся да аўтамабіля. Віктар паспяшыў да яго.

— Добры дзень, грамадзянін суддзя, — павітаўся ён.

— Добры дзень! — павярнуўся да яго Сцяпан Галоўчыц. — Якія пытанні? Папярэджваю адразу: калі яны тычацца маёй службовай дзейнасці, то там, — ён махнуў рукой у бок будынка суда. — І не іначай.

— Як паглядзець, — трохі разгубіўся Віктар. — У любым выпадку, ні скардзіцца афіцыйна, ні прасіць аб нечым я не буду.

— Тады што? — незадаволена спытаў суддзя, памяць якога вышуквала сярод знаёмых твараў гэты: трошкі праставаты, але не рабацяга, паголены акуратна і сёння раніцай, невялікія залысіны, прамы нос…

— Вы судзілі мяне нядаўна…

— Так, стоп! — рэзка перабіў Сцяпан Галоўчыц. — Я паўтараю: пытанні па маёй службовай дзейнасці ў маім кабінеце. Парадак вам патлумачаць. Усё, да пабачэння!

— Не, чакайце! — мякка, але настойліва заўпарціўся Віктар. — Я таксама паўтару: я не збіраюся ні скардзіцца, ні прасіць. Я хачу спытаць, усяго спытаць. Мне ж можна атрымаць усяго адзін адказ на пытанне, і хай гэты адказ будзе гучаць нават “так” ці “не”.

— Добра, задавайце, — згадзіўся суддзя, дастаў з кішэні кашулі пачак цыгарэт, не адкрываў пакуль. — Толькі хутка.

— Дык такое пытанне. Вы асудзілі мяне на пяць сутак арышту, паверылі паказанням сведкаў — участковаму міліцыянеру і галоўурачу бальніцы, нібыта я лаяўся матам у грамадскім месцы, скандаліў, а міліцыянта хапаў за пагоны. Я вам казаў тады, паўтару яшчэ раз: майго сына прызвалі ў армію хворым, цяпер ён у такім стане, з якога, кажа доктар, наўрад ці вернецца ў чалавечы. Мая жонка Антаніна паехала па лекі для сына. Вярталася з імі назад. Калі б прывезла іх у час — хвароба б не зайшла так далёка. Але Антаніна не даехала. Яна тэлефанавала мне, а я быў асуджаны. У той дзень званіла, у які вы мяне судзілі. Зразумела, захвалявалася, хацела знайсці некага, хто б падказаў, дзе я. І калі яна званіла, то страціла пільнасць, канешне, а тут знянацку на дарогу выскачыў лось. І яна загінула. А лекі прапалі. Дык вось, грамадзянін суддзя, калі б я змог адказаць ці сам пазваніць сваёй жонцы, яна б была жывая. Каб не ваш прысуд. Скажыце, калі цяпер вы ведаеце ўсё, вы ўсё адно лічыце справядлівым свой вырак з арыштам, а не выпісваннем мне якога вялікага штрафу?

Сцяпан Галоўчыц выслухаў моўчкі, круцячы ў руках пачак цыгарэт і чытаючы надпісы на ім. Пры першых словах Віктара ён успомніў яго, тую справу, успомніў і званок ад начальніка міліцыі — даць суткі, бо так просіць галоўурач. І што, яму зараз пра ўсё расказаць? А пакрыўджаны заўтра пабяжыць даваць інтэрв'ю розным "незалежным" сайтам? Яму губляць няма чаго.

Ён адкрыў нарэшце пачак, дастаў адну цыгарэту, трымаў у пальцах.

— Чытаў у сеціве пра вашу бяду, пра яе сёння ўсе гавораць. Я не абавязаны адказваць на такія пытанні,

чыста па-чалавечы скажу: я як суддзя заўсёды знаходжуся ў тых межах, якія дыктуюць мне закон і абставіны. Гэта ўсё.

Віктар саўгануў руку ў кішэню, быццам збіраўся адтуль нешта дастаць, памацаў там, глядзеў на суддзю амаль са шкадаваннем.

— Тады дазвольце пазычыць у вас закурыць, — неспадзявана для сябе папрасіў ён, адчуваючы ў гэты момант жаданне хаця б нейкага фізічнага кантакту з суддзёй.

— Гэта калі ласка, — Сцяпан Галоўчыц працягнуў яму пачак з цыгарэтамі, сам з запальнічкай адвярнуўся, каб прыкурыць.

Віктар пальцамі левай рукі, якімі толькі што пераціраў пясок у кішэні, узяўся за адну цыгарэту, пасля перадумаў — выцягнуў іншую. Падумалася — забрудзіў, нельга так, ды быццам нехта збоку шапнуў: “Зроблена”. Вярнуў пачак, узяў працягнутую запальнічку, прыкурыў, аддаў яе і, не кажучы больш ні слова, пайшоў. Ля бліжэйшай сметніцы прыпыніўся, кінуў у яе недакурак.

Сцяпан Галоўчыц пазіраў яму ўслед. “А спачуванне я быў проста абавязаны выказаць, — незадаволена падумаў пра сябе. — Чалавек страціў усё…” Ён завёў аўтамабіль, зірнуў, у які бок вуліцы накіраваўся Віктар, і з прыкрасцю заўважыў — не ў той, куды трэба яму. Бо яшчэ не аціхала жаданне дагнаць мужчыну і сказаць хоць нешта чалавечае. Наўпрост нельга вось так: ён да цябе з усё сваёй бядой, а ты яму: запішыцеся заўтра на прыём… Пад’язджаючы да дома, ён выкінуў цалкам з галавы і сустрэчу, і сваю прыкрасць, бо аднойчы і назаўсёды вырашыў: службовае не цягнуць у сваю хату, дзе жонка, дачка і сын.

Вечар пятніцы быў зноў прыемна сямейным: за сталом сядзелі доўга, гутарылі пра рознае. Сцяпан напрыканцы пракансультаваў дзяцей, як абыходзіцца з растваральнікам, папярэдзіў, каб многа не рабілі — само жарало каміна і па яго перыметры. Прасохне цэгла — будзе бачна, як атрымалася.

Васілінка ўлучыла хвілінку, нячутна шмыгнула на балкон і выхапіла з бацькавай пачкі, якая ляжа на століку побач з папяльнічкай, цыгарэту, схавала ў кулак і вярнулася да сябе.

Суботняй раніцай а восьмай гадзіне бацькі з'ехалі. Брат з сястрой прачнуліся пасля дзявятай. Паснедалі. У камінны пакой прынеслі калонкі, грала музыка. Працавалі ўдвух адразу — жарало было шырокім, адно аднаму не заміналі, а хацелася ж хутчэй вызваліцца. Растваральнік смуродзіў, але да паху хутка прывыклі. Ватныя кружэлкі, якія забруджваліся знятым лакам, скідвалі на под каміна.

Рэспіратар быў адзін, бо ж думалі працаваць па чарзе. Спачатку яго нацягнуў Слаўка, праз хвілін дзесяць зняў і прапанаваў Васілінцы:

— Макрэю ў ім. Бяры ты.

— Ат, хапае чым дыхаць, не дзень жа нам сядзець, — адмовілася Васілінка.

Слаўка пакруціў галавой — куды падзець рэспіратар, каб не адыходзіць ад каміна, на вочы трапілася ручка заслонкі дымахода. Ён пацягнуў за яе, каб стала прамей, павесіў.

Дымаход перакрыўся.

Непрыкметна пацямнела ў вокнах, шугануў вецер, ірвануліся да столі фіранкі — навальніца насоўвалася на горад. Васілінка падхапілася, зачыніла акно, пасля прайшлася па астатніх пакоях дома, пазачыняла ўсе

вокны. Буйныя рэдкія кроплі гучна заляпалі па бляшаных падаконнях. У доме стала вусцішна з-за павіслай цішыні — Слаўка якраз выбіраў новыя трэкі ў тэлефоне.

— Слаўка, ты шаруй за мяне, а я каву зраблю, ага? — прапанавала Васілінка.

— Рабі! Мне вялікі кубак!

Калі яна прыйшла, музыка грала, Слаўка шараваў цагліны. Дзяўчына паморшчылася ад густога паху растваральніку. Нічога, прывыкне.

Прыселі за столік.

Васілінка схадзіла ў свой пакой і вярнула з цыгарэтай і запальнічкай.

— Дасць табе бацька! — паківаў галавой брат.

— Як мама не здасць, дык не дасць, — адмахнулася Васілінка. — Ці ты закладзеш?

— Вось жа, дзякуй за такія думкі! А маці адкуль ведае?

— Учора пачак цыгарэт з заплечніка вывалакла. І канфіскавала. Мне давялося красці цыгарэтку ў роднага бацькі. Уяўляеш, я — студэнтка перадапошняга курса юрыдычнага факультэта — дробны злодзей!

— За гэта не судзяць, — усміхнуўся хлопец.

— Ведаў бы ты, за што ў нас судзяць і садзяць, — уздыхнула Васілінка. Яна паспела прыкурыць, пыхнуць дымам, а пасля скрывіла вусны ад гідлівасці:

— Фу, гадасць! — стала церці вусны.

— Што такое?

— Дрэнь нейкая на фільтры, пясок ці пыл... Фу!

Дзяўчына ўскочыла, зрабіла тры крокі да каміна, прысела і церанула прыпаленай цыгарэтай па ягоным подзе.

Паляцелі чырвоныя іскрынкі.

Аднекуль з дымахода раптам глуха хакнула блакітнае з жоўтым тугое полымя, ірванулася на пакой з жарала і імкліва схавалася назад, пакінуўшы пасля сябе запалаўшую купку скарыстаных ватных кружэлкаў.

Васілінка павалілася на падлогу, выгінаючыся і круцячыся. На ёй гарэлі валасы, сінтэтычная майка.

Слаўка выскачыў з-за століка, трымаючы кубак з гарачай кавай у руках, той выплюхнуўся яму на жывот. Хлопец кінуў кубак, заскакаў апечаны, разгублены, перапалоханы да немагчымага. Праз колькі імгненняў яму на вочы трапілася аконная фіранка, якую ён ірваў, ірваў, а яна трымалася, нарэшце ўпала разам з карнізам, і ён упаў на калені побач з сястрой, накінуў на яе галаву тонкую матэрыю, якая ад агню распаўзалася на дзіркі, а ён хапаў, камячыў і тушыў, тушыў…

## ФРАГМЕНТ 45

### Віктар, Антон

У нядзелю Віктар пазваніў у бальніцу, як і заўсёды, раніцай, ля дзявятай гадзіны. Але доктарка папрасіла на гэты раз патэлефанаваць крышку пазней. Праз гадзіну яна з прыхаванай радасцю распавяла: два дні таму адбыўся кансіліум, прыязджаў прафесар з Мінска, якому дагэтуль накіравалі ўсе матэрыялы. Было вырашана змяніць тэрапію, прымяніць новыя лекі. І яны далі вельмі добры эфект. На сёння аднавіліся здольнасці вестыбулярнага апарата, хворы пачуваецца значна лепш. Прагрэс відавочны, таму не трэба страчваць надзею. Яна, доктарка, будзе чакаць Віктара ў сераду — да гэтага дня назіранні пакажуць дакладны вынік, трэба будзе перамовіцца аб далейшым лячэнні сына.

Віктар падзякаваў стрымана. Адчуў лёгкую цеплыню, на якой баяўся нават засяроджваць увагу — каб не спудзіць яе. Няхай будзе неасэнсаванай дарэшты. Ён сабраўся запытацца: чаму яна не гаварыла яму раней пра кансіліум, ды доктарка, мабыць, зразумела яго пачуцці і дадала сама:

— Я не хацела вас надта абнадзейваць наперад, зразумейце правільна.

І ўсё ж у яе словах Віктар адчуў недагаворанасць, нібы яна сама была здзіўленая не столькі вынікам новай тэрапіі, колькі фактам праведзенага кансіліуму.

Сусед Антон дзынькнуў у дзверы за поўдзень. Віктар адчыніў, кіўнуў — заходзь. Той трохі сарамліва запрасіў:

— Мая на вёску падалася — свята нейкае там рыхтуюць у мясцовай царкве, і дзяцей забрала. А ў мяне бутэлечка белай зарабілася. Адварыў сабе пельменяў, ды надта многа. То хадзем да мяне, га?

— Хадзем, — згадзіўся Віктар. — Я тут сам вырашыў падацца па пельмені ў краму.

Выпілі моўчкі па першай, елі, пасля Антон наліў яшчэ па адной і сказаў, трымаючы шклянку ў руцэ, гледзячы некуды ў кут пакоя:

— А я во часам думаю: не, не такая ўжо ў мяне дурная жонка. Канешне, баба з бзыкамі, тут ніц не паробіш. Але ж калі яна столькі пра Бога кажа, мо ж нездарма? І не з усім з ёй паспрачаешся. Бо чалавечым розумам такое не прыдумаеш. Мо ж ёсць на свеце ён, каб бачыць усё…

— Гэта ты да чаго? — насцярожыўся Віктар.

— Дык жа ты пра дзяцей суддзі нашага чуў?

— Нешта гаманілі на рынку…

— Дык от… Меншы апёкся, жывот там, пах, тое нястрашна, дома ўжо. А дзяўчына, студэнтка, такая

прыгажуня, казалі, — абгарэла галава. Твар, шыя… Павезлі ў апёкавы цэнтр. Дык бачыш: участковага жонка ўпала і не паднялася, у суддзі во якая бяда з дачкой, а ваенкам сам пакалечыўся. От як. Выходзіць, праўду мая Тацяначка кажа: ёсць той, хто ўсё бачыць і чуе. І судзіць. У горадзе пра гэта толькі і кажуць. Як ты мяркуеш?

— Мабыць, ёсць, — Віктар выпіў, адламаў кавалак хлеба і дадаў: — Бог ці нешта яшчэ…

— Яно так. Ды ўсё неяк… Дзеці ж не вінаватыя.

— Во як? — ускінуўся Віктар, пасля прымусіў сябе спытаць спакойна: — І далей?

— Ды во, разумееш… Сам я казаў, няма ніякай сістэмы там, людзі адно. Калі той цукар сыпаў на стол, крупінкі бачыў, пра крупінкі думаў, крупінкі і ціснуў. А вот цяпер зірнуў: не крупінкі, а жывыя людзі. І іх пазногцем без шкадобы… У мяне не выйдзе.

— Так… Значыць, тады лепш было б, каб усё ў іх добра заставалася? У іх, з-за каго мой сын зараз хворы, з-за каго Тоня ў зямлі ляжыць, — хай у іх усё добра будзе, так?

— Яно, вядома, трэба, каб чалавек адказваў, але ж дзеці. Страшна гэта. І мая во Тацяначка кажа, кожны з нас… Ну, як што здараецца з намі непрыемнае, дык, значыцца, не дарэмна. Не толькі нехта збоку вінаваты.

— Стой-стой, — пачаў нервавацца Віктар. — Ты спрабуеш давесці, як мяне гора накрыла, значыць і мне — было за што? Так?

— Ды скуль мне ведаць, — уздыхнуў Антон. — Як з імі такое здарылася, а мы вот з табой ведаем: быў за імі грэх, то з табой — з-за чаго?

— Вось як, значыцца… Па-твойму, зла без прычыны не бывае?

— То Тацяначка так мая кажа, а я з ёй… пагадзіўся, — вінавацячыся, зірнуў Антон на суседа, пацягнуўся па бутэльку. — Мы ж от жывём, ходзімездзім… Ды як той ваенкам, ці суддзя, ці ўчастковы: яны ж не хацелі менавіта твайму сыну, табе злое зрабіць, правільна? Не хацелі, каб Тоня загінула. Яны як тыя калёсікі ў гадзінніку: кожны круціцца быццам і сам па сабе, а стрэлку адну рухаюць. Не знаюць, куды тая стрэлка паверне. От… Няма бязгрэшных.

Віктар засоп, але стрымаў сябе. Нешта ёсць лагічнае, праўда. Не хацелі яны. Ніхто не хацеў. Тая доктарка не хацела ж спецыяльна, каб Максім захварэў так цяжка. І ўчастковы не лгаў дзеля таго, каб жонка Віктара страціла пільнасць і наляцела на лася! Тады, атрымліваецца, не яны зло зрабілі, а так склаліся кавалачкі, так абставіны павярнуліся, што Віктара расплата напаткала? За што? Ён задаў гэтае пытанне ўслых, не чакаючы адказу выпіў, паўтарыў:

— За што? Якому чалавеку злое зрабіў? Ну, з дзяржавай так, не зусім сумленна апошнімі гадамі, тут брахаць не буду. Але ж людзей — не падманваў. Не драў лішнія грошы. Не подлічаў, не здраджваў, не прадаваў. Бацькоў пахаваў па-чалавечы. Сабак не забіваў, кацянят не тапіў. Дзе ж мае грахі, за якія ў мяне трэба забіраць сына і жонку?

Антон крэкнуў і глынуў, заеў, сказаў з апраўданнем:

— Ды я ж не кажу, што ты вінаваты. Тацяначка вунь казала, ад сёмага калена грахі лічацца.

Віктар прамаўчаў у адказ, думаў над нечым сваім, пасля ціха прызнаўся:

— Быў у мяне адзін грэх. Халасты, толькі з арміі. Дзяўчына з вёскі на завод прыйшла, закруцілася ў нас з ёй. Не каханне, так, абое да волі дарваліся.

Я — з арміі, яна — з вёскі. Жаніцца я тады зусім не збіраўся, а яна зацяжарала. Сказаў ёй тады, кшталту, яе гэта праблемы. Яна і зрабіла аборт, як мне пасля пераказалі. Гэта — той грэх? Мы былі маладыя і дурныя, у нас не было б ніяк сям'і, дый урэшце я ж яе не прымушаў аборт рабіць, нарадзіла б — хто ведае, мо й жылі б, ва ўсякім разе, ад бацькоўства б я не адкруціўся. Дык за адмову замуж браць — мне адплата? — спытаў настойліва ў Антона. — І чаму не я знявечаны ці забіты, а мая жонка?

— Тое не мне рашаць, — нечага аж напужаўся Антон.

— Вось! — падвысіў голас Віктар. — І лухта ўсё пра сёмыя калені. Бацькі з мазаля жылі, то іх прыніжалі ўсё жыццё. Зло чалавекам пачынаецца. І чалавек яго спыняць павінен.

— Конь на чатырох нагах, а спатыкаецца, — не здаваўся Антон.

Віктар і разумеў суседа — таму было шкада невінаватых ні ў чым дзяцей суддзі і жонку ўчастковага, і не мог ён прабачыць гэтую дробную здраду: яшчэ колькі дзён таму Антон казаў пра неабходнасць адказу кожнага за свае асабістыя правіны, а цяпер во як: прабачаць трэба, бо спатыкаюцца людзі.

Нейкі час ён маўчаў, няўлоўная пакуль думка блукала ў яго галаве, успыхвалі сцэны ягоных сустрэч з суддзёй, участковым, ваенкамам. Ён засяродзіўся, нават вочы далонню прыкрыў, упёршы локці ў стол і апусціўшы галаву.

— Налі па трошкі, — прапанаваў Антону, той дагодліва адразу схапіўся за бутэльку. — Вось што я табе скажу, — Віктар закінуў у рот халодны пельмень, раскусіў і каўтнуў. — Спатыкаецца кожны, канешне. І я падумаў: а каб Антаніна не ў лася ўрэза-

лася, каб яе ўчастковы той на сваім аўто выпадкова, не жадаючы, канешне, збіў? Я б дараваў яму? Ці каб гэта быў суддзя? Толькі вось дзе дробязь важная: каб ехалі яны, ну, як звычайныя людзі, скажам, у нейкі выхадны дзень адпачываць куды. І вось аварыя, загінула Антаніна… Дараваў бы я? Ты знаеш, мабыць, так. Бо яшчэ я ўпэўнены: кожны з іх сам спяшаўся б да мяне прасіць прабачэння. А тут… тут яны вінаватыя — яны мяне адправілі ў камеру, з-за іх Антаніна загінула. Але і адзін, і другі на той момант не людзі былі — а службовыя асобы. Ты тады грунтоўнае казаў: іх сістэма бароніць, яны ўпэўненыя, быццам ніякім чынам не дакажу я іхняй віны. І кожны з іх — суддзя, участковы, ваенкам — усе яны стаяць перада мной, ведаюць: зрабілі супраць мяне і майго сына зло, паступілі няправільна, але — ты гэта зразумей! — ні друзачкі сваёй віны не прызнаюць і не адчуваюць, вось галоўнае! Я перад імі ніхто, я не чалавек, мая Антаніна — не чалавек, сын — не чалавек. Мы — лічбы і прозвішчы. Антон, ты мне скажы: чаму яны робяць зло і бачаць тады перад сабой радкі літар замест чалавека, а як адказваць за свае ўчынкі — хочуць, каб літары сталі людзьмі жаласлівымі, і на іх ужо не як на чыноўнікаў, а як на людзей жывых глядзелі, дзяцей іх бачылі? Патлумач мне, як мне ваенкаму ўсё дараваць, калі ён за хабар (а гэта мне дакладна сказалі!) не таго, каго трэба, а майго хворага сына ў войска прызваў, а як я да яго прыйшоў, ён мяне з лецішча гнаў, бы старшына салагу, не пытаўся нават пра сына? Мне — з гэтым жыць? Мяне ж растапталі два разы: першы, калі цягнулі ў кайданках, як забойцу-вар’ята. І зараз топчуць — ніхто ні слова спачування не прамовіў.

Віктар закончыў усхваляваны, счырванелы. Антон насцярожана, нават з невялікім страхам пазіраў на суседа. Віктар выглядаў зусім не ціхамірным. Але спытаў Антон іншае:

— Дык, гэта, ты, значыць, прыходзіў да іх? Чуеш, кажуць у горадзе: як ты сустракаўся, тады і здаралася страшнае. У інтэрнаце цябе прыкмецілі, да суддзі ты падыходзіў… І на лецішча ездзіў?

— Я ж табе казаў: ніводны з іх не тое што выбачацца, а і слова спачування не выказаў. Канешне, да кожнага я прыходзіў. А чаму так здаралася — тое мне не зразумець.

Антон заёрзаў на табурэце, выціснуў:

— І да гэтай доктаркі пойдзеш?

— А яна ні ў чым не вінаватая? — з-пад ілба скасіў вочы на суседа Віктар. — Пайду. А пасля пайду ў пракуратуру.

— Цяжарная яна, — выдыхнуў Антон. — Жончынай сяброўкі дачка…

Павісла маўчанне. Тым часам за акном імкліва пацямнела — апошнія дні навальніца бліжэй да абеду накрывала горад залевай, рэдкімі сполахамі маланак і лянівымі грымотамі. Перад навальніцай, бы вяшчун яе, налятаў кароткі, дзікунскі ў сваёй моцы шквал — зрываў бялізну з балконаў, ляпаў адкрытымі аканіцамі і фортками, урываўся прахалодным прывідам у кватэры. Антон устаў і прычыніў акно. Віктар доўга маўчаў на гэты раз — стрымліваў сябе, каб не крычаць, каб казаць узважана.

— Чаму ж так адбываецца, як доктарка халат апране, як міліцыянт у форме і ваенкам у сваім кабінеце — яны іншыя? Чаму мы тады перад імі — не суседзі, не сябры, не людзі, а ўсяго грамадзяне,

запісы ў пратаколах-актах? Я многа думаў. Я ж таксама на работу прыходжу, павінен іншым быць, а не раблюся. Чаму? Бо мне людзі плацяць за маю работу. Я ім паслугі, яны мне плату. А гэтыя на работу — і ўладу атрымалі. Вось у чым розніца. Кожны — хоць крышачку. Доктарка — над хворымі, ваенкам — над прызыўнікамі, міліцыянт — над усімі. І гэтая ўлада дазваляе ім нас зневажаць, з нас здзекавацца, пагарджаць нашымі правамі, пазбаўляць нас магчымасці быць людзьмі. Так выходзіць. От я з суддзёй сустрэўся, расказаў яму пра ўсё, як было і што выйшла, ён мне адказаў у тым сэнсе, быццам у сваёй рабоце дзейнічае ў рамках закона і абставінаў. Я неяк і не задумаўся надта, ат, адгаворка дый усё. А пасля паразважаў. Не, не простыя словы, тут сэнс глыбокі. Бо пра абставіны сказана. Цяміш, суседзе? Суддзя не толькі закон згадвае, але і нейкія абставіны. І дайшло да мяне: былі ў яго такія абставіны, каб мяне ўпячы менавіта на суткі. Былі! Нехта яго аб гэтым папрасіў ці яму загадаў. Антоне, ты скажы: от бы ведаў суддзя, што за такі несправядлівы вырак, які на лжы заснаваны, ягоныя дзеці пацярпяць, ён бы яго выносіў? Ну, скажы!

— Што тут гаварыць…

— У гэтым і справа. А пра Бога… Канешне, я тваю жонку і паважаю, і ўдзячны я ёй за ўсё, не ведаю, як бы справіўся без яе дапамогі, і вучыць яе не збіраюся, і не смяюся з веры яе. Я сваіх бабуль помню. Кажуць, бабулі дзяцей да веры прыводзяць. Так, мая па мячы пра Бога расказвала многа, і пра пекла, Вырай. А другая… Другая, па кудзелі, мяне атэістам, лічы, зрабіла. Колькі разоў летаваў я ў яе. Абразы былі ў хаце, жагналася часам бабуля, а каб казаць мне нешта пра Бога ў тым сэнсе, нібыта ён усё

бачыць, усё лічыць ды караць будзе, — не помню такога. Тая Богам палохала, а гэтая — не. Царкву ў тыя гады ў вёсцы аднаўлялі. Бабуля адзін раз там і была. На наступным тыдні суседка яе гукае, а бабуля ёй у адказ: "На які ляд мне туды перціся? Глядзець, як гэты п'яны гіцаль у расе ківаецца? У царкве з п'яным папом не Бог жыве, а чэрці! А да чарцей я во ў балота схаджу, яшчэ і шчаўя назбіраю!" Здзівіўся я тады вельмі. І прыстаў да бабы з роспытамі: а які бог у царкве павінен быць, а якія чэрці ў балоце? Пра чарцей бабуля мне сказала, яны мурзатыя і ўрэдныя. То-бок як я, калі неслух. А пра Бога… Так яна мне мовіла: "Чаго ты прыліп смалой? Бог, Бог… Людзей не крыўдзі — во табе Бог!" Ты разумееш? Адна бабуля кажа: Бог на небе, суровы дзед, а другая: Бог не нехта, а нібыта правіла, закон. Пазней ужо даводзілася чуць: Бог — тваё сумленне. І залатое правіла чытаў: як жадаеш, каб з табой абыходзіліся людзі, так і ты з імі. Ты чуеш, Антоне, як проста: "Людзей не крыўдзі — во табе Бог". І правіла тут тое залатое, і сумленне тут. Дык калі Божы закон: не крыўдзіць людзей, не чыніць ім зла, хіба сам Бог можа зло людзям чыніць, крыўдзіць іх? Што ж атрымліваецца? А тое атрымліваецца: усякае зло на зямлі — ад чалавека. І толькі ад чалавека. Ты тут не думай, я не барацьбіт нейкі. Я ўсяго толькі хачу, каб адказалі ўсе па справядлівасці, хто датычны смерці Антаніны і хваробы сына. Мне гэтага хопіць.

— Ды я, Віктар, хіба супраць? — здаецца, пакрыўдзіўся Антон, крыху захмялелы. — Яно, канешне, сярод людзей так: каб кожны запатрабаваў адказу ад крыўдзіцеляў сваіх, дык яно б… быў бы парадак, анягож!

Гэтым вечарам, правяраючы электронную пошту, пабачыў ліст ад Змітра Карпекі, таго журналіста. У паведамленні была адно спасылка. Віктар памарудзіў і націснуў — яна вяла на адзін з незалежных сайтаў, дзе была зноў выкладзена ўся гісторыя Віктара, ягонага сына і жонкі, і ў дадатак усё тое, што адбылося з ваенкамам, жонкай участковага, дзецьмі суддзі. Віктар пачытаў першы дзясятак каментароў: людзі радаваліся. Адкрыта, злавесна. І гэта непрыемна ўкалола. Няхай бы ўсё засталося ў меншай вядомасці. І разам з тым пачало грэць іншае пачуццё: яго падтрымліваюць, ён усё робіць правільна. Хоць што ён робіць? Па сутнасці ён — ніхто ў гэтых гісторыях. Ён — толькі маленькая дэталька, ягоны пясок — адна з соцень выпадковасцей, якія сабраліся ў кожным выпадку ў адну вялікую ліхасць.

***

Сын пазнаў Віктара. У нейкі момант яго блукаючы позірк знайшоў вочы бацькі. Віктар здрыгануўся: першы раз за столькі часу ён убачыў свядомасць у вачах сына. І хай у тым позірку была пакуль няўцямнасць і бездапаможнасць, ды там было галоўнае — Віктар адчуў жывую роднасць. Ён крануўся схуднелых сынавых рук:

— Усё будзе добра, сынок… Ты захварэў, але ты паправішся.

Доктарка казала праўду, яна нават змаўчала ў тэлефоннай размове пра тое, што сын выйшаў з бяспамяцтва.

У бальніцы Віктар затрымаўся гэтым разам даўжэй: дамаўляўся з санітаркай, каб яна асабіста апекавалася сынам, каб пазбегнуць пролежняў. Напрамую, як тое і намякнула доктарка, спытаўся пра суму,

ніколькі не здзівіўся з агучанай лічбы, тут жа дастаў грошы, якія зняў з карткі загадзя, аддаў жанчыне, мажной і дужай, якая ўдавала на загадчыцу якога склада, чым на санітарку. Тая нетаропка, уважліва, як касірка якая, пералічыла грошы, сказала, як нешта трэба будзе купляць для хворага, то зробіць тое сама, а пасля скажа суму Віктару. Ён паспешна згадзіўся.

…Доктар-тэрапеўт не званіла. Маладая, цяжарная. З усіх яна то найбольш павінна ведаць сваю віну. Канешне, і яна чула пра ўсе падзеі. Жанчына. Не тэлефануе. Не прыходзіць. Значыць, не баіцца. Яна — доктар, бачыла: у чалавеку няма нічога незвычайнага, унутры ён, разрэзаны, як усякая жывая істота: сэрца там, страўнік, кішкі, ныркі, косткі, мяса… Невытлумачальнага ў свеце не існуе.

Ёсць толькі выпадковасці. Ёсць шлях багоўкі па крыжы, і яна не ведае, чым скончыцца кожны з напрамкаў. Бяжыць, перабірае лапкамі…

***

Тацяначка з тыдзень не траплялася на вочы, толькі за колькі дзён да саракавін па Антаніне перасіліла сябе. Мабыць, доўг, які ёй дыктавала яе вера, стаўся мацнейшым за прымхі. Яна прыйшла вечарам, ціхая і паслужлівая, як заўсёды, застаючыся з ім сам-насам.

— Усе сёння занятыя, забываюцца. Дык ты кожнаму нагадай, каго за сталом пабачыць хочаш. З тых, хто на хаўтурах быў…

Хто быў на хаўтурах — ці ж ён помніць? Разам склалі спіс. Два вечары абзвоньваў, скарыстаўшы даведнік з тэлефона Антаніны. Набралася каля дваццаці чалавек, хто найбольш верагодна прыйдзе. На гэты раз сам рабіў замову ў кавярні, меню прапаноўвалі работніцы. Саракавіны былі ціхімі, Віктар тры-

маўся — ці яго трымалі — асобна ад усіх: да яго падыходзілі, выказвалі спачуванне, але размоў ніхто не заводзіў — адыходзілі ўбок. Пыталіся пра сына. Ён дзякаваў, расказваў: сыну значна лепш, праз тыдні тры і выпішуць, далей лячэнне будзе весці дома. Ён змоўчваў пра тое, што мусіць звальняцца з працы, вырашаць пытанні з інваліднасцю сына, жыць на мізэрную пенсію. Зрэшты, грошай яшчэ ставала… За трэцяй чаркай запрошаныя пачалі выходзіць з-за сталоў, спяшаліся, быццам іх нешта гняло тут, у даволі ўтульнай невялікай зале кавярні. Віктар успрымаў гэта са спакоем — ён ім не суддзя.

Не змог пазбавіцца ўсіх рэчаў Антаніны — бялізну, сабраўшы ў клунак, вывез за горад і спаліў у лесе, верхнюю вопратку аддаў Тацяначцы — яна казала, перадасць у царкву. А некалькі сукенак пакінуў. Сам не разумеючы, навошта яны яму. У асобную шкатулку сабраў упрыгожванні. Касметыку, крэмы, шампуні выкідаў, бы рабіў якое злачынства.

## ФРАГМЕНТ 46

### Андрэй, Людміла, кошка

Андрэй і Людміла разводзіліся.

Гэта стала абсалютна зразумела тады, калі пасля трох месяцаў нібыта пошукаў работы Андрэй ад ранку і да вечара стаў заседжвацца ў сваіх “танчыках” — ім раптам авалодала ідэя стварыць магутны танк, з непераможнай бранёй і поўным боекамплектам, і прадаць яго выгадна. Але ў яго пакуль атрымлівалася добра адзінае — канькаць грошы ў Людмілы і назіраць за тым, як яго шансы ў сеткавай гульні ніяк не ўздымаюцца вышэй за ўзровень “навічка”.

Бацькі падаравалі Людміле двухпакаёвую кватэру, у маладой сям'і, кажучы вобразна, была добрая стартавая пляцоўка, з грошай, якія падарылі на вяселлі ў рэстаране, палову Людміла ўклала ў свой кветкавы бізнес: закупіла модных на той час сукулентаў, зладзіла рамонт у сваім міні-кіёску. І справы пайшлі шпарчэй і прыбытковей. Яна спадзявалася (і не беспадстаўна, бо на першых месяцах Андрэй гэтаксама загарэўся ідэяй кветкавага бізнесу) на дапамогу маладога мужа. Але той, звольніўшыся з камунальнай гаспадаркі, дзе працаваў тэхнікам-тэхнолагам ачышчальных збудаванняў, страціў усякую цікавасць да жончынай справы: навіна пра тое, што ў "танчыках" можна зарабляць, ствараючы і затым прадаючы добрыя акаўнты, захапіла яго. Хіба ж гэта не зайздросная праца: сядзіш дома, гуляешся ў "танчыкі", прадаеш акаўнт за колькі сотняў даляраў? Але першае, на чым спатыкнуўся Андрэй: такіх ахвочых было многа. І мелі яны вопыт "вайны" куды большы. Таму даводзілася шмат грошай траціць на ўзбраенне, боепрыпасы, якія расходаваліся вельмі хутка і не давалі чаканай аддачы — статус акаўнта павышаўся больш ад перамог, а не ад набытага за грошы. Гуляў Сяргей ад вечара і да амаль раніцы, адсыпаўся днём. На тое, што ў яго ёсць не проста жонка, якая гатуе есці, прыбірае і мые, але і жанчына, па-маладому прагная да ласкі, ён забываўся на тыдні два-тры.

Неяк цярпенне Людмілы закончылася. Адважылася, зайшоўшы сярод ночы ў пакой, дзе "ваяваў" Андрэй, без анічога на сабе, адарвала ягоную руку ад клавіятуры ды прыклала да свайго паху.

— Ты адчуваеш, якая зараз там вайна? Зноў хочаш, каб я сама з сабой ваявала? Мілы, тры тыдні я без сексу, а мне дваццаць пяць, і я — мужняя жонка,

у мяне ложак двухспальны. А ну, хадзем! — і пацягнула Андрэя за шкірку.

І тут ён успыхнуў. Падхапіўся і крычаў: Людміла не можа зразумець важнасці таго, чым ён займаецца! Ягоны занятак у адзін дзень зможа прынесці ім тысячы — ты падумай! — тысячы долараў! Варта ж пацярпець, ахвяраваць!

У пакоі гарэла святло, голая жонка стаяла перад ім, раптоўна збянтэжаная і прыгнечаная: яна ведала пра свае караткаватыя і залішне поўныя ад каленяў ногі і шырокія сцёгны, саромелася іх нават перад мужам, таму прыхоўвала заўсёды іх спадніцамі і сукенкамі, а перад Андрэем цалкам агалялася без сарамлівасці, адно лежачы ў ложку. Яна спадзявалася на інтымную гульню, жарты…

Андрэй многа яшчэ казаў, абразлівае і крыўднае, ды яна не чула — першы раз асмелілася сама падысці да мужа і прама сказаць, як сумуе па ягоных ласках, і вось такі фінал. Пасля яна плакала ў падушку ў пакоі, а Андрэй працягнуў гульню, упэўнены, што "выхаваў" жонку, і заўтра яна яму дасць грошай не менш, чым ён папросіць.

Зрэшты, так і здарылася.

Але ў кватэры павісла маўчанне. Затым — адчужэнне. Далей — варожы нейтралітэт.

Андрэй лічыў жонку дурнічкай, якая нікуды не дзенецца. Варта яму свіснуць. І ён аднойчы "свіснуў": папярэдзіў паблажліва, бы адорваў каралеўскай ласкай сваю служку, каб Людміла яго чакала, ён хутка завершыць адну аперацыю — яму мроілася вялікая перамога.

Але прайграў. Гарачая вада ў душы не здолела змыць прыкрасць чарговай паразы і пройгрышу буйной сумы. Людміла ляжала ў кароткай зваблі-

вай сарочцы на бялюткай прасціне, усміхалася спакусліва і ажно трошкі распусна. Яна гатовая была даравацъ.

Але ў Андрэя нічога не атрымалася.

Узбуджэння не наступіла.

Ён псіхануў і тут жа абвінаваціў Людмілу ў яе няўменні распаляць мужчыну, бо ж ён эмацыйна спустошаны адказнай гульнёй, да яго трэба падыход. Кпліва дадаў: як яна не выклікае ніякага ўзрушэння сваёй далёкай ад дасканаласці постаццю, то магла б пастарацца неяк інача́й.

Людміла знешне не зрэагавала ніяк — паднялася, без сарамлівасці ад свайго нізкага азадку і непрыгожых ног, выйшла на кухню.

Праз тры дні яна прынесла дадому кошку: рудую з чорным, з белымі лапікамі. І сказала, што гэта — іх цяперашні новы жыхар у кватэры, завуць яе Грызлі. У кухні паставіла талерачкі з кормам, у туалеце — латок. Андрэй толькі гмыкаў. Пасля таго як разы два ён шпурнуў нагой кошку ў адсутнасць жонкі, тая хавалася недзе пад канапай, ажно пакуль не вярталася Людміла.

Пакрысе Андрэй сам перастаў верыць у чароўную магчымасць разбагацець на сайце гульні, але спыніцца ўжо не мог: ці не ўсе грошы, якія пакідала яму Людміла на прадукты, ён спускаў на гульню, пераконваючы Людмілу, што купляў, гатаваў і еў нейкія асаблівыя прысмакі. Ён пахудзеў, зрабіўся нервовым і раздражнёным.

Андрэй ад пачатку бачыў сябе разумнейшым за Людмілу, яе занятак для яго значыў усяго "купіўпрадаў" без аніякіх хітрасцей, маўляў, так і дурань зможа. Тым часам Людміла закончыла курсы пры цэнтры занятасці, з поспехам і ўхваленнем мясцовых

спецыялістаў ад улады абараніла новы бізнес-план па расшырэнні бізнесу і атрымала на тое бязвыплатную пазыку: замест простага кіёска ў яе запланаваны сапраўдны магазін з продажам дэкаратыўных, хатніх і іншых кветах, спадарожных тавараў, аксесуараў і стварэннем двух новых рабочых месцаў. Калі яна распачала сваю мадэрнізацыю, адзін з нанятых рабочых раптам праявіў асаблівы спрыт: ён у адзін дзень паказаў сваё бачанне дэкору адной са сцен павільёна, і Людміла ўразілася. Створаная ў адмысловай праграме выява выглядала самавіта і крэатыўна. Яна ўхваліла гэты малюнак, а рабочы, Віталік, выказаў ёй ідэю: адзін куток кветкавага павільёна ўвасобіць у куточак нявесты з аднасовым прыёмам замоў вясельных букетаў. Канешне, з прыцягненнем дадатковага спецыяліста: калі трэба, ягоная сястра праз сеціва даўно рыхтуе такія букеты і марыць аб пастаяннай працы. Людміла раздумвала над прапановай Віталіка і ў той дзень пільней прыглядзелася да яго: драбнаваты на выгляд, каротка стрыжаны, трошкі каржакаваты, твар чысты, вочы глыбокія і сумнаватыя. Яна нечакана злавіла сябе на думцы аб тым, што ён надзейны, цвёрды. Вось неспадзявана абаперціся на Віталіка, дык ён не схібіць, не адскочыць убок, утрымае. Да свайго сораму, яна падумала пра тое, якім будзе Віталік у ложку, — і не змагла адпрэчыць уяўлення пра яго як пра моцнага і аднчасова пяшчотнага каханка. Але ж яна замужняя жанчына.

Тым не менш Людміла як гаспадыня мела права на простае пытанне: чаму яму, Віталіку, так цікавы гэты аб’ект? На гэтае пытанне хлопец устаў (якраз прысеў на калені і свідраваў нешта ў падлозе), хаваючы няёмкасць, адказаў: па-першае, ён любіць

кветкі, як і яго маці, як яго сястра. Па-другое, ён дызайнер з вышэйшай адукацыяй і яму баліць ад сузірання яўнай халтуры. А па-трэцяе, яму падабаецца Людміла як чалавек. І падабаецца як жанчына…

Мажліва, думкі пра Віталіка, мажліва, фанабэрыстасць мужа, які зноў сядзеў са сваімі "танчыкамі", а на кухні грувасціўся ў ракавіне брудны посуд, штурхнулі Людмілу да нечаканага дзеяння: пакуль Андрэй прымаў душ (а рабіў ён тое грунтоўна і доўга), яна прысела за камп'ютар (прынамсі, ніякай віны яна не адчувала: гэта быў іхні агульны камп'ютар, Людміла пазней набыла сабе ноўтбук для работы). І там яна зрабіла тое, што Андрэю б і ў галаву не прыйшло, бо ён быў перакананы ў яе няздатнасці да такіх думак і дзеянняў: Людміла паглядзела гісторыю браўзера: куды, на якія сайты заходзіў яе муж…

І пабачыла цэлы спіс парнаграфіі.

Калі Андрэй вызваліў ванны пакой, яна пайшла мыцца і, перасільваючы гідлівасць, глянула ягоную бялізну і спраўдзіла сваю здагадку: ён мастурбіруе за камп'ютарам, праглядваючы парнаграфічныя ролікі, у той час як у суседнім пакоі чакае ягонай мужчынскай любові жонка.

Не, яна не збіралася літаральна назаўтра здраджваць мужу. Усё выйшла неяк само сабой: Віталік праз некалькі дзён прынёс новыя эскізы. Яны сядзелі побач, адчувалі цеплыню адно аднаго. Потым ён прапанаваў ёй паглядзець розныя варыянты ў яго дома, на камп'ютары, у праграме, дзе імгненна можна ўсё мяняць: колеры, памеры. Яна згадзілася. На яе здзіўленне і адначасова заспакаенне ў намерах Віталіка, іх сустрэла ягоная маці, якая падалася адразу ў нечым нават манернай, хоць гэта была ўсяго толькі яе інтэлігентнасць, ад якой Людміла даўно адвыкла.

Ганна Мікалаеўна зрабіла чай са сваім пірагом, а Віталік сканфузіўся, зачырванеўся.

Яны пілі чай, елі пірог і незаўважна для сябе пачалі абмяркоўваць будучы салон, спрачаліся, нават псіхавалі і сварыліся. Зазірнула маці Віталіка і паведаміла сыну: я паеду да дачкі, ты ўжо сам тут глядзі, каб госця не пакрыўдзілася.

Нібы між іншым.

І ніхто з іх быццам не надаў гэтаму значэння.

Але як толькі шчоўкнуў замок, яны раптоўна сцішыліся, нібыта спалохаліся цішы, якая апанавала кватэру, чакалі… і пацягнуліся насустрач, як спражаныя да вады — без сарамлівасці і спеху, з надзеяй на жыватворнасць наступнай хіліны і даверлівасцю ёй.

Людміла не засталася на ноч. І Віталік пра тое не прасіў. Дзіўна, але гэты факт — Віталік не прасіў яе застацца, а цішком правёў ледзь не да дома, хаваючыся ў цяню, — усхваляваў яе больш, чым сапраўдны выбух жарсці гадзіну таму на канапе ў ягоным пакоі, дзе ў сутонні свяціліся зялёным стрэлкі гадзінніка. І Людміла спалохалася тады сваёй думкі, якая мільганула няўзнак: “Гэты гадзіннік абавязкова выкінем!”

Яна прыйшла, разулася, распранулася… Андрэй не выйшаў з пакоя, дзе, яна чула, працягвалася “вайна”. Яна накіравалася спаць адразу: не хацелася ні есці, ні піць, а ў душ яна не заходзіла знарок — каб захаваць пах забароненай любові. І з асаблівай цеплынёй успрымала ціхамірнае мурлыканне кошкі Грызлі ля сябе.

Раніцай Людміла сказала Андрэю будзённа: яна вырашыла падаваць на развод. Ён насмешліва гмыкнуў: куды яна ад яго падзенецца, такая нягеглая, хай дзячыць, што ўзяў.

Але Людміла напісала і аднесла заяву. Ён атрымаў па пошце паведамленне аб даце слухання справы.

Тады Андрэй запанікаваў. У нейкі дзень Людміла заўважыла, што хлеб счарсцвеў, скіс суп на пліце. Яна пацікавілася з усмешкай: вырашыў памерці ад голаду? І ўсмешка яе вывела Андрэя са стану пакрыўджанага і незразуметага. Ён запатрабаваў: усё пароўну! Яна ўсміхнулася адно горка, прынесла з кухні відэльцы і лыжкі, рассыпала на падлозе і падзяліла ўсё на дзве часткі: забірай.

І вымятайся!

Прыціснула да грудзей кошку і пайшла ў спальны пакой.

Апошняе напужала Андрэя не на жарт. Яму як і было куды ісці, дык адно да маці, у старую хату, у вёску непадалёк райцэнтра. Да дня разводу (а што іх развядуць, Людміла не сумнявалася, яна ведала чароўную формулу — варта толькі сказаць суддзям: няма кахання, прайшло! — і ніхто не зможа супрацьстаяць гэтай фразе) заставалася два тыдні. Ён запатрабаваў, каб жонка аддала яму палову бізнесу. Ды тут Людміла ўпершыню за гэтыя гады праявіла поўную непавагу да мужа і скруціла ля ягонага носа вялізную дулю: яна выходзіла замуж, маючы бізнес. Жыла з ім, грошы ўкладвала ў справу і амаль столькі ж — у кватэру, мэблю, адзенне і ягоную гульню, гэта можна праверыць у самой гульні, не такая яна дурында, каб не пабачыць. А ўкладзенае зараз у бізнес — грошы пазыкі.

Людміла не стала дабіваць гэтага цяпер нікчэмнага, які выклікаў адно шкадобу, мужчыну, сваімі думкамі ўголас наконт яго мужчынскіх здольнасцей. Апранулася, папярэдзіла: начаваць дома не будзе. І пазваніла Віталіку. Той прыехаў па яе, усхваляваны, смешны ў сваёй хлапечай разгубленасці ў першыя хвіліны.

Яны не засталіся яшчэ адны — маці яго была дома, у сваім пакоі, а Віталік выдыхнуў, як прадаваў сваю душу:

— Людачка, ідзі да мяне жыць. Абяцаю — усё, што змагу і не змагу, але зраблю, каб ты пра гэта ніколі не пашкадавала…

Людміла не паспела адказаць — пазваніў Андрэй. Ён ачомаўся і здзекліва паведаміў: ён таксама не дурны, пры падзеле маёмасці суд не будзе ўважаць на тое, дзе чые грошы, бо ўсё, нажытае ў шлюбе, аднолькава належыць абаім. Яна спытала здушана: колькі ён хоча. Андрэй на момант разгубіўся — не чакаў такой лёгкай згоды. Сказаў, памарудзіўшы: палову ад кошту ўсяго, і не менш. І хай не спрабуе падманунуць, ён нойме адваката.

Яна адключыла тэлефон, сядзела, разгубленая як ніколі. Бо разумела рацыю пакуль яшчэ свайго мужа.

— Кватэра падораная мне бацькамі. Ён хоча атрымаць палову ад бізнесу. Майго бізнесу, — ціха прызналася яна Віталіку.

Той маўчаў. Пасля крануўся яе твару пальцамі, прыўзняў за падбародак, каб зірнула яму ў вочы.

— Прадай бізнес мне. І аддай палову выручанага.

Людміла глядзела яму прама ў зрэнкі, бачыла там свой сферычна-скажоны твар, пацягнулася, пацалавала іх — вочы мужчыны.

— Канешне, — усміхнулася яна. — Бізнес мой, я маю на гэта права.

За тыдзень яны афармілі здзелку. У натарыуса абое пачуваліся няёмка, ды той, навучаны вопытам, тактоўна не здзіўляўся нязначнасці да смешнага сумы.

У той жа дзень Людміла прыехала дадому з паперамі, тыцнула Сяргею пад нос дамову аб куплі-про-

дажу бізнесу, кінула на кухонны стол некалькі пачак рублёў.

— Твая палова. Заўтра да канца дня вызваліш кватэру. Можаш забіраць усё, што палічыць сваім. Не вызваліш — прыеду з міліцыяй і выкіну. Маю права.

Вечарам наступнага дня кватэра была пустая — Андрэй вывез мэблю. Людміла зайшла і спужалася: яна адчула, што знікла штосьці вельмі значнае для яе. Не, не змешвальнікі вады з ваннага пакоя і кухні, не сталы і шафы, не канапа і не лыжкі.

Не было нідзе яе кошкі, Грызлі.

Усё мэблю Андрэй мо б і не стаў вывозіць, калі б адразу злавіў кошку. Але яна ўцякала, нырцавала то пад канапу, то пад ложак. І грузчыкі, два алкашы з суседняга дома, былі радыя цягнуць усё, бо ведалі: болей пацягнуць — болей ім нальюць. Кошка з пад канапы кідалася пад ложак — Андрэй загадваў цягнуць і яго вонкі, згробшы бялізну на заляпаную бруднымі слядамі ног падлогу.

Кошку Андрэй злавіў на кухні, між халадзільнікам і сцяной, як выносілі ўжо сам халадзільнік. Схапіў яе, кошка, мабыць, адчула нешта смяротнае для сябе, бо выгнулася неверагодна і запусціла свае кіпцюры Андрэю ў руку. Ён сцярпеў, укінуў яе ў палатняную торбу, закруціў.

На выездзе з горада папрасіў кіроўцу прыпыніцца — тут якраз была тэрыторыя бальніцы. Забіць жывое Андрэй не змог бы. Таму шпурнуў торбу з кошкай у кусты ля дарогі. Тут бальніца, тут хворыя, да якіх прыходзяць і прыносяць прысмакі. Не здохне.

Ды і навошта яе забіваць? Галоўнае, у той сучкі цяпер няма кошкі.

## ФРАГМЕНТ 47

### Ларыса Стральчак, тэрапеўт, Мікалай Вашчыла, галоўны доктар бальніцы

Скаванасць, часам штучную весялосць ці занадтую гуллівасць Ларысы ў першыя ночы ў ягонай кватэры Мікалай Вашчыла тлумачыў проста: трохі саромеецца, не прывыкла.

Як і дамовіліся, пасля таго калі Ларыса сказала аб сваёй цяжарнасці, на наступны дзень яны пайшлі і падалі заяву. У ЗАГСе папрасілі аб самым хуткім часе рэгістрацыі, абавязкова — не ўрачыстай. Галоўурач ёсць галоўурач — ім пайшлі насустрач, праз тыдзень (заяву яны напісалі заднім чыслом) яны прыйшлі ўдвух. Не згаворваліся раней, але выявілася — абое апранутыя святочна, і рэгістратарка, загадчыца ЗАГСа, мякка ўпікнула: ну такія прыгожыя, такія мілыя, увесь раён сочыць за іх адносінамі і чакае, сапраўды ж чакае, калі галоўны ўрач, паважаны чалавек, і не менш паважаная маладая доктарка-тэрапеўт стануць сям'ёй, а яны хаваюцца, не хочуць урачыстасцей! І атрымалася ў яе непасрэдна і шчыра, хвалюючы і насамрэч урачыста правесці рэгістрацыю шлюбу. Потым яны сядзелі ўдвох у новай кавярні — і іх пачалі віншаваць. Падыходзілі да століка, спачатку прыхоўваючыся, знаёмыя і не вельмі знаёмыя, з'явіліся кветкі, а далей ужо і дыджэй вечара выдаваў адну за другой кампазіцыі "ў знак віншавання нашым маладым ад...". І іх столік хутка апынуўся цэнтральным, увесь у кветках, і выйшла сапраўднае вяселле, і іх, маладых, трымалі ў крузе танцаў, крычалі "горка" і неслі шампанскае, ішлі з бакаламі да іх стала.

У першыя тыдні сумеснага жыцця нацягнутасць Ларысы ў паводзінах, якая раз-пораз прарывалася

вонкі вінаватай усмешкай ці занадта стрыманай позай сядзення, ляжання, не праходзіла, а бы і ўзрастала. Мікалай Вашчыла спісваў усё на капрызлівы стан цяжарнай жанчыны. Ён не надаваў гэтаму надта ўвагі, не паказваў ніяк, што і яго часам напружвае настрой Ларысы. Нават не ўпікнуў і словам ці позіркам, калі яна папрасілася начаваць не ў спальным пакоі, а на канапе ў другім. Ён бы і надалей заставаўся ўпэўненым у тым, што Ларысе добра ў ягонай кватэры, каб аднойчы яна, стоячы ля акна на кухні, не ўздыхнула-прамовіла:

— Тут столькі твайго былога жыцця…

Мікалай няўцямна зірнуў на падаконне, і раптоўна яго ажно скаланула: там стаялі кветкі, якія заводзіла Лідзія. Якія ён паліваў спраўна, пакуль жыў адзін, якія цяпер палівае Ларыса. Лідзія ў мінулым ягоным жыцці купляла гаршчэчкі і вазоны.

Мікалай сеў на табурэтку, з невыказнай пяшчотай гледзячы на маладую цяжарную жонку, аднachасова думаючы аб асабістай чэрствасці і тугадумстве.

Яна цярпела гэтульки часу. Яна ні словам не абмовілася аб сваім бачанні ў кватэры дагэтуль ягонай першай жонкі. Для яе Лідзія заставалася ў кватэры. У мэблі, якую яна выбірала. У вялізным ложку ў спальні, у фатэлях і часопісным століку. У шпалерах на сценах. У невялікіх дыванках ля дзвярэй.

Ларыса тактоўна маўчала ад першага свайго з'яўлення тут. Магчыма, яна думала, што Мікалаю да гэтага часу цяжка развітацца з мінулым. Не хацела кранаць балючае, як мроілася ёй.

Божа, які ж ён дурны! Няўжо складана было здагадацца: невыносна жанчыне быць з табой на тым самым ложку, на якім ты хай і тры гады таму, хоць дзесяць — але ж займаўся каханнем з іншай жанчынай!

Мікалай устаў, пяшчотна абняў Ларысу за плечы, пацалаваў у шыю — яна любіла гэты пацалунак, для іх абаіх ён нейкім чынам страціў сваю сексуальнасць, а стаўся выказваннем ціхай замілаванасці з аднаго боку і даверу з другога.

— Усё будзе добра…

Назаўтра ж ён наняў машыну, грузчыкаў. Збег сам са свайго рабочага месца ("я па справах"). Праз дзве гадзіны працы ў кватэры засталіся літаральна толькі сцены — нават кухонную мэблю ён выкінуў. Бо ўсё тут куплялася і ставілася толькі па жаданні і густах Лідзіі. Заехаў у мэблевы магазін, выбраў вялізны матрац — часова яны будуць спаць на ім. Да заканчэння змены Ларысы паспеў абадраць шпалеры ў спальным пакоі. Ён стаў пусты, вялізны, шэры. Але — іншы. І гэта было галоўным.

Ён прызнаўся па дарозе Ларысе:

— Ты не здзіўляйся толькі, калі ласка. І прабач, толькі цяпер надумаўся, тугадум гэтакі. Карацей, я падумаў, патрэбна зрабіць рамонт у кватэры. І мэблю змяніць. Цалкам.

— У цябе праз месяц адпачынак… — усміхнулася Ларыса.

— Паспеем да адпачынку, бо ён — для цябе, — запярэчыў Мікалай. — Ужо ўсё пачалося. Мэблі няма, спаць будзем на падлозе, я матрац купіў, вялікі, мяккі!

У спальным пакоі з абадранымі сценамі, дзе на вымытай падлозе ляжаў вялікі белы матрац, Ларыса застыла, затым павольна паварочвалася, нібы на шэрай тынкоўцы сцен пабачыла неймаверна прыгожыя фрэскі, вочы яе блішчалі вільготна. Яна апусцілася на калені на матрац, затым лягла, пацягнуласявыгнулася асцярожна:

— Сёння мне хочацца кахаць цябе тут. Пяшчотна-пяшчотна. Я буду шчаслівая-шчаслівая. Як ніколі не была…

Назаўтра яны выбралі камплект мэблі ў спальны пакой і шпалеры. Праз тры дні, ужо лежачы ў новым ложку, чытаючы, Мікалай Вашчыла пабачыў, як з ваннага пакоя, аголеная, яго Ларыса заходзіла ў спальны пакой — гаспадыняй. Ягонае сэрца поўнілася ласкавасцю і ціхім шчасцем, і хацелася некаму нябачнаму выказаць сваю ўдзячнасць за падказку: новае павінна пачынацца на новым падмурку, на новым месцы, з чыстага ліста. “У старыя мяхі не наліваюць маладое віно” — так было ў Бібліі, здаецца.

…Ён чакаў Ларысу ў кабінеце, каб выйсці разам, але яна патэлефанавала і сказала: пасядзіць унізе, на лаўцы, падыхае — зноў днём быў дождж, на лужку перад бальніцай свежым пахла трава і абмытае лісце каштанаў. Яна была без настрою, і Мікалай без цяжкасці здагадаўся пра гэта. Больш за тое, ён зразумеў па маўчанні Ларысы, па яе кроках, што справа не ў яе самаадчуванні. Нешта іншае.

Яна не стала чакаць яго пытанняў — разумела, варта самой казаць, пакуль надта не ўстрывожыла мужа.

— Ты ведаеш, любы… Сёння расказалі, якая бяда здарылася з дзецьмі суддзі. Але ўжо іншае казалі. Да суддзі падыходзіў перад гэтым той мужчына, бацька салдата, які зараз ляжыць з энцэфалітам. І яшчэ казалі, ён дакладна прыязджаў на дачу да ваенкама. У той самы дзень.

Мікалай гэтаксама чуў пра здарэнні, бо бальніца — найпершае інфармацыйнае агенцтва: тут сустракаюцца людзі з усяго раёна, заўсёды знойдзецца той, хто ведае больш за іншых. Тут жа, у бальніцы, фар-

міруюцца і свае чуткі, устойлівыя і пераканаўчыя. І апроч іншага, ён пачытаў у сеціве пра гісторыю Віктара.

— Я ведаю, — ціха адгукнуўся, няспешна выязджаючы на дарогу. — Ведаю. Ён прыходзіў да ўсіх трох.

Ларыса пільна ўглядвалася ў яго твар, чакала, верагодна, яшчэ нейкіх слоў, не дачакалася і сказала сама:

— Нам трэба ісці да яго. Я не хачу, я баюся, я вельмі баюся, каб ён не прыйшоў да нас!

Мікалай загаварыў спакойна, як быццам хвораму казаў перад складанай аперацыяй:

— Ларыса, мілая, гэта супадзенні. Пачакай, я табе раскажу пра адно. Уяві, бабуля захварэла, і яе кошку ўзяла да сябе дачка. А самой тэрмін ехаць у адпачынак. Яна ўгаварыла прыглядзець за кошкай суседку. У суседкі — малое дзіця. Ёсць камп'ютар, стол для яго, дзе ёсць шуфлядкі. У нейкі вечар у кватэры з'яўляецца малая котка, якая забіваецца за канапу. Мужчына садзіцца за камп'ютар, працуе, адкрывае шуфлядку. У гэты час жонка заве яго вячэраць. Яны вячэраюць, котка з-пад канапы крадком хаваецца ў шуфлядку. Жонка пасля бачыць шуфлядку адкрытай, засоўвае яе. Усе кладуцца. Раніцай не знаходзяць коткі. Шукаць некалі — на работу час. Зноў вечар. Муж за камп'ютарам. Жонка прыносіць яму гарачы чай, дачушка нясе талерачку з блінцамі. Муж у гэты момант нахіляецца і высоўвае шуфлядку. Адкуль кіпцюрастай куляй вылятае котка — на жанчыну. Кубак з гарачым чаем — на дзяўчынку. Апёкі галавы і твару другой ступені. Хто вінаваты? Мы не разбіраліся тады. Лячылі.

— Не супакойвай мяне, — папрасіла Ларыса. — Давай сходзім да яго. Сходзім самі.

Мікалай маўчаў. Ён не мог задаць пытанне: навошта ісці. Бо ведаў — навошта.

— Ларыса… Не бяры адна ўсю віну на сябе, — знайшоў ён патрэбныя, як падавалася яму, словы. — Ты магла пры ўсіх маніпуляцыях не пацвердзіць, нават не западозрыць пачатак хваробы. Другое: я звязваўся раней з абласной бальніцай, мы выйшлі на Мінск, запрасілі прафесара, там прайшоў кансіліум. Новая тэрапія дала вынік: стан з цяжкага кваліфікуецца як стабільны з паляпшэннем. Штодзень мне расказваюць пра яго стан, павер, лепшага кантролю і лепшага лячэння, чым ёсць цяпер, ва ўмовах нашай краіны сыну гэтага Віктара ніхто не забяспечыць. Я зрабіў усё, што мог…

Гэта было праўдай. Але іншую праўду Мікалай Вашчыла хаваў ад маладой жонкі і ад самога сябе: як сам уздрыгвае кожны раз, калі нехта не з медработнікаў заходзіць у прыёмную. Цвіком у ягонай галаве сядзела думка: менавіта ён папрасіў начальніка міліцыі, каб Віктара Анішчука не аштрафавалі, а пасадзілі на суткі. Суддзя выканаў просьбу — і суддзя пацярпеў. Не сам — дзеці. Што яшчэ страшней.

Мікалай Вашчыла глянуў на Ларысу — яна глядзела невідушча перад сабой.

— Мы пойдзем, Ларыса, — ціха адказаў ён. — Я даведаюся яго адрас, тэлефон, пазваню яму, і заўтра мы пасля работы сходзім да яго. Усё будзе добра.

— Я баюся, любы… Я так баюся, так баюся, — Ларыса ўздрыгвала ад нечаканага для яе самой плачу.

## ФРАГМЕНТ 48

## Віктар, іншыя і кошка

Кошка, схопленая і засунутая ў торбу, а пасля выкінутая ў прыдарожныя кусты, абгадзілася ад перажытага стрэсу і болю пры падзенні. У дзікай паніцы яна круцілася ў пастцы торбы, у рэшце рэшт задам знайшла выхад — і кінулася бегчы, ашаломленая ўбачаным, пачутым і ўнюханым.

Для кошкі то быў неверагодны і чужы свет. Яна, сем месяцаў пражыўшы ў кватэры, не ведала нічога з таго, у чым апынулася: халодная трава пад лапамі, востры пах зямлі, адкрытая, такая страшэнная прастора над ёй і вакол яе. Яна ляцела стрымгалоў, не арыентуючыся, не разбіраючы дарогі, убілася ў гушчар дэкаратыўных кустоў. Там было зацішна, над галавой — закрыта, з усіх бакоў — лістота, быццам і не варожая. Жывёліна трэслася ад страху, пакрысе адыходзячы.

Недзе блізка за гэтымі кустамі гучна цокалі абцасікі, тэпалі падэшвы — праходзілі людзі. Котка чуйна прыслухвалася, інтуітыўна суаднёсшы галлё і лісце над сваёй галавой са сваёй бяспекай. Як іх ніхто не кранаецца — яна ў адноснай бяспецы.

Прама перад коткай рассцілаўся лужок, далей унізе па чорнай дарозе праносіліся зрэдчас аўтамабілі. Кошка ўздрыгвала напачатку ад іх, пакрысе мусіла прывыкнуць — яны не набліжаліся. Надыходзіла ноч, аднекуль пацягнула халоднай сырасцю. Кошка звярнулася ў клубок — сілы пакідалі яе, ад перажытага яна адчувала неміласэрную стому. Ноч хоць і не была халоднай, ды яна, прывыклая да цёплай кватэры і ложка, дзе спіць ласкавая гаспадыня, зараз калацілася ўсім сваім невялікім цельцам.

***

Ранішняя прыкрасць — аўтамабіль не завёўся — непрыемна ўсхвалявала Мікалая Вашчылу, галоўнага доктара бальніцы, не давала сканцэнтравацца на рабоце, засяродзіцца на будзённых пытаннях, якія, хай і былі будзённымі, патрабавалі ўдумлівасці. І раней пры павароце ключа раптам выскоквала папярэджанне аб памылцы. Адкуль яна бралася ў гэтым электронным начынні новага аўтамабіля, Мікалай Вашчыла не ведаў, дый на станцыі тэхнічнага абслугоўвання разводзілі рукамі: глядзець трэба тады, калі памылка выскоквае пра падключаным блоку тэсціравання і не прападае. Было, прападала: трычатыры разы павярнуць ключ, пачакаць — і аўтамабіль ездзіць цэлы дзень, бы самы спраўны, ды ты адчуваеш, што выбрык электронікі можа здарыцца ў любое імгненне — і станеш бездапаможна на ўзбочыне…

Гэтай раніцай не хапіла дзесяці хвілін чакання і перыядычнага павароту ключа — памылка не знікла. Урэшце, мо і да лепшага: зараз трэба адцягнуць аўто на СТА.

Ён пайшоў на работу пешкі, па Ларысу, якая прыходзіла ў паліклініку на дзевяць раніцы, папрасіў пад'ехаць свайго намесніка. Ларыса гэтаксама нечага разнервавалася ранішняй непрыемнасцю: яны збіраліся пасля работы пад'ехаць да Віктара Анішчука. Спачатку пазваніць і адразу потым пад'ехаць. Мікалай Вашчыла супакоіў жонку: на СТА выявяць сучаснымі прыборамі праблему з аўтамабілем за лічаныя хвіліны. Ён разграбецца з цякучкай і зоймецца.

Не атрымалася — выклікалі ў райвыканкам. Пытанне тычылася ФАПа ў адной аддаленай вёсцы.

Зачыняць яго было нельга, а будынак стары, вялікі, халодны. З ацяпленнем праблемы. Свае праблемы і ў паштавікоў — у іх будынак пошты цагляны, ацяпленне двума грубкамі. А мясцовая школа, некалі пабудаваная на тысячу вучняў, мае на сёння іх менш за дзвесце. І вось прапанова па аптымізацыі: частку першага паверха школы перадаць пад пошту, ФАП, бібліятэку і аддзяленне банка. Камісійна (далучыўся начальнік вузла паштовай сувязі, спецыяліст з культуры, намеснік дырэктара банкаўскага філіяла) выехалі на месца. Мікалай Вашчыла выказаўся пра тое, што першым выбіраць яму: усё ж для работы медыкаў месца, сюды людзі з хваробамі ісці будуць, то каб і зручна, цёпла і светла было. Урэшце, хваляваццa не было з-за чаго: прасторы хапала, усю палову першага паверха дырэктар школы гатовы аддаць, адно каб дапамаглі з ацяпленнем гмаху школы.

У школьнай сталоўцы ж і абедалі, спяшацца ў райцэнтр ніхто не збіраўся, то па дарозе назад у ляску прыпыніліся: справа для ўсіх была новая ды агульная, няблага б пачынаць яе з сяброўскай шчырасцю.

Ларыса ўмомант адчула пах спіртнога, запытальна ўскінула бровы. Мікалай коратка патлумачыў, дзе сёння давялося пабываць.

— От завялася б твая машына, дык бы і лепш было, — буркнула Ларыса — яе надта раздражняў цяпер пах алкаголю. Потым асцярожна спытала, прытуліўшыся да пляча: — Ты даведаўся пра гэтага мужчыну?

— Так, мілая, — кіўнуў Мікалай Вашчыла, прамаўчаўшы аб тым, што адрас і тэлефон Віктара Анішчука ён даведаўся адразу ж, як той быў у ягонай прыёмнай.

— Мы пойдзем да яго? Ён далёка жыве?

— Не, не вельмі, — адказаў Мікалай Вашчыла. Усё ўнутры яго працівілася тэлефанаванню, тым больш — сустрэчы з гэтым мужчынам. Так, ён вінаваты — але ж ён выправіў сітуацыю, наколькі можна! Калі яны прыйдуць сёння да Анішчука — яны прама прызнаюцца ў сваёй вінаватасці, а гэта значыць, ён панясе заяву ў пракуратуру! І няхай следчыя не знойдуць ні следу супрацьпраўнага ў дзеяннях Ларысы, бо ўсё з ёй і даўно абгаворана і ў карце медыцынскай адпаведныя запісы папраўлены, ды само следства! То не толькі нервовасць для Ларысы, якую якраз неабходна берагчы ад негатыўных эмоцый. Пляма на бальніцу, ягоную рэпутацыю. І чуткі папаўзуць па горадзе: хадзілі, дык вінаватыя! А чуткі валодаюць вялікай сілай, яны здольныя падпіхнуць слабага да супрацьстаяння, пакрыўджаны пачне шукаць праўду. Будуць паласкаць кожнага ўрача паасобку і ўсіх разам, і той, хто ўчора бег да ўрача з пакецікам, у якім каньяк і цукеркі, угодліва зазіраў у вочы і шчыра дзякаваў, заўтра пачне ахвотна пляваццa ў сеціве, у якіх "Кантакціках", называючы хабарнікам і заклікаючы ў сведкі свой асабісты горкі вопыт.

***

Наступіла золкае ранне, прыйшоў дзень, які прынёс цяпло, але не спакой для кошкі, а яшчэ большыя трывогі — мноства незразумелых, таму страшных гукаў поўнілі прастору. Пакрысе да страху, які авалодваў жывёлінкай і надаваў яе цельцу жыцця, дадаўся голад. Вылезці са схованкі кошка не магла — жах перад невядомым варожым светам трымаў яе на месцы. Дзень стаў хіліцца да вечара, з-за пякучага

голаду і смагі нарэшце пачалі меншаць іншыя пачуцці. Кошка сузірала лужок, ён падаваўся быццам не такім і страшным. Нешта прашалясцела ў паветры — то на зямлю апусцілася чародка вераб'ёў. Інстынкт спрацаваў: кошка ўстрапянулася, напружылася, пачала перабіраць заднімі і пярэднімі лапамі. Пракавечнае пачуццё драпежніка абудзілася ў ёй і зараз авалодвала мышцамі яе цельца і не ўсім, а часткай мозгу, бо страх па-ранейшаму прымушаў яе чуйна ўслухоўвацца ва ўсе гукі за спінай і над галавой.

***

Тратуар падымаўся ад дарогі да бальніцы з невялікім ухілам, Віктар міжволі адзначыў гэта для сябе, не разумеючы, навошта яму гэты факт. Ён ішоў нетаропка, узіраючыся ў постаці людзей, якія выходзілі з дзвярэй паліклінікі.

Міма прайшла маладая маці, адной рукой трымаючы каляску, другой — маленькага хлопчыка года паўтара. Яны не спяшаліся. Хлопчык прыпыніўся, зацікавіўшыся лужком ля тратуара — там кучка вераб'ёў стракатай коўдрачкай варушылася ў траве. Хлопчык таргануў сваю ручку з мамінай, яна адпусціла, і той ступіў колькі крокаў па лужку, заварожана гледзячы на птушачак.

— Верабейчыкі там, Максік, верабейчыкі, птушачкі малыя, — патлумачыла яму маці.

Хлопчык дзівіўся на птушак, азіраўся і радасна ўсміхаўся матулі.

Віктар адышоўся падалей, адчуўшы раптоўную вострую боль: Антаніна гэтаксама называла сына ў маленстве не Максімкам, а Максікам.

Ён заўважыў, як Мікалай Вашчыла выйшаў з дзвярэй паліклінікі, прытрымаў дзверы маладой жанчыне.

Жанчына даверліва ўзялася за ягоную руку, і яны пайшлі па тратуары — насустрач Віктару. І ён разам зразумеў. Гэтая маладая жанчына з заўважным характэрна круглявым жыватом — тая самая доктар-тэрапеўт. Мілавідны дзявочы тварык... Зразумеў, чаму бараніў яе галоўурач, чаму так зазлаваўся, пачуўшы з вуснаў Віктара абразлівыя словы.

Тратуар практычна апусцеў. Адна гэтая пара — больш ніхто за імі ў гэтым напрамку не пайшоў. За спінай Віктара стаяла тая маладая маці, размаўляла па тэлефоне. Хлопчык пераступаў ножкамі па падстрыжаным лужку. Віктар засунуў левую руку ў кішэню пінжака. Спужаўся — там была добрая прыгаршча пяску, цяжкага, бы вохкага.

Яны спыніліся за тры крокі ад яго.

Віктар моўчкі зазірнуў ім у вочы. Спачатку галоўурачу — і ўбачыў там страх. І нянавісць. Такую халодную і пякучую, як жалезіна на вялікім марозе.

Жудасць і жаль былі ў вачах жанчыны, якія расплюшчыліся шырока, ажно сталі пукатымі, і нечакана як пасунуліся долу — доктарка стала апускацца на тратуар, бы ёй адмовілі ногі. Мікалай Вашчыла спалохана зірнуў на жонку, падхапіў, імкнучыся ўтрымаць, але яна настойліва шмарганула сваю руку і стала на калені — прыгожымі каленямі з белай пяшчотнай скурай на чорны, у ямінках і вострых каменьчыках асфальт.

— Даруйце мне, Богам прашу, дзеля будучага дзіця прашу — даруйце! — здаўлена выгукнула жанчына да Віктара, гледзячы яму ў вочы, не міргаючы, а па шчоках яе пабеглі блішчастыя дарожкі слёз. — Я вінаватая, я не дагледзела…

— Ларысачка, Ларыса, устань! — апамятаўся ад неспадзяванкі Мікалай Вашчыла, падхапіў ззаду жонку

падпахі, прыўздымаючы, зіркаючы з нянавісцю на Віктара і па баках — ля дзвярэй паліклінікі застылі некалькі чалавек. — Устань, ты ні ў чым не вінаватая, няхай ідзе ў пракуратуру, няхай правяраюць кожны наш крок — нашай віны няма ў ягоным горы! — апошнія словы Мікалай Вашчыла крычаў ужо ў твар Віктару.

Віктар сціснуў пясок у кішэні так моцна, быццам хацеў выціснуць з яго кроплі вады.

— Ідзіце… — ціха вымавіў ён, прайшоў праз іх далей да бальніцы. Стаў у цені дрэва. Яго разрывала надвое пачуццё, якое ён раней ніколі не зазнаваў. Хацелася спыніць іх — доктарку і Мікалая Вашчылу. Сказаць доктарцы: прабачаю, не бойцеся, прабачаю! А яму, мужчыну, — кінуць у твар усю гэтую цяжкую жменю пяску, каб пясок апаліў вочы, каб воспінамі пабраліся дагледжаныя лоб, шчокі, барада. Ды яны ж — муж і жонка. Яны — адно. І нельга дараваць і адпомсціць адначасова!

Віктар бачыў, як павалі яны спусціліся ўніз, да дарогі. Мабыць, доктарка плакала, бо ішла, унурыўшы галаву, раз-пораз краналася твару рукой, у якой была насоўка. Мужчына нешта выгаворваў ёй, падтрымліваючы пад локаць.

Маладая маці трымала каляску, дзівілася ў тэлефон, хлопчык усё цікаваў за верабейкамі.

На тратуары, акрамя іх, застаўся адно Віктар.

Глухі крык амаль што вырваўся з ягоных грудзей, ён стрымаўся ў апошні момант. Выхапіў левую руку з кішэні, у якой быў сабраны ўвесь пясок, крутнуўся і шпурнуў жменю ў куст ля тратуара.

Кошка, якая пільна сачыла за птушкамі, раптоўна ўскінулася ад рэзкага шоргату ў лісці над ёй

і некалькіх пякучых udaraў драбнюсенькімі каменьчыкамі ў спіну. Спалох выбухова падкінуў яе ўверх і далёка наперад, яна панеслася па лужку, кідаючыся ў паніцы ў розныя бакі.

Верабейчыкі ўспырхнулі нечакана і шумна.

Малы хлопчык ад неспадзеўкі шлёпнуўся на азадак і гучна заплакаў.

Ягоная маці спуджана кінулася да дзіцяці.

Каляска вольна пакацілася з гары, няўхільна набіраючы хуткасць, быццам хацела дагнаць маладую доктарку і яе мужа, якія за гэты час перайшлі дарогу і ішлі тратуарам.

Жанчына падскочыла да хлопчыка, пасля азірнулася — пабачыла сваю каляску, якая імчала ўніз, і пабегла за ёй.

Кіроўца светлага, колеру пяску, аўтамабіля заўважыў перад сабой каляску за некалькі метраў. І жанчыну, якая бегла за ёй.

Ён адно зафіксаваў для сябе, што сустрэчных няма, і крутнуў руль улева — тратуар выглядаў пустым, дзве постаці за дрэвамі ён заўважыў позна.

Мікалай Вашчыла пачуў віск тармазоў, паспеў азірнуцца і прыкрыць сабой Ларысу. Але іх збіла абаіх.

Віктар глядзеў зверху. Як у кіно, асобнымі кадрамі, пранікала ў мозг рэчаіснасць: вось галоўны доктар падхопліваецца і, прыпадаючы на адну нагу, імкнецца на жанчыны, прыўздымае яе, а яна хапаецца за жывот, курчыцца. Вось ужо ляціць да іх машына “хуткай”, жанчыну кладуць на насілкі. Вось на пустым шэрым тратуары застаецца вялікая няроўная пляма такой неміласэрна чырвонай крыві.

## ФРАГМЕНТ 49

### Незнаёмы, Віктар

Палова з тых, каго Віктар сустракаў у горадзе на тратуарах ці дарозе, імкнуліся перайсці вуліцу ці збочыць, абы не перасячыся з ім. Ён не здзіўляўся, не злаваўся, не пасміхаўся горка. Кожны мае права паступаць так, як лічыць патрэбным. На тое чалавеку і воля, каб выбіраць. У яго таксама меўся выбар.

Двойчы яму тэлефанаваў Зміцер, журналіст, з просьбамі ад нейкіх газет даць інтэрв'ю. Адмовіўся наадрэз, папрасіў, каб яго тэлефон не даваў нікому ўвогуле. І забыўся на ягонае існаванне.

За тыдзень Віктар аб'ездзіў блізкія да райцэнтра вёскі, адшукаў патрэбнае: невялікі дамок, не зусім каб стары, не сярод вёскі, наводшыбе. Грошай, з тых, якія ашчаджаліся некалі з Антанінай на будаўніцтва новага дома, цяпер якраз хапіла, каб набыць гэтую хатку, будматэрыялы і тэрмінова наняць брыгаду будаўнікоў, бо ўзважыў свае сілы: пачне рабіць рамонт у доме самастойна — усё можа зацягнуцца да зімы.

У доме спланаваў і адгарадзіў тры пакоі, асобныя — для сына, для сябе. Нямала часу патраціў на падключэнне да электрычнасці, устаноўку газавага балона. Вырашыў справу з вялікім агародам — на яго па вясне яшчэ паклала вока суседка, гадоў сарака пяці жанчына, з непрыгожым грубым тварам, мужападобная. Дзіўна было пачуць яе ціхі і спагадлівы голас, тым больш калі яна пачала прасіць, каб Віктар дазволіў ёй дарасціць ураджай (бульба-буракі), а яна ўжо тады ўсё прыбярэ, заарэ і заплаціць Віктару з таго ўраджаю. Ён згадзіўся, канешне. Прызнаўся нязмушана, што сам не ад зямлі, весці гаспадарку не ўмее, будзе вучыцца, пачынаць з градкі-другой, то як

на наступны год яна захоча садзіць зноў на гэтых дваццаці сотках бульбу ці што з гародніны — няхай садзіць, ён і дапаможа, як па восені атрымае мяхоў пару бульбы. Яна аддзячыла вечарам трохлітровым слоікам густога малака, прынесла сама, зайшла ў хатку, і яе адразу стала многа ў пакойчыку, адгароджаным пад кухню, — такая яна была вольная і адначасова няўклюдная ў сваіх рухах, апранутая ў шырокія чорныя джынсы, сінюю ў клеткі мультановую сарочку, крысы якой ляжалі на шырокіх сцёгнах, а ў кішэнях, што размясціліся акурат на вялікіх, высока задзёртых ці то цесным бюстгальтарам, ці то ад прыроды такіх грудзях ляжаў пачак цыгарэт у адной і каробка запалак у другой. Віктар адчуваў сябе ніякава, а суседка — “Заві мяне Валюхай, так усе завуць” — доўга тапталася на месцы, бы не ведаючы, ці можна ёй ужо паварочвацца ды выходзіць.

Перавёз з кватэры мэблю. Хацеў зрабіць невялікі касметычны рамонт — там-сям на сценах кватэры задраліся шпалеры, цёмны, насычаны колерам кавалак сцяны паказваў, дзе стаяла камбінаваная шафа, але перадумаў.

Размясціў аб’явы: адну аб здачы кватэру пад жыллё, другую — каб набыць інвалідны вазок. На першую адгукнуліся хутка і шмат. У абвестцы ўказаў кошт, цяпер прымаў патэнцыйных жыхароў, паказваў. За тры дні ўсё было закончана, нават падпісаны дагавор. Вазок давялося купляць новы, бо з прапанаванага выбіраць не было чаго.

Былы гаспадар хаткі ў невялікім садку — дзве старыя яблыні, тры вішні і колькі сліў-самасеек — раней зладаваў кшталту месца адпачынку: дзве лавы з нізкім столікам, застаўся стары мангал, іржавы, у дзірках. Віктар не стаў пакуль тут нічога бурыць, адно

падцягнуў лавы і столік да самай сцяны — на захадзе сонца літасціва асвятляла гэты бок, было зацішна і спакойна. Першыя часы ніяк не мог звыкнуцца з цішынёй — у вушах тоненька звінела. Паступова звыкся, заседжваўся тут з кубкам кавы надоўга — без думак, проста гледзячы на захад сонца, прыхінуўшыся да нагрэтых бярвёнаў — з гэтага боку хата была не абшаляваная.

Ён адвык ад тэлефанаванняў — пасля звальнення з канторы яго практычна ніхто не турбаваў; як былі званкі, то па аб'явах апошнія. Таму здзівіўся незнаёмаму нумару, хоць падумалася: занадта позна ты звоніш, мілы чалавек, ахвочых жа хапае зняць жытло.

— Вы Віктар Анішчук? — пачуўся голас, крыху напружаны.

— Так, — адказаў Віктар. — Хто вы і па якой прычыне?

— Маё імя вам нічога не скажа… Я не адсюль, здалёк. Ваш нумар тэлефона даў мне карэспандэнт, Зміцер. Вы яму даруйце, я надта прасіў. Вельмі трэба з вамі сустрэцца.

— Па якім пытанні? — насцярожыўся Віктар.

— Гэта не тэлефонная размова, прабачце. А пытанне тычыцца мяне больш, а не вас. Я зараз у вашым горадзе. Магу пад'ехаць туды, куды вы скажаце. Вельмі прашу аб сустрэчы.

Штосьці было ў голасе такое надрыўнае, што выдавала бяду. Віктар амаль уявіў твар незнаёмага мужчыны, яго самога, які ў самоце стаіць сярод доўгай вуліцы, чужы сярод людзей у чужым яму горадзе.

— Прыязджайце, як можаце. Я не ў горадзе. Пятнаццаць кіламетраў ад яго, — і назваў вёску, вуліцу і дом, расказаў, у які бок з горада выязджаць.

Ён прыехаў праз паўгадзіны, рослы і дужы, у памятай кашулі (мабыць, ад доўгага сядзення за рулём). З тых, якія падабаюцца жанчынам: адкрыты позірк, застылая маска абыякавасці на твары, сум у вачах. Калі ён сеў на лаве насупраць, Віктар мусіў прызнаць, што ў ім не было нічога штучнага, такі твар і вочы — сапраўднае, а не паказное для маладых жанчын. Яму было ля трыццаці ці менш. Магчыма, думаў Віктар, варта прапанаваць гэтаму чалавеку чай ці каву, дый увогуле пакарміць. Ён жа надта здарожаны…

— Я прачытаў вашу гісторыю, — пачаў мужчына, і Віктар адмовіўся ад сваёй думкі нешта прапаноўваць яму. — Пачытаў пра тое, хто ў чым быў вінаваты і як пацярпеў. У сеціве ўсё доўга абмяркоўвалі, рознае казалі, гіпотэзы строілі, лаяліся між сабой. Не, вы не падумайце, я сабраўся ў вас не нейкія сакрэты выведваць. Не пра сакрэты я думаю, у мяне — свой план… калі будзе. Я хачу спытаць пра іншае.

— Чаму вы вырашылі, быццам я абавязаны гаварыць? — непрыязна адказаў Віктар.

Мужчына прамаўчаў, спытаў дазволу, дастаў з пачка цыгарэту, прыкурыў. Потым загаварыў роўна, бы які дыктар расказваў пра надвор'е.

— То было паўгода таму. Маю малодшую сястру, ёй споўнілася толькі дваццаць, на пешаходным пераходзе насмерць збіў аўтамабіль. Яна з дзвюма сяброўкамі вярталася з кавярні. Кіроўца нават не паспрабаваў тармазіць, спыніўся метраў за сто ад пераходу, затым падаў назад. Машынай кіравала жанчына. Сяброўкі сястры ад пачатку казалі, што ад яе несла перагарам, яна хісталася. Там абмежаванне хуткасці — сорак кіламетраў, аўто ляцела ў два разы хутчэй. Прыехала хуткая, міліцыя. Нам паведамілі раніцай, сястра была ўжо ў моргу. У маці здарыўся інсульт.

Яна да гэтага часу ў ложку. Мне расказалі тады ўсё. За рулём была жонка аднаго ўплывовага ў нашым горадзе чалавека. Раніцай ад яго пазванілі і прапанавалі мне суму. Вялікія грошы. Ад мяне патрабавалася маўчаць. Я не ўзяў грошы. Следства цягнулася два месяцы: то нейкія экспертызы дадатковыя, то следчыя мяняліся. Адбыўся суд. У крыві сястры раптам выявілі вялікую дозу алкаголю. Яе сяброўкі далі паказанні, нібыта яна літаральна скочыла пад колы. Жанчына-кіроўца ехала з дазволенай хуткасцю, зразу затармазіла. І, канешне, ніякага алкагольнага ап'янення. Я пытаўся на судзе пра тармазны след, пра запіс з камеры назірання — там побач аддзяленне банка, павінны былі быць запісы. Суддзя не чуў маіх пытанняў. Прысуд — апраўдальны. Нейкі мужчына, пасля я даведаўся, брат той жанчыны, прыпыніў мяне на калідоры суда і сказаў: нікога з зямлі не паднімеш, а так мог бы хоць помнік паставіць добры. Я абскардзіў рашэнне суда. Адвакат раіў не рабіць гэтага, маўляў, лішнія траты. Так і выйшла. У Вярхоўным судзе вырак пакінулі без змяненняў. Вось так.

— На якое пытанне вы хочаце пачуць адказ ад мяне? — Віктар падняў галаву.

— Прабачце. Пытанне, можа, нечаканае для вас, — мужчына зірнуў Віктару ў вочы — з сумам і спагадай. — Вы абралі для сябе іншы шлях, па якім у нас не ходзяць. Я не пытаюся пра акалічнасці, не падумайце, не выпытваю штосьці. Іншае. Скажыце, цяпер, калі для вас усё закончана, вы нешта адчуваеце? Прабачце, патлумачу. Маці кажа мне: сынок, пакінь, Бог ёсць, ён усё бачыць. У сеціве чытаю: помста — дурное, яна спусташае чалавека. Дый колькі фільмаў і іншага на гэтую тэму. А я… я жыць не змагу. Тая ездзіць, як і некалі, на сваім дарагушчым аўто,

адкрыта пасміхваюцца з мяне людзі: дурань, трэба было браць грошы. Вы не шкадуеце? Што так у вас атрымалася? Пайшлі б яшчэ раз тым шляхам, якім аднойчы пачалі ісці? Калі б я пытаў у вас парады: як мне быць, — што б вы сказалі?

Сонца кранулася сваім рэзка ачэрчаным чырвоным дыскам краю зямлі. Недарэчная думка вілася ў галаве Віктара, замінала: нехта нябачны там апускае распалены круг "балгаркі", каб разрэзаць, успароць гарызонт. Зараз, вось зараз кранецца, адтуль пырсне крывавым, а затым даляціць сюды вісклівы гук бязлітаснага рэзання. Маленькі чырвоны кружок раптам успыхнуў на шэрай дошцы лаўкі побач з Віктарам — апусцілася багоўка, замёрла, папаўзла борздзенька, вільнула ў адзін бок, у другі. Віктар асцярожна паклаў перад ёй пальцы, багоўка торкнулася ў іх, павярнула назад, але, як пальцы зніклі, яна зноў рушыла наперад, з адзіна ёй вядомай мэтай.

— Я пайшоў тым шляхам, якім у нас не ходзяць, — паўтарыў Віктар словы мужчыны. — Я зразумеў у адзін момант, што ранейшага жыцця ўжо няма. Сёння я пачынаю жыццё наноў. Тут вось. Цалкам наноў. Раіць не буду. Кожны сам вырашае для сябе. Бо кожны з нас — багоўка на крыжы, і ў кожнага — свой крыж. Ці шкадую? Шкадаванне трэба сённяшняму часу, а не мінуламу. Адно дакладна скажу: мы пачынаем, нам гэта дадзена. Ды не нам заканчваць. Ніколі. Не нам. І таму нам не ведаць, якім будзе канец.

Дыск сонца ўрэзаўся ў лінію гарызонту, а адтуль нічога не пырснула, вакол было ціха, бязгучна, ажно мёртва — здавалася, не толькі тут, а па ўсёй зямлі.

# ЗМЕСТ

